МІНІСТЭРСТВА АХОВЫ ЗДАРОЎЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ МЕДЫЦЫНСКІ ЎНІВЕРСІТЭТ
КАФЕДРА ФІЛАСОФІІ І ПАЛІТАЛОГІІ

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ

Рэкамендавана Вучэбна-метадычным аб’яднаннем па гуманітарнай адукацыі ў якасці вучэбна-метадычнага дапаможніка для студэнтаў, якія навучаюцца па спецыяльнасцях 1-79 01 08 «Фармацыя», 1-79 01 07 «Стаматалогія», 1-79 01 03 «Медыка-прафілактычная справа», 1-79 01 02 «Педыятрыя», 1-79 01 01 «Лячэбная справа»

Мінск БДМУ 2016

УДК 94(476) (075.8)
ББК 63.3(4Беи) я73
Г51

А ў т а р ы: канд. гіст. навук, дац. Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта С. В. Шабельцаў (тэма 1: п. 1.1, 1.2; тэма 3: п. 3.4; тэмы 5, 6, 7); канд. гіст. навук, дац. Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта В. В. Аніпяркоў (тэма 2; тэма 3: п. 3.1, 3.2, 3.3); ст. выкл. Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта І. І. Лубінскі (тэма 4); канд. гіст. навук ін-та гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі А. П. Салаўянаў (тэма 8: п. 8.2, 8.3); канд. гіст. навук ін-та гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі К. С. Разуванава (тэма 8: п. 8.1, 8.4); канд. гіст. навук ін-та гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі А. У. Унучак (тэма 1: п. 1.3, 1.4)

Р э ц э н з е н т ы: каф. сацыяльна-гуманітарных навук Віцебскага дзяржаўнага ордэна Дружбы народаў медыцынскага ўніверсітэта; дац. каф. тэорыі і гісторыі дзяржавы і права Акадэміі Міністэрства ўнутранных спраў Рэспублікі Беларусь А. І. Мурашка

**Гісторыя** Беларусі : вучэб.-метад. дапам. / С. В. Шабельцаў [і інш.]. – Мінск :
Г51 БДМУ, 2016. – 232 с.

ISBN 978-985-567-431-4.

Разгледжаны асноўныя этапы грамадскага развіцця Беларусі ад старажытных часоў да нашых дзён. Асвятляюцца пытанні фарміравання беларускага этнасу, аналізуецца сацыяльна-эканамічнае, палітычнае, культурнае развіццё кожнай эпохі. У якасці дапаможнага матэрыялу ўключае тэрміналагічны слоўнік і пералік асноўных падзей гісторыі Беларусі.

Адрасавана студэнтам 1-га курса фармацэўтычнага, стаматалагічнага, медыка-прафілактычнага, педыятрычнага і лячэбнага факультэтаў.

**УДК 94(476) (075.8)**
**ББК 63.3(4Беи) я73**

---

Вучэбнае выданне

**Шабельцаў** Сяргей Васільевіч
**Аніпяркоў** Вадзім Вадзімавіч
**Лубінскі** Іван Іванавіч і інш.

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ

Вучэбна-метадычны дапаможнік

Адказная за выпуск В. Л. Пазнякова
Рэдактар Ю. В. Кісялёва
Камп'ютарная вёрстка А. В. Янушкевіч

Падпісана ў друк 13.10.15. Фармат 60×84/16. Папера пісчая «Снягурачка».
Рызаграфія. Гарнітура «Times».
Ум. друк. арк. 13,48. Ул.-выд. арк. 14,87. Тыраж 300 экз. Заказ 139.

Выдавец і паліграфічнае выкананне: установа адукацыі
«Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістацыі выдаўца, вырабніка, распаўсюджвальніка
друкаваных выданняў № 1/187 ад 18.02.2014.
Вул. Ленінградская, 6, 220006, Мінск.

**ISBN 978-985-567-431-4**

# УВОДЗІНЫ

Абавязковы модуль «Гісторыя» займае важнае месца ў сістэме гуманітарнай падрыхтоўкі будучых спецыялістаў-медыкаў. Ён накіраваны на набыццё ведаў пра мінулае, засваенне асаблівасцей і агульных заканамернасцей развіцця Беларусі, выпрацоўку ў студэнтаў пачуцця павагі да гістарычных фактаў, што дазваляе ўсвядоміць здабыткі беларускага народа і з’яўляецца найважнейшай умовай фарміравання актыўнай жыццёвай і грамадзянскай пазіцыі будучых медыкаў.

Прадстаўлены вучэбна-метадычны дапаможнік уключае тэмы, рэкамендаваныя да вывучэння на семінарскіх занятках тыпавой вучэбнай праграмай па дысцыпліне «Гісторыя Беларусі ў кантэксце еўрапейскай цывілізацыі» для ўстаноў вышэйшай адукацыі (2014 г.). У першай тэме разглядаецца фарміраванне беларускага этнасу на працягу VI – пачатку XX ст.; у наступных у храналагічным парадку прадстаўлены для вывучэння асноўныя этапы грамадскага развіцця Беларусі ад часоў старажытнарускіх княстваў да нашых дзён.

На семінарскіх занятках па вучэбнай дысцыпліне «Гісторыя Беларусі ў кантэксце еўрапейскай цывілізацыі» навучэнцы павінны крытычна аналізаваць былыя падзеі і ўсведамляць сувязь паміж сучаснасцю і тым, што было ў мінулым. Авалоданне гэтымі ведамі дазваляе значна павысіць узровень светапогляднай і гуманітарнай падрыхтоўкі студэнтаў. Улічваючы спецыфіку медыцынскага ўніверсітэта, аўтары дапаможніка імкнуліся ў тэмах закранаць пытанні, звязаныя з развіццём медыцыны.

Пры падрыхтоўцы да семінара студэнту рэкамендуецца спачатку азнаёміцца са зместам адпаведнай тэмы, з мэтай і задачамі семінарскага занятку, прачытаць вучэбны матэрыял. Замацаваць набытую інфармацыю дазваляюць кантрольныя пытанні, а таксама тэставыя заданні для самакантролю ведаў. Для больш глыбокага вывучэння тэмы неабходна звяртацца да навучальнага матэрыялу, які змяшчаецца ў рэкамендаванай асноўнай літаратуры. Дадатковая літаратура дае магчымасць студэнту азнаёміцца з пытаннямі, якія можна разгледзець і прадставіць у якасці даклада або рэферата. Акрамя таго, абавязкова трэба прааналізаваць тэксты практычных заданняў, адказаць на пастаўленыя да іх пытанні.

Кожны студэнт павінен быць падрыхтаваным да дыскусіі на семінары, паколькі неабходна выпрацаваць узгодненую пазіцыю навучэнцаў па прадстаўленых пытаннях беларускай гісторыі. Такая згода і салідарнасць у адносінах да мінулага дае сучаснікам магчымасці для будаўніцтва трывалай будучыні нашай дзяржавы — Рэспублікі Беларусь.

# Раздзел І
# ФАРМІРАВАННЕ БЕЛАРУСКАГА ЭТНАСУ І ДЗЯРЖАЎНЫЯ ЎТВАРЭННІ НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ

## ТЭМА 1. ГІСТАРЫЧНЫЯ ЭТАПЫ ФАРМІРАВАННЯ БЕЛАРУСКАГА ЭТНАСУ (VI СТ. – ПАЧАТАК XX СТ.)

1.1. Старажытнае насельніцтва на беларускіх землях.

1.2. Беларуская народнасць у XIV–XVIII стст.

1.3. Нацыянальная самасвядомасць беларусаў у XIX – пачатку XX ст. Заходнерусізм і краёвая ідэя.

1.4. Ідэя беларускага нацыянальнага адраджэння ў пачатку XX ст.

**Агульны час заняткаў**: 2 гадзіны.

**Мэта семінара:** ахарактарызаваць этапы фарміравання і развіцця беларускага этнасу, вызначыць стан нацыянальнай свядомасці насельніцтва ў VI – пачатку XX ст.

**Задачы**:

– вывучыць працэсы этнічнага развіцця на беларускіх землях у перыяд да XIII ст.;

– ахарактарызаваць беларускую народнасць у перыяд знаходжання беларускіх зямель у складзе Вялікага Княства Літоўскага;

– набыць веды аб узроўні нацыянальнай свядомасці беларусаў у XIX – пачатку XX ст.;

– вывучыць змест і галоўныя пытанні ідэі беларускага нацыянальнага адраджэння пачатку XX ст., у перыяд знаходжання нашых зямель у складзе Расійскай імперыі.

**Патрабаванні да зыходнага ўзроўню ведаў.** Для засваення тэмы неабходна ведаць асноўныя канцэпцыі паходжання беларусаў, арыентавацца ў такіх паняццях, як «этнас», «нацыя», «нацыянальная свядомасць». Студэнты павінны ўзгадаць са школьнай праграмы тэматыку літаратурнамастацкіх твораў беларускіх пісьменнікаў канца XIX – пач. XX ст.

**Паняцці і тэрміны, якія неабходна засвоіць:** этнас, палеаліт, мезаліт, неаліт, неалітычная рэвалюцыя, бронзавы век, жалезны век, балты, славяне, крывічы, дрыгавічы, радзімічы, гарадзішча, Літва, Рэнесанс, Рэфармацыя, Контррэфармацыя, езуіты, уніяты, праект Агінскага, заходнерусізм, краёвая ідэя, народнікі.

### 1.1. Старажытнае насельніцтва на беларускіх землях

***Этнас*** (ад *грэч.* племя, народ) — гэта ўстойлівая супольнасць людзей, якая склалася гістарычна на пэўнай тэрыторыі і характарызуецца агульнасцю мовы, побыту, культуры, рысаў псіхікі і самасвядомасці, адлюстраванай у адзінай назве і ўяўленнях пра агульнасць паходжання. Асноўнымі гістарычнымі формамі этнасу з’яўляюцца: племя, народнасць,

нацыя. Станаўленне беларускага этнасу прайшло працяглы эвалюцыйны шлях, які патрабуе паэтапнага вывучэння.

На тэрыторыі сучаснай Беларусі людзі з'явіліся ў старажытным каменным веку (***палеаліце***) прыблізна **100–40 тыс. гадоў таму**, аб чым сведчаць некаторыя знойдзеныя прылады працы. Самыя старажытныя палеалітычныя стаянкі чалавека выяўлены ў Калінкавіцкім раёне каля вёскі Юравічы (узрост стаянкі — **26 тыс. гадоў**) і ў Чачэрскім раёне каля вёскі Бердыж **(24 тыс. гадоў)**. Людзі таго часу жылі ва ўмовах прыледавіковай пустэльні, іх асноўным заняткам было паляванне на маманта. 18 тыс. гадоў таму ледавік прасунуўся на тэрыторыю сучаснай Беларусі, і яна абязлюдзела, але ў 8-м тысячагоддзі да н. э. ледавік канчаткова растаў: пачаўся сярэдні каменны век — ***мезаліт***, падчас якога была заселена значная частка тэрыторыі Беларусі. У мезаліце людзі займаліся збіральніцтвам і рыбалоўствам, вынайшлі такую прыладу палявання, як лук. У новым каменным веку (***неаліце***) *(4–3-е тысячагоддзе да н. э.)* адбылася ***неалітычная рэвалюцыя*** — пераход ад прысвойваючага да вытворнага характару гаспадарання. У гэты час распаўсюдзіліся земляробства і жывёлагадоўля, распачаўся выраб керамічнага посуду, а таксама шліфоўка каменных прылад працы. Неалітычная рэвалюцыя карэнным чынам змяніла характар чалавецтва, бо людзі ўжо маглі жыць у такім прыродным асяроддзі і карыстацца такімі рэсурсамі, якія раней ніколі не маглі выкарыстоўваць.

У Беларусі знойдзена каля 600 неалітычных стаянак, на якіх жылі прадстаўнікі розных культур. Этнічную прыналежнасць тых людзей вызначыць амаль немагчыма, але вядома, што ў 3-м тысячагоддзі да н. э. на поўнач Беларусі з узбярэжжа Ледавітага акіяна прыйшло *фіна-ўгорскае насельніцтва*. Сведчаннем яго прысутнасці на нашых землях сталі фіна-ўгорскія назвы рэк і некаторых населеных пунктаў Беларусі, што захаваліся да нашага часу: Свір (у перакладзе з фінскага «глыбокі»), Лынтупы («лынту» — птушка, «упа» — рака) і г. д.

У канцы 3-га тысячагоддзя да н. э. на тэрыторыі Беларусі з'явіліся *індаеўрапейцы*, з прыходам якіх пачынаецца ***бронзавы век*** *(2-е тысячагоддзе да н. э. – VII ст. да н. э.)*. Характэрнымі адзнакамі новага насельніцтва сталі лодкападобныя сякеры і посуд, аздоблены адбіткамі шнура (таму археолагі тагачасных людзей называюць «шнуравікамі»). У Беларусі не было радовішчаў медзі, таму бронзавыя вырабы былі нешматлікія, і насельніцтва па-ранейшаму актыўна выкарыстоўвала каменныя прылады працы. Каля пасёлка Краснасельскі (Ваўкавыскі раён) знойдзены адзіныя ва Усходняй Еўропе шахты па здабычы крэменю: у адной з іх археолагі знайшлі рэшткі старажытнага шахцёра, і гэта самы старадаўні шкілет чалавека ў Беларусі. Антрапалагічны аналіз сведчыць, што знойдзены шахцёр меў еўрапеоідныя рысы твару і вялікі для таго часу рост — больш за 170 см (яго бюст экспануецца ў Рэспубліканскім музеі гісторыі медыцыны ў Мінску).

Узровень развіцця індаеўрапейцаў, якія рассяліліся ў Еўропе ад Волгі да Рэйна, быў прыкметна вышэйшым, чым у мясцовага насельніцтва. Змешванне з аўтахтонамі, іх асіміляцыя прывялі да распаду першапачатковага адзінства індаеўрапейцаў, у выніку чаго яны падзяліліся на германцаў, балтаў і славян. Па меркаванні беларускага археолага Э. Загарульскага, у канцы 3-га тысячагоддзя да н. э. плямёны, якія прыйшлі з поўдня і засялілі беларускія землі, былі не проста індаеўрапейцамі, а ўжо асобным індаеўрапейскім народам — ***балтамі***. Як бы там не было, у 1-м тысячагоддзі да н. э. Беларусь з’яўляецца зонай сталага рассялення балтаў.

У *VII ст. да н. э.* балцкае насельніцтва поўдня Беларусі ўжо распачало выраб жалеза — гэта вынікала з наяўнасці на Палессі сыравіны: балотных і азёрных руд. Пачаўся ***жалезны век***: падсечнае земляробства стала тут дамінуючай формай гаспадаркі, бо выкарыстанне жалезнай сякеры дало магчымасць значна павялічыць пасяўныя плошчы. Рост прадукцыйнасці дазволіў назапашваць маёмасць. Насельніцтва пачынае размяшчаць паселішчы ў цяжкадаступных месцах, на ўзгорках ці каля скрыжавання рэк, з адкрытага боку абносячы драўлянымі сценамі, валам і ровам. Так узнікае новы тып паселішчаў — ***гарадзішча***. У V ст. да н. э. – V ст. н. э. большую частку Беларусі займалі плямёны штрыхавой керамікі, якія жылі выключна ў гарадзішчах.

Разам з балтамі ў Еўропе з агульнага масіву індаеўрапейцаў вылучыліся ***славяне***. Першай дакладна славянскай археалагічнай культурай з’яўляецца пражская, якая была распаўсюджана ў *V–VII стст.* ад Эльбы да сярэдняга Дняпра. Арэал характэрных славянскіх помнікаў ахопліваў і паўднёвы захад беларускага Палесся (на поўдзень ад Прыпяці). Славяне тут з’явіліся самае позняе ў **VI ст. н. э.** З VIII ст. яны пачынаюць рух на поўнач ад Прыпяці ў арэал сталых балцкіх культур, і на тэрыторыі Беларусі сфарміравалася своеасаблівая балта-славянская этнічная цераспалосіца.

Пра рассяленне славян распавёў і складальнік старажытнага летапісу — «Аповесці мінулых гадоў» (пач. XII ст.). Сярод пералічаных ім супольнасцей славян тры ўзгадваюцца на тэрыторыі Беларусі: ***крывічы*** (рассяляліся у вярхоўях Дняпра, Заходняй Дзвіны і Волгі), ***радзімічы*** (жылі па берагах ракі Сож), ***дрыгавічы*** (займалі тэрыторыю сучаснай Цэнтральнай і Паўднёвай Беларусі). Пры гэтым аўтар «Аповесці» добра ўсведамляў этнічную адметнасць кожнага племені. Сучасныя археолагі таксама адзначаюць племянныя асаблівасці матэрыяльнай культуры розных усходнеславянскіх плямёнаў. Аб гэтым сведчаць, напрыклад, характэрныя рысы такіх жаночых упрыгожванняў, як скроневыя кольцы: у крывічанак яны былі бранзалетападобныя, у радзімічанак — сяміпрамянёвыя, у дрыгавічанак — з напаянымі шарыкамі (т. зв. «зярнёныя»).

Важкім фактарам, якi паўплывау на этнічныя працэсы ў асяроддзі ўсходніх славян, было стварэнне дзяржавы. У IX ст. у Ноўгарадзе сваю ўладу ўсталяваў вараг (вікінг) Рурык, пры нашчадках якога сталіца дзяржавы была перанесена ў Кіеў. Спачатку «руссю» называлі *варагаў*, у першую чаргу князя і яго дружыну, а пасля словам «Русь» сталі зваць і падуладную ім дзяржаву. *Старажытная Русь* (*IX–XIII стст.)* — вялікая дзяржава, у якой былі аб'яднаны розныя плямёны, — садзейнічала працэсу нівеліроўкі мясцовых асаблівасцей. Гэты працэс закрануў найперш вышэйшае саслоўе, якое мела агульную рэлігію, адукацыю, ваенны кодэкс, моду і г. д. З цягам часу набылі аднолькавасць і гарады Старажытнай Русі: матэрыяльная культура, кніжная пісьменнасць, жывапіс сталі амаль ідэнтычнымі, і калі адзначаюцца нейкія адрозненні, то даследчыкі лічаць іх мясцовымі асаблівасцямі адной старажытнарускай культуры. Выбітнымі царкоўнымі і культурнымі дзеячамі, якія сталі вядомымі для ўсіх праваслаўных Старажытнай Русі, з'яўляюцца *Кірыла Тураўскі* і святая *Ефрасіння Полацкая*.

Археалагічныя і пісьмовыя крыніцы далі падставу савецкім гісторыкам сцвярджаць, што ў часы Старажытнай Русі ў выніку зліцця ўсходнеславянскіх плямёнаў склалася адзіная старажытнаруская народнасць, фарміраванню якой садзейнічала адзіная старажытнаруская дзяржава. Ленінградскі гісторык У. Маўродзін у 1945 г. упершыню найбольш акрэслена сфармуляваў канцэпцыю, згодна з якой у той час ужо існавала адзіная этнічная супольнасць, якая з'яўляецца «продкам» для рускіх, беларусаў і ўкраінцаў. Афіцыйна канцэпцыя старажытнарускай народнасці была прынята ў СССР у 1953–1954 гг., калі шырока адзначаўся юбілей Пераяслаўскай рады: далучэнне ў 1654 г. Украіны да Расіі выглядала як заканамерная падзея, нібыта «раз'яднаны народ» зноў аб'яднаўся.

Заўважым, што працэс фарміравання старажытнарускай народнасці быў працяглы і не зусім адназначны. Трэба разумець, што колькасць гараджан на Русі была мізэрнай (менш за 10 %), а астатнія — сяляне — не былі сацыяльна і геаграфічна мабільнымі. Асноўная маса насельніцтва Русі калі і мела ўяўленне пра памеры дзяржавы, то толькі прыкладнае, а духоўна-інтэлектуальную еднасць і пачуццё ўзаемнай параднёнасці адчувала хіба што вузкае кола асвечанай эліты. Таму нават існаванне дзяржавы, адзінства якой было далёка не пастаянным, не спрыяла зліццю ўсіх яе жыхароў у адзіную народнасць.

Па меркаванні вядомага даследчыка І. Марзалюка, значным фактарам, якi паўплывау на этнічныя працэсы на Русі, было прыняцце праваслаўя кіеўскім князем Уладзімірам (**у 988 г.**). Прыняць хрышчэнне — новую «рускую» веру — павінны былі ўсе яго падданыя, і людзі станавіліся «рускімі» (у рэлігійным аспекце). Агульная хрысціянізацыя зямель, дзе жыло як усходнеславянскае, так і неславянскае насельніцтва, паскорыла працэсы культурнай асіміляцыі аўтахтонаў-неславян. Гэтая

акалічнасць павялічыла этнічны ўплыў на славян *субстратнага насельніцтва*: балтаў (на тэрыторыі Беларусі), фіна-ўграў (на тэрыторыі Расіі), постсармацкіх плямёнаў (на тэрыторыі Украіны). Пасля прыняцця праваслаўя насельніцтва Старажытнай Русі самаідэнтыфікавала сябе як «рускіх», але мела ў розных рэгіёнах свае этнічныя асаблівасці. Распаўсюджванне праваслаўя (а з ім і тэрміна «рускі») на ўсходнеславянскіх землях ішло марудна: летапісы да сярэдзіны XII ст. адзначаюць, што калі адбываецца паход на Полаччыну, то гэта паход «на крывічоў», а калі на Слуцк — «на дрыгавічоў». Але ў сярэдзіне XII ст. назвы плямёнаў знікаюць, а замест іх насельніцтва тэрыторыі Беларусі стала называцца «*рускія»*, «*русіны»*. Запісы замежных храністаў сведчаць пра тое ж.

Такім чынам, у дадзяржаўны перыяд на беларускіх землях было некалькі «этнічных эпох» — даіндаеўрапейская, індаеўрапейская, балтская, славянская. Утварэнне дзяржавы (IX ст.) і прыняцце праваслаўя садзейнічалі таму, што паступова на Русі склалася этнічнае адзінства на ўзроўні эліты і гараджан, а тэрмін «рускі» распаўсюдзіўся ў сярэдзіне XII ст. на ўсіх праваслаўных Русі. Пры гэтым у рэгіёнах адзначаліся істотныя этнічныя асаблівасці розных груп «рускіх», бо хрысціянізацыя садзейнічала большаму ўплыву на іх субстратнага насельніцтва. На тэрыторыі Беларусі такім субстратам з’яўляліся балты, што паўплывала на фарміраванне будучых этнічных прыкмет сучасных беларусаў.

## 1.2. Беларуская народнасць у XIV–XVIII стст.

Прыхільнікі тэорыі этнасу пад *народнасцю* разумеюць такую этнасацыяльную супольнасць людзей, якая прыходзіць на змену *плямёнам* і саюзам плямён. Для народнасці характэрна кансалідацыя плямён на базе разлажэння першабытнага ладу і ўтварэнне феадальнага грамадства, што звычайна адбываецца пры актыўным уздзеянні палітычнага і канфесійнага фактараў. У Старажытнай Русі гэтыя працэсы ўжо мелі месца, але старажытнаруская народнасць толькі пачала складвацца. Аднак у сярэдзіне XIII ст. паступовае развіццё на ўсходнеславянскіх землях было перапынена грамадска-палітычнай катастрофай — нашэсцем мангольскіх ордаў Батыя і гібеллю Старажытнай Русі.

У другой палове XIII–XIV ст. землі сучаснай Беларусі апынуліся ў складзе *Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ)*. Гэта садзейнічала замацаванню ў нашых продкаў тых этнічных асаблівасцей, якія склаліся яшчэ ў перыяд Старажытнай Русі, а таксама абумовіла набыццё новых традыцый, выкліканых заходнееўрапейскім культурным уплывам. У межах ВКЛ знаходзіліся тэрыторыі сучасных Украіны, Беларусі і Літвы. Па рашэнні Люблінскага сойма (*1569*) была створана федэратыўная Рэч Паспалітая (аб’яднанне ВКЛ і Кароны Польскай), але землі сучаснай Украіны адышлі да Польшчы. У выніку склаліся перадумовы для падзелу русінаў былога ВКЛ на продкаў украінцаў і беларусаў. Усходняя ж частка Старажытнай Русі з сярэдзіны XIII ст. развівалася асобна ад беларускіх

і ўкраінскіх зямель; там фарміравалася руская (у сучасным сэнсе слова) народнасць.

Аб’яднанне ў складзе ВКЛ раней раздробленых зямель садзейнічала ліквідацыі адасобленасці розных тэрыторый і ўмацаванню сувязяў паміж імі. Вярхоўнае кіраўніцтва аднаго князя і аднолькавы адміністрацыйны падзел (пасля рэформаў 1563–1566 гг.), а таксама кадыфікаванае права спрыялі ўніфікацыі жыцця насельніцтва. Пастунова склалася этнічная тэрыторыя беларусаў, якая збольшага супадала з арэалам рассялення колішніх дрыгавічоў, радзімічаў і днепра-дзвінскіх крывічоў. На гэтай тэрыторыі сфарміравалася самастойная беларуская мова, якая мела свае лексічныя, арфаграфічныя, граматычныя і фанетычныя асаблівасці.

Высокі ўзровень развіцця культуры нашых продкаў садзейнічаў таму, што старабеларуская мова (тады яе называлі «рускай») стала афіцыйнай у ВКЛ і выкарыстоўвалася ў межах дзяржавы ў якасці сродку зносін паміж славянскім, балцкім, татарскім і іншым насельніцтвам. Гутарковая старабеларуская мова ўжывалася пры вялікакняскім двары і сярод баяр бадай што ад самага пачатку заснавання ВКЛ. На актавай старабеларускай мове пісалі вялікія князі ад Вітаўта да *Жыгімонта Аўгуста* — апошняга вялікага князя самастойнага ВКЛ. Старабеларуская мова выкарыстоўвалася і складальнікамі Статутаў ВКЛ (1529, 1566, 1588). Ужо ў XV ст. гэта мова выразна адрознівалася ад мовы *Маскоўскай Русі*. Але ў XVI–пачатку XVII ст. адбыліся істотныя змены ў становішчы старабеларускай мовы ў ВКЛ: больш прэстыжнымі пачалі лічыцца латынь і польская мова. У 1630–1640-я гг. у справаводстве стала дамінаваць польская мова, якая з **1697 г.** становіцца дзяржаўнай мовай ВКЛ.

У працэсе фарміравання беларускай народнасці вялікую ролю адыгрывала праваслаўная царква: быць русінам азначала ў першую чаргу быць праваслаўным — да пачатку XVI ст. у гістарычных крыніцах даследчыкі не знаходзяць неправаслаўных русінаў. Кіеўская мітраполія праводзіла актыўную місіянерскую дзейнасць, і калі літовец ці татарын прымаў праваслаўную веру, то ён станавіўся «рускім». Напрыклад, шэраг Гедымінавічаў (нашчадкаў вялікага князя *Гедыміна*) прынялі праваслаўе, атаясамлівалі сябе з «руссю» і як «рускія» князі ўспрымаліся ў грамадстве. Нягледзячы на сваё літоўскае паходжанне, яны зведалі тую ж дыскрымінацыю, што і ўсе праваслаўныя пасля прыняцця літоўцамі каталіцтва.

Трэба адзначыць, што назва «русін» мела не толькі канфесійнае вымярэнне, але і этнічнае. Напрыклад, Гедымін у пасланні Рымскаму Папе ў 1322 г. адзначыў (у сваім тытуле), што ён «кароль літоўцаў і многіх русінаў». У 1323 г. той жа вялікі князь запрасіў у Вільню і Наваградак францысканцаў і пры гэтым казаў пра неабходнасць ведаць манахам русінскую мову. У 1324 г. папскія пасланцы пераказвалі адмову Гедыміна ад прыняцця хрысціянства: ён сказаў, што шануе Бога па-свойму,

русіны — па-свойму, палякі — па-свойму. У гэтых дакументах русіны выглядаюць як асобны народ са сваёй мовай і рэлігіяй, адрозны ад літоўцаў. Праваслаўе са сваёй асаблівай рэлігійнай практыкай з'яўлялася важкім фактарам захавання этнічнай адметнасці русінаў, садзейнічала захаванню і развіццю іх моўных і культурных традыцый. І калі літовец абіраў гэту веру, то ён станавіўся на шлях паступовай русінізацыі.

Тэрміны «русь», «русіны» выкарыстоўваліся для самаідэнтыфікацыі не толькі праваслаўнымі ВКЛ, але і праваслаўнымі ва ўсходнеславянскіх княствах, якія падпалі пад уладу Залатой Арды (Маскоўскае, Цвярское і інш.). Таксама «русь» жыла на тэрыторыі Польшчы (былое Галіцкае княства). Але ўнутры ВКЛ прасочваецца тэндэнцыя, калі «русінамі» называлі толькі сваіх праваслаўных, а аднаверцаў у суседніх дзяржавах — «маскалямі» ці «львавянамі». Гэта было цалкам натуральным, бо ў межах ВКЛ знаходзіўся Кіеў, і Літоўскае княства разглядалася яго насельнікамі як спадкаемца Старажытнай Русі.

У XVI ст. адбываюцца змены ў самаідэнтыфікацыі адукаванага насельніцтва ВКЛ. Калі раней русін — заўсёды праваслаўны, то зараз гэта мог быць і католік, і пратэстант. Змены былі звязаны з распаўсюджваннем ***рэнесанснай антрапацэнтрычнай культуры*** і ***рэфарматарскіх ідэй***: русін мог прыняць іншую веру, але застацца русінам. Вядомым прыкладам гэтага з'яўляецца *Ф. Скарына*, які хутчэй за ўсё стаў католікам, але ідэнтыфікаваў сябе як русін і на «рускай» мове друкаваў свае кнігі. Іншы прыклад — пратэстант *В. Цяпінскі*, які ў прадмове да выдадзенага ім Евангелля пісаў, што ён з «пасрэдку русін і ім, сваёй русі, услугуе». Такім чынам, мова, паходжанне, культурна-гістарычнае адзінства для Ф. Скарыны і В. Цяпінскага — галоўныя адзнакі ідэнтыфікацыі. Рэфармацыйны перыяд трываў нядоўга і скончыўся ***Контррэфармацыяй***: **у канцы XVI ст.** большасць пратэстантаў, сярод якіх пераважалі былыя праваслаўныя, не вярнуліся да веры продкаў, а пачалі пераходзіць у каталіцтва. Эліта пасылала сваіх дзяцей вучыцца ў адукацыйныя ўстановы (найперш ***езуіцкія***), дзе дамінавала «пальшчызна», што садзейнічала моўнай паланізацыі вышэйшага саслоўя ВКЛ. У гэты час назіраецца атаясамленне каталіцтва з польскасцю: католік — гэта абавязкова яшчэ і носьбіт польскай мовы.

У адрозненне ад эліты простае насельніцтва, як і раней, мела ўяўленні аб тым, што першапачатковай прыкметай русінаў ёсць праваслаўе. Але ў **1596 г.** адбылася *Брэсцкая царкоўная унія*: іерархі праваслаўнай царквы прынялі рашэнне аб падпарадкаванні Рымскаму Папе (пры захаванні ў набажэнстве грэчаскіх абрадаў). Адбыўся раскол «рускага народа» на тых, хто падтрымліваў унію (***уніяты***), і тых, хто выступаў супраць яе (*дэзуніты*). З таго часу «рускі» чалавек мог быць як праваслаўны, так і ўніят. Распаўсюджванне ўніяцтва суправаджалася гвалтам у адносінах да праваслаўных. Полацкі ўніяцкі архібіскуп

*Я. Кунцэвіч* меў права зачыніць праваслаўныя цэрквы на тэрыторыі сваёй епархіі і гэтым актыўна карыстаўся. У грамадстве расла напружанасць і нянавісць паміж прадстаўнікамі розных канфесій. Канцлер ВКЛ *Л. Сапега* крытыкаваў метады ўніяцкага архібіскупа, але характар яго дзеянняў не змяніўся. Вынікам гэтага стала забойства Я. Кунцэвіча раз'юшаным натоўпам у *1623 г.* у Віцебску.



**Францыск Скарына** (1490–1551) — вядомы грамадскі дзеяч, першадрукар сярод усходніх славян, медык. Нарадзіўся каля 1490 г. у Полацку ў сям'і купца Лук'яна Скарыны. З 1504 па 1506 г. вучыўся на філасофскім факультэце Кракаўскага ўніверсітэта, дзе вытрымаў экзамен на ступень бакалаўра вольных мастацтваў. У 1512 г. першым сярод усходніх славян атрымаў вучоную ступень доктара медыцыны (у Падуанскім універсітэце (Італія)). 6 жніўня 1517 г. у Празе (Чэхія) выдаў сваю першую кнігу — «Псалтыр», а пасля яшчэ 22 кнігі Біблії. Каля 1520 г. пераехаў у сталіцу ВКЛ Вільню, дзе выдаў «Малую падарожную кніжку» (1522) і «Апостал» (1525). З сярэдзіны 1520-х гг. з'яўляўся сакратаром і хатнім лекарам віленскага біскупа Яна. У 1530 г. з'ездзіў у Кёнігсберг да прускага герцага, што, магчыма, было звязана з эпідэміяй т. зв. англійскай гарачкі. У сярэдзіне 1530-х гг. пераехаў у Прагу, дзе працаваў каралеўскім садоўнікам. Памёр у Празе каля 1551 г.

У выніку паступовага развіцця к XVI ст. склаліся асноўныя рысы беларускай народнасці — этнічная тэрыторыя, адметная мова, тыповы менталітэт насельніцтва, для якога характэрны талерантнасць, сумленнасць, добразычлівасць. А ў канцы XVI ст. пачынаюць сустракацца і першыя праявы беларускай самаідэнтыфікацыі, якая фіксавала паходжанне чалавека з *«Белай Русі»*.

Калі разглядаць назвы розных земляў, то полацкія, віцебскія, мсціслаўскія вобласці ў гэты час захоўвалі старадаўнюю назву «Русь», а тэрыторыі на захад ад іх (Наваградак, Гродна, Брэст) сталі звацца ***«Літвой»***, таму што гэтыя заходнія вобласці Старажытнай Русі разам з усходнелітоўскімі землямі былі месцам стварэння ВКЛ. Мяжа паміж Руссю і Літвой праходзіла, па меркаванні гісторыка В. Насевіча, прыблізна па лініі Браслаў – Лагойск – Петрыкаў. Такім чынам, тэрмін «Літва» выкарыстоўваўся і як назва тэрыторыі (у вузкім сэнсе гэтага слова), і ў якасці палітоніма (назвы дзяржавы). Таму няма нічога дзіўнага, напрыклад, у паведамленні, што калі *Вітаўт* стаў вялікім князем літоўскім, то «рада была яму ўся зямля Літоўская і Руская»: Вітаўт стаў князем Літвы

(у дзяржаўным сэнсе), і гэта было даспадобы жыхарам гісторыка-геаграфічных рэгіёнаў дзяржавы — Літве (у вузкім сэнсе) і Русі. Зразумела, русіны ў ВКЛ жылі як на тэрыторыі Русі, так і на тэрыторыі Літвы. І была дакладная этнічная розніца паміж балтамоўнымі язычнікамі (пазней каталікамі) літоўцамі («ліцвінамі») і праваслаўнымі славянамі («русінамі»). У той жа час па-за межамі ВКЛ яго жыхароў, не зважаючы на этнічную прыналежнасць, паўсюдна называлі «ліцвінамі» ці «літвой».

*«Белай Руссю»* ў *канцы XVI ст.* называлі землі ВКЛ на ўсход ад ракі Бярэзіна (Падзвінне і Падняпроўе). Гэты тэрмін ужо актыўна выкарыстоўваўся: напрыклад, папскі нунцый у 1581 г. узгадваў пра ўварванне маскавітаў падчас замірэння на тэрыторыю «Белай Русі», і гэта быў рэгіён Полацка, Оршы, Віцебска, Магілёва, Мсціслава. З цягам часу мясцовае праваслаўнае насельніцтва сталі называць *«беларусамі»*, якія трымаліся сваёй «беларускай веры». Але потым, калі на працягу стагоддзяў сярод насельніцтва ішло распаўсюджванне ўніяцтва, «беларусамі» сталі называць усіх прадстаўнікоў грэчаскага абраду — як праваслаўных, так і ўніятаў.

У сярэдзіне XVII ст. ВКЛ апынулася ў эпіцэнтры ваенных дзеянняў. Падчас вайны з Расіяй (*1654–1667*) былі разбураны шматлікія гарады і мястэчкі Беларусі, яе насельніцтва прымусова вывозілася захопнікамі ў Маскву. Найгоршыя наступствы гэта мела для развіцця беларускіх гарадоў, бо іх пакінулі рамеснікі і майстры высокага ўзроўню. У выніку беларускі этнас страціў уласнае мяшчанства. Дзеянні маскоўцаў прывялі да крайне рэзкай антыправаслаўнай рэакцыі з боку кіраўніцтва Рэчы Паспалітай. Прававое становішча некаталікоў хутка пагаршалася, і мясцовая шляхта амаль уся прыняла каталіцызм, а з ім і польскую ідэнтыфікацыю. (Хаця, заўважым, шляхта ВКЛ — «ліцвіны» — адрознівала сябе ад шляхты Польшчы — «караняжаў».)

Такім чынам, кансалідацыя беларускай народнасці адбылася ў межах ВКЛ. У XIV–XVI стст. назіраецца паступовае развіццё беларускай народнасці. Але ў выніку войнаў XVII ст. і паланізацыі беларускі этнас у XVIII ст. стаў народам з непаўнавартаснай сацыяльнай структурай — народам амаль наскрозь сялянскім: у гарадах стала дамінаваць іншаэтнічнае (*яўрэйскае* і інш.) насельніцтва, а шляхцічы адносілі сябе да іншай веры і выглядалі як прадстаўнікі польскай культуры.

### 1.3. Нацыянальная самасвядомасць беларусаў у XIX – пачатку XX ст. Заходнерусізм і краёвая ідэя

Эканамічнае і грамадска-палітычнае развіццё XIX ст. садзейнічала разбурэнню традыцыйнага грамадства, уласцівага для папярэдняга перыяду існавання беларускага народа. Пачаўся новы этап этнічнага развіцця: зараджаецца беларуская *нацыя*, для якой характэрна не толькі культурна-этнаграфічнае адзінства насельніцтва, разам з агульнасцю

формаў гаспадарчага жыцця, але і імкненне да развіцця ўласнай літаратурнай мовы і стварэння ўласнай беларускай дзяржаўнасці. Як правіла, неабходнасць дзяржаўнай абароны народных інтарэсаў усведамляецца ўплывовай часткай мясцовай эліты і абапіраецца на нацыянальную самасвядомасць насельніцтва. Таму неабходна ахарактарызаваць беларускую нацыянальную самасвядомасць і некаторыя ідэі мясцовай эліты ў XIX – пачатку XX ст., звязаныя з дзяржаўнасцю.

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай (**1772, 1793, 1795 гг.**) беларускія землі былі далучаныя да Расійскай імперыі. Расійскія вучоныя таго часу, аналізуючы вясковы люд на гэтай тэрыторыі, заўважалі яго адрозненні ад рускага насельніцтва ў мове, матэрыяльнай культуры, адзенні, традыцыях, нягледзячы на тое, што ўлады Расійскай імперыі абвясцілі гэтыя землі «спрадвечна рускімі». Велізарны этнаграфічны матэрыял адлюстроўвае нацыянальна-культурную самабытнасць беларусаў у XIX – пачатку XX ст. Выключнае значэнне ва ўсебаковым даследаванні беларускага народа мае навуковая дзейнасць акадэміка *Я. Карскага*, які ў 1903 г. распачаў этнаграфічную экспедыцыю па Беларусі. Па выніках экспедыцыі быў выдадзены першы том галоўнага даследавання вучонага — поўнамаштабнай навуковай працы «Беларусы», якую пазней назавуць энцыклапедыяй беларусазнаўства. Я. Карскім на падставе этнаграфічнага матэрыялу была складзена карта рассялення беларусаў і тэрытарыяльнага дамінавання беларускай мовы.

Многія этнографы і фалькларысты адзначалі, што ў першай палове XIX ст. адзінай назвы ў дачыненні да беларускіх сялян не існавала: іх называлі і «беларусамі», і «ліцвінамі», і «чорнарусамі», нават «мала-польска-русакамі». Толькі пасля 1860-х гг. зацвярджаецца адзіны тэрмін «беларусы». Разам з тым вясковае насельніцтва пры ўласнай ідэнтыфікацыі крайне рэдка ужывала слова «беларусы». Звычайна селянін называў сябе *«тутэйшым»* ці вызначаў сябе згодна з канфесійнай прыналежнасцю: калі праваслаўны, то «рускі»; калі католік — «паляк». Апошняе было выклікана тым, што ў Беларусі традыцыйна каталіцкая вера атаясамлівалася з польскасцю, з польскай мовай, а праваслаўе — з рускасцю, рускай мовай.

Галоўным крытэрыем, які ў канцы XIX ст. вызначаў нацыянальнасць чалавека пры адсутнасці самаакрэслення, была мова. Менавіта моўны крытэрый быў пакладзены ў аснову першага *Усерасійскага перапісу 1897 г.*, згодна з якім насельніцтва Беларусі (у сучасных межах) налічвала прыблізна 6,5 млн чалавек, 73,3 % з іх складалі беларусы, 14 % — яўрэі, 4,3 % — рускія, 2,4 % — палякі, 6 % — іншыя. Пры гэтым абсалютная большасць беларусаў жыла ў сельскай мясцовасці, а сярод гараджан іх доля складала 17,1 %. Такая сітуацыя стварылася ў выніку існавання мяжы яўрэйскай аселасці, якая не дазваляла іудзеям перасяляцца ў расійскія губерні. З гэтай прычыны ў беларускіх гарадах быў высокі працэнт яўрэяў.

Перашкодай для ўтварэння беларускай нацыі ў гэты час была русіфікатарская палітыка расійскага кіраўніцтва. Беларускія землі не разглядаліся ім як асобныя этнічныя адзінкі накшталт Царства Польскага ці Княства Фінляндскага. Як правіла, нашы тэрыторыі ўключаліся ў паняцце «прародительской отчины» Расіі, таму імперскія ўлады не былі схільныя да стварэння нават абмежаванай аўтаноміі на беларускіх землях.

На пераломе 1830–1840-х гг. у Расіі ідэя дынастычнага кіравання, ідэя дзяржаўніцкая паступова замянялася ідэяй «народа» і «народнасці». Гэта тэорыя была распрацавана расійскім гісторыкам М. Устралавым. Яго «прагматычная схема» гісторыі Расіі грунтавалася на ўяўленнях пра існаванне адзінай усходнеславянскай нацыі і ацэньвала далучэнне беларускіх зямель да Расіі як «жаданы саюз», нягледзячы на тое, што ніякіх рацыянальных падстаў для такіх гістарычных высноў не было. М. Устралаў, ўжываючы у адносінах да тэрыторыі Беларусі паняцце «Западная Русь», выступіў папярэднікам ***заходнерусізму***.

Згодна з найбольш вядомым беларускім даследчыкам заходнерусізму А. Цвікевічам, «пад «заходнерусізмам» мы разумеем тую плынь у гісторыі грамадскай думкі на Беларусі, якая лічыла, што Беларусь не з'яўляецца краінай з асобнай нацыянальнай культурай і не мае дзеля гэтага права на самастойнае культурнае і палітычнае развіццё, але што яна з'яўляецца культурна і дзяржаўна часткай Расіі і таму павінна разглядацца як адзін з яе састаўных элементаў». Самым яскравым прадстаўніком заходнерусізму з'яўляўся ураджэнец Гродзенскай губерні, гісторык *М. Каяловіч.* Актыўна развіваліся ідэі «гэтай плыні» ў акружэнні віленскага праваслаўнага мітрапаліта *І. Сямашкі*, які ў **1839 г.** выступіў ініцыятарам ліквідацыі Брэсцкай царкоўнай уніі. Грамадскім ідэалам заходнерусаў з'яўлялася праваслаўнае грамадства, якое павінна супрацьстаяць заходнім ідэям і не дапускаць уплываў каталіцтва і іудаізму. Уздым заходнерусізму быў звязаны з задушэннем паўстання 1863–1864 гг. і абумоўленым гэтай падзеяй узмацненнем палітыкі русіфікацыі. На пачатку ХХ ст. заходнерускія перыядычныя выданні «Крестьянин», «Белорусская жизнь», «Минское русское слово» і інш. выступалі супраць ідэі беларускага нацыянальнага адраджэння, называючы яе «польскай інтрыгай», і галоўнай сваёй мэтай ставілі папулярызацыю тэзіса аб неіснаванні асобнага беларускага народа. Такім чынам, абсалютная большасць прадстаўнікоў заходнерусізму выступала супраць беларускай дзяржаўнасці.

Варта адзначыць, што свядомасць мясцовай шляхты мела шматузроўневы характар. Так, напрыклад, палітычныя эмігранты, якія апынуліся ў Заходняй Еўропе пасля паўстання 1830–1831 гг., акрэслівалі сябе наступным чынам — «еўрапеец, паляк, ліцвін». Такім чынам, шляхціч беларускіх зямель пачуваў сябе «апошнім еўрапейцам на ўсходзе», «палякам» — паводле былой дзяржаўнай прыналежнасці і «ліцвінам» — прадстаўніком канкрэтнага народа Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў.

Такая шматузроўневая самаідэнтыфікацыя яшчэ не была праявай выразнай беларускай самасвядомасці, але, тым не менш, дазваляла многім мясцовым шляхцічам захоўваць традыцыі дзяржаўнай і культурнай адметнасці зямель былога Вялікага Княства Літоўскага не толькі ад Расіі, але і ад былой Польскай Кароны.

У пачатку XX ст. у дачыненні да дробнай шляхты адзін з беларускіх этнографаў *А. Сержпутоўскі* выказваўся наступным чынам: «Даволі часта дробную шляхту, нават тую, якая размаўляе па-беларуску, называюць былой польскай шляхтай. Такая назва асабліва атрымала права грамадзянства сярод рускіх адміністратыўных асоб пасля польскага паўстання, што адбылося ў 1863 г., у якім многія з апалячанай шляхты бралі ўдзел. Але, хоць шляхта сапраўды была моцна спаланізаваная і брала пэўны, праўда, даволі слабы, удзел у мяцяжы, тым не менш гэта ўсё не дае нам права адносіць гэты клас дробных землеўладальнікаў да польскай нацыянальнасці». У дачыненні мовы дробнай шляхты А. Сержпутоўскі зазначаў, што «шляхта, хоць і валодае польскай мовай, якая лічыцца высакароднай, панскай, звычайна і ў хатнім ужытку гаворыць на мясцовай народнай мове, або дакладней, на гаворцы той рускай мовы, на якой з мясцовымі асаблівасцямі ў свой час гаварыла Русь: у Беларусі — па-беларуску, на Украіне жа — па-ўкраінску».

Прадстаўнікі беларускай шляхты і магнатэрыі адразу пасля далучэння беларускіх зямель да Расійскай імперыі намагаліся адрадзіць мясцовую дзяржаўнасць у выглядзе ВКЛ ці Рэчы Паспалітай. Прыкладам можа быць граф ***М. К. Агінскі***, які ў *1811 г.* падрыхтаваў разам з князем К. Друцкім-Любецкім ***праект адраджэння ВКЛ*** пад пратэктаратам Расіі. Тады ж М. К. Агінскім быў распрацаваны праект указа «Аб новай арганізацыі Заходніх губерняў». У гэтым праекце ён прапанаваў імператару Расіі наступную схему: «Губерні: Гродзенская, Віленская, Мінская, Віцебская, Магілёўская, Кіеўская, Падольская і Валынская разам з акругамі Беластоцкай і Тарнопальскай утвараюць ад гэтага часу адну правінцыю пад назвай Вялікае Княства Літоўскае». Аднак праект Агінскага так і не быў рэалізаваны. Іншымі прыкладамі змагання за адраджэнне ВКЛ і Рэчы Паспалітай з'яўляецца ўдзел мясцовай шляхты ў паўстаннях 1830–1831 гг. і 1863–1864 гг.

У асяроддзі беларускай шляхты, якая пачынала разумець, што на землях былога ВКЛ адбываюцца асобныя ад Польшчы нацыятворчыя працэсы, узнікла ***краёвая ідэя***. Сутнасць гэтай ідэі была ў тым, што «краёўцы» абапіраліся на памяць пра ВКЛ як супольную дзяржаву ўсіх народаў, што жылі на тэрыторыі 6 губерняў «Паўночна-Заходняга краю» Расійскай імперыі. Яны сцвярджалі, што ўсе карэнныя жыхары гістарычнай Літвы з'яўляюцца «грамадзянамі краю» і такім чынам належаць да адзінай нацыі. «Краёўцы» стаялі на тым, што галоўным аб'яднальным момантам з'яўляецца агульная гістарычная традыцыя

і агульная памяць пра яе. Прынцыповым было дэмакратычнае ўладкаванне краю ў будучыні, а таксама тое, што кожны народ у межах адроджанага ВКЛ павінен атрымаць нацыянальна-культурную аўтаномію. Асабліва актыўна «краёўцы» праявілі сябе на пачатку ХХ ст., калі з'явіліся адпаведныя перыядычныя выданні: «Кур'ер краёвы», «Кур'ер Літэўскі», «Пшэглёнд Віленьскі» і інш. Сярод галоўных лідараў «краёўцаў» былі *М. Ромэр, Р. Скірмунт, Э. Вайніловіч*. Усе яны належалі да польскамоўнай інтэлектуальнай эліты Беларусі, называлі сябе «ліцвінамі» і лічылі сябе прадаўжальнікамі традыцый *Т. Касцюшкі, А. Міцкевіча*, філаматаў і філарэтаў, паўстанцаў 1830–1831 гг. і 1863–1864 гг. Пэўны час «краёвую» ідэю падтрымлівалі кіраўнікі беларускага нацыянальнага руху браты *Іван* і *Антон Луцкевічы*, якія паходзілі з асяроддзя беларускай шляхты.

Такім чынам, у ХІХ–пачатку ХХ ст. беларуская нацыянальная ідэнтыфікацыя насельніцтва была няўстойлівай. На беларускіх землях ішла вострая ідэйная барацьба за культурны, моўны і палітычны ўплыў, у якую былі ўцягнуты шырокія пласты адукаванага насельніцтва Беларусі. Менавіта ў кантэксце гэтай барацьбы, якую вялі прадстаўнікі мясцовай эліты з уладамі Расійскай імперыі, выйшаў на гістарычную арэну беларускі нацыянальны рух, які выступіў як альтэрнатыва «заходнерусізму» і «краёвасці».

## 1.4. Ідэя беларускага нацыянальнага адраджэння ў пачатку ХХ ст.

Ідэйным прадвеснікам беларускага нацыянальнага адраджэння пачатку ХХ ст. выступаў кіраўнік паўстання 1863–1864 гг. *К. Каліноўскі (1838–1864)*. Погляды К. Каліноўскага на будучыню Беларусі найбольш канцэнтравана і выразна сфармуляваны ў газеце «Мужыцкая праўда», у якой ярка выявіўся талент К. Каліноўскага як публіцыста. Многія даследчыкі лічаць, што «Мужыцкая праўда» вельмі моцна паўплывала на станаўленне беларускай літаратурнай мовы, паказаўшы яе прыгажосць і сілу.

Галоўная праблема Беларусі бачылася К. Каліноўскаму ў страце дзяржаўнасці ў канцы XVIII ст., калі нашы землі былі далучаны да Расійскай імперыі. У чацвёртым нумары «Мужыцкай праўды» ёсць такія словы: «…суды маскоўскія — воўчая яма, дзе не глядзяць, за табою праўда ці не, а абдзіраюць як могуць». Адзіны шлях вызвалення беларусаў і літоўцаў з «няволі маскоўскай» К. Каліноўскі бачыў ва ўзброеным паўстанні, паколькі, на яго думку, не існавала іншага спосабу прымусіць царызм прызнаць права беларусаў і літоўцаў на самавызначэнне. Шанец на дзяржаўнае самавызначэнне Беларусі К. Каліноўскі бачыў у адраджэнні Рэчы Паспалітай, аб гэтым ён пісаў у сваім перадсмяротным творы «Лісты з-пад шыбеніцы», сцвярджаючы, што «ронд польскі ўсім братнім народам дае самарондства». У «Лістах з-пад шыбеніцы» К. Каліноўскі крытыкаваў ідэю існавання адзінай народнасці, з якой выйшлі рускія і беларусы, і пісаў, што «народ хоча», каб у школе навучанне вялося па-беларуску.

Эпоха паўстання нарадзіла на свет аднаго з галоўных будзіцеляў беларускай нацыянальнай свядомасці ў XIX ст. — *Ф. Багушэвіча*, беларускага паэта, якога называюць бацькам нацыянальнага адраджэння. Ён упершыню абвясціў пытанне мовы як галоўную праблему нацыянальнага існавання беларусаў («не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі») і лічыў яе асноўнай прыкметай адрознення беларусаў ад іншых народаў. Найбольш выразна свае думкі паэт выказаў у прадмове да зборніка «Дудка беларуская», выдадзенага ў Кракаве ў 1891 г., асобнікі якога нелегальна правозілі ў Беларусь праз аўстрыйска-расійскую мяжу. Ф. Багушэвіч прапагандаваў погляд на беларускую мову як на мову «нам ад Бога дануую», «для нас святую», а разам з ім — этнічна-моўны варыянт стварэння беларускай нацыі як сукупнасці людзей, якія адчуюць сваё нацыянальнае існаванне і адзінства пасля таго, як пачнуць пісаць і гаварыць на адной агульнай мове.

Асаблівай увагі заслугоўвае публіцыстыка беларускіх ***народнікаў*** 1880-х гг., якая дапамагае лепш разабрацца ў вытоках сучаснай беларускай ідэі. Менавіта беларускія народнікі вызначылі той паварот у развіцці беларускай нацыянальнай ідэалогіі, які звязаны з сацыялізмам і арыентацыяй на Расію (дэмакратычную): «…галоўнае месца займае прынцып абласной самастойнасці як аснова для будучыні федэральнага палітычнага ладу, які павінен заняць месца сучаснага абсалютызму», — пісала рэдакцыя нелегальнага беларускага *часопіса «Го́ман»* **у 1884 г.** Беларускія народнікі з пецярбургскай групы «Гоман», якую ўзначальвалі *А. Марчанка* і *Х. Ратнер*, былі ў асноўным студэнтамі. Хутчэй за ўсё, большасць гэтых людзей былі выхадцамі з Усходняй Беларусі і паходзілі з каталіцкіх сем'яў. Уся вядомая на сёння пісьмовая спадчына беларускіх народнікаў выйшла на рускай мове, што было даволі дзіўнай з'явай, бо выданні былі нелегальныя, а беларуская інтэлігенцыя карысталася беларускай ці польскай мовамі.

«Гоманаўцы» зрабілі даволі шмат у справе дэталёвай распрацоўкі беларускай ідэі. Галоўная думка, якую яны развівалі ў сваім аднайменным друкаваным органе, была сфармулявана наступным чынам: «…не нізкі ўзровень культуры выклікае яе падпарадкаванне, а, наадварот, падпарадкаванасць выклікае застой [у культуры]». Зыходзячы з гэтага тэзіса, яны сцвярджалі, што барацьба за «самастойнасць працы» павінна ісці плячо ў плячо з барацьбой за «нацыянальнае раўнапраўе». (Пазней гэтая думка прагучала і ў газеце *«Наша Ніва»*). Будучыня Беларусі бачылася народнікам у «агульнай федэратыўнай славянскай сям'і». Яны лічылі, што расійская культура больш блізкая беларусам «па духу», чым польская. Яны прадказвалі, што ўсякае абмежаванне манархізму дасць беларусам магчымасць «трохі вальней развіваць сваю культуру, узяць пэўны ўдзел у абмеркаванні сваіх патрэб». Акрамя таго, «гоманаўцы» вылучылі патрабаванне «свабоды мовы» і заявілі пра шкоднасць

для беларусаў расійска-польскай культурнай барацьбы і пра тое, што «беларускія палякі» пры ўмове паслаблення гэтай барацьбы «самі пакінулі б свой выключна польскі пункт гледжання».

Такім чынам, беларускія народнікі адыгралі сваю ролю ў гісторыі Беларусі. У беларускім руху з’явіліся два крылы: «каталіцкае» з арыентацыяй на Заходнюю Еўропу, і перш за ўсё на Польшчу, і «сацыялістычнае» з арыентацыяй на Расію. Часткова гэтыя галіны аб’ядналіся ў рамках Беларускай сацыялістычнай грамады, створанай у пачатку XX ст. у Пецярбургу.

У 1902 г. у Пецярбургу быў арганізаваны «Круг беларускай народнай прасветы і культуры», заснавальнікамі якога былі пецярбургскія студэнты беларускага паходжання браты *І.* і *А. Луцкевічы*, а таксама *В. Іваноўскі*. Мэтай «Круга» была публікацыя беларускамоўных твораў беларускіх аўтараў. Былі апублікаваныя зборнік паэзіі мінскага паэта Янкі Лучыны «Вязанка», а таксама зборнікі «Калядная пісанка на 1904 год» і «Велікодная пісанка». У **1903 г.** гэтымі ж людзьмі ў Пецярбургу ствараецца *Беларуская рэвалюцыйная грамада (БРГ)*. Крыху пазней, у **1904 г.**, яна змяняе назву і пачынае звацца *Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ)*.

Напачатку 1906 г. браты Луцкевічы перабраліся ў Вільню. Гэта было лагічным, зыходзячы з таго, што БСГ лічыла цэнтрам краю менавіта гэты горад. Першым друкаваным органам беларускага руху была газета *«Наша Доля»*, першы нумар якой выйшаў *1 верасня 1906 г.* У «Нашай Долі» пераважала інфармацыя сацыяльнай скіраванасці, і ў гэтым сэнсе яна, безумоўна, была ідэалагічным рупарам БСГ перыяду рэвалюцыі 1905–1907 гг. Перманентныя канфіскацыі выдання знішчылі «Нашу Долю». Газета *«Наша Ніва»*, першы нумар якой выйшаў *10 (23) лістапада* **1906 г.**, ад пачатку свайго выхаду выразна адмежавалася ад «Нашай Долі», уключыўшы ў сваю назву выраз «першая беларуская газета з рысункамі». У 1910 г. у «Нашай Ніве» працавала 427 карэспандэнтаў з 321 мясцовасці Беларусі.

Сярод іншых да беларускага нацыянальнага руху адносяцца каталіцкая газета «Biełarus», рускамоўная «Вечерняя газета» і польскамоўная «Кур’ер краёвы». Але менавіта «Наша Ніва» займае асаблівае месца ў гісторыі беларускага нацыянальнага адраджэння. Газета зрабіла вялізны ўклад у стварэнне нармалізаванай літаратурнай беларускай мовы, навуковай тэрміналогіі. На яе старонках былі апублікаваны 170 вершаў і каля 30 артыкулаў *Янкі Купалы*, каля 125 вершаў і больш за 40 твораў *Якуба Коласа*. Менавіта ў «Нашай Ніве» дэбютаваў апавяданнем «Музыка» *Максім Багдановіч*. З публікацый у гэтым беларускім штотыднёвіку пачалі свой творчы шлях *М. Гарэцкі, А. Гарун, К. Буйло, З. Бядуля, Цішка Гартны, У. Галубок.* Дзякуючы «Нашай Ніве» адбывалася станаўленне беларускай літаратурна-мастацкай крытыкі, публіцыстыкі, фалькларыстыкі. Яе супрацоўнікі вывучалі народны побыт і хатнія рамёствы, праводзілі арганізацыйную і навуковую працу па даследаванні

гісторыі беларускай культуры і яе тагачаснага стану. Пры газеце захоўвалася ўнікальная калекцыя Івана Луцкевіча, на аснове якой пазней будзе створаны Беларускі музей у Вільні.

*У 1910 г.* «Наша Ніва» з нумара ў нумар друкавала *«Кароткую гісторыю Беларусі» Вацлава Ластоўскага.* Услед за іншым гісторыкам, *М. Доўнар-Запольскім*, Ластоўскі прадстаўляў тэорыю «дзвюх бедаў» беларускай гісторыі — «польскай» і «маскоўскай». Ён жа вылучыў ідэю тоеснасці крывіцкай (у выглядзе Полацкага княства) і беларускай дзяржаўнасці, сцвярджаючы, што беларусы мелі тысячагадовыя традыцыі самастойнага дзяржаўнага існавання, і адраджэнне гэтых традыцый лічыў галоўнай задачай свайго пакалення.

Многія супрацоўнікі «Нашай Нівы» прымалі актыўны ўдзел у стварэнні музычна-драматычных гурткоў і арганізацыі «беларускіх вечарынак». На вечарынках звычайна выконваліся беларускія песні і танцы, чыталіся літаратурныя творы, ставіліся п'есы. Рэпертуар вечарынак уключаў п'есы Я. Купалы, Я. Коласа, К. Каганца, замежных аўтараў. На традыцыях беларускіх вечарынак узнікла «Першая беларуская трупа» *Ігната Буйніцкага* — сапраўдны нацыянальны прафесійны тэатр. Землямер па прафесіі, цесна звязаны з народам, Буйніцкі на свае ўласныя сродкі стварыў трупу ў асабістым фальварку Палевачы ў Дзісенскім павеце. У 1907 г. замацаваўся пастаянны склад удзельнікаў гэтага калектыву, а ў 1910 г. пасля ўдзелу ў «Першай беларускай вечарынцы ў Вільні» тэатр Буйніцкага ператварыўся ў прафесійны. У рэпертуары «Першай беларускай трупы» былі песні, танцы, пастаноўкі п'ес М. Крапіўніцкага, Э. Ажэшкі, А. Чэхава, дэкламаваліся творы беларускіх паэтаў і пісьменнікаў. У час гастроляў па Беларусі І. Буйніцкі дапамагаў мясцовым аматарскім гурткам, што спрыяла пашырэнню тэатральнага мастацтва. У 1911–1912 гг. трупа І. Буйніцкага выступала ў Пецярбургу, у 1913 г. — у Варшаве.

«Нашаніўцы» распрацавалі ідэйныя асновы аўтаноміі Беларусі ў складзе Расійскай імперыі на ўзор Фінляндыі. Былі вызначаны асноўныя формы дзяржаўнага ладу — рэспубліканская форма кіравання, скасаванне саслоўяў, шырокае мясцовае самакіраванне на ўзор Вялікага Княства Літоўскага. Як на палосах «Нашай Нівы», так і ў пазнейшы перыяд лідары беларускага нацыянальнага руху бачылі адраджэнне беларускай дзяржаўнасці ў нейкай форме беларуска-літоўскага ВКЛ.

Разам з гэтым, арыентуючыся ў першую чаргу на сялянства, штотыднёвік мусіў прызнаць, што сяляне на пачатку XX ст. яшчэ былі не гатовыя ўдзельнічаць у палітыцы, а тым больш адстойваць беларускія інтарэсы, таму рэдакцыя на апошніх думскіх выбарах падтрымлівала «краёвую» інтэлігенцыю, якая выступала за ідэю аўтаноміі беларуска-літоўскага краю, прызнаючы, такім чынам, прыярытэт нацыянальнага падыходу над сацыяльным. Можна сцвярджаць, што для «нашаніўцаў»

нацыя і дзяржаўнасць былі важнейшыя за класавасць, хоць яны і мелі сацыялістычныя погляды.

Пашырэнне нацыянальнага руху выдатна ілюструецца развіццём беларускага кнігавыдавецтва на пачатку XX ст. Адной з важных асаблівасцей беларускага кнігадрукавання з'яўлялася пытанне шрыфту. Выбар стаяў паміж кірыліцай і лацінкай. У выніку даволі працяглага паралельнага выкарыстання абодвух шрыфтоў беларуская інтэлігенцыя паступова ўсвядоміла неабходнасць выбару аднаго алфавіту для беларускай мовы. Гэты выбар быў зроблены ў 1912 г. рэдакцыяй газеты «Наша Ніва» на карысць кірыліцы. Гэта, безумоўна, адбілася на кнігадрукаванні. Так, з 1901 па 1917 г. кірыліцай выйшла 158 пазіцый, у той час як лацінкай — толькі 87.

Што тычыцца асобных выдавецтваў, то безумоўным лідарам з'яўлялася беларускае выдавецтва ў Пецярбургу *«Загляне сонца і ў наша ваконца»*, якім дэ-факта кіраваў Вацлаў Іваноўскі. Яно за 8 гадоў свайго існавання *(1906–1914)* выдала 38 пазіцый (21 кірыліцай, 17 лацінкай) агульным тыражом 56 700 асобнікаў. Не нашмат менш кніг выпусціла выдавецтва «Наша Ніва» (1907–1913), якое размяшчалася ў Вільні, — 33 пазіцыі (19 кірыліцай, 14 лацінкай) агульным тыражом 53 400 асобнікаў. Варта прыгадаць яшчэ «Беларускае выдавецкае таварыства», якое за 2 гады свайго існавання (1913–1915) выдала 15 пазіцый (12 кірыліцай, 3 лацінкай) агульным тыражом 44 500 асобнікаў. «Беларускае выдавецкае таварыства» было адзіным беларускім выдавецтвам на пачатку XX ст., якое плаціла аўтарскія ганарары.

Такім чынам, сфарміраваны вакол «Нашай Нівы» беларускі нацыянальны рух дасягнуў дастаткова добрых вынікаў у сваёй дзейнасці. Улічваючы вельмі абмежаваныя ў параўнанні з палякамі, рускімі, яўрэямі і літоўцамі рэсурсы, беларуская інтэлігенцыя здолела стварыць рэальную альтэрнатыву тоеснасці на землях былога Вялікага Княства Літоўскага. Больш за тое, менавіта дзякуючы «нашаніўскай» супольнасці беларускі рух за 16 гадоў (1902–1918) здолеўператварыцца са студэнцкага гуртка ў нацыянальную эліту, якая ў 1918–1920 гг. узяла на сябе кіраўнічыя функцыі нацыянальнага маштабу. «Наша Ніва» на пачатку XX ст. фактычна стварыла ідэйны падмурак адраджэння беларускай дзяржаўнасці і распрацавала базавую нацыянальную ідэалогію, на падставе якой працягвала будавацца беларуская нацыянальная тоеснасць у XX ст. Сутнасць нацыянальнай ідэі ў тым, што беларусы — гэта народ, які мае сваю даўнюю і слаўную гісторыю, а значыць, і палітычныя правы. Беларуская мова — мова старажытная, выдатна распрацаваная ў часы Вялікага Княства Літоўскага, а значыць, мае права на адраджэнне, прызнанне на афіцыйным узроўні, увядзенне ў школьнае навучанне і г. д.

## Кантрольныя пытанні

1. Назавіце этнічныя супольнасці, якія пражывалі на тэрыторыі Беларусі да прыходу славян.

2. Ці можна казаць пра існаванне ў Старажытнай Русі адзінай народнасці?

3. Ці існавала агульнадзяржаўная этнічная супольнасць «ліцвіны» ў перыяд ВКЛ?

4. Якое месца займала старабеларуская мова ў перыяд ВКЛ?

5. Якія наступствы для беларускага этнічнага развіцця мелі Рэфармацыя і Контррэфармацыя?

6. Па якіх прычынах беларускі народ у XVIII ст. стаў этнасам з няпоўнай сацыяльнай структурай?

7. Растлумачце сэнс такіх тэрмінаў, як «заходнерусізм», «краёвасць».

8. Якія мэты ставілі перад сабой улады Расійскай імперыі ў адносінах да насельніцтва беларускіх зямель?

9. Назавіце імёны галоўных прадстаўнікоў грамадска-палітычнай думкі Беларусі ў XIX – пачатку XX ст.

10. Якія праявы беларускай нацыянальнай свядомасці ў асяроддзі паўстанцаў 1863–1864 гг. вы можаце назваць?

11. У чым заключаліся галоўныя задачы беларускага нацыянальнага руху паводле газеты «Наша Ніва» (1906–1915 гг.)?

12. Ці мела, на вашу думку, поспех беларускае нацыянальнае адраджэнне пачатку XX ст.? Абгрунтуйце свой адказ.

## Практычныя заданні

**Заданне 1. Апісаннне падзей 1210 г. з «Хронікі Лівоніі» Генрыха Латвійскага.**

…лівонская царква ў той час, знаходзячыся пасярод мноства паганскіх плямёнаў, у суседстве рускіх, цярпела нямала бедстваў, бо тыя ўсе мелі адно памкненне — знішчыць яе.

Таму рыжане наважыліся выправіць пасloў да караля полацкага паспрабаваць, ці не ўдасца дамагчыся якога-небудзь мірнага пагаднення з ім. Ісці ў Русію даручана было Радольфу з Ерыха з некаторымі іншымі. (*Генрих Латвийский. Хроника Ливонии. Ленинград, 1938. С. 121–122. Пераклад Н. Кучмель*).

1. Чым адрозніваліся па веравызнанні плямёны, што жылі каля Рыгі, ад рускіх, якія жылі побач з імі?

2. Ці лічыць аўтар «Хронікі Лівоніі» Полацк часткай Русі?

**Заданне 2. Вытрымкі з дзённіка Ф. Еўлашоўскага (1546 – пасля 1616).**

<у 1572 г.> У тым жа годзе нешчаслівага месяца сакавіка другога дня ў нядзелю на досвітку памерла наймілейшая маці мая Фядора, асіраціла,

на вялікі жаль, пана бацьку нашага і нас, дзяцей іх мілых, цела якой з прыстойнаю пачцівасцю пахавана было ў Ляхавічах у царкве рускай.

<у 1577 г.> уступіў у шлюб святы з цяперашняю жонкаю маёю Ганнаю Балатоўнаю, сястрою пана Данілы Балотавіча з Русі ў тым жа годзе 10-га лютага, продак якіх, чалавек значны, яшчэ пры каралю Казіміру з Масквы быў прыехаў, на імя Антоній Балота. (*Старажытная беларуская літаратура. Мінск, 2007. С. 344, 348*)

1. У якой царкве была пахавана маці Ф. Еўлашоўскага: каталіцкай, пратэстанцкай ці праваслаўнай?

2. Адкуль жонка Ф. Еўлашоўскага: з тэрыторыі ВКЛ ці з-за мяжы?

**Заданне 3. Знакамітыя выказванні нясвіжскага магната Караля Радзівіла (другая палова XVIII ст.).**

«Пад нямецкай вопраткай не можа біцца ліцвінскае сэрца, і як свет стаіць светам, паляк немцу не будзе братам».

«Я люблю Карону, пане каханку, але няма лепш, як наша Літва. У мяне і ў Кароне ёсць кавалак зямлі, але чорт бы там сядзеў».

(*Рассказы о польской старине*. *Записки XVIII века Яна Дуклана Охотского, с рукописей, после него оставшихся, переписанные и изданные И. Крашевским. Т. 1. СПб., 1874. С. 128; Мальдзіс А. Як жылі нашы продкі ў XVIII стагоддзі. Мінск, 2001. С. 127*)

Вызначце, што абазначаюць у выказваннях К. Радзівіла словы «паляк», «Карона», «Літва», «ліцвінскае».

**Заданне 4. Вытрымкі з «Лістоў з-пад шыбеніцы» К. Каліноўскага (студзень – люты 1864 г.).**

І да нашага кутка даляцела ваша Газэтка, і мы яе з увагай прачыталі; вельмі яна ўсім спадабалася, бо праўда напісана. Прыймеце для таго нашу падзяку, а пісьмо аддрукуйце, каб знаў свет Божы, як мужыкі Беларусы глядзяць на маскалёў і паўстанне польскае, чаго яны хочуць і чаго па сваей сіле дабівацiся будуць. […] За ўсіх старон маскалі цяпер талкуюць нам без устанку а сваём брацтве з намі. Праўдзіва дзівота, жывучы пад рондам маскоўскім гэтулькі часу, цяпер ледзь мы аб гэтым пачулі, для таго не без карысці будзе паглянуць, як гэта маскоўскія браты самі ў сябе гаспадарылі да і з намі рабілі, каб пазнаць іх шчырасць і права на брацтва нашае. Не будзем гаварыці, з якіх народаў маскалі паўсталі, брацтва там не многа найдзем, няволя манголаў да і цароў маскоўскіх заўсім забіла ў гэтам народзе ўсякую памяць а свабодзе да і зрабіла з яго грамады людзей паганых без мыслі, без праўды, без справядлівасці, без сумлення да і без баязні Боскай. З гэтакім народам цары маскоўскія, што то жывуць людскою крыўдаю, падбілі зямлю нашу пад сваё панаванне, тут то мы іх і пазналі, гэтых, як яны сябе называюць, братоў нашых.

Ронд польскі ўжо таму будзе 70 лет, выперажаючы многа суседскіх народаў, пачаў ужэ талкаваці а свабодзе мужыцкай і роўнасці братняй мужыка з шляхціцам, а енарал Касьцюшка, што то, кажуць, каля Слоніма радзіўся і а каторым народ наш спявае, што ён вельмі быў добрым і маскаля крэпка біў, высказаўся ён за вольнасць нашу, но маскаль то перашкодзіў і

завёў свае ронды. Пагляньма ж цяпер, што ён зараз пачаў рабіці, гэты дабрадзей мужыцкі, як сам цяпер кажа: найперш, каб не магло вырабляціся сумленне народнае, пакасаваў маскаль усе сходкі людзей выбарных, усе школы нашы, а так, абабраўшы з сумлення да і з розуму, а завёўшы ў нас свой парадак маскоўскі, пазволіў кожнаму дужшаму глуміцца над бедным як толька хоча. Паноў заўсім увольніў ад усякіх ценжараў, даў ім права завадзіць паншчыну маскоўскую, а яна то не тры дай не шэсць дзён з хаты, но 6 дзён з душы рабочай. Мужыку не толька што не даў ніякага права, но яшчэ адабраў і тое права, якое ён меў ад ронду польскага; многа людзей вольных да і каралеўшчызны вялеў у паншчызну ўпісаць, кажнаму можна было мужыка крыўдзіць, а чыноўнікі маскоўскія не рабілі яму ніякай справядлівасці, но яшчэ калі суд на глум не ссылаў мужыка ў Сібір, то аддаваў на вечнасць у салдаты. Калі які пан, паслухаўшы сумлення, ішоў за праўду і справядлівасць і спраціўляўся прыказу царскаму, каторы кажа: «дзяры, бяры да і маўчы», тады яго, калі не ўцёк да пранцуза, у турму бралі да і ў Сібір гналі, а двор з людзьмі ў казну забралі, стуль то ў нас і мужыкі казённыя.

Калі ронд польскі ўсім братнім народам дае самарондства, маскаль мала таго, што гэтак не робіць, но яшчэ там, гдзе жылі палякі, літоўцы і беларусы, заводзіць маскоўскія школы, а ў гэтых школах учаць па-маскоўску, гдзе ніколі не пачуеш і слова па-польску, па-літоўску да і па-беларуску, як народ таго хоча, а ў гэтыя школы адно з другога канца света маскалёў насылаюць, што толька ўмеюць красці, людзей абдзіраці дай служыць за грошы паганаму дзелу на глум народу.

Ты, аднак, Народзе, не дажыдайся, да з чым можаш ідзі ваяваці за свайго Бога, за сваё права, за сваю хвалу, за сваю бацькаўшчызну. (*Каліноўскі К. За нашую вольнасць. Творы, дакументы. Мінск, 1999. С.40–42*)

1. Пра якую «Газэтку» ўзгадана на пачатку «Лістоў з-пад шыбеніцы»?
2. Ці разглядае К. Каліноўскі беларускі народ як частку рускага народа?
3. Якая дзяржава бачыцца К. Каліноўскім у якасці «сваёй» для беларусаў: былая Рэч Паспалітая ці Расійская імперыя?
4. Ахарактарызуйце стаўленне К. Каліноўскага да моўнага пытання.
5. Што К. Каліноўскі заклікаў рабіць, каб вызваліцца з «нявolі маскоўскай»?

**Заданне 5. Выказванні графа І. К. Корвін-Мілеўскага (вядомага віленскага польскага грамадскага дзеяча) аб беларусах.**

Беларусы каля Магілёва — адны, каля Вільні — іншыя, не кажучы ўжо пра пінчукоў з Палесся. Усе яны інакш кажуць, інакш жывуць, інакш вызнаюць сваю веру і маюць толькі дзве агульныя рысы, а менавіта: нечувана-лянівую абыякавасць да ўсяго і хітрасць нечуваную.

Ніводзін з гэтых нашых нібыта глыбокіх польскіх палітыкаў, якія падтрымліваюць усе нацыяналізмы, нават уяўныя, нават самыя смешныя, абы толькі не рускія, не будзе ў стане паказаць «беларускага» селяніна, папярэдне

не навучанага знарок, які б на пытанне: «Хто ты?» — не адказаў «Я «тутэйшы», і толькі зрэдку не дадаў бы, якую ён вызнае рэлігію.

Слова «беларус» у газетным свеце і ў палітыкаманаў, нават мною часам, ужываецца ў сілу неабходнасці, а ва ўрадавай статыстыцы ўведзенае зусім нядаўна, у сутнасці, зусім невядома самім сялянам. Яны і цяпер «тутэйшыя» і застануцца «тутэйшымі». Адасобленасць ад Расіі ў іх галовах уяўляецца словам без аніякага сэнсу. Яны не ў стане зразумець, адкуль і для чаго магла б з'явіцца такая адасобленасць, таму што ў рэчаіснасці здзяйсняецца якраз адваротнае. Даўно ўжо абавязковая для ўсіх вайсковая служба; чым далей, тым у большым ліку сельскія школы, дзе навучаюць іх дзяцей дзяржаўнай мове, — робяць патроху і будуць рабіць сваю справу, і, напэўна недалёка той час, калі яны яе скончаць. […]

Калі ж па ўласнай волі ці па падгаворванні ксяндзоў-«беларусаў», гэта значыць з сялян — «тутэйшыя» стануць дамагацца ўвядзення ў каталіцкіх касцёлах дадатковага набажэнства на сваім дыялекце і, зразумела, атрымаюць такое, то трэба будзе ў недалёкай будучыні выпісаць з Вільні перакладчыка, каб расследаваць па польскіх надмагільных надпісах на аддаленых могілках, дзе быў пахаваны тамтэйшы памешчык польскай культуры. (*Корвин-Милевский И. К чему должно стремиться литовское дворянство. Вильно, 1911. С. 39–40. Пераклад Н. Кучмель*)

1. Ці высока ацэньвае беларускую самасвядомасць у сялян І. К. Корвін-Мілеўскі?

2. Якія фактары, па назіраннях аўтара тэксту, садзейнічаюць русіфікацыі беларусаў?

3. Чаму граф супраць правядзення набажэнстваў на беларускай мове?

4. Ці лічыць І. К. Корвін-Мілеўскі беларускую мову самастойнай?

## Тэсты для самакантролю

**1. Самы старажытны шкілет чалавека ў Беларусі знойдзены каля населенага пункта:**

а) Юравічы; в) Краснасельскі;
б) Бердыж; г) Полацк.

**2. Калі пачаўся жалезны век, на тэрыторыі Беларусі жылі:**

а) славяне; в) германцы;
б) балты; г) даіндаеўрапейцы.

**3. Сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы былі характэрны:**

а) для крывічанак; в) дрыгавічанак;
б) радзімічанак; г) варагаў.

**4. Да XVI ст. русіны ў ВКЛ заўсёды:**

а) праваслаўныя; в) каталікі;
б) пратэстанты; г) язычнікі.

**5. Старабеларуская мова ў ВКЛ страціла статус дзяржаўнай:**

а) у 1569 г.; в) 1596 г;
б) 1654 г.; г) 1696 г.

**6. Вызначце лішняе ў пераліку гарадоў «Белай Русі» ў XVII ст.:**

а) Навагрудак; в) Полацк;
б) Віцебск; г) Магілёў.

**7. Аўтар знакамітага паланэза, які падаў расійскаму імператару Аляксандру I праект аднаўлення ВКЛ:**

а) М. К. Агінскі; в) А. Міцкевіч;
б) Т. Касцюшка; г) С. Манюшка.

**8. Расійскі гісторык, якога называюць «прадвеснікам заходнерусізму»:**

а) М. Каяловіч; в) М. Устралаў;
б) П. Бранцаў; г) М. Карамзін.

**9. Брэсцкая царкоўная унія ў Беларусі была скасавана:**

а) у 1832 г.; в) 1830 г.;
б) 1839 г.; г) 1861 г.

**10. Назавіце як мага большую колькасць твораў дарэвалюцыйнага перыяду:**

а) Я. Купалы;
б) Я. Коласа.

**11. Братоў Луцкевічаў звалі:**

а) Вацлаў і Браніслаў; в) Іван і Канстанцін;
б) Адам і Андрэй; г) Іван і Антон.

**12. Галоўная мэта дзеячаў беларускага нацыянальнага руху напярэдадні Першай сусветнай вайны:**

а) незалежная беларуская дзяржава;
б) адроджаная Рэч Паспалітая;
в) краёвая аўтаномія Беларусі з соймам у Вільні;
г) беларуска-ўкраінская федэрацыя.

**Адказы**: 1 — в; 2 — б; 3 — б; 4 — а; 5 — г; 6 — а; 7 — а; 8 — в; 9 — б; 10 — а: паэмы «Курган», «Магіла льва», «Бандароўна»; п’есы «Паўлінка», «Тутэйшыя»; вершы «Прарок», «Маладая Беларусь» і інш.; б: «Новая зямля», «Сымон-музыка», «На ростанях», «Дрыгва»; «Мужык», «Покліч», «Беларусам» і інш.; 11 — г; 12 — в.

## ЛІТАРАТУРА

### *Асноўная*

1. *Гісторыя* Беларусі : у 6 т. / рэдкал.: М. Касцюк (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск : Экаперспектыва, 2000–2005. Т.1 : Старажытная Беларусь : ад пачатковага засялення да сярэдзіны XIII ст. / В. Вяргей [і інш.]. 2000. 351 с. ; Т. 2 : Беларусь у перыяд Вялікага Княства Літоўскага / Ю. Бохан [і інш.]. 2003. 688 с.

2. *Гісторыя* Беларусі : курс лекцый : у 2 ч. / Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт ім. Я. Купалы, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Мінск : РІВШ, 2000–2002. Ч. 1 : Са старажытных часоў да кан. XVIII ст. / І. П. Крэнь [і інш.]. 2000. 656 с.

3. *Гісторыя* Беларусі : дапам. для паступаючых у вышэйшыя навучальныя ўстановы / А. Л. Абецэдарская [і інш.] ; пад рэд. Ю. Л. Казакова [і інш.]. Мінск : Экаперспектыва, 1998. 496 с.

***Дадатковая***

4. *Александровіч, С. Х.* Пуцявіны роднага слова. Праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку другой паловы XIX – пачатку XX ст. / С. Х. Александровіч. Мінск : БДУ, 1971. 247 с.

5. *Багушэвіч, Ф.* Творы : Вершы, паэма, артыкулы, лісты / Ф. Багушэвіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1991. 309 с.

6. *Белы, А.* Хроніка Белай Русі. Імалогія Беларусі XII–XVIII ст. / А. Белы. Смаленск : Інбелкульт, 2013. 468 с.

7. *Біч, М.* Беларускае адраджэнне ў XIX – пачатку XX ст. Гістарычныя асаблівасці, узаемаадносіны з іншымі народамі / М. Біч. Мінск : Навука і тэхніка, 1993. 29 с.

8. *Луцкевіч, А.* Выбраныя творы : праблемы культуры, літаратуры і мастацтва / А. Луцкевіч. Мінск : Кнігазбор, 2006. 459 с.

9. *Луцкевіч, А.* Да гісторыі беларускага руху / А. Луцкевіч. Мінск : Кнігазбор, 2003. 287 с.

10. *Наша* Ніва. Факс. выд. Вып. 4. Мінск : Тэхналогія, 2003. 684 с.

11. *Семашкевіч, Р.* Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе (кан. XIX – пач. XX ст.) / Р. Семашкевіч. Мінск : БДУ, 1971. 132 с.

12. *Сідарэвіч, А.* Луцкевічы і Луцэвіч / А. Сідарэвіч. Мінск : Фонд імя братоў Луцкевічаў, 2003. 58 с.

13. *Смалянчук, А.* Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях 1864 – люты 1917 г. / А. Смалянчук. СПб. : Неўскі прасцяг, 2004. 404 с.

14. *Терешкович, П.* Этническая история Беларуси XIX – начала XX в. : В контексте Центрально-Восточной Европы / П. Терешкович. Минск : БГУ, 2004. 221 с.

15. *Турук, Ф.* Белорусское движение. Очерк истории национального и революционного движения белорусов / Ф. Турук. Минск : Картография Белгеодезии, 1994. 144 с.

16. *Янушкевіч, Я.* Неадменны сакратар Адраджэння : Вацлаў Ластоўскі / Я. Янушкевіч. Мінск : Навука і тэхніка, 1995. 68 с.

## ТЭМА 2. ДЗЯРЖАЎНЫЯ ЎТВАРЭННІ НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ У IX–XVIII СТСТ.

2.1. Станаўленне ранніх дзяржаўных утварэнняў на беларускіх землях.

2.2. Роля беларускіх зямель у працэсе будаўніцтва і дзяржаўнага развіцця ВКЛ.

2.3. Дзяржаўна-прававое становішча Вялікага Княства Літоўскага пасля Люблінскай уніі.

2.4. Войны XVII–XVIII стст. і іх наступствы для беларускіх зямель.

2.5. Палітычны крызіс Рэчы Паспалітай. Уключэнне беларускіх зямель у склад Расійскай імперыі.

**Агульны час заняткаў**: 2 гадзіны.

**Мэта семінара:** ахарактарызаваць дзяржаўныя ўтварэнні на тэрыторыі Беларусі ў Сярэднявеччы і раннім Новым часе.

**Задачы:**

– прааналізаваць працэсы ўзнікнення і развіцця старажытных княстваў на тэрыторыі Беларусі;

– вызначыць ролю беларускіх зямель у працэсе дзяржаўнага будаўніцтва Вялікага Княства Літоўскага;

– даведацца пра наступствы Люблінскай уніі для развіцця беларускіх зямель;

– вызначыць наступствы для развіцця Беларусі войнаў XVII–XVIII стст.;

– вывучыць асноўныя прычыны крызісу Рэчы Паспалітай і яе падзелаў паміж Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй.

**Патрабаванні да зыходнага ўзроўню ведаў.** Для засваення тэмы неабходна ведаць асноўныя аспекты этнічнага развіцця на тэрыторыі Беларусі ў IX–XVIII стст.; арыентавацца ў такіх паняццях, як «дзяржава», «федэрацыя», «унія». Паўтарыць вучэбны матэрыял па пытанні канфесійнага развіцця на беларускіх землях.

**Паняцці і тэрміны, якія неабходна засвоіць:** князь, дынастыя, суверэнітэт, зямля, воласць, раздробленасць, веча, пасаднік, намеснік, прывілей, Статуты Вялікага Княства Літоўскага, шляхта, магнаты, паны-рада, сойм, ліберум вета, епархія, дойлідства, магдэбургскае права, «валочная памера», Русь, Літва.

## 2.1. Станаўленне ранніх дзяржаўных утварэнняў на беларускіх землях

Зараджэнне дзяржаўнасці на беларускіх землях адносіцца да часу іх засялення славянскімі плямёнамі (VI–IX стст.). У той час у славян ужо існавалі князі і саюзы плямён. Першапачаткова ***князі*** разам са старэйшынамі родаў выбіраліся на ***вечы*** — сходзе свабодных мужчын, здольных насіць зброю, — але з часам іх функцыі пачалі перадавацца ў спадчыну. Так узнікла родаплемянная знаць — людзі, высокую ролю якіх у грамадстве забяспечваў факт нараджэння. Існаванне адзінай княжацкай улады на вялікай тэрыторыі саюзаў плямён і вылучэнне сярод славян знатных людзей сведчылі пра пачатак іх пераходу да дзяржаўнасці.

Славянскія саюзы плямён, у якіх існавала княжацкая ўлада, у старажытным летапісе («Аповесць мінулых гадоў») названы «княжаннямі». На тэрыторыі Беларусі княжанні існавалі ў полацкіх крывічоў і дрыгавічоў. Крывічы, якія на беларускіх землях рассяліліся ўздоўж р. Заходняя Дзвіна, з’яўляліся самым буйным племянным саюзам усходніх славян. Пазней яны распаліся на тры групы з цэнтрамі ў Полацку, Смаленску і Пскове — сталіцамі асобных буйных княстваў.

Першыя летапісныя звесткі пра *Полацк* датуюцца **862 г.** Пад гэтай датай «Аповесць мінулых гадоў» змяшчае паведамленне аб прызванні

ў Ноўгарад варагаў на чале з *Рурыкам*. Варагамі, або вікінгамі, называлі шведскіх, дацкіх і нарвежскіх воінаў, якія ўсталявалі гандлёвыя адносіны паміж Скандынавіяй і Візантыяй — праклалі т. зв. шлях «з варагаў у грэкі». Іх роля ў працэсе стварэння дзяржаў на ўсходнееўрапейскім абшары застаецца прадметам дыскусій паміж гісторыкамі.

Пачаўшы княжыць у *Ноўгарадзе*, Рурык (862–879) накіраваў сваіх дружыннікаў у іншыя гарады, сярод якіх быў і Полацк. Пераемнік Рурыка князь *Алег* (879–912) ажыццявіў буйны ваенны паход па Дняпры і ў 882 г. захапіў *Кіеў*. У 885 г. ён падпарадкаваў землі радзімічаў, размешчаныя на ўсходзе сучаснай Беларусі, уздоўж р. Сож. Радзімічы не мелі свайго князя, а да Алега падпарадкоўваліся хазарам, якім плацілі даніну. Такім чынам, Алег аб'яднаў пад сваёй уладай значную частку ўсходніх славян, у тым ліку і на беларускіх землях. З-за таго што варагаў у тыя часы называлі таксама «русамі», тэрыторыю, падначаленую Алегу і наступным кіраўнікам Кіева, летапісцы акрэслівалі словамі *«Русь»*, *«Руская зямля»*.

У 960-х гг. у Полацку пачаў княжыць *Рагвалод*, які праводзіў незалежную ад Кіева палітыку. Рагвалод, згодна з паведамленнямі летапісу, «прыйшоў з-за мора». Верагодна, ён быў варагам, але не быў звязаны з нашчадкамі Рурыка сваяцтвам. Каля **980 г.** Рагвалод і яго сыны былі забіты наўгародскім князем *Уладзімірам* (адным з нашчадкаў Рурыка), які неўзабаве стаў таксама кіеўскім князем (980–1015). Уладзімір, як і Алег на стагоддзе раней, аб’яднаў землі ўсходніх славян пад адзінай уладай. Дачку Рагвалода *Рагнеду* Уладзімір прымусам зрабіў адной са сваіх жонак. Пазней Уладзімір адпусціў яе на радзіму і пасяліў разам са старэйшым сынам *Ізяславам* у замку, які атрымаў назву Ізяслаўль (сучасны горад Заслаўе). Са згоды бацькі Ізяслаў стаў полацкім князем (989–1001), пачынальнікам асобнай княжацкай ***дынастыі***, якая правіла ў Полацку. Пасля *хрышчэння Русі* (**988 г.**) у Полацку пры князю Ізяславе была створана ***епархія*** (992 г.) — асобная царкоўная акруга на чале з епіскапам.

Выгаднае размяшчэнне Полацка на заходнедзвінскім адгалінаванні шляху «з варагаў у грэкі» абумовіла яго ваенную і эканамічную канкурэнцыю з Ноўгарадам, а таксама садзейнічала выспяванню сярод палачан імкнення існаваць незалежна ад Кіева, кіраўнікі якога, у сваю чаргу, намагаліся кантраляваць усе гарады на гандлёвым шляху ў Візантыю. Полацкі князь *Брачыслаў (1003–1044)* распачаў барацьбу з Ноўгарадам за кантроль над гандлёвымі шляхамі і адабраў у наўгародцаў волакі паміж рэкамі Заходняя Дзвіна і Дняпро. На гэтай тэрыторыі водных шляхоў не было, а тавары прыходзілася валачы — цягнуць па сушы. За карыстанне волакамі купцы плацілі падаткі, узбагачаючы тую дзяржаву, якая іх кантралявала. Намаганнямі Брачыслава ў 1021 г. у склад Полацкага княства былі ўключаны гарады *Віцебск* і *Усвяты*, побач з якімі знаходзіліся волакі.

Найбольшай магутнасці Полацкае княства дасягнула ў часы кіравання *Усяслава Чарадзея (1044–1101)*. Ён яшчэ болей пашырыў

уладанні Полацкага княства і пабудаваў у яго сталіцы новы магутны замак і мураваны Сафійскі сабор, каб паказаць роўнасць Полацка Кіеву і Ноўгараду. У 1065 г. Усяслаў напаў на Пскоў, а ў 1066 г. ён, як некалі і яго бацька Брачыслаў, захапіў і разрабаваў Ноўгарад. У адказ войскі кіеўскага князя Ізяслава (1054–1078) і двух яго братоў рушылі на Полацк. Па дарозе імі быў спалены Менск, які належаў Полацкаму княству. Затым **3 сакавіка 1067 г**. кіеўскія дружыны сустрэліся на р. Нямізе з войскамі Усяслава Чарадзея. У гэтай бітве Усяслаў зведаў паражэнне і быў вымушаны адступіць. Праз некалькі месяцаў полацкі князь падманам быў захоплены ў палон і пасаджаны ў «поруб» (драўляную вязніцу) у Кіеве. Але ў 1068 г. там адбыўся народны бунт, у выніку якога Усяслава вызвалілі і абвясцілі кіеўскім князем. Праз сем месяцаў ён вярнуўся ў Полацк, самастойнасць якога надалей адстойваў у шматлікіх войнах.

Пасля смерці Усяслава Чарадзея ў 1101 г. Полацкая зямля была падзелена паміж яго сынамі. Надышоў перыяд ***раздробленасці*** — падзелу дзяржавы на больш дробныя часткі. Кожная з іх ператварылася ў самастойнае княства, у якім быў свой князь. Удзельны князь імкнуўся перадаць тэрыторыю, на якой кіраваў, свайму сыну. Гэтак у розных частках некалі адзінай Полацкай зямлі ўзнікалі асобныя дынастыі. Такія самыя падзеі — падзел буйных княстваў (у летапісах іх называлі «***землі***») на больш дробныя княствы (***воласці***) — адбываліся і на іншых землях усходніх славян. Прычыны раздробленасці не залежалі ад волі асобных князёў, а мелі аб’ектыўны характар. Натуральная гаспадарка, якой жылі ўсходнія славяне, не прадугледжвала актыўнага гандлёвага абмену паміж рэгіёнамі і не патрабавала іх аб’яднання на вялікай тэрыторыі.

У перыяд раздробленасці са складу Полацкай зямлі першым вылучылася Менскае княства. Да 1119 г. тут кіраваў *Глеб Усяслававіч* (1101–1119), які па прыкладзе свайго бацькі праводзіў актыўную ваенную палітыку. Спачатку ён пашырыў межы сваёй дзяржавы за кошт Смаленскага княства, захапіўшы ў яго Друцк, Оршу і Копысь. Потым напаў на Тураўскае княства, спаліўшы ў 1116 г. на яго тэрыторыі Слуцк. У адказ кіеўскі князь Уладзімір Манамах (1113–1125), якому Тураўскае княства падпарадкоўвалася, напаў на Менск. Глеб быў узяты ў палон і адвезены ў Кіеў. Пасля смерці ён быў з пашанаю пахаваны ў Кіева-Пячэрскім манастыры.

Сын Уладзіміра Манамаха кіеўскі князь Мсціслаў (1125–1132) паспрабаваў усталяваць сваю ўладу над Полацкам. Па яго загадзе ў 1127 г. з розных бакоў на Полаччыну ўварваліся войскі адразу сямі княстваў. Каб прадухіліць захоп і рабаванне Полацка, веча прагнала з горада князя Давыда Усяслававіча. Новым князем стаў іншы сын Усяслава Чарадзея *Барыс* (1127–1129), з якім палачане на крыжы прысягнулі ў паслухмянасці кіеўскаму князю, але ў хуткім часе парушылі сваё абяцанне. Каб канчаткова скарыць Полацк, Мсціслаў пазбавіў яго мясцовай дынастыі: у **1129 г.** полацкія князі, сыны Усяслава Чарадзея, разам з жонкамі і дзецьмі былі высланы у Візантыю.

Але хуткая смерць Мсціслава ў 1132 г. прывяла да канчатковага распаду зямель, кантраляваных Кіевам. Палачане выгналі з Полацка сына памерлага кіеўскага князя, а сваім кіраўніком паставілі прадстаўніка мясцовай дынастыі — унука Усяслава Чарадзея *Васільку* (1132–1144).

У сярэдзіне XII ст. незалежным ад Кіева робіцца і *Тураўскае княства*. Яно існавала на землях племяннога саюзу дрыгавічоў на поўдні Беларусі. У сярэдзіне X ст. дрыгавічы былі падпарадкаваны кіеўскімі князямі, якія пачалі прызначаць сваіх сыноў у *Тураў* (упершыню ўпамінаецца ў летапісе пад **980 г.**). Княжанне ў Тураве было прыступкай для далейшага пераходу на галоўны кіеўскі пасад. Пра вялікае значэнне Турава на ўсходнеславянскіх землях сведчыла таксама ўтварэнне ў 1005 г. мясцовай епархіі на чале з епіскапам Фамой (каля 1158 г. гэту пасаду заняў *Кірыла Тураўскі*). У канцы X ст. князь Уладзімір прызначыў кіраваць у Тураў свайго прыёмнага сына *Святаполка*, прazванага пазней «Акаянным». У 1015 г. ён стаў кіеўскім князем, але неўзабаве быў пазбаўлены ўлады сваім братам Яраславам. *Яраслаў Мудры* (1019–1154), а затым яго сын Ізяслаў (1054–1078) кіравалі адначасова ў Кіеве і Тураве. Знаходзячыся пераважна ў Кіеве, яны пасылалі ў Тураў свайго прадстаўніка, які называўся «***пасаднікам***» і кіраваў ад імя князя. Гэта сведчыла пра цесныя, але не роўныя адносіны двух гарадоў. Залежнасць Турава ад Кіева працягвалася да *1158 г.,* пакуль тураўскі пасад не заняў (насуперак волі кіеўскага князя) *Юрый Яраславіч* (1158–каля 1162), заснавальнік мясцовай тураўскай дынастыі. Пры яго сынах Тураўская зямля перажыла працэс драблення, а сярод валасцей асаблівае значэнне набыў Пінск, дзе вылучылася асобная дынастыя князёў. Гэты горад стаў сталіцай асобнага княства і большым за Тураў.

Раздробленасць на беларускіх землях працягвалася каля двух стагоддзяў. З аднаго боку, яна павялічвала колькасць міжусобных войнаў, ператварала падзеленыя беларускія землі, асабліва на ўсходзе і поўдні Беларусі, у залежныя ад больш моцных княстваў — Смаленскага, Чарнігаўскага і Галіцка-Валынскага; з іншага боку, спрыяла гаспадарчаму развіццю асобных рэгіёнаў, павелічэнню ўнутры традыцыйнага аграрнага грамадства анклаваў новага гарадскога жыцця.

У XIII ст. на беларускіх землях існавала больш за 30 гарадоў, значная частка якіх (Полацк, Віцебск, Гродна, Заслаўе, Слуцк, Навагрудак, Мінск, Ваўкавыск, Слонім, Мсціслаў, Гомель, Тураў, Пінск, Драгічын і інш.) была сталіцамі асобных княстваў. Гарады з’яўляліся цэнтрамі духоўнай і матэрыяльнай культуры. Пісьмовыя крыніцы і даследаванні археолагаў дазваляюць казаць пра даволі хуткае развіццё апошняй ў старажытнай Беларусі. У XII ст. тут ужо існавалі адметныя школы мураванага ***дойлідства*** (іх увасабленнем з'яўляюцца Спаса-Ефрасіннеўская царква ў Полацку і Барысаглебская ў Гродне), дзейнічалі высокаадукаваныя асветнікі (*Ефрасіння Полацкая*, Кірыла Тураўскі, *Клімент Смаляціч*), працавалі царкоўныя школы, выраблялiся шэдэўры ювелірнага мастацтва

(прыкладам з’яўляецца крыж, выраблены *Лазарам Богшам* у *1161 г.*), перапісваліся кнігі. Берасцяныя граматы з апісаннем гандлёвых аперацый, знойдзеныя ў Віцебску і Мсціславе, сведчаць пра тое, што пісьменнасць, першапачаткова замкнёная пераважна ў асяродку духавенства, пашыралася і сярод простага насельніцтва. Іншыя знаходкі археолагаў засведчылі, што людзі старажытнай Беларусі каталіся на каньках, гулялі ў шахматы, выкарыстоўвалі разнастайныя музычныя інструменты.

Такім чынам, узнікненне старажытных княстваў на беларускіх землях стала адлюстраваннем і вынікам далейшага развіцця грамадскіх адносін, паскоранага прыходам славян, іх узаемадачыненнямі са скандынаўскім рэгіёнам і Візантыяй. Полацкае і Тураўскае княствы сталі першымі дзяржаўнымі ўтварэннямі на беларускіх землях. У розны час яны выявілі імкненне да незалежнага існавання ад галоўнага цэнтра Старажытнай Русі — Кіева, а потым самі зведалі падзел на больш дробныя дзяржаўныя ўтварэнні — воласці. Усе гэтыя працэсы прыпалі на эпоху, якая ў гісторыі Еўропы атрымала назву «сярэднія вякі», а менавіта на перыяды *Ранняга* (канец V–IX ст.) і Высокага (X–XIII стст.) *Сярэднявечча*. Трэці перыяд — *Позняе Сярэднявечча* (XIV–XV стст.) — стане часам аб’яднання раздробленных беларускіх зямель ў агульнай дзяржаве — Вялікім Княстве Літоўскім.

## 2.2. Роля беларускіх зямель у працэсебудаўніцтва і дзяржаўнага развіцця Вялікага Княства Літоўскага

У XIII ст. на абшарах Усходняй Еўропы пачала фарміравацца дзяржава, якая пазней атрымала пашыраную назву «Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае», а спачатку абазначалася кароткім найменнем «***Літва***». Пры вывучэнні старажытных дакументаў і хронік трэба ўлічваць розныя значэнні, якія надаваліся слову «Літва» ў ранейшы і больш позні час: першапачаткова яно было назвай аднаго з балцкіх народаў, потым замацавалася за тэрыторыяй дзяржавы, асноўную частку якой складалі не балцкія, а славянскія землі.

«Літвой» у старажытнасці называлі балцкае насельніцтва, якое жыло ўздоўж верхняй і сярэдняй плыні Нёмана, т. зв. «Аўкштайціі» — «верхняй зямлі», на мове мясцовых балтаў. (У ніжнім Панямонні, там, дзе р. Нёман упадае ў Балтыйскае мора, знаходзілася тэрыторыя, якую балты называлі «ніжняй зямлёй» — Жамойціяй.) У XII–XIII стст. продкі сённяшніх літоўцаў знаходзіліся на стадыі распаду першабытнаабшчынных адносін і пераходу да дзяржаўнасці. У адрозненне ад славян, у іх яшчэ не было княстваў і гарадоў, аднак ужо існавала ўлада ваенных правадыроў — «кунігасаў», якія заключалі паміж сабой саюзы. Гэты працэс быў паскораны знешняй агрэсіяй, якую ў мэтах гвалтоўнай хрысціянізацыі балтаў у Ніжнім Падзвінні распачаў крыжацкі ордэн мечаносцаў (у 1237 г. перайменаваны ў Лівонскі), а ў нізоўях Віслы — Тэўтонскі ордэн. Наступ немцаў пакідаў літоўскім плямёнам толькі адзін шлях — да аб’яднання.

Летапісы кажуць пра існаванне ў іх адзінага кіраўніка *Міндоўга*, які ў 1230-я гг. падпарадкаваў або выгнаў іншых кунігасаў. Але каб паспяхова змагацца супраць нямецкіх рыцараў, Міндоўгу быў патрэбны знешні саюзнік. Такім саюзнікам маглі стаць суседнія старажытныя беларускія княствы, размешчаныя ў басейне Нёмана.

Справа ў тым, што тэрыторыя Панямоння была своеасаблівым рэгіёнам. Славяне на гэтыя землі прыйшлі даволі позна і жылі ўперамешку з балцкім насельніцтвам, якое тут ў адрозненне ад іншых рэгіёнаў Беларусі не паспелі славянізаваць. З іншага боку, менавіта на гэтай тэрыторыі паміж балтамі і славянамі існавалі найбольшыя палітычныя кантакты і эканамічны абмен. Гэтаму спрыялі створаныя славянамі гарады: у X ст. узніклі Навагрудак і Ваўкавыск, у XI ст. — Гродна і Слонім. У XII ст. названыя гарады ўжо з'яўляліся сталіцамі асобных дзяржаў-княстваў. Узровень іх эканамічнага і палітычнага развіцця быў значна вышэйшым, чым у суседніх балтаў.

У той самы час, як літоўцы стрымлівалі націск крыжакоў, над беларускімі гарадамі таксама навісла пагроза заваявання. У *1237–1241 гг.* усходнеславянскія землі былі спустошаны *мангола-татарамі*. Іх войскі рухаліся ў Цэнтральную Еўропу галоўным чынам праз Украіну, і большая частка Беларусі не трапіла пад іх нашэсце. Аднак пагроза мангольскага панавання захоўвалася. Верагодна, у такой сітуацыі купецка-рамесніцкія «вярхі» беларускіх княстваў самі згадзіліся супрацьстаяць захопнікам з дапамогай літоўцаў, прымаючы іх на княжанне ў свае гарады. Гэта і паклала пачатак стварэнню сумеснай беларуска-літоўскай дзяржавы.

У сярэдзіне XIII ст. Міндоўг распаўсюдзіў сваю ўладу на Навагрудскае, Ваўкавыскае і Слонімскае княствы. Каб супрацьстаяць знешнім ворагам і атрымаць міжнароднае прызнанне, ён пакінуў язычніцтва і пасля прыняцця каталіцтва ўрачыста каранаваўся каралеўскай каронай, прысланай яму з Рыма. Каранацыя адбылася ў **1253 г.**, па некаторых звестках, — у *Навагрудку*, што, па меркаванні часткі беларускіх даследчыкаў, дазваляе лічыць гэты горад першым палітычным цэнтрам Вялікага Княства Літоўскага.

У 1260 г. Міндоўг вярнуўся ў язычніцтва і разарваў адносіны з Рымам і крыжакамі. Яго саюзнікамі сталі жамойты, полацкі князь (літоўскага паходжання) Таўцівіл і наўгародскі князь Аляксандр Неўскі. Яшчэ праз тры гады ў выніку змовы іншых кунігасаў Міндоўга забілі, але яго сын Войшалк (1264–1266) пры дапамозе Пінскага княства здолеў заняць спачатку Наваградак, а потым і Літву, дзе расправіўся з забойцамі свайго бацькі. З'яўляючыся праваслаўным манахам, ён вярнуўся ў манастыр і перадаў уладу галіцкаму князю Шварну, які быў жанаты з дачкой Міндоўга. Пасля смерці Шварна вялікім князем стаў Тройдзень (1270–1295), а пасля яго — *Віцень* (1295–1316). З імем апошняга звязана далучэнне ў *1307 г.* Полацка да Вялікага Княства Літоўскага. Гэта

адбылося па жаданні саміх жыхароў пасля выгнання з горада крыжакоў, якія на невялікі час здолелі падпарадкаваць Полацк сабе.

Большая частка беларускіх зямель увайшла ў склад Вялікага Княства Літоўскага ў часы кіравання *Гедыміна* (1316–1341). У выніку вайны з Галіцка-Валынскім княствам, якое ў той час ужо плаціла даніну мангола-татарам і карысталася падтрымкай іх войскаў, у склад Вялікага Княства Літоўскага былі ўключаны берасцейскія землі. Большасць іншых рэгіёнаў Беларусі далучалася да новай дзяржавы мірным шляхам. Так, Віцебская зямля ўвайшла ў склад Вялікага Княства Літоўскага ў 1320 г. у выніку шлюбу сына Гедыміна Альгерда з віцебскай княжной Марыяй. Прыкладна ў той самы час да Вялікага Княства Літоўскага далучылася і Менскае княства. Далейшае развіццё гэтых земляў праходзіла асобна ад іншых тэрыторый усходніх славян, якія доўгі час кантраляваліся мангола-татарамі, што стварала палітычныя падставы для фарміравання асобнага беларускага этнасу.

Пры Гедыміне ¾ насельніцтва яго дзяржавы сталі складаць жыхары беларускіх зямель. Невыпадкова сам Гедымін называў сябе «Каралём Літвы і Русі», а свае землі — «Вялікім Княствам Літоўскім і Рускім», разумеючы пад словамі «***Русь***», «рускія» беларускія землі і іх насельніцтва. Выхадцы з гэтых зямель пры Гедыміне пачалі адыгрываць значную ролю ў кіраванні дзяржавай. Застаючыся язычнікам, Гедымін трымаўся прынцыпаў рэлігійнай цярпімасці. З аднаго боку, ён дазволіў будаваць у Вільні і Навагрудку каталіцкія храмы, заахвочваючы перасяляцца ў гэтыя гарады купцоў і рамеснікаў з Германіі. Пазней, пад уплывам перасяленцаў, на гарады Літвы і Беларусі будуць пашыраны прынцыпы нямецкага гарадскога самакіравання, т. зв. «***магдэбургскага права***». Першым яго ў 1387 г. атрымала *Вільня*, якая пры Гедыміне (у **1323 г.**) стала сталіцай Вялікага Княства Літоўскага. З другога боку, Гедымін не чыніў перашкод мясцовай праваслаўнай царкве, больш за тое — першым з уладароў Вялікага Княства здолеў дамагчыся прызначэння ў Навагрудак асобнага праваслаўнага мітрапаліта, падкрэсліваючы тым самым прэтэнзіі сваёй дзяржавы на ролю галоўнага аб’яднальнага цэнтра ўсходніх славян (другім такім цэнтрам і рэзідэнцыяй «кіеўскага» праваслаўнага мітрапаліта стала Маскоўскае княства, якое да XV ст. разам з часткай усходнеславянскіх зямель падпарадкоўвалася мангола-татарам).

Палітыку Гедыміна па збіранні ў складзе Вялікага Княства Літоўскага раздробленых усходнеславянскіх зямель і выцісканні з гэтых тэрыторый мангола-татараў працягнуў яго сын *Альгерд* (1345–1377). У 1359 г. ён авалодаў Мсціслаўскім княствам, а ў **1362 г.** на р. *Сінія Воды* разбіў аб’яднаныя войскі трох татарскіх ханаў. Вынікам гэтай бітвы стала далучэнне да Вялікага Княства Літоўскага большай часткі Украіны з Кіевам. Альгерд ажыццявіў таксама тры паходы на Маскву — *у 1368, 1370, 1372 гг.*, супраць якой заключыў саюз з Цвярскім княствам.

Пасля смерці Альгерда вялікім князем стаў адзін з яго сыноў — *Ягайла* (1377–1392), аднак яго правы на трон аспрэчвалі іншыя сваякі. Ва умовах пастаяннай барацьбы за ўладу Ягайла спрабаваў знайсці саюзнікаў, спачатку няўдала, у Маскве, а затым у Польшчы, адкуль яму паступіла прапанова аб шлюбе з польскай каралевай Ядзвігай.

14 жніўня **1385 г.** у Крэўскім замку было падпісана пагадненне, якое атрымала назву *Крэўская унія*. Каб стаць польскім каралём, Ягайла згадзіўся далучыць на вечныя часы да Польшчы ўсе землі Вялікага Княства, а таксама хрысціць язычніцкую Літву ў каталіцтва.

Аднак у 1392 г., пасля чарговай вайны з Ягайлам, валадаром Вялікага Княства Літоўскага стаў *Вітаўт* (1392–1430). Ён згадзіўся прызнаць уладу над сабой Ягайлы (з 1386 г. — польскага караля), але на працягу свайго кіравання ў адносінах з ім паэтапна ўмацоўваў сваё становішча (у 1392 г. меў хісткі статус намесніка, у 1401 г. — тытул вялікага князя без права перадачы ўлады па спадчыне, у 1413 г. атрымаў і гэта права) і тым самым перашкаджаў анексіі тэрыторыі Вялікага Княства з боку Польшчы. Абараняючы суверэнітэт дзяржавы, Вітаўт адначасова здолеў пашырыць яе межы: на поўдні — да Чорнага мора (1398), на ўсходзе — за Смаленск, які захапіў у 1404 г. (праз сваіх намеснікаў і сваякоў уплываў таксама на Цвер, Пскоў і Маскву).

Найбольш яскравым момантам замежнай палітыкі Вітаўта стала *Грунвальдская бітва*, што адбылася 15 ліпеня **1410 г.** з удзелам каля 50 тыс. рыцараў. Пад Грунвальдам аб'яднаныя войскі Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства перамаглі рыцараў Тэўтонскага ордэна і тым самым спынілі іх дамінаванне на Балтыйскім узбярэжжы. Асаблівай мужнасцю ў бітве вызначыліся тры беларускія палкі: мсціслаўскі, аршанскі і смаленскі — на чале з мсціслаўскім князем *Сямёнам Лугвенам*. Перамога пад Грунвальдам ператварыла Вітаўта ў аднаго з самых магутных уладароў. Дзяржава, якой ён кіраваў, называлася «Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае» (Жамойць канчаткова была далучана ў 1411 г.) і распасціралася ад Балтыйскага да Чорнага мора.

Такім чынам, у XIV–пачатку XV ст. працэс стварэння Вялікага Княства Літоўскага быў у асноўным ужо завершаны, а яго тэрыторыя падзялялася на дзве асноўныя часткі — «Літву» і «Русь». Пад «Літвой» разумелася не толькі сучасная Літва, але і землі беларускага Панямоння, якія сталі ядром Вялікага Княства Літоўскага ў XIII ст. «Руссю» лічыліся землі і воласці на тэрыторыі Цэнтральнай і Усходняй Беларусі, а таксама Украіны і Заходняй Расіі, якія захоўвалі значную ступень самастойнасці ад палітычнага цэнтра Вялікага Княства Літоўскага. Вялікія князі літоўскія згаджаліся не ўмешвацца ва ўнутранае жыццё гэтых тэрыторый («не рушыць даўніны») і захоўвалі там уласных князёў, якіх разглядалі як сваіх васалаў.

Мясцовымі князямі маглі быць не толькі Рурыкавічы, якія валодалі гэтымі землямі з часоў Старажытнай Русі, але таксама сваякі і нашчадкі Гедыміна — Гедымінавічы. Апошнія, каб кіраваць у беларускіх гарадах, павінны былі прымаць веру і мову мясцовага насельніцтва. Праваслаўнымі былі многія сыны і ўнукі Гедыміна, а старабеларуская мова (разам з лацінскай) выконвала функцыі дзяржаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім, паколькі літоўцы сваёй пісьмовай мовы доўгі час не мелі. Там, дзе не было ўдзельных князёў, кіраўнікамі мясцовай улады маглі быць ***намеснікі***, названыя пазней ваяводамі. Актыўна замяняць мясцовых князёў на сваіх намеснікаў пачаў Вітаўт. Прывілеі, якія ён выдаваў розным землям: Полацкай, Віцебскай і інш., — сведчаць, што ўлада намеснікаў была абмежавана не толькі з боку вялікага князя, але і саміх жыхароў тэрыторый, куды намеснікі прызначаліся.

Як бачым, жыхары беларускіх зямель пасля іх уваходу ў склад Вялікага Княства Літоўскага не толькі атрымалі абарону ад знешніх ворагаў, але таксама захавалі ранейшы лад жыцця, мясцовыя традыцыі, старабеларускую мову і праваслаўную веру.

Супярэчнасці на рэлігійнай глебе ўзніклі ў Вялікім Княстве Літоўскім пасля Крэўскай уніі. ***Прывілей*** Ягайлы *1387 г.* надаваў асабістыя правы і падатковыя льготы феадалам пры ўмове прыняцця імі каталіцтва, а па *Гарадзельскай уніі 1413 г.*, заключанай таксама з удзелам Вітаўта, вышэйшыя дзяржаўныя пасады дазвалялася займаць толькі асобам каталіцкага веравызнання, якія атрымалі ад польскіх феадалаў родавыя гербы і лічыліся рыцарамі. Такія рашэнні парушылі рэлігійную раўнавагу ў Вялікім Княстве Літоўскім: у яго палітычным жыцці пачалі мець перавагу феадалы каталіцкага веравызнання (першапачаткова гэта былі амаль выключна літоўцы), тады як праваслаўным феадалам на працягу XV ст. прыходзілася змагацца за тыя правы, якія атрымалі католікі. Рэлігійны фактар адыгрываў важную ролю ў распальванні феадальнай вайны у Вялікім Княстве Літоўскім у 1432–1439 гг., а таксама стаў адной з прычын мяцяжу *Міхала Глінскага* ў *1508 г.*, які адбыўся падчас вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім Княствам (1507–1508) Гэтыя падзеі садзейнічалі паляпшэнню становішча праваслаўных феадалаў Беларусі і Украіны. Разумеючы, што без уліку інтарэсаў гэтай часткі грамадства не ўдасца захаваць дзяржаву ад новых расколаў, вялікі князь *Жыгімонт І Стары* (1506–1548) адрадзіў традыцыі рэлігійнай цярпімасці. Праваслаўныя зноў нароўні з каталікамі займалі ў дзяржаве самыя высокія пасады. Шырокую вядомасць сярод іх набыў *Канстанцін Астрожскі*, гетман Вялікага Княства Літоўскага, ваенны талент якога яскрава праявіўся ў *бітве пад Оршай* **1514 г.** супраць маскоўскіх войскаў.

Маючы высокую адукацыю і неваяўнічы характар, Жыгімонт І бачыў сэнс кіравання не ў пашырэнні ўлады шляхам войнаў, а ва ўдасканаленні заканадаўства, у развіцці культуры і навукі. У **1529 г.** быў

падрыхтаваны першы ***Статут*** *Вялікага Княства Літоўскага*, які пад адной вокладкай аб'яднаў ранейшыя прывілеі вялікіх князёў, законы, сабраныя ў Судзебніку Казіміра **1468 г.**, дзяржаўныя пастановы і старыя звычаі. Статут і яго наступныя рэдакцыі (**1566, 1588**) зафіксавалі эвалюцыю Вялікага Княства ад адзінаўладдзя да саслоўна-прадстаўнічай манархіі, развіццё ў дзяржаве паўнамоцтваў прадстаўнічых органаў улады — ***паноў-рады*** і ***сойма***. Гэта не азначае, што палітычныя супярэчнасці ў краіне цалкам зніклі, але вырашаліся яны пераважна шляхам кампрамісаў, а не праз ваеннае супрацьстаянне.

Інтарэсы шляхецкага саслоўя, прадстаўнікі якога займалі пануючае становішча ў дзяржаве, з ваенна-палітычнай сферы ўсё больш перамяшчаліся ў бок хатняй гаспадаркі і культуры. Экспарт збожжа на захад садзейнічаў аграрным пераўтварэнням («***валочная памера***» *1557 г.)* і ўключэнню зямель Вялікага Княства ў агульнаеўрапейскі рынак. У XVI ст. на беларускіх землях распаўсюдзіліся гуманістычныя ідэі *Рэнесансу*. Літаратура перастала быць ананімнай, з'явіліся першыя прафесійныя паэты, частка якіх пісала творы на лацінскай мове (М. Гусоўскі і інш.), атрымала пачатак мемуарная літаратура, расквітнелі летапісанне і рэлігійная палеміка. З Германіі і іншых заходніх краін у Вялікае Княства сталі пранікаць ідэі *Рэфармацыі* — новага руху, накіраванага на рэфармаванне хрысціянскай царквы. (Пашырэнню Рэфармацыі, галоўным чынам у форме *кальвінізму*, спрыялі магнацкія эліты Вялікага Княства, якія такім шляхам імкнуліся ўмацаваць суверэнітэт дзяржавы, падкрэсліць яе адметнасць у параўнанні з Расіяй і Польшчай.)

Знакавай падзеяй для беларускай культуры стала кнігавыдавецкая дзейнасць у Празе і Вільні (у перыяд з **1517** па **1525 г.**) ураджэнца Полацка *Ф. Скарыны*. Як і іншыя прадстаўнікі Вялікага Княства, Скарына атрымаў вышэйшую адукацыю (у тым ліку ў галіне медыцыны) за мяжой. Яго біяграфія была сведчаннем росту кантактаў беларускага насельніцтва з прадстаўнікамі краін Заходняй і Цэнтральнай Еўропы, а ў шырокім сэнсе — выражэннем інтэграцыі нашых зямель у агульную культурна-цывілізацыйную прастору Еўропы.

Такім чынам, XVI ст. стала часам росквіту культуры і хуткага гаспадарчага развіцця Вялікага Княства, найбольшага (ва ўмовах этна-канфесійнай разнастайнасці) унутранага супакою ў дзяржаве. Пазней гэты перыяд назавуць «залатым векам» Вялікага Княства Літоўскага. Сучасныя гісторыкі лічаць яго канцом Сярэднявечча і пачаткам *Новага часу* на беларускіх землях.

## 2.3. Дзяржаўна-прававое становішча Вялікага Княства Літоўскага пасля Люблінскай уніі

1 ліпеня **1569 г.** на сойме ў *г. Люблін* быў падпісаны акт чарговай уніі паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Польскім Каралеўствам. Дагэтуль, пачынаючы ад Крэўскага акта, дакументы, якія сведчылі аб яднанні

Кароны і Вялікага Княства (гэтак скарочана называлі дзве дзяржавы), падпісваліся аж шэсць разоў (1385, 1401, 1413, 1432, 1499, 1501), але кожны раз справа не заходзіла далей захавання дынастычнага саюзу дзвюх дзяржаў, калі польскім каралём і вялікім князем літоўскім рабіўся чарговы прадстаўнік дынастыі Ягелонаў. Люблінскі сойм забяспечыў злучэнне Вялікага Княства Літоўскага і Польскай Кароны ў сумесную федэрацыю пад назвай «Рэч Паспалітая Абодвух Народаў».

Вялікае Княства і Карону на працягу двух стагоддзяў заключаць паміж сабой саюзы прымушалі знешнепалітычныя абставіны, а таксама эканамічныя і культурныя патрабаванні вышэйшага саслоўя — ***шляхты***. Першым штуршком для саюзу дзвюх дзяржаў стала агульная ваенная пагроза з боку Тэўтонскага ордэна, якая была ліквідавана на працягу XV ст. Але ў Вялікага Княства Літоўскага з’явіўся яшчэ адзін моцны вораг — Маскоўская дзяржава. У другой палове XV ст. там абвясцілі аб намеры стварыць вакол Масквы новую праваслаўную імперыю замест Візантыі, якая пала пад ударамі туркаў у 1453 г. Пад лозунгам аб’яднання ўсіх праваслаўных зямель маскоўскія князі распачалі серыю наступальных войнаў супраць Вялікага Княства Літоўскага (1492–1494, 1500–1503, 1507–1508, 1512–1522, 1534–1537), а таксама падпарадкавалі незалежныя Наўгародскую і Пскоўскую рэспублікі. Тым часам у самой Маскве моцнае аўтарытарнае праўленне набыло выгляд жахлівага тэрору пасля таго, як у 1564 г. цар *Іван IV Грозны* (1547–1584) увёў апрычніну.

Пачуццё страху перад «маскоўскім тыранам», як тады называлі Івана Грознага, у Вялікім Княстве Літоўскім павялічылася пасля таго, як выбухнула чарговая вайна з Маскоўскім царствам — *Лівонская*, якая цягнулася з перапынкамі з *1558 да 1583 г.* Вайна пачалася з нападу маскоўскага войска на Лівонскі ордэн. Згодна з заключаным у 1559 г. пагадненнем Вялікае Княства Літоўскае паспрабавала яго абараніць (абвясціла сваю *пратэкцыю* — заступніцтва), але ў выніку само страціла тэрыторыі на паўночным усходзе Беларусі. Не прайграць вайну і захаваць краіну ад поўнага захопу можна было з ваеннай дапамогай Кароны, але палякі за яе аказанне патрабавалі заключыць больш цесную унію паміж дзяржавамі. Пасля таго як у *1563 г.* Іванам Грозным быў захоплены і разрабаваны Полацк, сойм у Вільні прыняў рашэнне выслаць дэлегатаў у Польшчу і распачаць адпаведныя перамовы.

Да збліжэння з Каронай Вялікае Княства Літоўскае схілялі не толькі знешнепалітычныя цяжкасці, але і ўнутраная сітуацыя ў краіне. Мясцовая шляхта ў новым саюзе бачыла магчымасць атрымаць больш шырокія палітычныя і грамадзянскія правы, так званыя «шляхецкія вольнасці» (яны ўжо існавалі ў суседняй Польшчы, але на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага абмяжоўваліся ўсеўладдзем самых уплывовых феадалаў — ***магнатаў***). У *1564–1566 гг.* у Вялікім Княстве Літоўскім былі праведзены важныя рэформы, накіраваныя на частковае капіраванне польскай

палітычнай сістэмы, стварэнне па прыкладзе Кароны новых адміністрацыйных адзінак — *паветаў* са з’ездамі шляхты *(сеймікамі)* і выбарнымі судамі. На думку магнатаў, гэта павінна было зменшыць імкненне шляхты да новай уніі з палякамі. Часткова такая мэта была дасягнута, аднак сітуацыя вайны з Масквой прымушала саміх магнатаў ісці на кампраміс, ахвяруючы ранейшымі дзяржаўнымі амбіцыямі.

Што датычыць польскай шляхты, то яна прагнула новай уніі не толькі з прычыны палітычных амбіцый, але таксама спадзеючыся на эканамічную каланізацыю ўкраінскіх і беларускіх зямель. Польскае Каралеўства было найбольш буйным прадаўцом збожжа ў Еўропе. Прыбыткі ад яго экспарту ў тыя часы былі велізарныя і няўхільна раслі, што правакавала польскіх шляхцічаў прагна глядзець у бок Вялікага Княства Літоўскага, дзе палякам як іншаземцам набываць землі пакуль забаранялася.

10 студзеня 1569 г., пасля некалькіх гадоў папярэдніх перамоў, у Любліне пачаў працаваць сумесны сойм. Пасяджэнні сойма суправаджаліся вострымі канфліктамі. Спасылаючыся на даўнія абяцанні Ягайлы, зафіксаваныя ў тэксце Крэўскай уніі 1385 г., польскія прадстаўнікі на сойме патрабавалі спынення існавання Вялікага Княства Літоўскага і ўключэння яго зямель у склад Польскай Кароны. Пратэстуючы, дэлегаты Вялікага Княства пакінулі сойм на некалькі месяцаў, але вымушаны былі вярнуцца пасля таго, як кароль і вялікі князь *Жыгімонт ІІ Аўгуст* (1548–1572) выдаў акт аб далучэнні да Польскага Каралеўства часткі вялікакняжацкіх зямель: Падляшша, Кіеўшчыны, Валыні і Падолля. Дзеянні манарха груба парушалі Статут Вялікага Княства, але дзяржава не мела сіл, каб пачынаць яшчэ адну вайну — супраць Польскай Кароны і ўласнага вялікага князя. Пасля вяртання ў Люблін дэлегацыя Вялікага Княства ў пакоры стала перад ім на калені і задаволілася кампенсацыяй у выглядзе захавання абмежаванага суверэнітэту пазасталай часткі краіны. У складзе Рэчы Паспалітай Вялікае Княства Літоўскае засталося са зменшанымі ўдвая межамі, але асобным дзяржаўным утварэннем: тут захаваўся свой адміністратыйны апарат (*канцлеры, маршалкі, падскарбіі, гетман*), з самастойнымі судовай і падаткова-бюджэтнай сістэмамі, са сваім войскам, з іншай дзяржаўнай мовай — да *1697 г.* у Вялікім Княстве ёй заставалася старабеларуская мова.

Сумесным для абедзвюх дзяржаў Рэчы Паспалітай заставаўся манарх і ствараўся сойм. Ён складаўся з дзвюх палат: Сената і Пасольскай Ізбы. Менавіта аб’яднанне соймаў Кароны і Вялікага Княства забяспечыла пераўтварэнне іх даўняга дынастычнага саюзу ў агульную федэрацыю, паколькі стварала магчымасць прымаць агульныя для дзвюх дзяржаў рашэнні, праводзіць узгодненую знешнюю і ўнутраную палітыку. На тэрыторыях абедзвюх частак Рэчы Паспалітай прадугледжвалася агульная эканамічная прастора без унутраных мытных збораў з грашыма

аднолькавых наміналаў, якія выбіваліся на манетных дварах Польскай Кароны і Вялікага Княства і адрозніваліся гербавай сімволікай. Паводле тэксту уніі, польскай шляхце ў Вялікім Княстве Літоўскім і шляхце Вялікага Княства ў Польскай Кароне дазвалялася купляць ці атрымліваць любым іншым шляхам зямельныя надзелы, займаць свецкія і духоўныя пасады.

Пачатак існавання Рэчы Паспалітай быў адзначаны яе ваеннымі поспехамі, дзякуючы якім землі ў межах сучаснай Беларусі амаль на семдзесят гадоў перасталі быць эпіцэнтрам ваенных падзей. У *1579 г.* аб'яднаныя войскі Вялікага Княства і Кароны пад кіраўніцтвам караля Стэфана Баторыя (1576–1586) адваявалі Полацк і іншыя гарады Беларусі, захопленыя Іванам Грозным, пасля чаго ваенныя дзеянні былі перанесены на тэрыторыю Расіі. Пасля быў падпісаны *Ям-Запольскі мір* (1582 г.), які зафіксаваў перамогу ў Лівонскай вайне Рэчы Паспалітай.



**Стэфан Баторы** (1533–1586) — адзін з самых моцных каралёў Рэчы Паспалітай. Абвешчаны каралём Польшчы і вялікім князем Літоўскім у 1576 г. У 1579–1582 гг. кіраваў войскамі Рэчы Паспалітай падчас Лівонскай вайны, садзейнічаў вызваленню раней акупаваных Маскоўскім царствам беларускіх зямель. 1 красавіка 1579 г. пераўтварыў Віленскі езуіцкі калегіум у акадэмію. Пры Баторыю ўтвораны Галоўны Трыбунал — найвышэйшы апеляцыйны суд ВКЛ (1581), у каралеўскую рэзідэнцыю перабудаваны стары замак у Гродне.

С. Баторы памёр у Гродне, і на трэці дзень пасля гэтага — 14 снежня 1586 г. — адбылося ўскрыццё яго цела (першае навуковае анатаміраванне цела чалавека на тэрыторыі Беларусі). Пратакол гэтай працэдуры захаваўся, і сучасныя медыкі лічаць, што прычынай смерці С. Баторыя, які пакутаваў двухбаковым полікістозным перараджэннем нырак, стала вострае запаленне нырак, якое развілася пад уплывам фізічнай стомленасці і пераахаладжэння і выклікала ўрэмію.

Разам з тым вынікі Люблінскага сойма выклікалі незадавальненне як у асяродку магнатаў, так і сярод шляхты Вялікага Княства Літоўскага. Калі да уніі ў вачах беларускай шляхты Польская Карона выглядала эталонам грамадскага развіцця, а аб'яднанне з ёй — панацэяй ад усіх бедаў, то пасля уніі пра гэтую краіну пачалі казаць як пра хцівага несумленнага суседа. На адным з соймікаў беларуская шляхта прама запісала, што «Польшча нічога не робіць з намі чыстасардэчна і па-братэрску, а ўсё загадвае, як сваім прыгонным». Анексію ўкраінскіх зямель і Падляшша ў Княстве паўсюдна трактавалі як незаконны акт, і да сярэдзіны XVII ст. беларуская шляхта ў павятовыя інструкцыі сваім паслам уключала пункт аб вяртанні гэтых тэрыторый. Магнатам унія пагражала стратай палітычнага вяршэнства.

Асобны сойм Вялікага Княства, дзе магнацтва лёгка праводзіла свае рашэнні, перастаў існаваць. У агульны ж Сенат Рэчы Паспалітай многія магнаты Вялікага Княства не трапілі, а галасы астатніх заглушаліся большым польскім прадстаўніцтвам у вышэйшай палаце парламента. Тое ж самае адбывалася і ў ніжняй палаце — Пасольскай Ізбе, бо са 170 паслоў, абраных па ўсёй Рэчы Паспалітай, толькі 46 паходзілі з Вялікага Княства (з іх 34 было з беларускіх зямель). Палітычная дыскрымінацыя дапаўнялася эканамічнай пагрозай: дазвол атрымліваць землі і пасады ў межах Княства ператварыў польскіх шляхцічаў у небяспечных канкурэнтаў мясцовай шляхты.

Значную ролю ў прадухіленні экспансіі польскай шляхты на землях Княства адыграў *Леў Сапега* — стваральнік новай рэдакцыі Статута Вялікага Княства Літоўскага (разам з А. Валовічам). Для яе зацвярджэння ўраднікі Вялікага Княства выкарысталі барацьбу, якая пасля смерці Стэфана Баторыя разгарнулася ў Рэчы Паспалітай паміж рознымі прэтэндэнтамі на трон, і змусілі новага караля *Жыгімонта III Вазу* (1587–1632) зацвердзіць Статут сваім прывілеем (насуперак пазіцыі польскай большасці ў Сойме). Паказальна, што *Статут* **1588 г.** ні разу не ўзгадаў пра існаванне Люблінскай уніі, а жыхароў Польскай Кароны па-ранейшаму разглядаў як іншаземцаў, што забараняла ім мець землі і пасады ў Вялікім Княстве — насуперак акту уніі. Займаючы на працягу жыцця пасады літоўскага падканцлера, канцлера, вялікага гетмана, Сапега паслядоўна адстойваў палажэнні Статута 1588 г., перашкаджаў паглынанню Вялікага Княства Літоўскага Польскім Каралеўствам.

У 1581 г. у Вялікім Княстве пачаў працаваць свой вышэйшы апеляцыйны суд — Трыбунал, што разам з прыняццем новага Статута замацавала існаванне ў Княстве асобнай ад Кароны судовай сістэмы. У 1655 г. была прынята пастанова, якая забараняла польскім войскам уступаць на землі Літвы і Беларусі без спецыяльнага дазволу. Па Люблінскай уніі ўсе соймы Рэчы Паспалітай павінны былі праходзіць у новай польскай сталіцы Варшаве, але ў 1673 г. быў прыняты закон, паводле якога кожны трэці сойм пачаў збірацца і на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага — у Гродне.

Як бачым, у часы Рэчы Паспалітай дзяржаўна-прававыя стасункі Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага грунтаваліся не толькі на акце Люблінскай уніі, але і на наступных дакументах, якія пераглядзелі ўмовы уніі. Адным з апошніх такіх дакументаў было «*Узаемнае заручэнне Абодвух Народаў*», прынятае ў кастрычніку 1791 г. у якасці дадатку да *Канстытуцыі 3 мая*.

Захаванню адасобленасці Вялікага Княства Літоўскага ў немалой ступені спрыялі амбіцыі магнацкіх родаў Літвы і Беларусі, якія імкнуліся праводзіць уласную ўнутраную і знешнюю палітыку, нярэдка супрацьлеглую той, якую праводзіў польскі кароль і вялікі князь літоўскі ў Варшаве. Намаганнямі сваіх вышэйшыхураднікаў Вялікае Княства

ў XVII – пачатку XVIII ст. працягвала заключаць самастойныя міждзяржаўныя пагадненні, асобныя з якіх (Кейданаўская унія 1655 г.) з'яўляліся спробай разрыву саюзных адносін з Каронай і спынення існавання Рэчы Паспалітай.

Такім чынам, спатрэбілася даволі шмат часу, каб вышэйшыя слаі розных частак Рэчы Паспалітай адчулі адзінства і пачалі лічыць гэтую дзяржаву сваёй. Збліжэнне Вялікага Княства Літоўскага і Польскай Кароны мела аб'ектыўныя прычыны і знаходзіла падтрымку ў асяродку феадальнага саслоўя абедзвюх краін, аднак паколькі само заключэнне Люблінскай уніі 1569 г. утрымлівала пэўныя рысы гвалту з боку Кароны, суправаджалася спробай анексіі земель Вялікага Княства, з боку яго вышэйшых ураднікаў у паслялюблінскі перыяд назіралася імкненне да вяртання раўнапраўных адносін і ўмацавання самастойнасці Вялікага Княства Літоўскага ў межах (або па-за межамі) сумеснай з Польшчай федэрацыі.

## 2.4. Войны XVII–XVIII стст. і іх наступствы для беларускіх земель

У XVII–XVIII стст. ва Усходняй Еўропе ішла зацятая барацьба за гегемонію, галоўнымі ўдзельнікамі якой, акрамя Рэчы Паспалітай, з'яўляліся Маскоўскае царства (пазней Расійская імперыя), Швецыя, а таксама Турцыя (Асманская імперыя).

У перыяд маскоўскай «смуты» — грамадзянскіх міжусобіц у Маскоўскім царстве ў пачатку XVII ст. — Рэч Паспалітая ажыццявіла на яго тэрыторыі *ваенную інтэрвенцыю* (1604–1618). Войскі Кароны і Вялікага Княства ўвайшлі ў Маскву (*1610*), а пазней імі быў заняты таксама Смаленск. Інтэрвенты, частка з якіх паходзіла з беларускіх земель, спрабавалі ўзвесці на маскоўскі трон Уладзіслава Вазу (сына Жыгімонта III, тагачаснага караля Рэчы Паспалітай), але *ў 1612 г.* расійскае народнае апалчэнне пад кіраўніцтвам К. Мініна і Дз. Пажарскага вызваліла Маскву. Пад час *Смаленскай вайны 1632–1634 гг.* войскі расійскага цара Міхаіла Раманава (1613–1645) паспрабавалі адваяваць Смаленск у Вялікага Княства Літоўскага, але 10-месячная аблога не прынесла выніку. У першай палове XVII ст. Рэч Паспалітая змагалася яшчэ са Швецыяй (1600–1629) і Турцыяй (1620–1621; 1633–1634), але гэтыя ваенныя падзеі таксама праходзілі пераважна па-за межамі тэрыторыі сучаснай Беларусі.

Найбольшыя страты беларускаму насельніцтву прынеслі войны другой паловы XVII – першай трэці XVIII ст. У гістарыяграфіі гэты перыяд атрымаў назву «разбуральнага стагоддзя». Пачаткам яго стала *казацка-сялянская вайна* (1648–1651). У 1648 г. на ўкраінскіх землях Польскай Кароны ўспыхнула чарговае паўстанне казакоў, якое ўзначаліў гетман Багдан Хмяльніцкі. На беларускія землі ён пасылаў свае загоны — казацкія атрады на чале з палкоўнікамі, якія распачыналі баявыя дзеянні. На бок казакоў актыўна пераходзілі сяляне, незадаволеныя ўсталяваннем прыгонніцка-паншчыннай сістэмы і павелічэннем павіннасцяў, а таксама

праваслаўная частка мяшчан, якім не падабалася прысутнасць у гарадах яўрэяў, рост колькасці вернікаў рымска-каталіцкай і ўніяцкай канфесій. Заклікаючы людзей да барацьбы за праваслаўную веру, казакі паступалі жорстка — не зважаючы на пол і ўзрост, яны забівалі ўсіх іншаверцаў: католікаў, уніятаў, іудзеяў. Гэта выклікала адваротную рэакцыю шляхецкага войска, якое ваявала з казакамі пад кіраўніцтвам гетмана Вялікага Княства Літоўскага *Януша Радзівіла*. У Тураве войска Радзівіла знішчыла ўсіх жыхароў, якія засталіся ў горадзе пасля адыходу казакоў. Незайздросны лёс чакаў і іншыя гарады, у якія пасля казакоў уваходзіла шляхецкае паспалітае рушэнне. У гэтай вайне абодва бакі не ведалі літасці.

Вясной 1649 г. Януш Радзівіл накіраваў свае войскі пад Лоеў, дзе знаходзіліся важныя пераправы цераз Дняпро. 31 ліпеня **1649 г.** лагер Радзівіла каля Лоева атакаваў казацкі палкоўнік *Міхайла Крычэўскі*, але няўдала: страціўшы ў бітве больш за 10 тыс. чалавек, сам ён патрапіў у палон і памёр ад ран. У 1651 г. 30-тысячная армія Радзівіла ўступіла ва Украіну і ў жніўні разам з войскамі Кароны заняла Кіеў, пакінуты казакамі.

Хмяльніцкі быў вымушаны адмовіцца ад ідэі незалежнасці казацкай дзяржавы і звярнуцца па дапамогу да маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча. У *1654 г.* у Пераяслаўлі было абвешчана пра пераход Украіны пад уладу цара. Пачалася чарговая *вайна Расіі з Рэччу Паспалітай* **(1654–1667)**. У верасні 1654 г. армія цара Аляксея Міхайлавіча (1645–1676) здолела авалодаць Смаленскам. Летам 1655 г. царскія войскі ў саюзе з украінскімі казакамі захапілі амаль усю тэрыторыю Беларусі, а 8 жніўня імі была занята сталіца Вялікага Княства Літоўскага Вільня. Швецыя ў гэты самы час захапіла асноўную частку Кароны з Кракавам і Варшавай. Не здолеўшы спыніць маскоўскія войскі, гетман Януш Радзівіл разам са сваім стрыечным братам Багуславам перайшоў на бок шведаў, разлічваючы з іх дапамогай захаваць Вялікае Княства. Падпісаўшы ў *Кейданах* (*1655)* саюзную дамову са шведамі, Радзівілы і іх прыхільнікі пачалі ваяваць супраць польскага караля і вялікага князя літоўскага *Яна Казіміра Вазы* (1648–1668), які са свайго боку ў 1656 г. заключыў двухгадовае перамір’е з Расіяй, аддаючы пад кантроль яе войскаў беларускія і ўкраінскія землі.

Рэалізацыю задач маскоўскага цара ў Рэчы Паспалітай палягчалі малая колькасць шляхецкага войска, а таксама рэлігійныя і сацыяльныя супярэчнасці ў грамадстве. Каб схіліць мясцовае насельніцтва на свой бок, Аляксей Міхайлавіч даводзіў, што пачаў вайну дзеля абароны праваслаўнай веры. Шляхта апынулася ў сацыяльнай ізаляцыі і аказалася няздольная ў адзіночку бараніць сваю дзяржаву, таму што сяляне і мяшчане на першым этапе вайны заставаліся абыякавымі або нават жадалі перамогі Расіі. Аднак і іх чакала горкае расчараванне.

На беларускіх землях запанавала марадзёрства маскоўскіх войскаў. Па загадзе цара здзяйсняўся масавы вываз насельніцтва ў Расійскую

дзяржаву. Асобнай групай палонных былі рамеснікі, якіх вышуквалі спецыяльна. Кожны расійскі памешчык ці мешчанін, які прыязджаў у Беларусь, мог афіцыйна набываць тут нявольнікаў. Найбольшая колькасць беларусаў апынулася (у асноўным не па сваёй волі) у Маскве, дзе яны пачалі складаць пятую частку жыхароў. Дзеянні царскіх улад прымушалі беларускае насельніцтва да стыхійнага супраціўлення. Ужо ў 1654 г. царскія ваяводы пісалі пра напады мясцовых партызан, якіх называлі *«шышамі»*. Атрады «шышоў» найчасцей узначальвала шляхта, але асноўную іх частку складалі сяляне. Супраць царскіх войскаў паўставалі таксама жыхары гарадоў. Так, у Магілёве 1 лютага 1661 г. мяшчане знішчылі двухтысячны маскоўскі гарнізон, а царскіх ваяводаў перадалі каралю Яну Казіміру, які на памяць аб гэтых падзеях надаў гораду новы герб: рыцар у браме з выявай «Пагоні». Салдатаў цара выгналі таксама жыхары Дзісны, Мсціслава, Себежа, Шклова, Гомеля, Старога Быхава. Поспехам Рэчы Паспалітай спрыяў таксама пераход на яе бок большасці ўкраінскіх казакоў на чале з Іванам Выгоўскім, які быў абраны новым гетманам пасля смерці Багдана Хмяльніцкага.

У 1660 г. Ян Казімір Ваза заключыў Аліўскі мір са Швецыяй, які дазволіў надалей захаваць Рэч Паспалітую, а яе войскам аднавіць ваенныя дзеянні супраць Расіі і атрымаць серыю важных перамог. У снежні 1661 г. ад маскоўскіх войскаў была вызвалена Вільня. Вайна скончылася перамір’ем, падпісаным у вёсцы *Андросава* ў *1667* г. У склад Вялікага Княства вярталіся землі беларускага Падзвіння з Віцебскам і Полацкам, да Расіі адыходзіў Смаленск. Тэрыторыя Украіны падзялялася па Дняпры: правабярэжная Украіна заставалася ў складзе Кароны, а левабярэжная разам з Кіевам адыходзіла да Расіі. У 1686 г. умовы Андросаўскага пагаднення былі пацверджаны «вечным мірам» Расіі і Рэчы Паспалітай.

Негатыўныя вынікі для Рэчы Паспалітай мела таксама *Паўночная вайна 1700–1721* гг. Ініцыятарам вайны стаў расійскі цар *Пётр І* (1682–1725), які імкнуўся адабраць у Швецыі балтыйскія ўладанні. Саюзнікам Пятра быў *Аўгуст ІІ* з нямецкай дынастыі Вецінаў, які з’яўляўся адначасова курфюрстам Саксоніі (1694–1733) і каралём Рэчы Паспалітай (1697–1706, 1709–1733). У пачатку вайны шведскі кароль *Карл ХІІ* (1697–1718) здолеў разбіць саксонскія войскі каля Рыгі і расійскія пад Нарвай; затым яго армія рушыла на тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага, дзе шведаў падтрымала значная частка шляхты на чале з магнацкім родам Сапегаў.

Справа ў тым, што на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага Паўночная вайна стала працягам вострага супрацьстаяння — т. зв. *«хатняй вайны»* (1698–1702) паміж Сапегамі, якія ў канцы XVII ст. займалі ў княстве галоўныя дзяржаўныя пасады, і іншымі магнатамі, незадаволенымі засяроджваннем улады ў руках аднаго рода. У *1700 г.* Сапегі былі разбіты ў бітве *пад Алькейнікамі* каля Вільні, але прыход шведскіх войскаў выратаваў іх становішча.

У 1702 г. Карл XII заняў Вільню, Гродна, а праз некаторы час і польскую сталіцу — Варшаву. Пры яго падтрымцы ў 1704 г. новым каралём Рэчы Паспалітай стаў *Станіслаў Ляшчынскі* (1704–1709, 1733), а Аўгуста II Карл XII пазней прымусіў адмовіцца ад трона. Шведы некалькі разоў перамагалі расійскія войскі, але самая вялікая бітва на тэрыторыі Беларусі — каля вёскі *Лясная* ў **1708 г.** — скончылася не на іх карысць. Войскі Пятра I здолелі разбіць 16-тысячны шведскі корпус Левенгаўпта, які дастаўляў з Рыгі правіянт для асноўнай арміі шведаў. Гэта перамога дапамагла Пятру I адолець Карла XII у генеральнай бітве пад *Палтавай*, якая адбылася ў *1709 г.* Шведскі кароль быў паранены і збег у Турцыю, а яго саюзнік Станіслаў Ляшчынскі — у Францыю. Гетман Вялікага Княства Казімір Сапега загадаў свайму 15-тысячнаму войску спыніць барацьбу, за што атрымаў амністыю ад Пятра I. На трон Рэчы Паспалітай вярнуўся Аўгуст II, але сама Рэч Паспалітая ўдзелу ў Паўночнай вайне ўжо не брала. Краіна была аслаблена ўнутранымі палітычнымі канфліктамі, гвалтам і разбурэннямі, якія чынілі на яе тэрыторыі чужынскія войскі.

Мірнае насельніцтва ў гэтай вайне цярпела як ад шведаў, так і ад расіян. Царскія войскі, як і ў часы вайны 1654–1667 гг., знявольвалі сялян і гвалтам вывозілі іх у Расію. У чарговы раз былі спалены многія гарады. Сумным прыкладам стала гісторыя Магілёва, які за час Паўночнай вайны 1700–1721 гг. быў разрабаваны тройчы. Вайна спрыяла далейшаму пагаршэнню адносін паміж жыхарамі розных веравызнанняў. З'яўляючыся лютэранамі, шведы рабавалі і палілі каталіцкія і праваслаўныя храмы, што выклікала нянавісць насельніцтва ў дачыненні да ўсіх пратэстантаў унутры краіны. Сойм Рэчы Паспалітай істотна абмежаваў іх у правах. Расія са свайго боку падтрымлівала праваслаўных і варожа ставілася да ўніятаў, якіх трактавала як здраднікаў веры. Расійскія войскі нападалі на базыльянскія манастыры, высылалі ў Сібір уніяцкіх святароў. У 1705 г. Пётр I учыніў крывавую расправу ў полацкім Сафійскім саборы, які ўжо паўстагоддзя належаў уніятам. Цар уласнаручна забіў аднаго з манахаў базыльянскага ордэна, а яго падручныя павесілі двух айцоў, іншых пасеклі шаблямі. Пасля гэтага святыню абрабавалі і зрабілі там вайсковы склад. У 1710 г. адбыўся выбух пораху, які амаль цалкам знішчыў будынак сабора.

Войны другой паловы XVII – першай трэці XVIII ст. выклікалі ў Беларусі дэмаграфічную катастрофу. Перыяд 1648–1667 г. суправаджаўся рэкорднымі ў гісторыі нашай краіны стратамі насельніцтва: беларускія землі недалічыліся больш чым паловы ўсіх жыхароў. У Полацкім, Аршанскім, Мсціслаўскім паветах засталася толькі траціна насельніцтва, многія вёскі і мястэчкі цалкам абязлюдзелі, ворныя землі і пашы пакрыліся лесам. За часы Паўночнай вайны 1700–1721 гг. насельніцтва Беларусі скарацілася яшчэ на траціну і складала ўсяго 1,5 млн чалавек: ахвярамі гэтай вайны стаў кожны трэці жыхар. Скарачэнне насельніцтва выклікалі

не толькі страты ў войску, але і забойствы салдатамі мірнага насельніцтва, гвалтоўны вываз людзей у Расію, страшэнны голад і эпідэміі, якія распаўсюдзіліся ў часы ваеннага ліхалецця. Унутры грамадства найбольшыя страты прыпалі на шляхту і мяшчан.

## 2.5. Палітычны крызіс Рэчы Паспалітай. Уключэнне беларускіх зямель у склад Расійскай імперыі

Няўдалыя для Рэчы Паспалітай войны спрыялі развіццю на яе землях унутрыдзяржаўнага палітычнага крызісу. Пачаткі крызісных з'яў хавалі ў сабе грамадска-эканамічныя адносіны: манапалізацыя ўлады ў руках шляхецкага саслоўя садзейнічала зніжэнню ролі гарадоў і прывяла да ўсталявання прыгонніцкай сістэмы, пабудаванай на працы ў фальварку, у эфектыўнасці якой селянін не быў зацікаўлены. Эканоміка набыла аграрны, экстэнсіўны характар, аднак у першай палове XVII ст. гэты недахоп кампенсавалі вялікія тэрытарыяльныя і людскія рэсурсы краіны.

Сітуацыя змянілася ў другой палове XVII ст.: страты ў войнах прывялі да рэзкага змяншэння колькасці працоўных рук, падзення экспарту збожжа і прыбытковасці шляхецкіх гаспадарак. Сярэднія і дробныя землеўласнікі, нягледзячы на павелічэнне эксплуатацыі сялян, масава бяднелі і пачыналі трапляць у залежнасць ад фінансава больш магутных магнацкіх сем'яў. Магнаты аб'ядноўвалі вакол сябе групы прыхільнікаў — т. зв. «кліентаў» з ліку сярэдняй і, асабліва, дробнай шляхты, якім аказвалі пастаянную матэрыяльную падтрымку за паслугі палітычнага характару, перш за ўсё падчас агітацыі і галасавання на павятовых сойміках. Значэнне шляхты ў палітычным жыцці змяншалася. Рэч Паспалітая ператваралася ў краіну, у якой верхаводзілі магнацкія алігархі.

Пасля смерці ў 1572 г. апошняга прадстаўніка дынастыі Ягелонаў манархаў у Рэчы Паспалітай пачалі выбіраць. У барацьбе супраць каралеўскай улады магнаты ўдала выкарыстоўвалі лозунгі абароны шляхецкіх вольнасцяў, надаючы, аднак, ім новы, супрацьлеглы першапачатковаму, сэнс. Пад іх уплывам ідэі шляхецкай дэмакратыі страцілі свой рэфарматарскі змест і ператварыліся ў ахоўна-кансерватыўную ідэалогію, якой абумоўлівалася недапушчэнне ў краіне змен. У такой сітуацыі адбыўся параліч дзейнасці парламенцкіх інстытутаў. У 1651 г. упіцкі пасол У. Сіцынскі, атрымаўшы грошы ад магната Януша Радзівіла, упершыню ўжыў права «***ліберум вета***». Згодна з ім любы дэпутат мог аднаасобна заблакаваць пастанову сойма або наогул спыніць яго працу. Ад гэтага часу да 1764 г. былі сарваныя 48 з 55 пасяджэнняў соймаў Рэчы Паспалітай.

Не маючы магчымасці іншым шляхам уплываць на жыццё краіны, палітычна актыўная частка шляхты стварала часовыя ваенныя саюзы пад назвай «канфедэрацыі». Сваіх мэт канфедэраты дамагаліся ваеннай сілай,

паколькі ў краіне ў сітуацыі бяздзейнасці парламента перасталі быць эфектыўнымі мірныя спосабы вырашэння спрэчных праблем.

Праявай крызісу стала абвастрэнне рэлігійных супярэчнасцяў. Пад уплывам войнаў разбураліся ранейшыя прынцыпы рэлігійнай талерантнасці, замацаваныя дзяржаўнымі законамі XVI ст. У XVII–XVIII стст. Рэч Паспалітая баранілася ад некаталіцкіх дзяржаў: мусульманскай Турцыі, пратэстанцкай Швецыі, праваслаўнай Расіі. Крывавыя наступствы войнаў з гэтымі краінамі прывялі да таго, што каталіцкая большасць грамадства на іншаверцаў пачала глядзець са страхам, бачачы ў кожным з іх прыхільніка дзяржавы-агрэсара. Сярод шляхты пачала распаўсюджвацца рэлігійная ксенафобія. У 1717 г. апошні пасол-кальвініст быў сілай выдалены з пасяджэння сойма, у 1733 г. іншаверцам было забаронена займаць любыя дзяржаўныя пасады. Такая дыскрымінацыя праваслаўных і пратэстантаў не была карыснай для Рэчы Паспалітай, бо дала суседнім дзяржавам повад умешвацца ў яе ўнутраныя справы пад выглядам абароны сваіх адзінаверцаў.

Неабходна адзначыць, што ў тыя часы крызісныя з’явы былі характэрны не толькі для Рэчы Паспалітай, але і для многіх краін Еўропы, якія былі ахоплены разбуральнымі войнамі і мелі састарэлыя формы феадальнага прымусу ў эканоміцы. У іх шэрагу Рэч Паспалітую вылучала іншая з’ява, звязаная з паступовай стратай дзяржаўнага ***суверэнітэту***. За палітычны ўплыў у Рэчы Паспалітай змагаліся некалькі дзясяткаў магнацкіх родаў. Каб мець перавагу над канкурэнтамі, магнацкія групоўкі ішлі на саюзы з іншаземнымі манархамі. Такія саюзы не маглі будавацца на прынцыпах роўнасці і прыводзілі да росту ўплываў у Рэчы Паспалітай іншых дзяржаў. Асабліва пагрозлівы характар для самастойнасці краіны такая сітуацыя набыла напрыканцы Паўночнай вайны 1700–1721 гг., калі Пётр I умяшаўся ў ваенны канфлікт Аўгуста II з часткай магнатаў і шляхты. Па ініцыятыве расійскага цара ў *1717 г.* быў скліканы сойм, названы «нямым», бо ўсе рашэнні на ім прымаліся моўчкі, без абмеркавання. На сойме было вырашана істотна скараціць дзяржаўнае войска, каб не даць манарху з яго дапамогай усталяваць абсалютную ўладу, а таксама забараніць прыватныя войскі магнатаў дзеля гарантавання бяспекі караля.

Пасля такіх рашэнняў унутраны крызіс на землях Рэчы Паспалітай перарос у крызіс суверэнітэту: краіна страціла здольнасць самастойна абараняцца, захаванне яе тэрытарыяльнай цэласнасці стала залежаць ад Расійскай дзяржавы. На сойме 1717 г. яе кіраўніцтва паабяцала не дапускаць узмацнення ў Рэчы Паспалітай улады караля і ахоўваць яе даўні «рэспубліканскі» лад. Гэта азначала, што яно магло супрацьдзейнічаць любым значным рэформам. Расійскай імперыі стала выгадна клапаціцца пра захаванне ў суседняй дзяржаве выбарнай манархіі, канфедэрацый і «ліберум вета», бо гэтыя старыя элементы палітычнай сістэмы Рэчы Паспалітай дазвалялі ўмешвацца ў яе ўнутраныя справы. Так, у XVIII ст.

каралёў Рэчы Паспалітай фактычна ўжо выбіралі не ўнутры краіны, а за яе межамі — пры рашучым удзеле замежных войскаў.

Унутры грамадства Рэчы Паспалітай існавалі сілы, якія прагнулі змен. Палітычныя трактаты XVIII ст. паказвалі, што прыхільнымі да рэформаў былі асобныя магнаты, частка духавенства, але найбольшы водгук патрабаванні змен знаходзілі сярод сярэдняга слоя шляхты і заможных мяшчан. Няўдачы краіны на міжнароднай арэне нараджалі песімістычныя ацэнкі палітычнай і сацыяльна-эканамічнай сітуацыі і павялічвалі памкненне да мадэрнізацыі. У сярэдзіне XVIII ст. праграму шырокіх рэформаў вылучыла палітычная групоўка пад назвай «*Фамілія*», аб'яднаная вакол магнатаў *Чартарыйскіх*. Яны лічылі, што павысіць жыццяздольнасць Рэчы Паспалітай можна шляхам перанясення на мясцовую глебу ўзораў развіцця іншых краін, перш за ўсё Вялікай Брытаніі. Асаблівасцю грамадска-палітычнай сітуацыі тых часоў было тое, што кожная з магнацкіх груповак павінна была ўзгадняць свае планы і дзеянні з кіраўніцтвам Расійскай імперыі, няўхільны рост уплыву якой назіраўся ў Рэчы Паспалітай ад пачатку XVIII ст. У прыватнасці, Чартарыйскія, каб рэалізаваць сваю праграму рэформаў, лічылі неабходным заручыцца падтрымкай Расіі і планавалі з яе дапамогай пасадзіць на трон Рэчы Паспалітай свайго прадстаўніка. Такія планы супярэчылі намеру тагачаснага караля Аўгуста III (1733–1763) перадаць трон свайму сыну, але апошняму перашкодзіў прыход да ўлады ў Расіі маладой імператрыцы *Кацярыны II* (1762–1796). У 1764 г. яна дамовілася з Прусіяй і пры дапамозе расійскіх войскаў пасадзіла на трон Рэчы Паспалітай свайго былога каханка *Станіслава Аўгуста Панятоўскага* (1764–1795), сваяка Чартарыйскіх. У гэтым чалавеку Кацярына II бачыла караля, які лепш за іншых мог забяспечыць знаходжанне Рэчы Паспалітай у сферы расійскага ўплыву. Праціўнікі Станіслава Аўгуста і Чартарыйскіх, сярод якіх вылучаўся віленскі ваявода *Караль Радзівіл,* былі разбіты пры дапамозе расійскіх войскаў, а сам К. Радзівіл быў пазбаўлены ўладанняў і выгнаны за мяжу.

Новы кароль і яго атачэнне ініцыявалі неадкладнае прыняцце законаў, якія садзейнічалі развіццю гарадоў і гандлю, а таксама абмежавалі ўжыванне ў сойме «ліберум вета». Аднак планы Чартарыйскіх надалей працягваць рэформы не супадалі з мэтамі Расіі і Прусіі, якія пры ўзвядзенні на трон Станіслава Аўгуста таемна пацвердзілі свой намер не дапускаць у суседняй дзяржаве значных змен.

Каб блакаваць непажаданыя рэформы, гэтыя краіны імкнуліся мець надзейных прыхільнікаў у сойме і іншых дзяржаўных установах Рэчы Паспалітай, таму яны запатрабавалі вярнуць палітычныя правы пратэстантам і праваслаўным, якіх у тыя часы акрэслівалі агульным тэрмінам *«дысідэнты»*. Сойм 1766 г. гэтыя патрабаванні не задаволіў. У адказ намаганнямі суседніх дзяржаў рэформы Чартарыйскіх былі

скасаваны. Пры падтрымцы Прусіі і Расіі у *1767 г.* былі створаны *Таруньская* і *Слуцкая канфедэрацыі* дысідэнтаў, пасля чаго быў скліканы новы надзвычайны сойм Рэчы Паспалітай, які акружылі расійскія войскі, што прымусіла караля, сенатараў і паслоў сойма падпарадкоўвацца загадам М. Рапніна — прадстаўніка Кацярыны II. У выніку сойм не толькі прыняў закон у інтарэсах дысідэнтаў, але таксама ўхваліў «Дамову аб вечным сяброўстве і гарантыях», згодна з якой Расійская імперыя атрымала юрыдычнае права апекі над прававой сістэмай Рэчы Паспалітай і гарантавала нязменнасць яе архаічных асноў, гэта значыць магла ваеннымі сродкамі блакаваць любыя значныя рэформы.

Не паспеў надзвычайны сойм скончыць сваю працу, як ва ўкраінскім мястэчку Бар у *1768 г.* была абвешчана канфедэрацыя супраць яго рашэнняў, удзельнікі якой пачалі ваяваць з расійскімі войскамі, утвараючы па ўсёй краіне ваенныя атрады. Праціўнікі *Барскай канфедэрацыі*, да якіх належаў і кароль Станіслаў Аўгуст, абвінавачвалі яе ініцыятараў у рэлігійным фанатызме. На думку саміх канфедэратаў, гэта быў рух за палітычную незалежнасць краіны. Супраць караля на бок Барскай канфедэрацыі стала значная частка магнатаў і шляхты, у тым ліку войскі Вялікага Княства на чале з гетманам *Міхалам Казімірам Агінскім*. Толькі праз некалькі гадоў вайны супраціўленне барскіх канфедэратаў было зломлена, пасля чаго Расія, Прусія і Аўстрыя абвясцілі аб неабходнасці змяншэння тэрыторыі Рэчы Паспалітай і у **1772 г**. здзейснілі яе *першы падзел*. Частка беларускіх зямель на ўсход ад рэк Заходняя Дзвіна і Дняпро з гарадамі Полацк, Віцебск, Мсціслаў, Магілёў, Гомель і разам з часткай латышскіх зямель (усяго 92 тыс. км$^2$ з насельніцтвам 1,3 млн чалавек) адышла да Расійскай імперыі.

У 1773 г. быў сабраны надзвычайны сойм, які пад ціскам пагроз і подкупу паслоў пагадзіўся са змяншэннем дзяржаўных межаў. Пасля садзейнічання караля ў пытанні зацвярджэння падзелу яму было дазволена правесці абмежаваныя ўнутраныя рэформы ў галіне эканамічных спраў і асветы. Кіраванне Станіслава Аўгуста стала часам стварэння першых дзяржаўных школ, мадэрнізацыі водных шляхоў зносін, росту гарадскога насельніцтва і эканамічнай магутнасці «трэцяга саслоўя» — мяшчан. Пад уплывам вучэння французскіх эканамістаў-фізіякратаў шэраг буйных землеўласнікаў праводзілі аграрныя рэформы, адмянялі паншчыну і пераводзілі сваіх сялян на чынш. Па ўсёй краіне магнатамі ствараліся мануфактуры. На беларускіх землях актыўнымі эканамічнымі мерапрыемствамі адзначыўся *Антоній Тызенгаўз*, стараста Гродна і надворны падскарбі Вялікага Княства Літоўскага. Намаганнямі Тызенгаўза горад стаў месцам дзейнасці многіх дзяржаўных установ, буйным эканамічным і асветніцкім цэнтрам. Менавіта тут пачала працаваць першая ў Беларусі медыцынская школа, якой кіраваў французскі вучоны-натураліст *Жан Жылібер*.

Інтэлектуальны і эканамічны рост у краіне быў перадумовай палітычных рэформаў, але іх ажыццяўленню перашкаджалі суседнія манархі. У адпаведнасці з тэкстам новай саюзнай дамовы Расійская імперыя ў 1775 г. пацвердзіла ранейшае права ахоўваць (на гэты раз сумесна з Прусіяй і Аўстрыяй) стары лад Рэчы Паспалітай. Палітычная сістэма Рэчы Паспалітай набыла выгляд пратэктарату — формы палітычнай залежнасці, пры якой дзяржава мае ўласную сістэму кіравання, але з'яўляецца залежнай у сваёй палітыцы ад больш моцнай дзяржавы. На працягу трынаццаці наступных гадоў расійскі пасол у Варшаве карыстаўся ўплывам, большым за ўладу польскага караля і вялікага князя літоўскага. Спробу вярнуць Рэчы Паспалітай рэальны суверэнітэт ажыццявіў *Чатырохгадовы сойм* (1788–1792). Выкарыстаўшы складанае становішча Кацярыны II, занятай войнамі з Турцыяй і Швецыяй, сойм скасаваў пагадненні з Расіяй і загадаў вывесці з тэрыторыі Рэчы Паспалітай яе войскі. Выхад краіны з сістэмы расійскага пратэктарату дазволіў правесці патрэбныя рэформы: было істотна павялічана войска, рэфармавана падатковая сістэма, у паветах узніклі *камісіі парадку* — новыя органы самакіравання, якія заняліся арганізацыяй на месцах школ, бальніц, рамонтам шляхоў зносін. Рэформы Чатырохгадовага сойма супалі з пачаткам Французскай рэвалюцыі, звесткі аб якой садзейнічалі палітычнай актывізацыі ў Рэчы Паспалітай мяшчан. У 1789 г. апранутыя ў чорнае адзенне дэлегаты гарадоў прайшлі працэсіяй па Варшаве і перадалі сойму петыцыю з патрабаваннем палепшыць становішча «трэцяга саслоўя». У 1791 г. быў прыняты *закон аб гарадах*, які распаўсюдзіў на мяшчан правы шляхты: прадаставіў ім права асабістай недатыкальнасці, дазволіў купляць зямлю, мець сваіх прадстаўнікоў у сойме і іншых вышэйшых інстытутах Рэчы Паспалітай.

Кульмінацыйным момантам рэформаў стала прыняцце **3 мая 1791 г.** *Канстытуцыі* — першай у гісторыі Еўропы. Канстытуцыя Рэчы Паспалітай абвясціла аб падзеле ўлады, ператварэнні выбарнай манархіі ў спадчынную, забараніла утвараць канфедэрацыі і ўжываць «ліберум вета», назваўшы іх крыніцамі анархіі і слабасці дзяржавы.

Кацярына II у адказ на рэформы Чатырохгадовага сойма ажыццявіла ваенную інтэрвенцыю, бо лічыла, што «Расіі няма ні патрэбы, ні карысці ў тым, каб Рэч Паспалітая была дзеяздольнай». Па яе загадзе спачатку ў Пецярбургу, а потым на тэрыторыі Рэчы Паспалітай — у мястэчку Таргавіца — супраць сойма была абвешчана канфедэрацыя, нешматлікія ўдзельнікі якой папрасілі імператрыцу аб заступніцтве. Пасля кароткай вайны ў 1792 г. расійскія войскі авалодалі суседняй краінай, а ў наступным **1793 г.** дыпламаты Расіі і Прусіі падпісалі дамову аб *другім падзеле Рэчы Паспалітай*. Падзел пад дуламі расійскіх гармат зацвердзіў сабраны ў Гродна сойм — апошні ў гісторыі Рэчы Паспалітай. Цэнтральныя землі Беларусі з Мінскам, Нясвіжам, Слуцкам, Пінскам, Мазыром (з землямі

Правабярэжнай Украіны — разам 250 тыс. км$^2$) былі ўключаны ў склад Расійскай імперыі. Рэформы Чатырохгадовага сойма былі афіцыйна скасаваны.

**24 сакавіка 1794 г.** у Кракаве пачалося паўстанне, якое ўзначаліў ураджэнец Берасцейшчыны, герой вайны за незалежнасць ЗША *Тадэвуш Касцюшка.* Злачынствы акупацыйных войскаў Расіі і Прусіі ў 1792–1794 гг. садзейнічалі таму, што ў паўстанцкія атрады ішлі не толькі шляхцічы, але і сяляне. Для іх прыцягнення да паўстання Касцюшкам быў выдадзены адмысловы Паланецкі ўніверсал. Да паўстання далучаліся таксама мяшчане, у першую чаргу жыхары Кракава, Варшавы, Вільні. У сталіцы Вялікага Княства кіраўніцтва перайшло ў рукі радыкальнай часткі паўстанцаў на чале з *Якубам Ясінскім*. Задушэннем паўстання займаліся пруская і расійская арміі. Найбольшымі поспехамі ў барацьбе з паўстанцамі адзначыўся Аляксандр Сувораў, за што атрымаў ад Кацярыны II тытул фельдмаршала і 20 тыс. прыгонных сялян у Кобрынскім павеце. У лістападзе **1795 г.**, праз год пасля паражэння паўстання, Станіслаў Аўгуст Панятоўскі ў Гродна падпісаў дакумент аб адрачэнні ад трона. Рэшткі Рэчы Паспалітай падзялілі паміж сабой Расія, Прусія, Аўстрыя. З этнічных беларускіх зямель да Расіі адышлі паветы, якія знаходзіліся ў складзе Вялікага Княства Літоўскага (з гарадамі Вільня, Гродна, Навагрудак, Брэст, разам з далучанымі да Расіі часткамі Літвы, Валыні, Курляндыі і Холмскай зямлі — 120 тыс. км$^2$; 1,2 млн чалавек), а да Прусіі — былое Беластоцкае ваяводства Польскай Кароны.

Такім чынам, у выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795) беларускія землі былі ўключаны ў склад Расійскай імперыі. Знікненне на палітычнай карце Рэчы Паспалітай гісторыкі тлумачаць спалучэннем знешніх і ўнутраных прычын. Унутраны палітычны крызіс на яе землях не выглядаў непераадольнай з’явай, але набыў незваротны характар у сітуацыі, калі краіна пачала губляць свой суверэнітэт. Выкарыстоўваючы медыцынскую тэрміналогію, можна сказаць, што крызісныя з’явы ў жыцці Рэчы Паспалітай мелі характар хваробы, але смерць гэтай краіны надышла ў выніку таго, што дзяржавы-суседзі не дазволілі ёй прыняць належных лекаў.

### Кантрольныя пытанні

1. Прывядзіце прыклады пытанняў сярэдневяковай гісторыі Беларусі, якія з’яўляюцца прадметам навуковых дыскусій паміж гісторыкамі.
2. Якое значэнне ў старажытных летапісах надавалася тэрмінам «Русь», «варагі», «княжанні», «землі»?
3. Якія часткі беларускіх зямель і ў які час увайшлі ў склад Вялікага Княства Літоўскага? Распавядзіце пра розныя шляхі і прычыны іх далучэння.

4. Ці можна казаць, што Вялікае Княства Літоўскае было дзяржавай, у якой кіравалі толькі літоўцы, а інтарэсы ўсходнеславянскага насельніцтва заўсёды ігнараваліся? Абгрунтуйце свой адказ.

5. Якія саслоўна-прадстаўнічыя інстытуты ўзніклі ў Вялікім Княстве Літоўскім у XV–XVI стст.? Інтарэсы якіх сацыяльных груп яны прадстаўлялі?

6. Якое месца ў гісторыі Беларусі займае Люблінская унія?

7. Якое значэнне жыхары Рэчы Паспалітай надавалі тэрмінам «Польшча», «Літва», «Карона»? Якая розніца паміж сённяшнім значэннем тэрміна «паляк» і тагачасным?

8. З якімі краінамі ваявала Рэч Паспалітая? Пералічыце войны, якія адбываліся на беларускіх землях у перыяд яе існавання, і ахарактарызуйце іх вынікі.

9. Чым палітычная сістэма Рэчы Паспалітай адрознівалася ад іншых краін? Як суседнія краіны выкарысталі наяўнасць унутрыпалітычных праблем у Рэчы Паспалітай?

10. Якія змены прадугледжвала Канстытуцыя 3 мая 1791 г.? Чаму расійская імператрыца Кацярына II негатыўна адрэагавала на яе прыняцце?

11. Якія часткі этнічных зямель Беларусі і ў які час былі далучаны да Расійскай імперыі?

## Практычныя заданні

### Заданне 1. Вытрымкі з «Гісторыі Расійскай» В. Тацішчава (першая пал. XVIII ст.).

Князь вялікі [кіеўскі] Мсціслаў, маючы вялікую апеку аб захаванні добрага сярод князёў парадку і спакою і ахоўваючы дзяржаву ад нападаў непрыяцельскіх, але бачачы, што полаўцы часта на рускія межы нападаюць, і жадаючы досыць іх упакорыць, паслаў да ўсіх князёў абвясціць, каб з войскамі ішлі да Кіева і самі, каму зручна, прыехалі або даслалі вяльможаў на раду. У тым ліку да полацкіх і крывіцкіх. Таму іншыя ўсе князі не адмовіліся, а полацкія з лаянкай адмовілі, кажучы: «Ты з Банакам Шалудзякам будзьце здаровыя абодва і кіруйцеся самі, а мы самі дома ведаем, што рабіць». Гэтым вельмі Мсціслаў абразіўся, але, не жадаючы час упусціць, пайшоў на полаўцаў, многія табары і гарады іх разбурыўшы, за Дон па Волзе прагнаў. І, вярнуўшыся, паслаў у Полацк ваяводаў сваіх і загадаў ім усім палачанам ва ўсіх гарадах абвясціць, што князі іх учынілі яму вялікую крыўду… Ваяводы жа Мсціслава, сабраўшы іх, Давіда, Расціслава, Святаслава і двух Рагвалодавічаў з жонкамі і дзецьмі, прывезлі ў Кіеў. А Мсціслаў, выкрыўшы іх перад князямі, пасадзіўшы ў тры судны, паслаў Дняпром у Царград [Канстанцінопаль], напісаўшы да імператара Яна, зяця свайго, каб іх там загадаў трымаць. Імператар жа, прыняўшы іх, вызначыў ім дастатковае ўтрыманне і паслаў у войска, якое было супраць сарацынаў, дзе яны з пахвалою служылі. У Полацк жа Мсціслаў вызначыў сына свайго ... Але палачане, не жадаючы мець Мсціславічаў, неўзабаве выгналі Святаполка,

пасадзіўшы на месца яго Васільку Святаславіча. (*Татищев В. История Российская. Т. 2. М., 2003. С. 324. Пераклад Н. Кучмель*)

1. Вызначце храналагічны адрэзак падзей, пра якія распавядае В. Тацішчаў.

2. Ці лічыць гэты расійскі гісторык тэрыторыю, падпарадкаваную кіеўскаму князю Мсціславу, адзінай дзяржавай?

3. Ці можна тое ж самае сказаць пра самога кіеўскага князя Мсціслава?

4. Ці лічылі палачане неабходным падпарадкоўвацца кіеўскаму князю?

**Заданне 2. Вытрымкі з «Магілёўскай хронікі Сурты і Трубніцкага».**

У горадзе Магілёве бесперапынныя пераходы, пераезды, пастоі маскоўскага войска, даванне фуражу, правіянтаў, сухароў, гвалтоўнае бранне коней, прымус на будаўніцтва мастоў ... У гэтым жа годзе, месяца сакавіка, 14 дня Аляксандр Данілавіч Меншыкаў ... з немалой вайсковай світай уехаў у магілёўскі замак. Тады супольнікі магістрата, ведаючы, што гэты чалавек ліхі, чэрствы масквіцін і вельмі на горад няміласцівы, каб быў літасцівы, пайшлі да яго ў замак з хлебам-соллю, з прыправамі, віном і цукрам ... Назаўтра сакратар князя Меншыкава, прыбыўшы ў ратушу да ўсяго магістрата, загадаў, каб тут жа і штодзённа выдавалі з горада ўсе харчы ад самай вялікай і аж да найменшай рэчы. Таму горад, сціснуты адусюль бедамі, мусіў, што толькі было з харчоў, загадам князёвым выдаваць і карміць двор ... А калі чаго не давалі, адразу бралі магістрат пад варту і каралі ... І немагчыма тут усяго выпісаць, як мог горад Магілёў вынесці такія цяжары ...

Прыцягнуўся з усім сваім войскам шведскі кароль і стаў лагерам на Буйніцкім полі ... У гэты час хадзіў да яго магістрат прасіць аб літасці. Адказаў праз перакладчыка: «Паколькі давалі вы правіянт маскалям, патрэбна, каб далі і мне».

... Месяца верасня 8 (дня) ... горад Магілёў, нягледзячы на тое, што быў зрабаваны шведам, ... абярнуўся за адзін дзень праз агонь у попел і тло, бо, паводле ўказу цара Пятра Аляксеевіча, маскоўцы, калмыкі і татары ў вышэйпамянёны дзень, разам з усходам сонца, акружылі горад з усіх бакоў … Прасілі літасці, але дарэмна ... Калмыкі крамы адбіваюць, рабуюць, з другога канца паляць, заўважым між іншым, людзей з адзення абіраюць, грошы мацаюць, цэрквы адбіваюць, рабуюць ... У гэты ж час муж пра жонку, а жонка пра мужа нічога не ведаючы, хапалі толькі малых дзяцей, куды маглі прэч з горада ўцякалі, да лясоў, да яроў ... Набожны і акамянелы люд мусіў выплакаць апошнія слёзы, бачачы, як аздобныя Божыя святыні гараць, арнаментаваныя крыжы, Божыя цэрквы памаленьку, разгарэўшыся ў агні, валяцца на зямлю ...

Адразу пасля спальвання горада аб’явіўся нейкі палкоўнік Хмара, паляк, які са сваёй вашывай дывізіяй выступіў супраць Масквы, але найбольш нападаў дзе на каго на дарогах і граміў. І гэтага, калі ў некалькі дзясяткаў коней прыбыў да Магілёва, мусіў горад карміць і ўлагоджваць ...

18 верасня прыбылі некалькі соцень коннікаў ад генерала Леанхофта, каб рыхтавалі з горада правіянт на шведскае войска ... Горад быў змучаны пажарам, голадам і недастаткам. Аднак гэтых прысланых мусіў улагоджваць, і адразу выслалі да генерала Леанхофта двух бурмістраў з просьбай, каб не ішоў на Магілёў. І так генерал ... павярнуў ад Магілёва і пайшоў на Шклоў, узяў у Шклове вялікі правіянт і грашовую кантрыбуцыю, а са Шклова пацягнуўся ўслед за каралём пад Лясную, у маёмасці іх мосцяў Серафіновічаў. (*Беларускія летапісы і хронікі*. *Мінск: Беларускі кнігазбор, 1997. С. 358–376*)

1. Падчас якой вайны адбываюцца апісанныя падзеі ў Магілёве?
2. Параўнайце стаўленне аўтараў хронікі да розных войскаў: яно з'яўляецца аднолькавым або розным? Чым гэта выклікана?

**Заданне 3. Этнаграфічныя матэрыялы, запісаныя ў вёсках Моталь Іванаўскага р-на і Корань Лагойскага р-на.**

Аднойчы ў Моталі спыніўся на начлег шведскі атрад. Адзін зух афіцэр стаў чапляцца да гаспадынінай дачкі. Маці не вытрымала здзекаў, выхапіла з печы патэльню і лінула з яе ў вочы прыхадню … Цяпер ў Моталі пра чалавека, чырвонага тварам, кажуць: ашпараны, як швед. А скваркі ў вёсцы называюць не інакш, як шведамі.

Тыя людзі, якім пашчасціла ўбегчы з вёсак, сядзелі ў лясах. Прыдуць прыхадні ў вёску, а там няма нікога. Тады прыхадзень лезе на азяроды і крычыць: «Гануля, Аўдуля, Грыпіна, Марына, Ульяна, Таццяна — ідзіце дахаты! Ужо шведы паехалі!» Пасля такога закліку адна жанчына прыбегла з лесу дахаты, а тут у хаце салдат-прыхадзень — маскаль. Ён пабіў кур і загадаў ёй варыць, сам жа сеў з ружжом на парозе і пільнуе, каб яна не ўбегла. Сідзячы так, маскаль задрамаў, а баба нагрэла саган кіпеню і пляснула яму на галаву, так што ён пакаціўся з парогу. Жанчына ж тады ў дзверы і хутчэй пабегла ў лес. (*Носевич В. Традиционная белорусская деревня в европейской перспективе. Минск, 2004. С. 109*)

1. Параўнайце запісанныя народныя паданні паміж сабой, а таксама з вышэйпададзенымі фрагментамі хронікі Сурты і Трубніцкага.
2. Калі разглядаць адносіны мірных жыхароў да шведскай і расійскай армій, на чыім баку былі сімпатыі беларускага насельніцтва?

**Заданне 4. Успаміны лекаркі з навагрудскага ваяводства Саламеі Пільштыновай аб сваім жыцці і практыцы ў Расіі і Турцыі (XVIII ст.).**

Яе мосць пані Каравулава, брыгадзірыха, цяжарная была і вельмі баялася, бо гэта ўжо сёмае дзіцё, а ранейшыя пры родах паміралі. Дык я яе запэўніла, што з дапамогай Пана Бога і маёй дасведчанасці не памрэ тое дзіця, што цяпер народзіцца. Я некалі на вёсцы была пры родах аднае беднае шляхцянкі, якую звалі Ганна Стрынкевічоўна, а мела гэта панна гадоў сорак і зацяжарала і нарадзіла сына, але ён не крычаў, як звычайна плачуць нованароджаныя дзеці, дык узяла тая баба-прасцяча дзежку, у якой хлеб рашчыняюць, і накрыла ёю тое дзіця, і покуль палову малітвы прачытала, дзіця заплакала і жыло. Я, ведаючы гэты сакрэт, учыніла тое ж самае з дзіцём

яго мосці пана Сямёна Юр'евіча, і назвалі яго Іван Сямёнавіч, і цяпер, дзякуй Богу, жыве …

У той час у Рушчуку захварэў сын мой, Станіслаў Костка, на хваробу святога Валента*, і так доўга, на цэлы тыдзень, і штодзень па колькі разоў, і так цяжка, што без надзей на жыццё, ад гэтай хваробы я такую вялікую тугу мела, што ледзь жывая засталася. Але мне людзі тутэйшыя параілі, што тут ёсць непадалёку ад Рушчука адзін святы Дзмітры, вельмі добры, ён з дапамогаю Пана Бога ад усіх хвароб і недамаганняў лечыць. Дык я туды паехала са сваім дзіцём і, паводле тутэйшага звычаю, купіла барана і казала прынесці яго ў ахвяру. Мяса і скуру ўбогім раздалі; у час службы Божае дзіця таму святому Дзмітрыю ў труну паклалі, яно ні плакала, ні грудзей не брала, толькі калацілася ў курчах і муках, аж пачарнела. Як толькі імша закончылася, дзіця заплакала. Яны, тыя папы, дзіця з труны вынялі і мне, маці, здаровае і вясёлае далі. Бачыла я, што там у труне яно так упацела, нібыта ў вадзе ляжала, і хутка грудзі ўзяло і здаровае было, дзякуй Богу на вякі. (*Пільштынова С. Авантуры майго жыцця. Мінск, 1993. С. 103–104, 218–219*)

1. Чым кіравалася С. Пільштынова ў сваёй практыцы: навуковымі даследаваннямі ці інтуіцыяй і вопытам народнай медыцыны?

2. Як вы лічыце: ці станоўча ўплывала на развіццё медыцыны рэлігійнасць тагачасных людзей? Яна дапамагала ці перашкаджала ў медыцынскай практыцы?

**Заданне 5. Пратаколы сакрэтнай нарады, якая адбылася у пакоях расійскай імператрыцы Кацярыны II 6 кастрычніка 1763 г., на наступны дзень пасля смерці караля Рэчы Паспалітай Аўгуста III.**

Дамагацца аб выбранні … [новым каралём Рэчы Паспалітай] чалавека такога, які б, прыпісваючы сваё ўзвядзенне на трон толькі Расіі, ёй бы заўсёды ўдзячнасцю быў абавязаны, ад яе залежаў і цалкам дзейнасцю ў яе інтарэсах быў ёй аддадзены […] Знаходзяцца ў Польшчы цяпер двое, з аднаго боку, да таго здольныя, а з другога — для Расіі надзейныя, а менавіта: князь Адам Чартарыйскі і стольнік літоўскі граф Панятоўскі. Але як першы вельмі багаты, вынікае, што, не маючы вялікай патрэбы ў атрыманні ад Расіі грашовай дапамогі, хаця ў рукі якой іншай дзяржавы не аддаецца, аднак ад Расіі цалкам залежным быць не захоча, то ў развагах той важнай акалічнасці [...] той апошні [Станіслаў Панятоўскі] для Расіі і яе інтарэсаў значна больш надзейным і карысным быў бы, тым больш, што, дадаючы да свайго ўласнага прыбытку ад нас некаторую штогадовую грашовую дапамогу, абавязкова быў бы ў расійскай залежнасці, і акрамя таго і сваім узвышэннем выключна Яе Імператарскай Вялікасці быў бы абавязаны. (*Стегний П. Разделы Польши и дипломатия Екатерины II. 1772. 1793. 1795. М., 2002. С. 103 – 104. Пераклад Н. Кучмель*)

1. Якімі крытэрыямі кіраваліся набліжаныя Кацярыны II пры вызначэнні новага кіраўніка Рэчы Паспалітай?

2. Чаму дадзены дакумент мог мець выключна сакрэтны характар?

---

* Хваробай святога Валента ў тыя часы называлі эпілепсію.

## Тэсты для самакантролю

**1. Размяркуйце князёў у адпаведнасці з гарадамі, дзе яны кіравалі:**

| | |
|---|---|
| а) Юрый Яраславіч; | 1) Мінск; |
| б) Рурык; | 2) Тураў; |
| в) Брачыслаў; | 3) Ноўгарад; |
| г) Глеб Усяслававіч. | 4) Полацк. |

**2. Утварэнне Вялікага Княства Літоўскага было выклікана:**

а) феадальнай раздробленасцю;
б) знешняй пагрозай;
в) рэлігійнымі абставінамі;
г) прыходам славян на балцкія тэрыторыі.

**3. «Залатым векам» Вялікага Княства Літоўскага прынята лічыць часы кіравання:**

а) Міндоўга;
б) Гедыміна;
в) Казіміра і Аляксандра;
г) Жыгімонта Старога і Жыгімонта ІІ Аўгуста.

**4. У 1410 г. адбылася бітва:**

а) пад Грунвальдам; в) на Сініх Водах;
б) пад Оршай; г) на Нямізе.

**5. Згодна з умовамі Люблінскай уніі, у Польскай Кароны і Вялікага Княства Літоўскага асобнай(-ым) заставалася (-ўся):**

а) Пасольская Ізба; б) Сенат; в) манарх; г) войска.

**6. Ступень доктара медыцыны Ф. Скарына атрымаў:**

а) у Полацку; в) Падуі;
б) Празе; г) Кракаве.

**7. У якім годзе Полацк быў захоплены войскам Івана Грознага:**

а) 1492; б) 1514; в) 1563; г) 1569?

**8. З 1673 г. кожны трэці сойм Рэчы Паспалітай павінен быў збірацца на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ў горадзе:**

а) Мінску; б) Гродне; в) Полацку; г) Вільні.

**9. Саюзнікам шведскага караля Карла ХІІ у Паўночнай вайне быў магнацкі род:**

а) Радзівілаў; б) Пацаў; в) Сапегаў; г) Агінскіх.

**10. Якое сцвярджэнне памылковае? Законамі Чатырохгадовага (1788–1792) сойма прадугледжвалася:**

а) адмена права «ліберум вета»;
б) пашырэнне правоў мяшчан;
в) абвяшчэнне выбарнай манархіі;
г) забарона канфедэрацый.

**11.** а) **Пра існаванне ў XII ст. у Беларусі дзвюх адметных архітэктурных школ сведчыла Барысаглебская (Каложская) царква ў горадзе Гродне і Спаса-Ефрасіннеўская царква ў горадзе ... .**

б) **Першая ў Беларусі прафесійная медыцынская школа была створана па ініцыятыве Антонія Тызенгаўза ў горадзе ... .**

**Адказы**: 1 — 1г, 2а, 3б, 4в; 2 — б; 3 — г; 4 — а; 5 — г; 6 — в; 7 — в; 8 — б; 9 — в; 10 — в; 11 — а) Полацку; б) Гродне.

## ЛІТАРАТУРА

### *Асноўная*

1. *Гісторыя* Беларусі: дапам. для паступаючых у вышэйшыя навучальныя ўстановы / А. Л. Абецэдарская [і інш.]; пад рэд. Ю. Л. Казакова [і інш.]. Мінск : Экаперспектыва, 1998. 496 с.

2. *Гісторыя* Беларусі : курс лекцый : у 2 ч. / Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт ім. Я. Купалы, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Мінск : РІВШ, 2000–2002. Ч. 1 : Са старажытных часоў да кан. XVIII ст. / І. П. Крэнь [і інш.]. 2000. 656 с.

3. *Гісторыя* Беларусі : у 6 т. / рэдкал. : М. Касцюк (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск : Экаперспектыва, 2000–2005. Т. 1 : Старажытная Беларусь : ад пачатковага засялення да сярэдзіны XIII ст. / В. Вяргей [і інш.]. 2000. 351 с. ; Т. 2 : Беларусь у перыяд Вялікага Княства Літоўскага / Ю. Бохан [і інш.]. 2003. 688 с. ; Т. 3 : Беларусь у часы Рэчы Паспалітай (XVII–XVIII ст.) / Ю. Бохан [і інш.]. 2004. 343 с.

4. *Краўцэвіч, А. К.* Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага / А. К. Краўцэвіч. Мінск : Беларуская навука, 1998. 208 с.

### *Дададковая*

5. *Абецедарский, Л. С.* Белорусы в Москве XVII в. Из истории русско-белорусских связей / Л. С. Абецедарский. Минск : БГУ, 1957. 62 с.

6. *Алексеев, Л. В.* Полоцкая земля / Л. В. Алексеев ; вст. ст. Л. Ф. Данько, А. И. Судника. Полоцк : А. И. Судник, 2007. 50 с.

7. *Беларускія* летапісы і хронікі / уклад. У. А. Арлоў ; рэд. В. А. Чамярыцкі. Мінск : Беларускі кнігазбор, 1997. 430 с.

8. *Блинова, Т. Б.* Иезуиты в Беларуси : Роль иезуитов в организации образования и просвещения / Т. Б. Блинова. Гродно : ГрГУ, 2002. 427 с.

9. *Голенченко, Г. Я.* Идейные и культурные связи восточнославянских народов в XVI–середине XVII в. / Г. Я. Голенченко. Минск : Наука и техника, 1989. 285 с.

10. *Загарульскі, Э. М.* Заходняя Русь : IX–XIII стст. / Э. М. Загарульскі. Мінск : Універсітэцкае, 1998. 240 с.

11. *Грицкевич, В. П.* С факелом Гиппократа : из истории белорусской медицины / В. П. Грицкевич. Минск : Наука и техника, 1987. 271 с.

12. *Грыцкевіч, В. П.* Адысея наваградскай лекаркі : Саламея Русецкая / В. П. Грыцкевіч. Мінск : Навука і тэхніка, 1990. 53 с.

13. *Емяльянчык, У. П.* Паланез для касінераў : З падзей паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі на Беларусі / У. П. Емяльянчык. Мінск : Беларусь, 1994. 160 с.

14. *Катлярчук, А.* Швэды ў гісторыі й культуры беларусаў / А. Катлярчук. Вільня : Ін-т беларусістыкі, 2007. 328 с.

15. *Мальдзіс, А.* Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя : Нарысы быту і звычаяў / А. Мальдзіс. Мінск : Мастацкая літаратура, 1982. 256 с.

16. *Насевіч, В. Л.* Пачаткі Вялікага Княства Літоўскага : Падзеі і асобы / В. Л. Насевіч. Мінск : Полымя, 1993. 160 с.

17. *Сагановіч, Г.* Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя / Г. Сагановіч. Мінск : Энцыклапедыкс, 2001. 412 с.

18. *Штыхов, Г.* Города Полоцкой земли (IX–XIII вв.) / АН БССР, Ин-т истории ; науч. ред. В. П. Даркевич. Минск : Наука и техника, 1978. 160 с.

19. *Юхо, Я. А.* Гісторыя дзяржавы і права Беларусі : вучэб. дапам. / Я. А. Юхо. Мінск : РІВШ БДУ, 2000. 352 с.

20. *Янушкевіч, А. М.* Вялікае Княства Літоўскае і Інфлянцкая вайна 1558–1570 гг. / А. М. Янушкевіч. Мінск : Медисонт, 2007. 356 с.

## ТЭМА 3. СТАНОВІШЧА БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ У СКЛАДЗЕ РАСІЙСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ (КАНЕЦ XVIII СТ. – КАСТРЫЧНІК 1917 Г.)

3.1. Змены ў становішчы насельніцтва і грамадска-палітычны рух на беларускіх землях у першай палове XIX ст.

3.2. Буржуазныя рэформы другой паловы XIX – пачатку XX ст. на беларускіх землях.

3.3. Паўстанне 1863–1864 гг. Грамадска-палітычны і рэвалюцыйны рух у Беларусі ў канцы XIX – пачатку XX ст.

3.4. Лютаўская і Кастрычніцкая рэвалюцыі 1917 г. у Беларусі.

**Агульны час заняткаў**: 2 гадзіны.

**Мэта семінара:** засваенне асаблівасцяў грамадска-палітычнага развіцця Беларусі ў складзе Расійскай імперыі.

**Задачы:**

– вывучыць сацыяльна-палітычнае жыццё на беларускіх землях у першай палове XIX ст.;

– прааналізаваць правядзенне буржуазных рэформ у Беларусі;

– авалодаць ведамі аб грамадска-палітычным руху ў Беларусі ў XIX – пачатку XX ст.;

– вывучыць рэвалюцыйныя падзеі 1917 г. у Беларусі.

**Патрабаванні да зыходнага ўзроўню ведаў.** Для засваення тэмы неабходна ведаць асаблівасці канфесійнага становішча і сацыяльна-эканамічнага развіцця беларускіх зямель у складзе Рэчы Паспалітай: правы шляхты, становішча сялян і гарадскіх жыхароў. Трэба паўтарыць матэрыял аб Берасцейскай уніі 1596 г. Неабходна разумець тэрміны: імперыя, нацыянальны рух, капіталізм, мадэрнізацыя, рэформа, рэвалюцыя.

**Паняцці і тэрміны, якія неабходна засвоіць:** дваранства, «разбор шляхты», мяжа яўрэйскай аселасці, рэкруцкая павіннасць, інвентар, выкупныя плацяжы, хутар, земствы, курыі, філаматы, народнікі, эсэры, сацыял-дэмакраты, двоеўладдзе.

### 3.1. Змены ў становішчы насельніцтва і грамадска-палітычны рух на беларускіх землях у першай палове XIX ст.

Сацыяльна-палітычнае жыццё на беларускіх землях у складзе Расійскай імперыі можна падзяліць на два перыяды: першы працягваўся з канца XVIII ст. да 1860-х гг., а другі — з 1861 па 1917 г. Для першага перыяду характэрны прыгонна-патрыярхальны лад жыцця грамадства

з мізэрным узроўнем развіцця капіталістычных адносін. Другі перыяд характарызуецца правядзеннем буржуазных рэформаў і спробамі мадэрнізаваць дзяржаву на еўрапейскі ўзор.

Расійская імперыя з'яўлялася саслоўнай краінай, у якой прывілеяваным саслоўем было ***дваранства***. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай новыя ўлады распаўсюдзілі на мясцовую шляхту ўсе правы расійскага дваранства. Шляхта не плаціла падушную подаць, вызвалялася ад цялесных пакаранняў, абавязкаў знаходзіцца на дзяржаўнай службе; за ёй былі захаваны маёнткі з сялянамі. Але былая Рэч Паспалітая ўяўляла сабой абмежаваную (з 1791 г. — канстытуцыйную) манархію, а Расійская імперыя — абсалютную манархію з неабмежаванай уладай імператара, званага «самадзержцам». Гэта акалічнасць пазбаўляла шляхту цэлага шэрагу даўніх палітычных і грамадзянскіх правоў (удзел у сойміках, выбарны суд, свабодны выезд за мяжу і г. д.) і стварала падставу для непаразуменняў паміж ёю і новымі ўладамі. Акрамя таго, у Расіі дваране складалі 2 % грамадства, а ў Літве і Беларусі да вышэйшага саслоўя адносіла сябе дзясятая частка жыхароў. У значнай ступені гэта былі шляхцічы, якія не мелі ні зямлі, ні прыгонных. Такая шляхта павінна была прадставіць расійскім уладам дакументы аб сваім паходжанні (праводзіўся т. зв. «***разбор шляхты***»). Але працэс пацвярджэння зацягнуўся, а ў 1808 г. апошні тэрмін прадстаўлення гэтых дакументаў быў адкладзены на неабмежаваны перыяд.

Імкнучыся пазбегнуць вострых канфліктаў са шляхтай, расійскае кіраўніцтва дапускала пэўныя кампрамісы ў сваёй палітыцы: першапачаткова, у канцы XVIII – першай трэці XIX ст., на беларускіх землях уладамі было дазволена выкарыстанне ў судах Статута 1588 г., у школах — польскай мовы, працягвала існаваць уніяцкая царква (нягледзячы на падтрымку ўладамі праваслаўя).

Тым не менш, каталіцкая вера не дазваляла большасці беларускай шляхты атаясамліваць сябе з расійскім дваранствам, а памяць аб страчаных «шляхецкіх вольнасцях» падтрымлівала ў ёй імкненне да барацьбы з самадзяржаўем і да аднаўлення Рэчы Паспалітай.

Надзеі на хуткую дапамогу ў гэтай барацьбе нараджалі ваенныя поспехі імператара Францыі *Напалеона* (1804–1814, 1815). Пасля серыі ўдалых войнаў яго войскі занялі польскія тэрыторыі, якія ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай адышлі да Прусіі і Аўстрыі. У 1806 г. было абвешчана аб стварэнні на гэтых землях новай польскай дзяржавы — Княства Варшаўскага, жаўнеры якога ў складзе шматнацыянальнай арміі Напалеона рыхтаваліся да новай вялікай вайны супраць Расійскай імперыі. Спадзеючыся на аднаўленне пры дапамозе французаў Рэчы Паспалітай, асобныя шляхцічы з Літвы і Беларусі прадавалі свае маёнткі і, нелегальна пераходзячы мяжу, паступалі на службу ў армію і дзяржаўны апарат Княства Варшаўскага.

Занепакоены такой сітуацыяй, расійскі імператар *Аляксандр I* (1801–1825) са свайго боку агучыў намер адрадзіць Вялікае Княства Літоўскае, паабяцаўшы насельніцтву былой дзяржавы аўтаномію ў складзе Расійскай імперыі. Па яго прапанове ў 1811 г. Міхал Клеафас Агінскі падрыхтаваў «Праект палажэння аб кіраванні аўтаномным Вялікім Княствам Літоўскім». Адначасова з гэтым праектам распрацоўваўся план стварэння асобных літоўскіх войск у складзе расійскай арміі. Аднак гэтыя намеры так і не былі рэалізаваныя.

**12 чэрвеня 1812 г.** армія Напалеона (колькасцю больш за 600 тыс. чалавек) перайшла Нёман і рушыла ў межы Расійскай імперыі. Пачалася руска-французская вайна, якая стала Айчыннай (абарончай) для рускага народа і чарговай братазабойчай — для жыхароў Беларусі.

За два месяцы землі Літвы і большай часткі Беларусі былі акупіраваныя французамі. Войскі Расійскай імперыі, падзеленыя ў пачатку вайны на тры арміі, шукалі магчымасці для злучэння і адступалі ўглыб краіны, выкарыстоўваючы тактыку «выпаленай зямлі». У абарончых баях яны атрымалі шэраг лакальных перамог (найбольш значныя — пад Клясціцамі каля Полацка і пад Кобрынам), але стрымаць наступ праціўніка былі не ў стане. Пры гэтым немалую частку расійскіх салдат складалі рэкруты з Беларусі — былыя сяляне і мяшчане, прымусова забраныя напярэдадні вайны ў войска.

З іншага боку, многія шляхцічы ў Літве і Беларусі прыход французскіх войскаў успрынялі як доўгачаканае вызваленне з-пад улады Расійскай імперыі. Яны імкнуліся дапамагчы напалеонаўскай арміі, перашкаджалі захадам расійскіх уладаў па знішчэнні правіянту, вывазе каштоўнасцей і грошай. У Вільні пасля адыходу з горада расійскіх войскаў указам Напалеона 1 ліпеня быў створаны *Часовы ўрад Вялікага Княства Літоўскага*, які абвясціў аб імкненні «злучыць у адзінае палітычнае цэлае скасаваныя часткі Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага і вярнуць старажытнай Айчыне нашай волю і ўладанні». Напалеон, прынамсі да поўнай перамогі ў вайне з Расіяй, рэалізоўваць такія планы шляхты не збіраўся. Ад Часовага ўрада Вялікага Княства Літоўскага ён патрабаваў вялізную колькасць правіянту і фуражу для сваёй шматлікай арміі і новых салдат. З жыхароў Беларусі і Літвы былі сфарміраваны шэсць палкоў пяхоты, адзін — стральцоў і адзін — лёгкай конніцы, а таксама, для аховы мясцовага правапарадку, корпус жандармерыі і народная гвардыя. Салдаты і афіцэры гэтых фарміраванняў (агульнай колькасцю каля 20 тыс. чалавек) у вайне 1812 г. змагаліся на баку Францыі, гэтаксама як і шляхецкія добраахвотнікі з Беларусі і Літвы ў складзе 60-тысячных войскаў Княства Варшаўскага.

Каб мець яшчэ больш салдат, Напалеон загадаў сілай забіраць у французскую армію беларускіх сялян і мяшчан, прымяняючы для гэтага расійскія правілы рэкруцкага набору. Трэба адзначыць, што ўваход

французскіх войскаў на беларускія землі суправаджаўся ростам антыфеадальных выступленняў. Прыгонныя сяляне выкарыстоўвалі вайну як зручную магчымасць для самавольнага выхаду з-пад улады памешчыкаў або нават фізічнай расправы над імі, але гінуць за інтарэсы французскага імператара ў яго войску яны не жадалі.

Вялікай бядой для жыхароў Беларусі сталі шматлікія марадзёры з ліку салдат напалеонаўскай арміі (немцы, харваты, у значна меншай ступені — самі французы), якія рабавалі і чынілі гвалт над людзьмі. Абараняючы сваю маёмасць і свае сем'і, мясцовыя сяляне аказвалі стыхійнае супраціўленне. Пры пэўных абставінах яны дзейнічалі разам з расійскімі ваеннымі, пакінутымі ў тыле праціўніка. Тым не менш, асноўнымі дзеяннямі беларускіх сялян падчас вайны былі не дапамога і падтрымка расійскай арміі, а ўхіленне ад рэкруцкіх набораў і рэквізіцый, барацьба з марадзёрамі і ўласнымі памешчыкамі. Сяляне масава супраціўляліся мабілізацыі і далейшаму выкананню феадальных павіннасцяў не толькі ў зоне французскай акупацыі, але і на тых землях, якія яшчэ заставаліся пад кантролем расійскай арміі.

Пасля *бітвы пад Барадзіно*, якая адбылася 26 жніўня 1812 г., армія Напалеона заняла Маскву, але ў кастрычніку, калі скончыліся ўсе запасы харчавання, рушыла ў адваротным кірунку. Пры адступленні на захад загінула большая частка напалеонаўскіх салдат, знясіленых нападамі расійскіх войскаў, партызан, вялікімі маразамі і голадам. У раёне Барысава каля *в. Студзёнка* **14–16 лістапада 1812 г.** Напалеон пад агнём расійскіх гармат здолеў арганізаваць пераправу свайго войска праз р. Беразіну, але захаваў пры гэтым толькі 9 тыс салдат. Рэшткі напалеонаўскай арміі пакінулі Літву і Беларусь.

Вайна 1812 г. прынесла Беларусі чарговыя спусташэнні, але не вырашыла ніводнай з надзённых грамадскіх праблем. Яе заканчэнне пакінула няспраўджанымі надзеі сялян на вызваленне ад прыгоннай залежнасці, а мясцовай шляхты — на аднаўленне Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

Каб супакоіць шляхту, расійскі імператар Аляксандр І дараваў амністыю жыхарам Літвы і Беларусі, якія ваявалі на баку Францыі, пры ўмове іх вяртання на Радзіму, а пасля канчатковай перамогі над Напалеонам у 1815 г. абвясціў аб аднаўленні ў складзе Расійскай імперыі Каралеўства (руская назва — Царства) Польскага з магчымасцю далучэння ў будучыні да яго літоўскіх, часткі беларускіх і ўкраінскіх зямель. Быў створаны «Літоўскі асобны корпус» расійскай арміі, у якім служылі мясцовыя ураджэнцы; у школах Літвы і Беларусі (у тым ліку ў Віленскім універсітэце і Полацкай езуіцкай акадэміі) царскія ўлады не перашкаджалі настаўнікам выкарыстоўваць польскую мову, прапагандаваць сярод вучняў вывучэнне гісторыі Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага.

Рост патрыятычных настрояў сярод вучнёўскай моладзі выявіўся ў дзейнасці таемных таварыстваў, першае з якіх пад назвай ***«філаматы»*** ўзнікла сярод студэнтаў Віленскага ўніверсітэта ў 1817 г. Філаматы (з грэчаскай мовы — аматары навук) імкнуліся ўдасканаліць свае веды і літаратурныя здольнасці, займаючыся вывучэннем мясцовага краю. Яны першымі даследавалі фальклор, побыт і звычаі беларускіх сялян. З павагай ставячыся да культуры простага народа і спачуваючы яго праблемам, гэтыя маладыя шляхцічы былі перакананымі праціўнікамі прыгоннага права. Пад кіраўніцтвам філаматаў узнікалі іншыя арганізацыі вучнёўскай моладзі, у тым ліку ў 1820 г. у Вільні паўстала больш прадстаўнічае таварыства — *філарэтаў* (аматараў добрых спраў), якое аб'ядноўвала больш за 200 студэнтаў. Мэтай гэтых арганізацый абвяшчалася падрыхтоўка моладзі да рознабаковай дзейнасці на карысць Бацькаўшчыны, пад якой разумелася не Расійская імперыя, а тэрыторыя былой Рэчы Паспалітай, у вузкім сэнсе — беларуска-літоўскі край.

У 1823 г. дзейнасць філаматаў і філарэтаў была выкрыта царскімі ўладамі, а найбольш актыўныя ўдзельнікі гэтых таварыўстваў былі высланы ў аддаленыя губерні Расіі. Беларусь тады пакінулі *А. Міцкевіч, Я. Чачот, Т. Зан, А. Петрашкевіч*.

Расійскі імператар *Мікалай I (1825–1855)* бачыў сябе ў ролі абаронцы манархічных ідэй не толькі ўнутры сваёй імперыі, але і ва ўсёй Еўропе. Яго рашэнне падавіць рэвалюцыі ў Бельгіі і Францыі справакавала непадпарадкаванне польскай арміі і стала повадам для *паўстання ў Царстве Польскім*, якое пачалося ў лістападзе **1830 г**. Вясной 1831 г. яно пашырылася на суседнія землі Літвы і Беларусі.

Мэтай паўстання — шляхецкага па свайму характару — было абвешчана аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г.

У Беларусі паўстанцаў было каля 15 тыс. чалавек. Большасць з іх паходзіла з асяродку шляхты і студэнтаў, а вось сяляне і мяшчане да лозунгаў паўстання аднесліся абыякава. Гэта тлумачыцца тым, што сярод кіраўнікоў паўстання у Варшаве пераважалі палітыкі-кансерватары на чале з *А. Чартарыйскім*, якія былі супраць значных сацыяльных уступак на карысць простага народу, у тым ліку не ставілі пытанне аб адмене прыгоннага права ў Літве і Беларусі. Ва ўмовах абмежаванай сацыяльнай падтрымкі паўстанне было асуджана на паражэнне. Яго ўдзельнікі ў Літве і Беларусі атрымалі дамапогу ад 12-тысячнага корпуса польскіх войскаў, але авалодаць былой сталіцай Вялікага Княства Літоўскага не здолелі. 19 чэрвеня 1831 г. на подступах да Вільні яны былі разбіты 26-тысячнай расійскай арміяй, а восенню **1831 г.** у Беларусі спынілі барацьбу апошнія паўстанцкія атрады.

Паўстанцы эмігрыравалі на Захад або высылаліся ўладамі ў Сібір, іх землі падлягалі канфіскацыі. У адказ на паўстанне быў зменены курс расійскай урадавай палітыкі на тэрыторыі «заходніх губерняў». Калі

папярэднікі Мікалая I на расійскім троне яшчэ мірыліся з захаваннем адрозненняў беларуска-літоўскага краю ад цэнтральных губерняў Расіі ў галіне судаводства, адукацыі, саслоўнай і канфесійнай структуры грамадства, то пасля падзей 1830–1831 гг. імператар загадаў забяспечыць сціранне адметных рысаў Літвы і Беларусі.

Адной з такіх мер было ўвядзенне на гэтых землях расійскага заканадаўства: у 1831 г. быў адменены дазвол на выкарыстанне Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. на ўсходзе Беларусі — у Віцебскай і Магілёўскай губернях, а ў 1840 г. на захадзе — у Мінскай, Гродзенскай, Віленскай губернях. Таксама згодна з указам Мікалая I ў «заходніх губернях» быў узмоцнены «*разбор шляхты*». Значная частка беларускай шляхты была пазбаўлена дваранскага звання і пераведзена ў ніжэйшыя саслоўі. Былых шляхцічаў, каб перашкодзіць іх удзелу ў новых паўстаннях супраць царскай улады, забіралі рэкрутамі ў расійскае войска, прымусова перасялялі з радзімы ў іншыя рэгіёны Расійскай імперыі.

У *1832 г.* быў зачынены *Віленскі ўніверсітэт*. Выпускнікам універсітэта забаранялася выкладаць у мясцовых школах; на іх месца запрашаліся настаўнікі з Расіі, лаяльныя да ўлады і праваслаўныя па веравызнанні. З 1831 г. адзінай мовай навучання на тэрыторыі Літвы і Беларусі стала руская мова, а ідэалагічнай асновай з 1833 г. — знакамітая трыяда «Праваслаўе. Самадзяржаўе. Народнасць», агучаная намеснікам міністра народнай асветы Расійскай імперыі графам С. Уваравым. У **1839 г.** пры падтрымцы ўлад быў скліканы *Полацкі царкоўны сабор*, які абвясціў пра ліквідацыю ўніяцкай царквы і далучэнне ўніятаў да Рускай праваслаўнай царквы. Рэалізацыя гэтага рашэння суправаджалася гвалтоўнымі захадамі адносна духавенства і вернікаў, знішчэннем многіх уніяцкіх кніг, ікон, скульптур па прычыне іх неадпаведнасці правілам Рускай праваслаўнай царквы. Такім чынам, у імкненні засведчыць, што «заходнія губерніі» не ёсць частка Польшчы, улады Расійскай імперыі прыступілі да ўзмоцненай русіфікацыі беларусаў, якіх лічылі не самастойным этнасам, а часткай рускага народа.

Самай масавай групай сярод жыхароў Беларусі заставалася сялянства, прадстаўнікі якога ў першай палове XIX ст. складалі каля 80 % усяго насельніцтва. Шматлікія палітычныя катаклізмы апошняй чвэрці XVIII–першай трэці XIX ст. не прынеслі прынцыповых змен у жыццё гэтай найбольш бяспраўнай часткі грамадства. Становішча на вёсцы было крызіснае, пра што сведчыла дрэнная ўраджайнасць (ураджай сам-тры лічыўся добрым). Асоба прыгоннага, яго праца, маёмасць належалі памешчыкам, якія сваіх сялян білі, маглі падараваць, адправіць у рэкруты ці на катаргу. Прыгонныя неслі павіннасці на карысць пана і выплочвалі дзяржаўныя падаткі.

Баючыся сацыяльнага выбуху, урад Расійскай імперыі спрабаваў абмежаваць эксплуатацыю сялян. Па ініцыятыве міністра дзяржаўных

маёмасцей *П. Кісялёва* была праведзены рэформа ў дзяржаўных маёнтках (1840–1857 гг.), а таксама *інвентарная рэформа* (1844–1857 гг.) у дачыненні да памешчыцкіх сялян (20 % сялян былі дзяржаўнымі, 75 % — памешчыцкімі). Падчас рэформы ў дзяржаўных маёнтках рабілася люстрацыя (падрабязнае апісанне) дзяржаўных маёнткаў і строгае вызначэнне павіннасцяў сялян. Ставілася задача надзяліць зямлёй агароднікаў і беззямельных. У выніку (за кошт ліквідацыі фальваркаў) надзелы дзяржаўных сялян павялічыліся больш як на 30 %, а павіннасці скараціліся на 40 %. Аналагічна праводзілася інвентарная рэформа: ***інвентар*** — гэта дакумент, які ўтрымліваў апісанне феадальных уладанняў, памераў зямельных надзелаў сялян і замацоўваў гранічныя ўзроўні іх павіннасцяў. Абавязковыя інвентары, змест якіх памешчык змяняць не мог, былі ўведзены ва ўсіх маёнтках Заходняй і Цэнтральнай Беларусі, а таксама ў частцы маёнткаў на ўсходзе Беларусі.

Нязначную колькасць насельніцтва складалі мяшчане (на ўзроўні 10 %). У першай палове XIX ст. у Беларусі існаваў 41 горад і каля 400 мястэчак. Самымі буйнымі гарадамі былі Віцебск, Магілёў, Мінск (каля 20–25 тыс. чалавек). Сярод гарадскога насельніцтва Беларусі была вялікая колькасць яўрэяў (каля 54 %). ***Мяжа яўрэйскай аселасці***, усталяваная ў канцы XVIII ст. Кацярынай II, не дазваляла іудзеям па веравызнанні пераязджаць з Беларусі ў цэнтральныя губерні Расіі. У гарадах асноўнай формай рамеснай вытворчасці былі майстэрні, у якіх працаваў майстар і 5–6 наёмных рабочых. У канцы 1830-х гг. у Беларусі знаходзілася 20 мануфактур, але некаторыя мястэчкі ў прамысловым развіцці былі вышэй за гарады (Шэрашава, Гомель). У 1820-я гг. былі пабудаваны першыя суконныя фабрыкі ў Хомску і ў Косава Гродзенскай губерні. Найбольш распаўсюджаны былі прадпрыемствы па перапрацоўцы сельскагаспадарчай сыравіны: вінакурныя, суконныя, палатняныя, цукровыя, мукамольныя. У гарадах праводзіліся кірмашы, але іх гандлёвы абарот быў невялікі.

Такім чынам, у першай палове XIX ст. сацыяльная структура на беларускіх землях заставалася амаль нязменнай — абсалютная большасць насельніцтва належала да бяспраўных сялян, а прывілегіраваным саслоўем заставалася шляхта. Апошняя перыядычна выяўляла моцныя антыўрадавыя настроі. Палітыка расійскіх улад у дачыненні да шляхты вар'іравалася ад заспакойвання ў першай трэці XIX ст. да рэпрэсіўных мер пасля паўстання 1830–1831 гг.

## 3.2. Буржуазныя рэформы другой паловы XIX – пачатку XX ст. на беларускіх землях

У сацыяльна-эканамічным развіцці Беларусі адбываліся агульныя для Расійскай імперыі працэсы, якія вялі да распаду феадальна-прыгонніцкай сістэмы. Пасля паражэння ў Крымскай вайне (1853–1856 гг.)

імператар *Аляксандр II* (1855–1881) вырашыў правесці шэраг рэформаў, каб стварыць умовы для паскоранага буржуазнага развіцця краіны.

Самай значнай рэформай з'яўляецца вызваленне памешчыцкіх сялян ад прыгоннай залежнасці (*адмена прыгоннага права*), якое адбылося **19 лютага 1861 г.** Сяляне атрымалі асабістую свабоду, права ўступаць у шлюб без панскага дазволу, самастойна распараджацца сваёй маёмасцю, звяртацца ў суд, заключаць дагаворы, засноўваць прадпрыемствы. Памешчыкі страчвалі паліцэйскую і судовую ўладу над вёскай.

Па ўмовах рэформы, ўся зямля, якой карысталіся сяляне, прызнавалася ўласнасцю памешчыка, і сяляне павінны былі выкупляць свае надзелы. Зямля па якасці дзялілася на тры часткі (лепшую, сярэднюю і горшую), і кожны сялянскі двор з кожнай з гэтых частак атрымліваў надзел — вузкую і часта вельмі доўгую паласу — «шнур», што прывяло да цераспалосіцы. Выкупная цана за надзел вызначалася такім чынам, каб памешчык, паклаўшы яе ў банк на працэнты, мог атрымаць штогадовы прыбытак, роўны гадавому чыншу дарэформеннага часу. Улічваючы тое, што ў сялян такіх грошай не было, урад пастанавіў, што 20 % кошту зямлі выплачваюць самі сяляне, а 80 % — урад. Сяляне павінны былі вярнуць дзяржаве гэтыя так званыя «***выкупныя плацяжы***» на працягу 49 гадоў. Трэба дадаць, што права выкупляць зямлю сяляне атрымлівалі толькі праз 9 гадоў пасля пачатку рэформы. Увесь гэты час яны лічыліся *часоваабавязанымі* і за карыстанне зямлёй павінны былі, як і раней, працаваць на памешчыка, што фіксавалася ва ўстаўных граматах. Гэта выклікала шматлікія пратэсты сялян.

У 1863–1864 гг., каб адцягнуць беларускіх сялян ад удзелу ў выбухнуўшым паўстанні, расійскі ўрад выдаў указы, якія зрабілі ўступкі на іх карысць:

1) сяляне, незалежна ад згоды памешчыка, пераводзіліся на абавязковы выкуп, што азначала вызваленне іх ад стану часоваабавязаных;

2) на 20 % зніжаліся выкупныя плацяжы;

3) сялянам, якія былі абеззямелены памешчыкамі ў перадрэформенны перыяд, поўнасцю ці часткова вярталіся іх былыя зямельныя надзелы;

4) былі захаваны *сервітуты*: права, якое дазваляла сялянам карыстацца выпасамі ці сенакосам, што з'яўляліся ўласнасцю памешчыкаў.

Пасля адмены прыгоннага права ствараліся ўмовы для пераадолення сацыяльна-эканамічнай адсталасці Расійскай дзяржавы, стала магчымым зменшыць саслоўнае нераўнапраўе яе жыхароў, актывізаваць іх грамадскую ініцыятыву. Важным крокам на гэтым шляху стала земская рэформа 1864 г., якая дазволіла ў 33 губернях Расійскай імперыі стварыць органы мясцовага самакіравання — ***земствы***, у кампетэнцыю якіх былі перададзены справы асветы, аховы здароўя, арганізацыі шляхоў зносін і інш. Выбіраць земствы (пры ўмове наяўнасці нерухомай маёмасці) маглі

прадстаўнікі розных саслоўяў: дваране, сяляне, гандляры і прамыслоўцы, — але асноўную ролю ў земскім самакіраванні адыгрывалі памешчыкі. У Беларусі большасць з іх складалі, па вызначэнні расійскага ўрада, «асобы польскага паходжання» — католікі. Па гэтай прычыне земствы на беларускіх землях у XIX ст. уведзены так і не былі.

Адсутнасць земстваў у Беларусі абумовіла абмежаваны характар іншых буржуазных рэформаў — адукацыйнай і судовай. Перадача асветы пад апеку земскіх органаў, прадугледжаная *школьнай рэформай* 1864 г., спрыяла павелічэнню колькасці школ у цэнтральных губернях Расіі. Беларускія землі, дзе школамі працягвалі кіраваць дзяржаўныя ўстановы і праваслаўная царква, пачыналі адставаць ад губерняў, дзе існавалі земствы, па агульнай колькасці школ і навучэнцаў, долі пісьменных сярод насельніцтва (у 1897 г. 25,7 % — у Беларусі, 30 % — у еўрапейскай частцы Расіі).

Паводле *судовай рэформы* (у Расійскай імперыі пачалася ў 1864 г., на беларускія землі была пашырана з 1872 г.), суд рабіўся ўсесаслоўным, а частка спраў перадавалася ў кампетэнцыю міравых судоў, рашэнні ў якіх прымаліся з удзелам прысяжных паверанах (адвакатаў) і прысяжных засядацеляў. Міравыя суддзі выбіраліся на земскіх сходах. У Беларусі выбарнасці суддзяў не было, яны па-ранейшаму прызначаліся міністрам юстыцыі з ліку «добранадзейных грамадзян».

*Ваенная рэформа*, праведзеная ў 1862–1874 гг., сярод іншага, адмяніла даўнюю сістэму камплектавання расійскага войска шляхам *рэкруцкіх набораў*. Дагэтуль улады забіралі ў салдаты па адным чалавеку ад пэўнай колькасці сялян і мяшчан. Тэрмін рэкруцкай службы быў вялікі — да 25 гадоў. Звычайна забраны ў рэкруты губляў сувязь з усімі роднымі, а калі і вяртаўся дадому, то састарэлым ці інвалідам. Замена рэкрутчыны воінскай павіннасцю, якая распаўсюджвалася на ўсіх мужчын, дазваляла істотна скараціць тэрмін абавязковай службы ў войску. Для асоб без адукацыі ён не перавышаў 6–7 гадоў, а для асоб з вышэйшай адукацыяй складаў толькі паўгода.

У 1875 г. на 32 беларускія гарады пашыралася дзеянне *гарадской рэформы*. Паводле яе ўзнікалі (а ў Беларусі, дзе існавалі ўласныя традыцыі магдэбургскага права, аднаўляліся) выбарныя органы гарадскога самакіравання. Удзельнічаць у выбарах гарадскіх дум маглі прадстаўнікі ўсіх саслоўяў, якія мелі ў горадзе нерухомую маёмасць. Маёмасны цэнз быў высокі. Напрыклад, у Мінску ў 1893 г. выбарчае права мелі толькі 248 чалавек, або 0,28 % усіх гараджан.

Паступовае развіццё буржуазнага грамадства патрабавала выканання пэўных прынцыпаў, у тым ліку абарону прыватнай уласнасці і ўсталяванне роўнасці грамадзян перад законам. Рэформы 1860–1870-х гг. адкрывалі шлях для развіцця капіталізму, але не закраналі ўсеўладдзя расійскіх чыноўнікаў, не ліквідавалі саслоўнай і нацыянальнай нераўнапраўнасці грамадзян.

Ажыццяўленне буржуазных рэформаў на беларускіх землях адбывалася са спазненнем і не ў поўнай меры, а ў Расійскай імперыі было спынена забойствам Аляксандра II у 1881 г. Наступны імператар *Аляксандр III* (1881–1894) распачаў *контррэформы* — рэакцыйныя пераўтварэнні, накіраваныя на перагляд праведзеных змен (часткай контррэформ было вяртанне саслоўных абмежаванняў у адукацыі, падпарадкаванне сялянскіх абшчын «земскім начальнікам» з ліку дваран, узмацненне цэнзуры).

Роўнасць грамадзян перад законам заставалася толькі патэнцыяльнай перспектывай. У грамадскім жыцці ўлады працягвалі захоўваць першаснае значэнне дваранскага саслоўя. Пры гэтым на тэрыторыі «заходніх губерняў» дыскрымінацыйнымі мерамі яны імкнуліся ліквідаваць перавагу католікаў сярод дваран, асабліва тых, якія валодалі зямлёй. Пасля чарговага паўстання **1863–1864 гг.** набываць землі католікам (не толькі памешчыкам, але да 1885 г. таксама і сялянам) у Беларусі наогул забаранялася. Акрамя таго, праводзілася масавае звальненне з пасад прадстаўнікоў мясцовай шляхты. Іх месца займалі службоўцы з Расіі, якіх улады схілялі да пераезду падвышанымі ў паўтара раза акладамі, магчымасцю льготнага атрымання казённых або канфіскаваных у паўстанцаў зямель. Урадам прымаліся таксама захады па перасяленні ў Беларусь расійскіх праваслаўных сялян.

Тым не менш, змены ў структуры зямельнай уласнасці ў Беларусі адбываліся не такімі хуткімі тэмпамі, як таго жадаў царскі ўрад. У канцы XIX ст. толькі ў Магілёўскай губерні праваслаўным стала належаць большая частка зямлі. У астатніх рэгіёнах Беларусі па-ранейшаму захоўвалася перавага каталіцкага землеўладання.

У рэлігійнай сферы ўладамі забяспечвалася дамінаванне Рускай праваслаўнай царквы. У адказ на паўстанні 1830–1831, 1863–1864 гг., якія праходзілі пры пераважным удзеле паўстанцаў-католікаў і падтрымцы многіх каталіцкіх святароў, расійскімі ўладамі былі зачынены амаль усе каталіцкія кляштары і многія касцёлы. Іх ператваралі ў праваслаўныя цэрквы, дзяржаўныя і іншыя свецкія ўстановы. Непрыхільным было стаўленне расійскага ўрада і да яўрэйскага насельніцтва, якое вызнавала сваю асобную рэлігію — іудаізм.

Нягледзячы на сваю абмежаваннасць, рэформы 1860–1870-х гг. стваралі ўмовы для паступовага развіцця капіталістычных адносін: напрыклад, пасля 1861 г. на вёсцы фарміраваўся рынак зямельнай уласнасці і працоўных рук. Адбывалася расслаенне сялян: у пачатку XX ст. з’явілася сельская буржуазія — заможныя сяляне (10 %); сераднякі складалі 30 %, беднякі — 60 %. Але ва ўмовах хуткага росту насельніцтва зямлі не хапала, надзелы драбіліся паміж сялянамі, што прыводзіла да эканамічнай залежнасці ад памешчыкаў-дваран, якія, напрыклад, у 1905 г. валодалі 41 % зямлі. Сяляне крытычна ставіліся да інстытута прыватнай

уласнасці. Сярод іх былі распаўсюджаны меркаванні, што неабходна калісьці правесці «чорны перадзел»: усю зямлю, лес, сенажаці адабраць у памешчыкаў і пароўну раздаць сялянам.

Акрамя таго, на большай частцы тэрыторыі Расіі (у тым ліку ў Магілёўскай і Віцебскай губернях) існавала абшчыннае землеўладанне: надзелы сялян былі не іх прыватнай уласнасцю, а ўласнасцю абшчыны, без згоды якой селянін не мог распараджацца сваёй зямлёй — прадаць, закласці ў банк. Гэта марудзіла развіццё капіталізму на вёсцы.

Прэм'ер-міністр *П. Сталыпін* у 1906 г. распачаў рэформу па разбурэнні абшчыны. Яна ўключала наступнае:

1) усе сяляне атрымлівалі права набыць зямлю ў асабістую (прыватную) уласнасць і выйсці з абшчыны;

2) селянін мог патрабаваць выдзялення сабе зямлі ў адным месцы, якая найчасцей знаходзілася на адлегласці ад вёскі і называлася «водруб», а калі на гэты надзел яшчэ пераносілася і сядзіба гаспадара, утвараўся т. зв. ***хутар***;

3) было арганізавана добраахвотнае перасяленне сялян на свабодныя землі ў Сібір, Сярэднюю Азію, Паўночны Каўказ.

У выніку сталыпінскіх рэформаў у Беларусі каля 12 % сялянскіх двароў выйшлі на водрубы ці ўтварылі хутары, 335 тыс. сялян з'ехалі на ўсход.

Рэформы садзейнічалі больш інтэнсіўнаму развіццю аграрнага сектара Расіі, але зямельнае пытанне канчаткова не вырашалі, бо не закраналі буйное памешчыцкае землеўладанне. Капіталістычны лад жыцця яшчэ толькі замацоўваўся сярод насельніцтва: напрыклад, у 1913 г. у Беларусі звыш 41 % вытворчасці прыходзілася на дробнатаварны і натуральны ўклады эканомікі.

Важкім для грамадскага развіцця Беларусі было *ў 1911 г.* рашэнне П. Сталыпіна пашырыць земскую рэформу на тэрыторыі Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губерняў. У гэтых губернях выбары ў органы самакіравання адбываліся па так званых нацыянальных ***курыях***: «рускай» і «польскай». Гэта было сведчаннем таго, што кіраўніцтва імперыі не жадала мець у «акраінах» органы ўлады, якія б мелі легальныя паўнамоцтвы для адстойвання мясцовых нацыянальных інтарэсаў.

Асаблівасцю і істотным недахопам мадэрнізацыі, якая праводзілася ў Расійскай імперыі, была адсутнасць адначасовых змен у асноўных сферах грамадскага жыцця. Эканамічныя рэформы не суправаджаліся суразмернымі па значнасці палітычнымі зменамі. На працягу XIX ст. Расія заставалася абсалютнай манархіяй без права абрання цэнтральных органаў улады нават для дваран. (У другой палове XIX ст. у іншых імперыях Еўропы — Брытанскай, Прускай або Аўстра-Венгерскай — такім правам карысталіся ўжо сяляне). Першы расійскі парламент — Дзяржаўная Дума — з заканадаўчымі паўнамоцтвамі быў склікан толькі ў 1906 г., у

перыяд Першай расійскай рэвалюцыі 1905–1907 гг. Аднак 3 чэрвеня 1907 г. у Расійскай імперыі адбыўся дзяржаўны пераварот. Імператар *Мікалай II* (1894–1917) без згоды дэпутатаў распусціў II Дзяржаўную Думу, змяніў на сваю карысць выбарчае заканадаўства і зноў пачаў кіраваць, па сутнасці, аднаасобна.

Такім чынам, буржуазнае рэфармаванне Расійскай імперыі мела непаслядоўны і абмежаваны характар. У Беларусі яго ажыццяўленне праводзілася са спазненнем і не ў поўнай меры, што было выклікана нацыянальна-гістарычнымі адметнасцямі краю. Палітыка самадзяржаўя была адзначана спробай інтэграцыі гэтай тэрыторыі ў дзяржаўны арганізм Расійскай імперыі, што, з аднаго боку, выклікала значныя змены ў канфесійным, культурным, палітычным і эканамічным становішчы беларускіх зямель, з другога — суправаджалася вострымі канфліктамі паміж урадам і часткай мясцовага грамадства. Гэта акалічнасць стрымлівала мадэрнізацыйныя працэсы ў Беларусі і ў цэлым негатыўна ўплывала на яе развіццё ў складзе Расійскай імперыі.

## 3.3. Паўстанне 1863–1864 гг. Грамадска-палітычны і рэвалюцыйны рух у Беларусі ў канцы XIX – пачатку XX ст.

Вынікі вайны 1812 г. і паражэнне паўстання 1830–1831 гг. выклікалі змены грамадска-палітычных настрояў у Беларусі. З аднаго боку, яны прымусілі значную частку шляхты скептычна ацэньваць перспектывы далейшай ваеннай барацьбы з уладамі, з іншага — актывізавалі дзейнасць радыкальных шляхецкіх рэвалюцыянераў, якія лічылі, што ажыццявіць дэмакратычныя змены ў грамадстве магчыма толькі пры дапамозе народнай рэвалюцыі, узнімаючы на барацьбу супраць самадзяржаўя сялян і мяшчан.

Носьбітам такіх ідэй, сярод іншых, быў *Вікенцій Канстанцін Каліноўскі.* Падчас вучобы ў Пецярбургскім універсітэце ён далучыўся да адной з рэвалюцыйных груп, а пасля вяртання на радзіму ўзначаліў арганізацыю па падрыхтоўцы новага паўстання ў Беларусі і Літве — *Літоўскі правінцыяльны камітэт*.

Напярэдадні паўстання ў асяродку шляхты на землях Польшчы, Літвы і Беларусі склаліся дзве палітычныя групоўкі: *«белыя»*, якія лічылі, што яшчэ адно паўстанне супраць цара з’яўляецца самазабойчым актам, бо не мае вялікіх шансаў на перамогу, і *«чырвоныя»*, якія выступалі за новае паўстанне. К. Каліноўскі ўзначаліў радыкальную плынь «чырвоных». Разам з паплечнікамі ён імкнуўся выкарыстаць незадаволенасць сялян умовамі адмены прыгоннага права і зрабіць іх галоўнымі ўдзельнікамі нацыянальна-вызваленчай барацьбы супраць расійскага самадзяржаўя. Галоўнай сілай будучага паўстання К. Каліноўскі бачыў не шляхту, а сялян. У 1862 г. пры дапамозе *В. Урублеўскага* і *Ф. Ражанскага* ён пачаў нелегальна распаўсюджваць газету *«Мужыцкая праўда»*. Напісаная на беларускай мове «лацінкай» ад імя простага селяніна «Яські-гаспадара

з-пад Вільні», газета ў даступнай форме выкрывала несправядлівы характар аграрнай рэформы 1861 г., паказвала расійскага цара і яго чыноўнікаў як галоўных ворагаў сялян. Адмоўна ставіліся выдаўцы газеты і да праваслаўнай царквы, якую называлі маскоўскай «схізмай».

1 лютага 1863 г. Літоўскі правінцыяльны камітэт выступіў у падтрымку студзеньскага паўстання ў Варшаве і быў ператвораны ў Часовы ўрад Літвы і Беларусі на чале з К. Каліноўскім. Пасля некаторых ваганняў ён абнародаваў памяркоўную праграму польскіх паўстанцаў, якой прадугледжвалася бясплатная перадача сялянам іх зямельных надзелаў (выкупныя плацяжы адмяняліся, а кампенсаваць страты памешчыкам павінна была дзяржава), аднаўленне дзейнасці ўніяцкай царквы, замена ***рэкруцкай павіннасці*** ўсеагульнай (са змяншэннем тэрміну службы да трох гадоў), роўнасць усіх грамадзян незалежна ад іх саслоўнага паходжання, нацыянальнасці і веравызнання.

Разгортванне паўстання суправаджалася канфліктамі ўнутры яго кіраўніцтва. У Польшчы яно апынулася ў руках «белых» — буйных і сярэдніх землеўласнікаў. К. Каліноўскі быў супраць далучэння «белых» да паўстання, тыя ў сваю чаргу апасаліся, што ператварэнне паўстання ў сялянскую рэвалюцыю скіруе просты народ не толькі супраць расійскіх улад, але і сваіх сацыяльных прыгнятальнікаў — мясцовай шляхты. К. Каліноўскага яны абвінавачвалі ў распальванні грамадзянскай вайны. У сакавіку 1863 г. ён быў адхілены ад агульнага кіраўніцтва паўстаннем у Літве і Беларусі і накіраваны ў Гродна на больш сціплую пасаду камісара. У Варшаве, дзе прымалася рашэнне, незадаволенасць мог выклікаць не толькі сацыяльны радыкалізм К. Каліноўскага, але і яго імкненне да палітычнай самастойнасці. Па звестках расійскага генерала В. Ратча, атрыманых падчас следства, К. Каліноўскі казаў сваім набліжаным, што «Літва [у значэнні — беларуска-літоўскі край] павінна скарыстацца разладам паміж Расіяй і Польшчаю і зрабіцца самастойнай».

Вясной 1863 г. у Беларусі з мясцовых жыхароў былі створаны першыя паўстанцкія атрады, а кіраўніцтва паўстаннем апынулася ў руках яго памяркоўнай плыні — «белых». Апошнія не бачылі магчымасцяў самастойна перамагчы расійскую армію, якая толькі ў Беларусі і Літве налічвала да 200 тыс. чалавек, і спадзяваліся на ваенную дапамогу Англіі і Францыі. Паўстанцы па прычыне несуразмернасці іх сіл з царскай арміяй пазбягалі вялікіх ваенных сутычак (самы вялікі бой на тэрыторыі Беларусі, з удзелам каля 800 паўстанцаў, адбыўся каля м. Мілавіды, недалёка ад Слоніма, у маі 1863 г.). Большую частку часу яны праводзілі ў лясных рэйдах, у асноўным на тэрыторыі Віленскай і Гродзенскай губерняў (тут адбыліся $^2/_3$ усіх баёў на тэрыторыі Беларусі). Актывізаваць паўстанцкі рух на землях Усходняй Беларусі і пашырыць яго далей у Расію ў красавіку 1863 г. няўдала спрабаваў атрад Л. Звяждоўскага. Пры дапамозе студэнтаў мясцовага земляробчага інстытута ён здолеў авалодаць м. Горкі

ў Магілёўскай губерні, але пазней, як і іншыя атрады, быў разбіты расійскай арміяй. На пачатак восені 1863 г. узброенае паўстанцкае супраціўленне ў Беларусі было ў асноўным задушана.

Падаўленне паўстання ў Беларусі і Літве звязана з імем *Міхаіла Мураўёва*, які ў маі 1863 г. быў прызначаны на пасаду віленскага генерал-губернатара. Супраць паўстанцаў і іх прыхільнікаў ён распачаў палітыку дзяржаўнага тэрору, не грэбуючы публічным, на вачах насельніцтва, ажыццяўленнем смяротных прысудаў, за што атрымаў мянушку «Вешальнік». У Беларусі і Літве, толькі паводле судовых дакументаў, былі павешаныя і расстраляныя 128 паўстанцаў, 12,5 тыс. высланы на пасяленне, катаргу, у арыштанцкія роты. Уладамі шырока выкарыстоўваліся і іншыя пакаранні: штрафы, канфіскацыя маёнткаў, хатні арышт, турэмнае зняволенне. Новы віток набыў «разбор шляхты». Па ўсёй краіне зачыняліся касцёлы і кляштары. Віленскі генерал-губернатар увёў калектыўную адказнасць жыхароў засценкаў і вёсак за дапамогу паўстанцам і неданясенне пра іх уладам, а ўсіх памешчыкаў-католікаў абклаў кантрыбуцыяй: 10 % збору з іх прыбыткаў. Беларуска-літоўскі край быў пераведзены на ваеннае (надзвычайнае) становішча.

Ваенна-рэпрэсіўныя сродкі М. Мураўёў удала спалучаў з шырокай антыпаўстанцкай і антыпольскай агітацыяй. Імкнучыся ізаляваць паўстанцаў (у сваёй большасці — шляхцічаў-католікаў) ад мясцовых сялян, расійскія ўлады ілжыва даводзілі ім, што «польскія паны» бунтуюць супраць цара, бо імкнуцца надалей захаваць прыгоннае права, таму ў інтарэсах сялян падтрымаць «законную» расійскую ўладу. Каб паказаць Аляксандра II у ролі абаронцы простых людзей, М. Мураўёў настаяў на змяншэнні ў Літве і Беларусі на 20 % выкупных пляцяжоў, вяртанні сялянам часткі адрэзкаў і надзелаў. Для барацьбы з паўстанцамі паўсюдна ствараліся сельскія варты ў складзе 60–100 сялян, да якіх расійскія ўлады далучалі некалькіх салдат і унтэр-афіцэра. За выдачу паўстанцаў даваліся грашовыя ўзнагароды, а тыя вёскі, дзе паўстанцы знаходзілі прытулак, наадварот, бязлітасна спальваліся.

У маі 1863 г. К. Каліноўскі вярнуў сабе кіраўніцтва паўстаннем, але павярнуць бег падзей на свой бок быў ужо не здольны. Сяляне былі запалоханыя рэпрэсіямі царскіх войскаў і дэзынфармаваныя дзяржаўнай прапагандай, многія з іх, асабліва на ўсходзе Беларусі, выступілі на баку царскага ўрада. Ператварэння паўстання ў сялянскую рэвалюцыю не адбылося. Сярод паўстанцаў сяляне складалі 18 % (у Гродзенскай губерні — 33 %, у Магілёўскай — толькі 7 %).

Сваю смерць К. Каліноўскі сустрэў 22 сакавіка 1864 г. на Лукішскай плошчы ў Вільні. Напярэдадні ў турме ён напісаў на беларускай мове свой духоўны запавет — *«Лісты з-пад шыбеніцы»*. У сваім апошнім тэксце, як і ў словах, сказаных за некалькі імгненняў да смерці: «У нас няма дваран —

усе роўныя», К. Каліноўскі, не зважаючы на сваё шляхецкае паходжанне, далучаў сябе да мужыкоў-беларусаў і выступаў ад іх імя.

Такім чынам, паўстанне 1863–1864 гг. у Беларусі набыло нацыянальна-вызваленчы характар, але, нягледзячы на намеры радыкальнай групы паўстанцаў (з ліку рэвалюцыйна настроенай шляхты), не здолела ператварыцца ў масавы сялянскі рух.



**Мікалай Судзілоўскі** (1850–1930) — урач, вядомы грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў Магілеве. З-за сваіх апазіцыйных поглядаў (прымаў удзел у руху народнікаў) быў вымушаны пакінуць Расійскую імперыю. Недавучыўшыся на медыцынскім факультэце ў Кіеве, дыплом урача, а затым і ступень доктара медыцыны атрымліваў за мяжой (у Румыніі) і адначасова з гэтым займаўся палітыкай. Сустракаўся з К. Марксам, Ф. Энгельсам, удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання ў Балгарыі. Атрымаўшы амерыканскае грамадзянства, перасяліўся спачатку ў Сан-Францыска, дзе працаваў урачом, а затым — на Гаваі.

«Каука Лукіні» — «добры Доктар», як празвалі М. Судзілоўскага мясцовыя жыхары, стаў адным з заснавальнікаў «Партыі незалежных», якая выступіла супраць далучэння Гаваяў да ЗША і ў 1900 г. перамагла на выбарах. У 1901 г. М. Судзілоўскі быў абраны першым прэзідэнтам Сената Гавайскай рэспублікі. Памёр у Тяньцзыне на тэрыторыі Кітая.

У апошняй чвэрці XIX ст. на землях Расійскай імперыі набылі папулярнасць ідэі ***народнікаў***, большасць якіх былі прадстаўнікамі маладой «разначыннай» інтэлігенцыі. Як і К. Каліноўскі, народнікі лічылі сябе абаронцамі інтарэсаў сялян. Яны верылі, што Расія, калі захавае сялянскую абшчыну і пазбавіцца памешчыцкага землеўладання, можа з феадалізму адразу перайсці да сацыялістычнага ладу. Пасля няўдалай агітацыі (т. зв. «хаджэння ў народ») і рэпрэсій з боку ўрада народнікі раскалоліся ў 1879 г. на дзве арганізацыі — *«Чорны перадзел»* і *«Народную волю»*. Апошняя выкарыстоўвала ў барацьбе з царызмам індывідуальны тэрор. 1 сакавіка 1881 г. імператар Аляксандр II быў забіты бомбай, якую кінуў удзельнік «Народнай волі» *Ігнат Грынявіцкі* (ураджэнец Бабруйшчыны). «Народная воля» была разгромлена царскімі ўладамі, а рэшткі радыкальных народнікаў у 1902 г. аб'ядналіся ў *Партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў (**эсэраў**)*.

У Беларусі народніцкі рух быў пашыраны ва ўсходніх губернях, бо каталіцкае насельніцтва яго не падтрымлівала. З 469 беларускіх народнікаў (у 1870–1884 гг.) 140 былі ўраджэнцы ці ўдзельнікі руху ў Магілёўскай губерні.

У 1880-х гг. у Беларусі распаўсюджваецца марксізм. Разгортваюць сваю дзейнасць польская партыя «Пралетарыят» (1882 г.), расійская арганізацыя «Вызваленне працы» (1883 г.). Спецыфічнай рысай Беларусі было суіснаванне ***сацыял-дэмакратычных*** (марксісцкіх) арганізацый, створаных па нацыянальнай прыкмеце (Літоўская сацыял-дэмакратычная партыя, Польская партыя сацыялістычная ў Літве, Усеагульны яўрэйскі рабочы саюз у Расіі і Польшчы (Бунд) і іншыя) **1–3 сакавіка 1898 г.** сацыял-дэмакратычныя арганізацыі Расіі таемна правялі ў Мінску свой першы з'езд, на якім была створана *Расійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя (РСДРП)*.

Шырокія магчымасці для агітацыі з боку розных партый стварыла Першая расійская рэвалюцыя (*1905–1907*). Яе пачатак быў справакаваны падзеямі «Крывавай нядзелі» 9 студзеня 1905 г. у Санкт-Пецярбургу, а галоўнымі прычынамі былі невырашанасць аграрнага пытання, адсутнасць у насельніцтва палітычных і нацыянальных правоў. Важнай падзеяй рэвалюцыі стала Усерасійская палітычная стачка, якая прымусіла Мікалая II выдаць *Маніфест 17 кастрычніка 1905 г.* аб палітычных свабодах. Расійскія сацыялісты заклікалі звергнуць самадзяржаўе і байкатаваць I Дзяржаўную Думу, прынцыпы абрання якой яны лічылі несправядлівымі. Іх лістоўкі распавядалі пра крывавы характар царскага рэжыму, у тым ліку пра расстрэл працоўных у Мінску, які адбыўся на Прывакзальнай плошчы **18 кастрычніка 1905 г.** па загадзе губернатара *П. Курлова*. У гарадах Беларусі ствараліся кааліцыйныя саюзы з партый народніцкага і марксісцкага кірункаў (эсэраў, Польскай партыі сацыялістычнай ў Літве, Усеагульнага яўрэйскага рабочага саюза (*Бунда*), РСДРП, *Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ)* і інш.).

БСГ да агульных патрабаванняў сацыялістаў дадавала лозунг самастойнасці беларускага краю з уласным соймам у Вільні. Падобнае патрабаванне (праўда, без выразнага прызнання асобнасці Беларусі ад Літвы і Польшчы) з 1906 г. неаднаразова гучала таксама ў Дзяржаўнай Думе — у выступах дэпутатаў памешчыцка-клерыкальнага блоку *«аўтанамістаў»*. І хаця пытанне аб поўнай незалежнасці Беларусі яшчэ не ставілася, сама праблема існавання беларусаў як этнасу, іх дзяржаўнае мінулае і будучыня ў пачатку XX ст. ужо з'яўляліся прадметам актыўнай палітычнай палемікі.

Такім чынам, у другой палове XIX – пачатку XX ст. на беларускіх землях у складзе Расійскай імперыі назіраецца прыкметная радыкалізацыя грамадскіх настрояў. У грамадска-палітычным руху значную ролю набывае рэвалюцыйны кірунак, прадстаўнікі якога не прымалі буржуазныя рэформы ўрада, выступалі за радыкальные сацыяльна-эканамічныя пераўтварэнні і за звяржэнне самадзяржаўя. Папулярнасці рэвалюцыйных ідэй сярод насельніцтва садзейнічала невырашанасць у краіне надзённых грамадскіх пытанняў: аграрнага (аб зямлі) і нацыянальнага (аб нацыянальным самавызначэнні).

## 3.4. Лютаўская і Кастрычніцкая рэвалюцыі 1917 г. у Беларусі

У 1917 г. Расійская імперыя апынулася ў стане глыбокага крызісу, выкліканага сацыяльна-эканамічнымі супярэчнасцямі і неэфектыўнасцю дзяржаўнага кіравання. Абвастрэнню ўсіх грамадскіх заган садзейнічала *Першая сусветная вайна*, якая пачалася ў **1914 г.** паміж Антантай (асноўныя краіны — Вялікабрытанія, Францыя і Расія) і Германіяй (яе саюзніцы — Аўстра-Венгрыя, Балгарыя і Турцыя). Паступова ў вайну было ўцягнута 33 дзяржавы, яна набыла сусветны характар. Вайна паказала адсталасць Расійскай імперыі, бо яна саступала Германіі ў падрыхтоўцы войскаў і забеспячэнні іх ваеннай тэхнікай. Расійская армія магла атрымліваць лакальныя перамогі над аўстра-венгерскімі ці турэцкімі войскамі, але не здабыла ніводнай перамогі над германцамі.

Паблізу Беларусі баявыя дзеянні на расійска-германскім фронце пачаліся ва Усходняй Прусіі, дзе ў жніўні 1914 г. была разгромлена армія А. Самсонава. У маі 1915 г. распачаўся нямецка-аўстрыйскі наступ на ўсход, і расійскія войскі пацярпелі шэраг паражэнняў: Расія штомесячна страчвала каля 200 тыс. салдат і афіцэраў (толькі ў палон за 1915 г. трапіла каля 1 млн чалавек). Фронт набліжаўся да Беларусі, і ў жніўні–верасні 1915 г. расійскія войскі пакінулі Брэст, Гродна і іншыя заходнебеларускія гарады. Германская армія правяла наступальную аперацыю, вядомую як «Свянцянскі прарыў», і значнай групоўцы расійскіх войскаў у Беларусі пагражала акружэнне. Але пасля напружаных баёў немцы былі адкінуты да азёр Свір і Нарач. Стаўка Вярхоўнага галоўнакамандуючага ўзброеных сіл Расіі была пераведзена з Баранавіч у Магілёў. У кастрычніку фронт стабілізаваўся па лініі *Дзвінск–Браслаў– Паставы–Смаргонь–Баранавічы–Пінск*. Фронт заставаўся амаль нязменным да лютага 1918 г.: у 1916 г. расійскія войскі ў Беларусі спрабавалі прарваць германскую лінію абароны падчас *Нарачанскай* (сакавік) і *Баранавіцкай* (ліпень) аперацый, але толькі панеслі вялікія страты (каля 80 тыс. чалавек у ходзе кожнай з аперацый). На тэрыторыі Беларусі знаходзілася каля 1 млн нямецкіх і 1,5 млн расійскіх вайскоўцаў.

Пад нямецкай акупацыяй апынулася 25 % тэрыторыі Беларусі, якую пакінулі звыш 1 млн 300 тыс. бежанцаў, што з’ехалі з родных мясцін на ўсход у час адступлення расійскай арміі. На акупаванай тэрыторыі была ўведзена нямецкая адміністрацыя, якая праводзіла палітыку максімальнай эканамічнай эксплуатацыі краю: на карысць Германіі і патрэб яе арміі рабіліся шматлікія рэквізіцыі, была ўведзена сістэма падаткаў, пошлін і штрафаў. Асаблівую ўвагу акупанты звярталі на беларускія лясы: толькі ў Белавежскай пушчы немцы нарыхтавалі драўніны на 12,2 млн марак.

На заходнебеларускіх землях германская палітыка была накіравана на будучае адасабленне гэтага рэгіёна ад Расіі: школьнае навучанне па-руску было забаронена, а дазволена на польскай, беларускай, літоўскай мовах і ідыш. Дзеячы беларускага нацыянальнага руху, што засталіся пад

нямецкай акупацыяй, — браты І. і А. Луцкевічы, А. Пашкевіч, В. Ластоўскі — імкнуліся максімальна выкарыстаць сітуацыю: былі адкрыты настаўніцкія курсы ў Вільні, у 1916 г. Свіслацкая настаўніцкая семінарыя была рэарганізавана ў беларускую, і да пачатку 1918 г. на акупаванай тэрыторыі дзейнічала 50 беларускіх школ. Беларускія дзеячы спачатку марылі аб адраджэнні Вялікага Княства Літоўскага, а ў 1916 г. адстойвалі ідэю стварэння Злучаных Штатаў Беларусі, Літвы, Латвіі і Украіны. Такі Балтыйска-Чарнаморскі саюз у будучым мог супрацьстаяць агрэсіўнай палітыцы Расіі і адноўленай Польшчы, але гэта прапанова не знайшла падтрымкі. Таму В. Ластоўскі ў чэрвені 1917 г. першым сярод беларусаў стаў прапагандаваць ідэю дзяржаўнай цэласнасці Беларусі ў яе этнаграфічных межах.

Між тым у Расійскай імперыі за час працяглай вайны значна пагоршылася эканамічнае становішча і пачаліся перабоі ў забеспячэнні гараджан прадуктамі харчавання. Абвастрыліся сацыяльныя супярэчнасці як у горадзе, так і на вёсцы, а ўлада не была здольная вырашаць наяўныя праблемы. Негатыўныя адносіны да ўрада выклікалі і няўдалыя дзеянні расійскіх войскаў на фронце. Улады як маглі стрымлівалі грамадскі пратэст, але ў **лютым 1917 г.** пачаліся масавыя хваляванні ў сталіцы імперыі — Петраградзе. 23 лютага 1917 г. забастоўка ахапіла 120 тыс. рабочых, і з кожным днём колькасць забастоўшчыкаў павялічвалася. Калі на іх бок пачалі пераходзіць салдаты, стала зразумела, што імператар больш не можа кіраваць краінай, бо насельніцтва яму не падпарадкоўваецца. Таму 2 сакавіка 1917 г. Мікалай II адрокся ад трона, а на абломках самадзяржаўя ўтварыліся два органы, якія прэтэндавалі на ўладу, — Петраградскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў і Часовы ўрад. Гэтыя падзеі ў гістарыяграфіі атрымалі назву *Лютаўскай рэвалюцыі*.

Весткі аб дзяржаўных пераўтварэннях у сталіцы дайшлі да беларускіх губерняў у пачатку сакавіка 1917 г. 4 сакавіка ў Мінску былі абяззброены паліцэйскія і жандары, а з рабочых і салдат утворана міліцыя, якую ўзначаліў бальшавік *М. Фрунзэ*. (РСДРП з 1903 г. была падзелена на дзве групоўкі: бальшавікоў і меншавікоў.) У той жа дзень прадстаўнікі земства і гарадскога самакіравання арганізавалі Часовы грамадскі камітэт парадку. 6 сакавіка быў сфарміраваны Мінскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў, які ўзначаліў меншавік Б. Позерн. Саветы ствараліся ў губернскіх цэнтрах, амаль ва ўсіх павятовых гарадах і салдацкіх гарнізонах. Асаблівасцю Саветаў у Беларусі было тое, што ў іх дамінуючае становішча займалі салдаты. Існаванне органаў улады, падпарадкаваных Часоваму ўраду, і Саветаў адлюстроўвала ў Беларусі агульнарасійскую сітуацыю ***двоеўладдзя***.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі значныя змены адбыліся ў палітычнай сферы, бо былі легалізаваны раней забароненыя партыі. Сярод насельніцтва беларускіх губерняў найбольш уплывовымі былі агульнарасійскія партыі сацыялістычнага кірунку. Напрыклад, выбары

ў мясцовыя органы самакіравання ў ліпені–жніўні 1917 г. паказалі, што меншавікі і прадстаўнікі Бунда папулярныя сярод жыхароў гарадоў і мястэчак, а эсэры — сярод сялян. Паступова павялічвала свой уплыў РСДРП(б), асабліва сярод салдат Заходняга фронту.

Пасля краху Расійскай імперыі было актуалізавана нацыянальнае пытанне, пачаўся працэс аўтанамізацыі — рух за самакіраванне (з перспектывай аддзялення) рэгіёнаў, у першую чаргу населеных этнічнымі меншасцямі. У Беларусі гэты рух не быў такім масавым, як ва Украіне, на Каўказе ці ў Прыбалтыцы: большасць арганізацый, у назве якіх прысутнічала слова «беларуская», не выходзілі за межы заходнерусізму. Ідэю аўтаноміі Беларусі паслядоўна адстойвала БСГ і некалькі блізкіх да яе дробных арганізацый. Значныя аддзелы БСГ знаходзіліся ў асяроддзі бежанцаў за межамі Беларусі, у той час як у беларускіх гарадах яна была не вельмі папулярная. Напрыклад, у Петраградзе БСГ налічвала 1 тыс. чалавек, а ў Мінску і Бабруйску — толькі па 300 чалавек.

25–27 сакавіка 1917 г. у Мінску адбыўся з’езд беларускіх нацыянальных арганізацый. На ім быў утвораны Беларускі нацыянальны камітэт, на змену якому ў ліпені прыйшла Цэнтральная рада беларускіх арганізацый (з кастрычніка — *Вялікая беларуская рада* (ВБР)). Большасць членаў Рады складалі прадстаўнікі БСГ. Нягледзячы на паступовы рост беларускай нацыянальнай свядомасці, усе беларускія арганізацыі і партыі ўлетку 1917 г. налічвалі каля 25 тыс. чалавек, бо насельніцтва ішло за партыямі агульнарасійскімі. Забягаючы наперад, адзначым, што на выбарах ва Усерасійскі устаноўчы сход 25 лістапада 1917 г. (ужо пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі) з 56 дэпутатаў ад Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай акруг і Заходняга фронту было абрана: 30 бальшавікоў, 22 эсэры, 4 прадстаўнікі іншых арганізацый. За прадстаўнікоў усіх беларускіх арганізацый прагаласавала меней чым 0,3 %. Сяляне, на якіх спадзявалася БСГ, абіралі эсэраў. Гэта сведчыць пра тое, што найперш сялян цікавіла пытанне перадзелу зямлі, а не праблема нацыянальнага самавызначэння.

Даследчыкі згаджаюцца з тым, што значны ўплыў на палітычнае становішча ў Беларусі аказвала расійскае войска: у ім праходзілі службу збольшага людзі, не звязаныя з гэтай зямлёй і не зацікаўленыя ў яе самастойным развіцці. Калі б не прысутнасць войскаў, выяўленне нацыянальных памкненняў беларусаў было б куды больш актыўным. Але ў населеных пунктах Беларусі знаходзіліся шматлікія арганізацыі, складзеныя цалкам ці часткова з салдат, якія навязвалі сваю волю і кантралявалі жыццё. Нярэдка дэмаралізаваныя вайскоўцы займаліся рабаўніцтвам, і насельніцтва спадзявалася на ўсталяванне хоць якога-небудзь парадку. У канцы жніўня 1917 г. спробу захапіць уладу і спыніць набліжэнне анархіі ў Расіі зрабіў галоўнакамандуючы расійскімі войскамі Л. Карнілаў. Але супраць пагрозы ваеннай дыктатуры выступілі як Саветы, так і Часовы ўрад. У выніку да Петраграда не дайшла ніводная

з накіраваных Л. Карнілавым вайсковых часцей. Пасля падаўлення карнілаўскага мяцяжу ў Саветах узрасла роля бальшавікоў, і стала зразумелым, што яны ў хуткім часе прыйдуць да ўлады.

У ноч на **25 кастрычніка (7 лістапада) 1917 г.** у Петраградзе адбылося паўстанне, пасля якога ўлада перайшла да бальшавіцкага Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта (ВРК) Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Гэты камітэт увечары 26 кастрычніка арганізаваў II з'езд Саветаў, на якім былі прыняты Дэкрэт аб міры (дэклараваўся выхад Расіі з вайны), Дэкрэт аб зямлі (прыватная ўласнасць забаранялася, панскія землі канфіскоўваліся і бязвыплатна перадаваліся сялянам). На II з'ездзе Саветаў замест Часовага ўрада быў створаны ўрад бальшавікоў — Савет Народных Камісараў (СНК) на чале з Леніным. Гэтыя падзеі ўвайшлі ў гістарыяграфію як *Кастрычніцкая рэвалюцыя*.

У Мінску 26 кастрычніка бальшавікі ўтварылі Ваенна-рэвалюцыйны камітэт (ВРК) Заходняга фронту (пад кіраўніцтвам К. Ландара), які абвясціў сябе ўладай. Але супраць манапалізацыі ўлады бальшавікамі выступілі астатнія расійскія партыі — эсэры, Бунд, меншавікі. 25–27 кастрычніка 1917 г. яны ўтварылі *Камітэт выратавання рэвалюцыі Заходняга фронту* на чале з Т. Калатухіным. Паміж Камітэтам і Мінскім Саветам усталявалася раўнавага. Але ў ноч на 2 лістапада ў Мінск прыбыў бронецягнік і армейскія часткі з Заходняга фронту, якія падтрымалі бальшавікоў, і Мінскі Савет атрымаў поўны кантроль над горадам. Да сярэдзіны лістапада бальшавіцкая ўлада ўсталявалася на ўсёй неакупаванай тэрыторыі Беларусі. 19 лістапада новую ўладу прызнаў Магілёўскі Савет, нягледзячы на тое што кіраўнікі Стаўкі Вярхоўнага галоўнакамандуючага былі настроены контррэвалюцыйна. 20 лістапада пасаду галоўнакамандуючага заняў бальшавік М. Крыленка, а яго папярэднік — генерал М. Духонін — быў забіты раз'юшанымі матросамі на магілёўскім вакзале.

З 18 па 25 лістапада бальшавікі правялі ў Мінску тры з'езды: рабочых і салдат, сялян, франтавы. Яны выказаліся за неабходнасць усталявання савецкай улады. З 26 лістапада стаў дзейнічаць Абласны выканаўчы камітэт Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту *(Аблвыканкамзах)*, у складзе якога не было ніводнага прадстаўніка беларускага руху. Старшынёй Аблвыканкамзаха стаў М. Рагазінскі, а потым — *А. Мяснікоў*. Для «каардынацыі дзеянняў камісараў і рашэння асабліва важных пытанняў» быў створаны СНК Заходняй вобласці і фронту, які ўзначаліў *К. Ландар*. Новыя ўлады ўвялі цэнзуру, нацыяналізавалі банкі, усталявалі рабочы кантроль на прадпрыемствах. На вёсцы адбываліся канфіскацыі памешчыцкіх зямель, якія перадаваліся ў распараджэнне сялянскіх саветаў, утвараліся першыя саўгасы, камуны. Тым не менш, з-за таго што Беларусь працягвала быць тэатрам баявых дзеянняў, захады бальшавікоў па ўсталяванні сацыялізму тут рэалізоўваліся толькі часткова і не на ўсёй тэрыторыі краіны.

Такім чынам, у 1917 г. адбыўся крах Расійскай імперыі. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі да ўлады прыйшла крайне радыкальная партыя бальшавікоў, якая заявіла аб хуткім выхадзе Расіі з вайны і абвясціла рашэнне аграрнага пытання шляхам ураўняльнага пераразмеркавання зямлі паміж сялянамі. Ва ўмовах недзеяздольнасці цэнтральных органаў улады ў нацыянальных ускраінах ўзраслі сепаратысцкія настроі. Беларусь была раз’яднаная лініяй фронту, але і ў заходняй, і ва ўсходняй яе частках дзейнічалі партыі і арганізацыі, якія адстойвалі нацыянальныя інтарэсы беларускага народа. І калі ў рэвалюцыйнай частцы Беларусі гэтыя арганізацыі гаварылі аб аўтаноміі краю ў складзе Расійскай рэспублікі, то на захадзе ўжо зарадзілася ідэя аб дзяржаўнай незалежнасці Беларусі.

## Кантрольныя пытанні

1. Пералічыце галоўныя рысы сацыяльна-эканамічнага і палітычнага развіцця беларускіх зямель у XIX – пачатку XX ст.

2. Якім чынам змянялася палітыка царызму ў адносінах да шляхты? Чым гэта было выклікана?

3. Ці можна сцвярджаць, што царскі ўрад у XIX – пачатку XX ст. праводзіў аграрныя рэформы выключна ў інтарэсах памешчыкаў?

4. Якія асаблівасці адмены прыгоннага права ў Беларусі вам вядомы?

5. Якія буржуазныя рэформы праводзіліся ў Расійскай імперыі ў 1860–1870-я гг.? У чым былі асаблівасці іх правядзення ў Беларусі?

6. Якія вы ведаеце бітвы вайны 1812 г. на тэрыторыі Беларусі? Ахарактарызуйце адносіны жыхароў Беларусі да варагуючых бакоў у гэтай вайне.

7. Пералічыце асноўныя мерапрыемствы расійскага ўрада па русіфікацыі Беларусі ў XIX ст.

8. Ахарактарызуйце дзейнасць К. Каліноўскага і палітыку віленскага генерал-губернатара М. Мураўёва ў 1863–1864 гг. Як вы мяркуеце, каго з гэтых дзеячаў у большай ступені можна лічыць выразнікам інтарэсаў беларускага народа? Аргументуйце ваш адказ.

9. Дзейнасць якіх вядомых людзей і арганізацый стала праявай узнікнення і развіцця беларускага нацыянальнага руху?

10. Якія расійскія партыі сацыялістычнага кірунку вы ведаеце?

11. Які ўплыў аказалі падзеі Першай сусветнай вайны на разгортванне рэвалюцыйнага руху ў Беларусі ў 1917 г.?

## Практычныя заданні

### Заданне 1. Успаміны расійскага чыноўніка Г. Дабрыніна аб падзеях 1812 г. у Віцебску.

На працягу 6 ці 7 дзён мы бачылі з лесу ды кустоўя, як атрады арміі рассыпаліся і рабавалі кожнадзённа ўсё тое, што маглі знайсці ў панскіх і сялянскіх хатах, і разаралі з мужнасцю і адвагай усё тое, што з імі ніколі не змагалася.

Падобныя героі напалі на вёску віцебскага памешчыка Лукомскага, уварваліся ў ягоны дом, пачалі ламаць, разбіваць, рабаваць, схапілі і яго самога. Юны сын кінуўся абараняць няшчаснага бацьку, бацька схапіў сына ў абдымкі, але выпусціў ужо застрэленага […].

Сам князь N размяшчаўся ў Віцебску ў доме доктара Сварацкага, абнадзейваў няшчасных на польскай мове такімі словамі: «Вы будзеце зглелыя, вы будзеце бедныя, але будзеце мець сваю айчыну». Да гэтага выратавальнага заспакаення належала б дадаць: вы згінеце ад голаду, будзеце расстраляны, але будзеце мець сваю айчыну […].

Па ўсіх вуліцах, якімі я праходзіў, бачыў набітыя французамі дамы, і кожны дом, сараі, павеці, амбары напоўнены былі імі ж. Нікога з цывільных на вуліцах не было бачна, акрамя жабракоў і яўрэяў. Лаўкі і вінныя склепы пустыя; дзверы паўсюдна адчынены, разламаны, шкляныя вокны разбіты, аканіцы расколаты, некаторыя вісяць на адным гучку па дыяганалі на акне. Цэрквы, касцёлы, кляштары запоўнены хворымі, параненымі і рознымі прыналежнасцямі для іх і для коней. І Віцебск падаўся мне зусім не тым, у якім я жыў і служыў 15 гадоў. *(Истинное повествование, или Жизнь Гавриила Добрынина им самим писанная в Могилеве и в Витебске. 1752–1823. СПб., 1872. С. 343, 345)*

1. Як змяніўся знешні выгляд Віцебска ў 1812 г. у адрозненне ад даваеннага перыяду?

2. Салдаты напалеонаўскай арміі рабавалі ўсіх ці нейкую асобную катэгорыю жыхароў? Якое азначэнне трэба даць гэтым салдатам?

3. Якім чынам князь N апраўдвае рабаўніцтва?

**Заданне 2. Успаміны І. Захар’іна, які прыехаў з Санкт-Пецярбурга ў Вільню ў чэрвені 1864 г.**

Па прыездзе ў Вільню я пасяліўся на Нямецкай вуліцы ў недарагім гатэлі, які трымаў паляк. Навокал гучала нярускaя гаворка, у якой панаваў польскі і яўрэйскі жаргон […]. Горад быў зусім не падобны на нашыя рускія гарады: вузкія вуліцы, высокія дамы, крытыя чарапіцай, і мноства шыкоўнай цяністай зелені і высокіх, стромкіх пірамідальных таполяў […]. Вулічны люд таксама зусім іншы: паголеныя галовы з доўгімі вусамі, яўрэйскія тыповыя твары з доўгімі пейсамі, раз-пораз чамаркі і кунтушы, на жанчынах — жалоба. Хоць гэтая жалоба і была забаронена Мураўёвым, але хітрамудрыя полькі па-майстэрску абыходзілі гэтую забарону: пры глыбокім жалобным адзенні павязвалася якая-небудзь каляровая стужка на шыю, і загад быў выкананы: дама была ўжо не ў жалобе…

Мне неабходна было знайсці для ўручэння ліста «з Расіі» — як гаварылі ўжо ў Вільні — аднаго губернскага чыноўніка; і вось, пахадзіўшы ўдосталь па Вільні і налюбаваўшыся ёю, я падышоў да першага паліцэйскага салдата на варце і спытаўся ў яго: як мне бліжэй прайсці на тую вуліцу, на якой жыў мой знаёмы? Ён стаў тлумачыць мне: ідзіце прама, а потым па такой вуліцы, потым па такой, прайдзіце праз плошчу, «на якой заўсёды палякаў вешаюць», і павярніце налева ... У мяне проста ажно дрыжыкі па скуры, калі ён вымавіў гэтую фразу — «плошча, на якой заўсёды палякаў

вешаюць» ... І так спакойна сказаў ён гэтыя словы, як быццам гаворка ішла аб плошчы, на якой заўсёды гандлююць яблыкамі!..

[...] Раптам мая ўвага была адцягнута іншай з'явай: з-пад аркі ўніз поўным намётам ляцела вытанчаная карэта, акружаная канвоем у шэсць казакоў, з афіцэрам наперадзе — усё гэта імчалася пад гару, страшэнна стукаючы па бруку коламі і конскімі капытамі; мужчыны, якія ішлі па ходніках, палахліва шугаліся ў бакі і хутка здымалі з галоў шапкі, а ваенныя спыняліся і рабілі «фронт». Калі карэта параўнялася са мною, я ўбачыў у глыбіні яе тоўстага генерала з сівымі невялікімі вусамі; я адразу ж па партрэтах пазнаў яго — гэта быў Мураўёў, поўнаўладны дыктатар Літвы, Беларусі, Жмудзі і часткі Царства Польскага, з безапеляцыйнымі паўнамоцтвамі і правамі на жыццё і смерць цэлых шасці мільёнаў жыхароў даручанага яму краю!.. Гэта ён так праязджаў па Вільні, каб пазбегнуць замахаў на яго жыццё, да якога, сапраўды, так жадалі дабрацца польскія жандары-вешальнікі. Не трэба, зрэшты, было чытаць пра гэта ў тагачасных «Маскоўскіх Ведамасцях», а варта было толькі прыгледзецца да тых маланкавых поглядаў, поўных бясконцай злосці і нянавісці, якімі праводзілі карэту Мураўёва ўсе гэтыя людзі, якія праходзілі і маліліся, належачы, безумоўна, да польскай нацыянальнасці. *(Захарьин И. Тени прошлого. СПб., 1885. С. 205–207. Пераклад Н. Кучмель)*

1. Што перашкаджала І. Захар'іну лічыць Вільню арганічнай часткай Расіі, тыповым рускім губернскім горадам?

2. Якія прыкметы мінулага паўстання заўважае Захар'ін?

3. Як адносяцца мясцовыя жыхары да расійскай улады? Ці можна сцвярджаць, што віленчукі лічаць расійскую ўладу «сваёй»?

**Заданне 3. Успаміны ксяндза Сенчыкоўскага аб зачыненні касцёла ў Юравічах 27 лістапада 1864 г.**

У Юравічах я сустрэў роту салдат, якія на працягу чатырох гадзін рубілі ў касцёле алтары, статуі 12 апосталаў і арган, які каштаваў 6 тыс. руб. Гэта ўзрушыла мяне да глыбіні душы… Рота салдат была пад камандваннем ваеннага начальніка павета маёра Стэфановіча, ярага фанатыка-паляка. Але для таго каб паказаць сваю адданасць Расіі, ён загадаў рубіць алтары.

…Пасля такога вандалізму і богазневажання ў прысутнасці маёй і каталікоў Стэфановіч звярнуўся да каталікоў са словамі: «Глядзіце, Ваш касцёл ужо праваслаўны, «матка Боска» (цудатворная ікона Божай Маці) ужо прыняла праваслаўе. Таму і вы прымайце праваслаўе, а ўрад кожнаму прыняўшаму праваслаўе дасць узнагароду — па 30 руб.» Але тут выйшаў наперад 80-гадовы старац, пакланіўся і сказаў: «Не хочам мяняць лепшую веру на горшую». — «Як на горшую?» — крыкнуў маёр Стэфановіч. Старац, ніколькі не збянтэжыўшыся, адказаў: «А як жа, пане, не горшая, калі вы нават да нашай веры яшчэ 30 руб. даяце! Я, калі мяняю каня, дык заўсёды даю ўпрыдачу, калі мой конь горшы. І так усе робяць». *(Канфесіі на Беларусі (к. XVIII – XX ст.). Мінск, 1998. С. 66)*

**Урывак з публіцыстычнага твора М. Каяловіча, дзе ён адказвае паляку, які скардзіцца на абмежаванні свабоды сумлення ў Расіі**

— Як абмежаваны вы? — запярэчыў я. — Ды вы больш у гэтым вольныя, чым мы, рускія. Вы можаце свабодна заставацца ў лацінстве, можаце свабодна прыняць праваслаўе, можаце нават прыняць пратэстанцтва, калі забярэцеся ў нашы балтыйскія вобласці; а мы рускія, як вы ведаеце, не маем такой свабоды: значыць, можна думаць, што вы клапоціцеся аб нас, хочаце, каб мы мелі свабоду прымаць лацінства? У такім выпадку дайце нам самім вырашыць гэтую справу і спачатку даведайцеся, ці пажадаем мы самі вашай свабоды сумлення. *(Коялович М. На этнографической границе белорусского и малороссийского племени. СПб., 1887. С. 10. Пераклад Н. Кучмель)*

1. Ці была аддзелена царква ад дзяржавы ў Расійскай імперыі ў XIX ст.?

2. Якімі сродкамі пераводзілі каталікоў Юравіч у праваслаўе? Вы згодны з ксяндзом Сенчыкоўскім, які падзеі 27 лістапада 1864 г. у Юравічах называе актам вандалізму?

3. Ці можна пагадзіцца з М. Каяловічам, які сцвярджаў, што ў пытанні веравызнання палякі больш свабодныя за рускіх? Ці, можа, якойсьці канфесіі ў Расіі надавалася перавага?

**Заданне 4. Са справаздачы віцебскага губернатара, у якой вядзецца гаворка пра сялянскі перасяленчы рух у губерні ў 1894–1897 гг.**

[…] увесну гэтага 1897 г. больш за 50 000 асоб падалі заявы аб жаданні пасяліцца на вольных казённых землях у Сібіры. Рэгуляваць такі рух было б крайне цяжка, але, на шчасце, да гэтага часу паўсюдна ўжо быў разасланы і прыняты да выканання цыркуляр міністра ўнутраных спраў ад 20 студзеня гэтага года, які ўсталяваў зусім новы парадак для перасялення і які патрабаваў папярэдняй адпраўкі хадакоў ад кожнай сям'і, жадаючай перасяліцца. Пасля выдачы пасведчанняў хадакам ад сем'яў перасяленчы рух упарадкаваўся і прыняў адразу спакойны характар. Вандроўка ў Сібір людзей, асабіста зацікаўленых у выбары адпаведнага месца для жыцця сям'і, выцвярэжальна паўплывала на масы. Ілюзіі аб новым краі, якія ўзніклі ад перавялічаных аповедаў розных пройдзісветаў, распаліся. Якасць зямлі, побытавыя і кліматычныя ўмовы былі належна ацэнены, і агромністая колькасць хадакоў, расчараваных Сібір'ю, павярнулася дахаты і аднавіла сваю былую працу, пакінуўшы думкі аб разаральным перасяленні ў далёкую Сібір. Зараз рух гэты можна лічыць зусім скончаным, і ў гэтым нельга не бачыць вялікага дабра для губерні, бо гэты значны па памерах рух прывабліваў галоўным чынам карэннае насельніцтва — беларусаў, а католікі, літоўцы і латышы на перасяленне запісваліся мала, што для Віцебскай губерні бачылася з'явай сумнай і ненармалёвай. *(Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Мінск, 1940. С. 816)*

**Меркаванне гарадзенскай камісіі па землеўпарадкаванні аб сялянскім перасяленні ў Сібір (чэрвень 1907 г.).**

[…] наагул перасяленне прыкметна зменшылася, бо сяляне паводле заявы Земскіх кіраўнікоў неахвотна ідуць туды. Гэтую заяву пацвердзілі сяляне, прычым яны паказалі, што ў папярэднія гады шмат сялян ішло ў Томскую губерню, дзе іх багата і засталося, але хто вярнуўся, расказаў, што клімат там суворы, трымаць гаспадарку непараўнальна цяжэй, чым у Гарадзенскай губерні, і ўмовы побыту зусім іншыя, чым на радзіме. Тыя, што вярнуліся, казалі, што лепей мець трохі зямлі дома, чым жыць у гэтакіх цяжкіх умовах у Сібіры. *(Токць С. Беларуская вёска ў эпоху зьменаў. Другая палова XIX – першая траціна XX ст. Мінск, 2007. С. 55–56)*

1. Параўнайце прыведзеныя дакументы, якія складзены з розніцай у дзесяць гадоў. Назавіце прычыны адмовы беларускіх сялян ад перасялення?

2. Чаму віцебскі губернатар ацэньвае станоўча спыненне перасяленчага руху ў яго губерні?

3. Як вы лічыце, ці мог гродзенскі губернатар у 1907 г. станоўча ацэньваць спыненне перасяленчага руху?

## Тэсты для самакантролю

**1. Вызначце правільную паслядоўнасць:**

а) стварэнне Княства Варшаўскага;

б) пераправа французскіх войскаў праз Нёман;

в) стварэнне «Праекта палажэння аб кіраванні аўтаномным Вялікім Княствам Літоўскім»;

г) стварэнне Часовага ўрада Вялікага Княства Літоўскага.

**2. Суаднясіце слупкі табліцы.**

| | |
|---|---|
| а) Дзейнасць таемных таварыстваў у Віленскім універсітэце | а) Адам Чартарыскі |
| б) Паўстанне 1830–1831 гг. | б) Францішак Багушэвіч |
| в) Паўстанне 1863–1864 гг. | в) Хаім Ратнер |
| г) Выданне часопіса «Гоман» | г) Адам Міцкевіч |

**3. Віленскі ўніверсітэт быў зачынены праз год:**

а) пасля закачэння вайны 1812 г.;

б) пасля раскрыцця царскімі ўладамі дзейнасці філаматаў і філарэтаў, у 1824 г.;

в) пасля падаўлення шляхецкага паўстання 1830–1831 гг.;

г) пасля стварэння Горы-Горацкай земляробчай школы, у 1841 г.

**4. Каб прадухіліць шырокі ўдзел сялян у паўстанні 1863–1864 гг., царскі ўрад на тэрыторыі Беларусі:**

а) часова ўзнавіў прыгоннае права;

б) змякчыў умовы адмены прыгоннага права;

в) адмяніў выкупныя плацяжы;

г) павялічыў уладу памешчыкаў над сялянамі.

**5. Першыя суконныя фабрыкі ў Беларусі былі пабудаваны:**

а) ва Урэччы і Нясвіжы;

б) у Нясвіжы і Быхаве;

в) у Гродне і Шарашове;

г) у Хомску і Косава.

**6. Праблему малазямелля ў беларускай вёсцы царскі ўрад у часы сталыпінскай аграрнай рэформы спрабаваў вырашыць шляхам:**

а) ліквідацыі памешчыцкага землеўладання;

б) перасялення часткі сялян у Сібір і іншыя аддаленыя рэгіёны;

в) нацыяналізацыі зямлі;

г) аб'яднання сялянскіх надзелаў у абшчыне.

**7. Калі пачалася земская рэформа ў Беларусі:**

а) 1864; б) 1875; в) 1892; г) 1911?

**8. Кім з'яўляўся А. Мяснікоў:**

а) адным з кіраўнікоў Аблвыканкамзаха;

б) адным са стваральнікаў першай беларускай нацыянальнай партыі?

**9. Вызначце правільную паслядоўнасць падзей першай расійскай рэвалюцыі 1905–1907 гг.:**

а) роспуск II Дзяржаўнай Думы;

б) Усерасійская палітычная стачка;

в) «Крывавая нядзеля»;

г) выданне Маніфеста 17 кастрычніка.

**10. Якая расійская партыя ў 1917 г. выступала з лозунгам ператварэння імперыялістычнай вайны ў грамадзянскую:**

а) ПСР (эсэры);

б) РСДРП(б);

в) Бунд;

г) БСГ?

**11. Дапоўніце інфармацыю:**

а) У 1811 г. «Праект Палажэння аб кіраванні аўтаномным Вялікім Княствам Літоўскім» падрыхтаваў (толькі прозвішча): …

б) Сярод заснавальнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады былі браты Іван і Антон … .

**Адказы**: 1 — а, в, б, г; 2 — а4, б1, в2, г3; 3 — в; 4 — б; 5 — г; 6 — б; 7 — г; 8 — а; 9 — в, б, г, а; 10 — б; 11 — а) Агінскі; б) Луцкевічы.

## ЛІТАРАТУРА

### *Асноўная*

1. *Гісторыя* Беларусі : дапам. для паступаючых у вышэйшыя навучальныя ўстановы / А. Л. Абецэдарская [і інш.] ; пад рэд. Ю. Л. Казакова [і інш.]. Мінск : Экаперспектыва, 1998. 496 с.

2. *Гісторыя* Беларусі : курс лекцый : у 2 ч. / Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт ім. Я. Купалы, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Мінск : РІВШ, 2000–2002. Ч. 2. : XIX–XX стагоддзі / П. І. Брыгадзін [і інш.]. 2002. 655 с.

3. *Гісторыя* Беларусі : у 6 т. / рэдкал. : М. Касцюк (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск : Экаперспектыва, 2000 – 2005. Т. 4 : Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII–пачатак XX ст.) / М. Біч [і інш.]. 2005. 518 с.

4. *Лукашэвіч, А. М.* Беларусь напярэдадні і ў час вайны 1812 г. : вучэб.-метад. комплекс / А. М. Лукашэвіч. Мінск : БДУ, 2004. 290 с.

***Дадатковая***

5. *Біч, М.* Паўстанне 1863–1864 гг. Кастусь Каліноўскі / М. Біч // Гістарычны Альманах. Гародня, 2002. Т. 6. С. 23–38.

6. *Бич, М. О.* Рабочее движение в Белоруссии в 1861–1904 гг./ М. О. Бич. Минск : Наука и техника, 1983. 280 с.

7. *Бригадин, П. И.* Минские губернаторы : история власти / П. И. Бригадин, А. М. Лукашевич. Минск : Гос. ин-т упр. и соц. технологий БГУ, 2009. 351 с.

8. *Бригадин, П. И.* Эсеры в Беларуси (конец XIX в.–февр. 1917 г.) / П. И. Бригадин. Минск : Згода, 1994. 152 с.

9. *Гарбачова, В. В.* Паўстанне 1830–1831 гадоў на Беларусі / В. В. Гарбачова. Мінск : БДУ, 2001. 184 с.

10. *Кісялёў, Г.* Паплечнік Каліноўскага : [пра жыццёвы і рэвалюцыйны шлях Валерыя Урублеўскага] / Г. Кісялёў. Мінск : Нар. асвета, 1976. 79 с.

11. *Липинский, Л. П.* Столыпинская аграрная реформа в Белоруссии / Л. П. Липинский. Минск : БГУ, 1978. 223 с.

12. *Луговцова, С. Л.* Политика российского самодержавия по отношению к дворянству Белоруссии в конце XVIII – первой половине XIX вв. / С. Л. Луговцова. Минск : БГПУ, 1997. 79 с.

13. *Мальдзіс, А.* Падарожжа ў XIX стагоддзе : з гісторыі беларускай літаратуры, мастацтва і культуры: навукова-папулярныя нарысы / А. Мальдзіс. Мінск : Народная асвета, 1969. 204 с.

14. *Самбук, С. М.* Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX века / С. М. Самбук ; редактор В. П. Панютич ; Академия наук БССР, Институт истории. Минск : Наука и техника, 1980. 221 с.

15. *Смирнов, А. Ф.* Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии / А. Ф. Смирнов. Москва : АН СССР, 1963. 392 с.

16. *Сосна, У. А.* Фарміраванне саслоўна-групавога складу сялянства Беларусі ў канцы XVIII–першай палове XIX ст. / У. А. Сосна. Мінск : БДУ, 2000. 115 с.

17. *Швед, В. В.* Паміж Польшчай і Расіяй : Грамадска-палітычнае жыццё на землях Беларусі (1772–1863) / В. В. Швед, навук. рэд. П. І. Брыгадзін. Гродна : ГрДУ, 2001. 416 с.

18. *Шыбека, З.* Нарыс гісторыі Беларусі (1795–2002) / З. Шыбека. Мінск : Энцыклапедыкс, 2003. 490 с.

19. *Шыбека, З. В.* Минск сто гадоў таму / З. В. Шыбека. Мінск : Беларусь, 2007. 303 с.

20. *Цьвікевіч, А.* «Западно-руссизм». Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі у XIX і пачатку XX в. / А. Цьвікевіч. Пасьляслоўе А. Ліса. 2-е выд. Мінск : Навука і тэхніка, 1993. 352 с.

# РАЗДЗЕЛ II
# СТАНАЎЛЕННЕ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ І ЎМАЦАВАННЕ ЯЕ СУВЕРЭНІТЭТУ Ў ХХ – ПАЧАТКУ ХХІ СТ.

## ТЭМА 4. САВЕЦКАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ СІСТЭМА Ў БЕЛАРУСІ (КАСТРЫЧНІК 1917 – ЧЭРВЕНЬ 1941 Г.)

4.1. Першы Усебеларускі з'езд 1917 г. Абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі.

4.2. Стварэнне беларускай савецкай дзяржаўнасці (снежань 1918–сакавік 1921 г.).

4.3. Савецкая грамадска-палітычная сістэма ў БССР. Палітычныя рэпрэсіі 1920–1930-х гг.

4.4. Асаблівасці нэпа, індустрыялізацыя і калектывізацыя ў Савецкай Беларусі.

4.5. Станаўленне беларускай савецкай культуры ў 20–30-я гг. ХХ ст.

**Агульны час заняткаў**: 2 гадзіны.

**Мэта семінара:** ахарактарызаваць працэсы стварэння беларускай дзяржавы і развіццё Савецкай Беларусі ў перыяд паміж сусветнымі войнамі.

**Задачы:**

– набыць веды аб грамадска-палітычных працэсах падчас стварэння беларускай дзяржавы;

– вывучыць асаблівасці грамадска-палітычнага і эканамічнага развіцця БССР у 20–30-я гг. ХХ ст.;

– замацаваць веды аб працэсах развіцця беларускай савецкай культуры ў міжваенны перыяд.

**Патрабаванні да зыходнага ўзроўню ведаў.** Дзеля засваення тэмы неабходна ведаць працэс станаўлення беларускага нацыянальнага руху ў пачатку ХХ ст., асаблівасці Першай сусветнай вайны, Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый на беларускіх землях, разумець значэнне ідэі ўласнай дзяржаўнасці для тагачасных жыхароў Беларусі.

**Паняцці і тэрміны, якія неабходна засвоіць:** устаўныя граматы БНР, Літоўска-Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка (ЛітБелССР), узбуйненні БССР, «ворагі народа», новая эканамічная палітыка (нэп), індустрыялізацыя, калектывізацыя, «раскулачванне», безальтэрнатыўныя выбары, палітыка «беларусізацыі».

### 4.1. Першы Усебеларускі з'езд 1917 г. Абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі

Пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі на беларускіх землях нацыянальна-дэмакратычныя структуры актывізавалі сваю дзейнасць. *ВБР* палічыла бальшавіцкі пераварот праявай паглыблення няўстойлівасці палітычнай сітуацыі ў Расіі: яна прызнала новы ўрад у Петраградзе, але

адмовілася прызнаць легальнай палітычнай уладай існуючы ў Мінску *Аблвыканкамзах*. Дзеля ўпарадкавання спраў у краіне Рада вырашыла склікаць 5 снежня *Усебеларускі з'езд*, які павінен быў акрэсліць парадак у аўтаномнай Беларусі. Справа дзяржаўнай незалежнасці на той час не абмяркоўвалася ніводнай сур'ёзнай беларускай палітычнай сілай. Адначасова ўрад Савецкай Расіі даручыў *Беларускаму абласному камітэту (БАК)* таксама правесці Усебеларускі з'езд з аналагічнай мэтай, на гэта мерапрыемства былі выдаткаваны грашовыя сродкі. БАК быў створаны пры Усерасійскім савеце сялянскіх дэпутатаў з дэлегатаў Устаноўчага сходу, прадстаўнікоў арміі і фронту. Па палітычнай афарбоўцы гэта была больш леваэсэраўская арганізацыя. БАК быў лаяльна настроены да савецкай улады, але не лічыў Аблвыканкамзах усебеларускім органам улады. У БАК і ВБР меліся разыходжанні па некаторых пытаннях правядзення з'езда, але яны вымушаны былі аб'яднаць свае дзеянні.

Кіраўнікі Аблвыканкамзаха і іншых савецкіх органаў улады займалі рэзка негатыўную пазіцыю па пытанні нацыянальнага самавызначэння Беларусі. Яны не былі беларусамі па паходжанні, у Беларусі апынуліся дзякуючы ваенным абставінам, мясцовай нацыянальнай спецыфікі не ведалі, а дзейнічалі зыходзячы з пазіцый тэорыі заходнерусізму.

Дэлегаты Усебеларускага з'езда з 5 снежня 1917 г. праводзілі падрыхтоўчую працу ў камісіях, пакуль усе ўдзельнікі не сабраліся. Усяго на з'езд прыехала 1872 дэлегаты, 1167 з якіх мелі права вырашальнага голасу. Найбольшыя фракцыі складалі партыя эсэраў і БСГ. Усебеларускі з'езд пачаў сваю працу **14 снежня 1917 г.** На пасяджэнні 17 снежня ў выніку дыскусій паміж «абласнікамі», якія выступалі за Беларусь у складзе федэратыўнай Расіі, «радаўцамі», што выказваліся за поўную незалежнасць Беларусі, і левымі, якія падтрымлівалі бальшавікоў, была выпрацавана пастанова з'езда. Згодна з ёй з'езд абвясціў сябе вышэйшай уладай у Беларусі, Усебеларускі Савет сялянскіх, рабочых і салдацкіх дэпутатаў — органам часовай выканаўчай улады і устанавіў рэспубліканскі лад.

СНК Заходняй вобласці і фронту ўважліва сачыў за правядзеннем з'езда, таму, калі стала вядома, што яго дэлегаты імкнуцца стварыць альтэрнатыўныя Аблвыканкамзаху нацыянальныя органы ўлады і заклікаюць да рэспубліканска-дэмакратычнай формы кіравання, СНК у ноч на *18 снежня 1917 г.* разагнаў з'езд і арыштаваў найбольш актыўных яго ўдзельнікаў. Арганізатары з'езда, якіх пакінулі на свабодзе, стварылі праз месяц Выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага з'езда (старшыня — Т. Грыб), які і павінен быў узначаліць барацьбу за адраджэнне беларускай дзяржаўнасці.

Аблвыканкамзаху прыйшлося сутыкнуцца і з іншымі рэальнымі пагрозамі сваёй уладзе. У студзені–лютым 1918 г. пачаў ваенныя дзеянні 1-шы польскі корпус пад кіраўніцтвам Ю. Доўбар-Мусніцкага, які быў

сфарміраваны яшчэ ў ліпені 1917 г. на тэрыторыі Беларусі як частка рускай арміі і на пачатак 1918 г. налічваў каля 25–30 тыс. чалавек. Ім былі захоплены Бабруйск, Рагачоў і Жлобін. З двух апошніх палякі хутка былі выгнаны, але ім на змену прыйшла больш сур'ёзная небяспека: *18 лютага 1918 г.* нямецкія войскі пачалі наступленне. Пасля няўдалых перамоў аб міры паміж Савецкай Расіяй і Германіяй, якія праходзілі ў Брэст-Літоўску, Германія парушыла перамір'е, заключанае 23 лістапада 1917 г. паміж Ваенна-рэвалюцыйным саветам Заходняга фронту і нямецкім камандаваннем на два месяцы. Немцы даволі хутка захапілі большую частку Беларусі і былі спынены на лініі Орша–Магілёў–Гомель.

Пачуўшы пра набліжэнне нямецкіх войскаў, бальшавіцкія ўлады эвакуіраваліся з Мінска ў Смаленск, бо не былі ў стане супраціўляцца немцам. У Мінску пачалі змагацца за ўладу наспех арганізаваныя нешматлікія польскія часці і рэшткі беларускіх фарміраванняў. Гэта змаганне працягвалася больш за дзесяць гадзін і было спынена 22 лютага ўваходам у сталіцу нямецкіх войскаў.

Скарыстаўшы наступленне нямецкіх войскаў і эвакуацыю Аблвыканкамзаха, 19 лютага аднавіў дзейнасць Выканаўчы камітэт Усебеларускага з'езда. *21 лютага 1918 г.* ён выдаў ***Першую ўстаўную грамату*** да народаў Беларусі, у якой абвясціў сябе найвышэйшай уладай у Беларусі. Спасылаючыся на права народаў на самавызначэнне, аўтары граматы сцвярджалі, што ўлада ў Беларусі павінна фарміравацца згодна волі народаў, якія насяляюць краіну. Гэты прынцып павінен ажыццяўляцца шляхам дэмакратычных выбараў ва Усебеларускі Устаноўчы Сойм. Выканкам стварыў *Народны Сакратарыят Беларусі*, а яго старшынёй прызначыў *Язэпа Варонку*. У згаданай грамаце ўпершыню не гаварылася пра аўтаномію і неабходнасць заставацца ў складзе федэратыўнай Расіі. Яе тэкст на беларускай і рускай мовах быў расклеены па ўсім Мінску.

Актыўнасць беларускіх дзеячаў не мела поспеху, паколькі ўся ўлада на захопленнай тэрыторыі Беларусі знаходзілася ў руках нямецкай арміі. Не жадаючы ўскладняць адносіны з Расіяй, немцы не прызналі беларускага ўрада, занялі будынак, дзе размяшчаўся Народны Сакратарыят, рэквізавалі ягоную маёмасць. Аднак пад канец лютага прайшлі перамовы паміж Сакратарыятам і нямецкай ваеннай адміністрацыяй, у выніку якіх акупанты прызналі ўрад Я. Варонкі прадстаўніцтвам беларускага насельніцтва. Немцы дазволілі Сакратарыяту весці легальную дзейнасць, стварыць мясцовую адміністрацыю, школы і выдавецтвы.

**3 сакавіка 1918 г.** паміж Германіяй і Савецкай Расіяй быў падпісаны трактат аб міры (*«Брэсцкі мір»*). Беларускія землі разглядаліся гэтым дакументам як частка Расіі. Брэсцкая мірная дамова легалізавала падзел беларускіх зямель паміж бакамі ваеннага канфлікту. Савецкая Расія адмаўлялася ад Эстоніі, Латвіі, Літвы і Паўночна-Заходняй Беларусі. Фактычна гэтыя землі адыходзілі да Германіі. Большая частка Беларусі (да

Дняпра), занятая нямецкімі войскамі да заключэння Брэсцкага міру, заставалася акупаванай да выплаты Расіяй 6-мільярднай кантрыбуцыі (грашыма і таварамі). Беларуская тэрыторыя на ўсход ад Дняпра пераходзіла да бальшавікоў. Адначасова Расія прызнавала незалежнасць Украінскай Народнай Рэспублікі і яе правы на Брэсцкі, Пінскі, Мазырскі, Рэчыцкі і Гомельскі паветы, якія па Брэст-Літоўскаму мірнаму дагавору паміж Германіяй, яе саюзнікамі і Украінскай Народнай Рэспублікай ад 27 студзеня (8 лютага) 1918 г. перадаваліся Украіне.

Спачатку беларускія лідары пратэставалі супраць такога падзелу Беларусі. Каб дамовіцца з немцамі, Народны Сакратарыят склаў мемарандум да акупацыйных улад з абгрунтаваннем неабходнасці існавання беларускай дзяржаўнасці. Аднак, згодна з Брэсцкай дамовай, Германія абавязалася не прызнаваць ніякіх новых дзяржаў на акупаванай тэрыторыі.

*9 сакавіка 1918 г.* Выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага з'езда выдаў *Другую ўстаўную грамату*, у якой сцвярджалася, што «пасля трох з паловаю вякоў няволі ізноў на ўвесь свет кажа беларускі народ аб тым, што ён жыве і будзе жыць». Выканкам абвясціў стварэнне *Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР)*, вызначыў яе межы і часовы лад. Беларуская дзяржаўнасць, паводле граматы, павінна ўсталявацца «… у рубяжох разсялення і лічбеннай перавагі беларускага народу …». Да часу правядзення свабодных выбараў ва Устаноўчы Сойм выканаўчая ўлада павінна была належаць Народнаму Сакратарыяту. Выканкам абвясціў сябе Радай Беларускай Народнай Рэспублікі і ўзяў на сябе функцыі часовай заканадаўчай улады.

Захоп амаль усёй тэрыторыі Беларусі немцамі дазволіў аб'яднаць намаганні дзеячаў двух цэнтраў — віленскага і мінскага. Браты Луцкевічы і В. Ластоўскі, якія ўсю нямецкую акупацыю знаходзіліся ў Вільні, канчаткова адракліся ад планаў стварэння канфедэратыўнай літоўска-беларускай дзяржавы пасля таго, як літоўцы 19 лютага аб'явілі незалежнасць, а Германія яе прызнала. 18 сакавіка Віленская Беларуская Рада далучылася да Рады БНР.

Рада БНР, якая ўключыла прадстаўнікоў усіх беларускіх зямель і асяроддзяў, **25 сакавіка 1918 г.** *Трэцяй устаўнай граматай* абвясціла *незалежнасць Беларусі*. У яе склад уваходзілі Магілёўшчына, Міншчына, Віцебшчына, Гродзеншчына (з Беластокам), беларускія часткі Віленшчыны, Смаленшчыны і Чарнігаўшчыны, а таксама Палессе. Рашэнне аб абвяшчэнні незалежнасці не было прынята Радай аднадушна. Многія яе члены выступалі супраць разрыву сувязей з Расіяй. Аднак большасць вырашыла будаваць сваю дзяржаўнасць, спадзеючыся знайсці, як і літоўцы, прызнанне ў немцаў.

25 красавіка кіраўнікі Рады на чале з *І. Серадой* выслалі нямецкаму кайзеру Вільгельму II тэлеграму з падзякай за вызваленне Беларусі. Апрача

І. Серады тэлеграму падпісалі *Р. Скірмунт*, які быў ініцыятарам гэтай дыпламатычнай акцыі, П. Аляксюк, Я. Лёсік і П. Крачэўскі. У тэлеграме яны заявілі, што будучыню Беларусі бачаць «толькі пад апекай германскай дзяржавы». Немцы адказу не далі.

Рэзкая змена арыентацыі выклікала востры канфлікт унутры беларускага руху. Пайшоў у адстаўку кабінет Я. Варонкі, а БСГ распалася на тры партыі: Беларускую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПС-Р), Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю (БСДП) і Беларускую партыю сацыялістаў-федэралістаў (БПС-Ф).

Новы старшыня Нацыянальнага Сакратарыята Р. Скірмунт быў гатовы надалей шукаць шляхі паразумення з немцамі, але Рада блакавала ўсялякія ініцыятывы ў гэтым напрамку. Немцы са свайго боку не рабілі ніякіх істотных саступак на карысць беларусаў. І, хаця галоўнакамандуючы 10-й арміяй Э. Фалькенгайн выступаў за паступовую перадачу ўлады структурам БНР, нямецкае камандаванне не дазволіла стварыць сваю армію, паліцыю, фінансавую структуру і сетку мясцовых органаў улады. Немцы баяліся, што яны могуць узмацніць спантанны партызанскі сялянскі рух, арганізаваны з мэтай абароны ад рабаванняў маёмасці, якія здзяйснялі нямецкія салдаты пад відам спагнання кантрыбуцыі. Так, да восені 1918 г. налічвалася каля 100 партызанскіх атрадаў толькі на частцы акупаванай тэрыторыі. Партызанскі рух падтрымліваўся беларускімі эсэрамі.

Найбольшых поспехаў урад БНР дасягнуў у развіцці культуры і адукацыі. За кароткі час былі створаны каля 350 пачатковых школ, некалькі гімназій, Мінскі педагагічны інстытут, выходзіла 28 газет, дзейнічала 11 выдавецтваў, выдавецтва «Адукацыя» друкавала падручнікі для школ, рыхтавалася адкрыццё Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Актыўна дзейнічалі дыпламатычныя місіі БНР у Еўропе. У Кіеве была арганізавана Беларуская гандлёвая палата. Афіцыйна БНР прызналі 6 новастворaных краін: Украінская Народная Рэспубліка, Літва, Латвія, Эстонія, Фінляндыя, Чэхаславакія.

Падпісанне дадатковага дагавора паміж Германіяй і Савецкай Расіяй ад 27 жніўня 1918 г., згодна з якім немцы пакінулі тэрыторыю на ўсход ад р. Беразіны, значна пагоршыла стан БНР. Канчатковым ударам стала Лістападаўская рэвалюцыя ў Германіі, яе паражэнне ў Першай сусветнай вайне і дэнансацыя з боку Савецкай Расіі Брэсцкага міру. Пад канец лістапада 1918 г. пасля заключэння Камп'енскага перамір'я немцы пачалі эвакуіраваць свае войскі з Беларусі. Пакінутыя імі тэрыторыі займала Чырвоная Армія. 10 снежня бальшавікі былі ўжо ў Мінску. Рада БНР і ўрад *А. Луцкевіча, за выключэннем прадстаўнікоў эсэраў,* з'ехалі з Беларусі, бо ў іх не было войскаў, якія маглі б аказваць супраціўленне Чырвонай Арміі.

Па сутнасці, з-за неспрыяльных умоў БНР не стала сапраўднай дзяржавай, бо гэта ўтварэнне не адпавядала ўсім прыкметам незалежнай

дзяржавы. Не было сапраўднай сістэмы органаў заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады, сістэмы распрацоўкі і прыняцця законаў, забеспячэння іх выканання, аховы правоў і свабод грамадзян. Але Беларуская Народная Рэспубліка, хоць і існавала ў большай ступені як ідэя, чым як рэальнае палітычнае ўтварэнне, стала штуршком да стварэння беларускай савецкай дзяржаўнасці.

## 4.2. Стварэнне беларускай савецкай дзяржаўнасці (снежань 1918 – сакавік 1921 г.)

З усталяваннем савецкай улады ў Беларусі не разглядалася пытанне пра стварэнне беларускай дзяржавы. Перамагалі інтэрнацыяналістычныя імкненні пазбягаць нацыянальных падзелаў. Тым не менш ў расійскіх гарадах існавалі беларускія секцыі РКП(б), якія выдавалі сваю газету «Дзянніца». 31 студзеня 1918 г. дэкрэтам У. Леніна з беларускіх дзеячаў быў створаны Беларускі нацыянальны камісарыят (Белнацкам) на чале з А. Чарвяковым. Гэтыя арганізацыі пастаянна падымалі пытанне пра стварэнне савецкай беларускай рэспублікі. Але іх пазіцыя доўгі час ігнаравалася праз нежаданне фактычнай улады ў Беларусі — Аблвыканкамзаха і Паўночна-Заходняга камітэта РКП(б) — нават размаўляць пра аўтаномію беларускіх зямель у складзе РСФСР.

Падчас эвакуацыі нямецкіх войскаў 8 снежня 1918 г. савецкія ўлады абвясцілі ў Маскве стварэнне Літоўскай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі. У яе межах павінны былі апынуцца амаль усе беларускія землі. Хутка, аднак, бальшавікі адышлі ад гэтай задумы, і ўжо ў сярэдзіне снежня Цэнтральны Камітэт РКП(б) разглядаў праект стварэння асобных — літоўскай і беларускай — рэспублік. 25 снежня, у час сустрэчы І. Сталіна, на той час камісара па справах нацыянальнасцяў, і старшыні Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РКП(б) А. Мяснікова, былі вызначаны межы абедзвюх дзяржаў. Беларусь павінны былі складаць Гродзенская, Мінская і Смаленская, а Літву — Ковенская і Віленская губерні. Праз тры дні І. Сталін па тэлеграфе загадаў далучыць да Беларусі Віцебскую і Магілёўскую губерні.

Усе пытанні па стварэнні савецкай дзяржаўнасці ў Беларусі вырашыла VI Паўночна-Заходняя канферэнцыя РКП(б), якая пачалася 30 снежня 1918 г. у Смаленску і ператварылася ў І З’езд Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі, які ў гэты самы дзень абвясціў рэзалюцыю аб стварэнні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (БССР). Таксама была прынята пастанова аб тэрыторыі самастойнай Беларусі, якая ўключала Мінскую, Смаленскую, Віцебскую, Гродзенскую і Магілёўскую губерні з прылеглымі мясцовасцямі, населенымі пераважна беларусамі. Разгарнулася спрэчка ў сувязі з фарміраваннем Часовага ўрада рэспублікі, у які беларускія дзеячы КП(б)Б не хацелі ўключаць А. Мяснікова і некаторых іншых праціўнікаў беларускай дзяржаўнасці. І толькі пазіцыя І. Сталіна прымусіла беларусаў здацца.

**1 студзеня 1919 г.** аб сваім існаванні заявіў *Часовы рабоча-сялянскі савецкі ўрад Беларусі*. У выдадзеным маніфесце ён заклікаў народ Беларусі на барацьбу з «прадажнымі буржуямі, купцамі, памешчыкамі, фабрыкантамі і духаўнікамі», прадстаўнікамі якіх былі Рада БНР, нямецкія, польскія і ўкраінскія акупанты. Маніфест адначасна прызнаваў несапраўднымі ўсе законы, пастановы і распараджэнні ўлад БНР. Кіраўніком савецкага ўрада быў прызначаны *Зміцер Жылуновіч*, фарміраванне Народнага камісарыята ўнутраных спраў было даручана *А. Мяснікову*. У складзе ўрада было 8 беларускіх і 11 расійскіх бальшавікоў.

3 лютага Усебеларускі з'езд Саветаў вырашыў устанавіць федэратыўны саюз з Савецкай Расіяй і абвясціў канстытуцыю БССР пад назвай «Дэкларацыя правоў працоўнага і эксплуатуемага народа». Але яшчэ 16 студзеня ЦК РКП(б) прыняў рашэнне аб перадачы Смаленскай, Віцебскай, Магілёўскай губерняў у склад РСФСР, а Мінскай і Гродзенскай губерням было дырэктыўна прапанавана стварыць сумесную дзяржаву з Літоўскай Савецкай Рэспублікай. Адпаведныя пастановы «ад імя беларускіх рабочых і сялян» прыняў *Усебеларускі з'езд Саветаў*, абвяшчаючы *16 лютага 1919 г.* далучэнне БССР да ***Літоўска-Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (ЛітБелССР)***. Беларускія камуністы на чале са З. Жылуновічам пратэставалі супраць новых падзелаў краіны. В органах улады ЛітБелССР не было ніводнага беларуса. Бальшавіцкія ўлады Расіі адводзілі ЛітБелССР значэнне буфернай дзяржавы ў канфлікце з адроджанай Польшчай.

Да канца лютага 1919 г. большасць беларускіх зямель была занята Чырвонай Арміяй. 13 сакавіка з часткі савецкіх узброеных сіл была створана Літоўска-Беларуская армія, але мабілізаваных у Беларусі салдат найчасцей пасылалі на ўсходні або паўднёвы франты.

У лістападзе 1918 г. падчас адступлення нямецкіх войскаў была адноўлена незалежная польская дзяржава, якая абапіралася на ідэю адраджэння Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. Гэта азначала вайну з Савецкай Расіяй, да якой Польшча пры фінансавай падтрымцы заходніх краін была добра падрыхтавана. У снежні 1918 г. Польшча перайшла ў наступленне на беларускія і ўкраінскія землі. Да сакавіка 1919 г. польскія войскі акупавалі шэраг беларускіх гарадоў, у тым ліку Ліду, Вільню, Гродна. Урад ЛітБелССР не быў здольны арганізаваць абарону. 1 чэрвеня 1919 г. згодна з Дэкрэтам Усерасійскага ЦВК Савецкія Украіна, Беларусь, Літва і Латвія аб'ядноўваліся з Савецкай Расіяй для агульнай барацьбы з сусветным імперыялізмам. Уводзілася агульнае ваеннае камандаванне, аднак стрымаць польскае наступленне не ўдалося. У жніўні 1919 г. быў захоплены Мінск. Восенню фронт усталяваўся на лініі Полацк–Лепель–р. Беразіна–Дняпро. Фактычна ЛітБелССР перастала існаваць.

Поспехі польскага войска ўлетку 1919 г., а асабліва федэратыўныя дэкларацыі лідара Польшчы *Ю. Пілсудскага* з энтузіязмам успрымаліся ў Мінску і Вільні, што занепакоіла савецкі ўрад. З'явіўся рэальны шанс узнікнення федэрацыі народаў пад эгідай Польшчы. Менавіта таму бальшавікі прапанавалі палякам мір «з вечнай граніцай на Дзвіне, Уле і Беразіне». Адначасова савецкія ўлады падтрымлівалі ўсялякія дзеянні, накіраваныя на дэстабілізацыю сітуацыі ў тыле польскага войска. Восенню 1919 г. у Смаленску была падпісана дамова паміж бальшавікамі і БПС-Р у справе арганізацыі беларускіх партызанскіх атрадаў на занятых палякамі тэрыторыях. Прадугледжвалася, што ў выпадку вызвалення Беларусі будзе створана беларуская савецкая дзяржаўнасць, а ўлада будзе перададзена эсэрам і мясцовым камуністам.

Польская палітыка ў Беларусі аблягчала выкананне гэтай дамовы. На пасады ва ўсіх установах прызначаліся мясцовыя польскія памешчыкі, якія ўладу выкарыстоўвалі перш за ўсё для расправы над сялянамі, якія падтрымлівалі Савецкую ўладу. Рэквізіцыі і гвалт, якім падвяргаліся жыхары вёсак з боку вайсковых падраздзяленняў, жандармерыі і паліцыі, згладжвалі адмоўныя ўражанні, вынесеныя з перыяду савецкага ладу. Рэквізіцыям і судам падвяргаліся беларускія газеты, у Мінску было забаронена ставіць на сцэне п'есы беларускіх пісьменнікаў — Я. Купалы і К. Каганца.

Беларускія палітычныя сілы неадназначна ўспрынялі польскую акупацыю. Адны, як БПС-Р і часткова БПС-Ф на Гродзеншчыне і Віленшчыне, стварыўшы там Цэнтральную беларускую раду, пацвердзілі ідэю суверэннасці і непадзельнасці Беларусі. Некаторыя, у прыватнасці старшыня Рады БНР Я. Лёсік і іншыя дзеячы БНР, спрабавалі весці перамовы з Ю. Пілсудскім, а А. Луцкевіч ад імя ўраду БНР нават ездзіў у Парыж на мірную канферэнфыю, каб дамагчыся прызнання незалежнасці Беларусі. Аднак Польшча і краіны Антанты не звярталі на беларусаў сур'ёзнай увагі. Як вынік, 12 снежня 1919 г. адбыўся падзел дзеячаў БНР на Народную Раду на чале з П. Крэчэўскім (БПС-Ф) і з кіраўніком ураду В. Ластоўскім, якія занялі антыпольскую пазіцыю, і на Найвышэйшую Раду на чале з І. Серадой і ўрадам А. Луцкевіча, якія са сваёй палянафільскай пазіцыяй хутка сталі марыянеткамі ў польскай адміністрацыі.

Летам 1920 г. Чырвоная Армія пачала наступленне, і да жніўня 1920 г. уся тэрыторыя Беларусі была занята савецкімі вайскамі. Адначасова Савецкая Расія была вымушана пачаць супрацоўніцтва з буржуазным урадам Літвы — Тарыбай. 12 ліпеня 1920 г. Савецкая Расія і Літва падпісалі дагавор, згодна з якім Літве перадаваліся Віленская і Гродзенская губерні з гарадамі Вільня, Гродна, Ліда, Вілейка, Ашмяны, Дзісна. Такім чынам праз нейтралітэт літоўцаў быў забяспечаны правы фланг наступлення бальшавікоў на Польшчу.

*31 ліпеня 1920 г.* у Мінску была прынята дэкларацыя, якая другі раз абвяшчала незалежнасць *Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь*. Часовая ўлада перадавалася Беларускаму рэвалюцыйнаму камітэту (старшыня — *Аляксандр Чарвякоў*), які павінен быў дзейнічаць да ІІ з’езда Саветаў Беларусі. БПС-Р, на той час самая ўплывовая палітычная сіла ў Беларусі, адмовілася падпісаць дэкларацыю без далучэння да ССРБ усходніх беларускіх зямель. Бальшавікі ж лічылі гэта пытанне не сваечасовым. У жніўні 1920 г. польская армія здолела разбіць пад Варшавай Чырвоную Армію, перайсці ў наступленне і зноў заняць значную частку Беларусі. 12 кастрычніка 1920 г. у Рызе паміж Украінай і Расіяй, з аднаго боку, і Польшчай, з другога, быў падпісаны дагавор аб перамір’і. Беларусаў зноў не запрасілі ўдзельнічаць у перамовах.

Падпісанне перамір’я не спыніла ваенных дзеянняў. Пры падтрымцы польскага боку ў лістападзе з Прыбалтыкі на тэрыторыю Беларусі ўвайшлі атрады пад кіраўніцтвам *С. Булак-Балаховіча*, які абвясціў сябе начальнікам Беларускай дзяржавы. Але пасля захопу Мазыра, Петрыкава, Калінкавіч гэтыя злучэнні былі разбіты Чырвонай Арміяй. Так жа скончылася і арганізаванае беларускімі эсэрамі ўзброенае выступленне ў Слуцку: 14–15 лістапада 1920 г. адбыўся з’езд Случчыны, на якім прысутнічала 107 дэлегатаў. Яны абвясцілі Случчыну часткай БНР, але пад ціскам Чырвонай Арміі нязгодныя з палітыкай бальшавікоў эвакуіраваліся на тэрыторыю, падкантрольную палякам.

13–17 снежня 1920 г. у Мінску прайшоў ІІ Усебеларускі з’езд Саветаў. З’езд ратыфікаваў умовы Рыжскага пагаднення аб перамір’і і надаў расійскаму ўраду права заключаць любые міжнародныя пагадненні ад імя БССР.

**18 сакавіка 1921 г.** паміж Савецкай Расіяй, Украінай і Польшчай быў падпісаны *Рыжскі мірны дагавор*, паводле якога Польшча атрымала заходнюю частку Беларусі з больш чым 4-мільённым насельніцтвам. Адзін з пунктаў Рыжскага мірнага дагавора прадугледжваў прызнанне «незалежнасці Беларусі і Украіны». Тэрыторыя «незалежнай Беларусі» складала ўсяго 59,6 тыс. квадратных кіламетраў і уключала 6 паветаў Мінскай губерні: Бабруйскі, Мазырскі, Слуцкі, Ігуменскі, Барысаўскі і Мінскі. Тут пражывала 1,6 млн чалавек. Абрэзаная з усходу і захаду Беларусь была своеасаблівым дзяржаўным утварэннем. Хаця яна цалкам палітычна і эканамічна апынулася ў залежнасці ад Расіі, аднак фармальна з’яўлялася суб’ектам міжнароднага права.

### 4.3. Савецкая грамадска-палітычная сістэма ў БССР. Палітычныя рэпрэсіі 1920–1930-х гг.

У кастрычніку 1922 г. Пленум ЦК РКП(б) прыняў рашэнне аб стварэнні *Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік* — СССР. *30 снежня 1922 г.* з’езд Саветаў савецкіх рэспублік Беларусі, Украіны, Расіі

і Закаўказзя абвясціў адпаведную дэкларацыю, што стала канцом і так слабага суверэнітэту БССР.

Беларускае кіраўніцтва спрабавала дабіцца вяртання тых паветаў Віцебскай, Смаленскай і Гомельскай губерняў, у якіх пражывалі беларусы. У сакавіку 1923 г. VII з'езд КП(б)Б прыняў пастанову, у якой было сказана, што для адраджэння Беларусі неабходна ўключэнне ў яе склад суседніх раёнаў «згодна з іх гістарычнай, эканамічнай і нацыянальна-культурнай спецыфікай». Змест гэтага дакумента раней быў узгоднены з ЦК РКП(б). Адпаведныя пастановы перадалі ў ЦК РКП(б) таксама з'езды Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў Гомеля і Віцебска. Аднак у гэтых гарадах былі нязгодныя з далучэннем да БССР. Таму працавалі камісіі, накіроўваліся работнікі ЦВК БССР і КП(б)Б для тлумачальнай працы. **7 сакавіка 1924 г.** Прэзідыум Усесаюзнага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта выдаў дэкрэт аб перадачы Беларусі 15 паветаў Віцебскай, Смаленскай і Гомельскай губерняў з пераважна беларускім насельніцтвам. У выніку тэрыторыя рэспублікі падвоілася і пасля ***першага ўзбуйнення*** складала 110,5 тыс. км$^2$. Аднак тры раёны віцебскай губерні: Себежскі, Невельскі і Веліжскі — населенныя пераважна беларусамі, а таксама Гомель і Рэчыца засталіся па-за межамі БССР. У **снежні 1926 г.** адбылося ***другое ўзбуйненне БССР***: былі далучаны Гомельскі і Рэчыцкі паветы, якія да гэтай пары знаходзіліся ў складзе Украінскай ССР. Такім чынам, тэрыторыя БССР павялічылася да 125 тыс. км$^2$, а колькасць насельніцтва ўзрасла да 5 млн. Яшчэ у 1924 г. была праведзена адміністратыўная рэформа, згодна з якой губерні, паветы і воласці ліквідаваліся, а ўводзіліся акругі, раёны і сельсаветы.

Саюзны дагавор ад 30 снежня 1922 г. уводзіў супольнае грамадзянства для жыхароў усіх рэспублік. 31 студзеня 1924 г. З'езд Саветаў СССР зацвердзіў канстытуцыю, якая стала асноўным законам, і з гэтага часу юрыдычныя акты асобных рэспублік не маглі супярэчыць Канстытуцыі СССР. Канстытуцыя БССР была прынята толькі ў 1927 г., з некаторым спазненнем у параўнанні з астатнімі саюзнымі рэспублікамі. Беларускія камуністы хацелі пазбегнуць запісу аб дыктатуры пралетарыяту, таму шта такая фармулёўка была недарэчнай у рэспубліцы, дзе звыш 80 % насельніцтва складалі сяляне. Канстытуцыя БССР фармальна перадавала ўладу Саветам рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў. Права выбіраць і быць абранымі у Саветы мелі рабочыя, сяляне і салдаты. Гэтых правоў былі пазбаўлены духоўныя асобы, прыватныя гандляры, прадпрымальнікі, якія наймалі рабочую сілу, былыя чыноўнікі і паліцэйскія, асобы, якія прымалі ўдзел у палітычнай дзейнасці ў 1917–1921 гг. на баку праціўнікаў бальшавіцкага рэжыму.

Юрыдычны парадак СССР не прадугледжваў існавання, акрамя бальшавіцкай партыі, ніякіх іншых палітычных арганізацый, незалежна ад іх характару, ідэалогіі і грамадскай падтрымкі. У пачатку 1920-х гг. у Беларусі

дзейнічала некалькі партый сацыялістычнага кірунку. Самай уплывовай і шматлікай — звыш 20 тыс. членаў — была БПС-Р. У выніку рашэнняў Цэнтральнага Бюро ЦК КП(б)Б напачатку 1921 г. былі праведзены масавыя арышты дзеячаў БПС-Р. Аднак фармальна БПС-Р падверглася «сама-роспуску» ў ходзе легальнага з'езда партыі ў Мінску 8 чэрвеня 1924 г. Другой партыяй, якая карысталася сапраўднай грамадскай падтрымкай, быў Бунд. 25 сакавіка 1921 г. нечарговы з'езд гэтай партыі вырашыў «самараспусціцца», частка яўрэйскіх сацыялістаў папоўніла шэрагі КП(б)Б. У ліпені 1923 г. была аб'яўлена амністыя для дзеячаў і членаў небальшавіцкіх арганізацый, якія дзейнічалі ў Беларусі ў 1918–1921 гг. Гэта дазволіла зарэгістраваць усіх магчымых праціўнікаў савецкай улады, каб праз некалькі гадоў падвергнуць іх фізічнай ліквідацыі.

З канца 1920-х гг. усталяваліся загадныя метады кіравання ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. Бюракратычны апарат зліўся з партыйным і ператварыўся па сутнасці ў асобны сацыяльны клас. У выніку аб'яднання дзяржаўнага і партыйнага апарату рэзка знізілася роля выбарных Саветаў. Выканаўчая ўлада стала кантраляваць органы заканадаўчай улады. У кіраванні спалучаліся адміністрацыйна-загадныя метады татальнай цэнтралізацыі і дзяржаўны тэрор у дачыненні да незадаволеных і патэнцыяльна незадаволеных асоб. Адначасова Канстытуцыя СССР 1936 г. і напісаная на яе аснове Канстытуцыя БССР 1937 г. былі амаль ці не самымі дэмакратычнымі ў свеце. Канстытуцыя вызначала вышэйшым органам улады Вярхоўны Савет, дэкларавала шматлікія дэмакратычныя свабоды. Аднак ***выбары*** праводзіліся ***на безальтэрнатыўнай аснове*** пад кантролем бальшавікоў.

*І. Сталін,* кіраўнік бальшавіцкай партыі пасля У. Леніна, намагаючыся зрабіць эканамічнае, палітычнае і ідэалагічнае жыццё на тэрыторыі ўсяго СССР аднародным, не мог дапусціць існавання якіх-небудзь істотных фактараў, якія б сведчылі аб беларускай адасобленасці. Гэта прывяло да масавых чыстак партыйных арганізацый ад ***«ворагаў народа»*** і да палітычных рэпрэсій. «Ворагі народа» былі патрэбны, каб спісаць на іх няўдачы ў эканамічным развіцці. Гэта таксама было падставай для ліквідацыі палітычных праціўнікаў улады, паралізавання пратэстных настрояў у насельніцтва. Да таго ж з абвінавачаных была створана шматмільённая рабская армія ў лагерах (ГУЛАГ), на якую не распаўсюджваліся сацыяльныя гарантыі і працоўнае заканадаўства.

І. Сталін заявіў, што рэпрэсіі пры пабудове сацыялізму з'яўляюцца неабходным элементам. Галоўным карным інстытутам стаў рэспубліканскі *Аддзел дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення (АДПУ)*, які ў ліпені 1934 г. быў перайменаваны ў *Народны камісарыят унутраных спраў (НКУС)*. Падрыхтоўка да вынішчэння «класавых ворагаў» ажыццяўлялася ўжо ў пачатку 1930-х гг. У рамках НКУС ствараліся Асобыя нарады, якія мелі права караць без судовых пастаноў. У снежні 1934 г. спрашчалася следства па «тэрарыстычных» справах, якія праводзіліся без адвакатаў і пракурораў

«нарадамі» з 3–5 асоб. Спрошчанае следства ў 1937 г. было пашырана на справы па шкодніцтве і дыверсіях. Смяротны прысуд выконваўся адразу. Нават дзеці падпалі пад рэпрэсіі, бо з 1935 г. уводзілася крымінальная адказнасць з 12-гадовага ўзросту. У адносінах да арыштаваных дазвалялася (а з 1939 г. патрабавалася) прымяненне фізічнага ўздзеяння. Каб спыніць катаванні, людзі падпісвалі самі сабе смяротныя прысуды, прызнаючы сябе нацыянал-фашыстамі, праватрацкістамі, агентамі замежных разведак. У БССР кожны трэці з асуджаных пад ціскам НКУС абвяшчаў сябе польскім шпіёнам. Маштабныя рэпрэсіі актыўна прапагандаваліся праз СМІ, у грамадстве панавала атмасфера ўзаемнай падазронасці і данасіцельства.

Рэпрэсіі ў СССР пачаліся яшчэ ў 1920-я гг. у дачыненні да праваслаўнага, каталіцкага і іншага духавенства. Паўплывала на ўзмацненне рэпрэсій і згортванне нэпа, эканамічны ціск на насельніцтва. На рубяжы дзесяцігоддзяў рэпрэсавалі кулакоў, пачынаючы з тых, хто не хацеў здаваць дзяржаве хлеб, а напачатку 1930-х гг. рэпрэсіі перакінуліся на іншыя слаі грамадства. З кожным годам карны механізм паскараўся, дасягнуўшы піку ў **1937–1938 гг.**

У 1929 г. пачалася бязлітасная прапагандысцкая кампанія супраць беларускай інтэлігенцыі. Працаўнікі Беларускай Акадэміі навук і народных камісарыятаў сельскай гаспадаркі і асветы былі абвінавачаны ў прапагандаванні нацыяналізму. Многіх адміністрацыйнымі метадамі прымусілі пакінуць працу і кіруючыя дзяржаўныя пасады. Прысланыя з Масквы кіраўнікі БССР абвінавачвалі прыхільнікаў захавання нацыянальнага аблічча рэспублікі ў імкненні да аднаўлення капіталізму і у спробе штучнага супрацьпастаўлення беларускай культуры рускай. У **чэрвені 1930 г.** АДПУ БССР «выкрыла» існаванне контррэвалюцыйнай, антысавецкай арганізацыі — *«Саюза вызвалення Беларусі»*. Гэта была першая вялікая правакацыя, накіраваная супраць беларускай інтэлігенцыі. Былі арыштаваны 108 чалавек, галоўным чынам прафесары Беларускай Акадэміі навук і БДУ, загадчыкі ведамства асветы, літаратары, дырэктары навуковых і выдавецкіх таварystваў, гісторыкі і дзеячы, якія ўдзельнічалі ў заснаванні БНР, а таксама арганізатары беларускага нацыянальнага жыцця ў БССР у 1920-х гг. У ліку арыштаваных апынуліся *В. Ластоўскі, А. Цвікевіч, Я. Лёсік, А. Смоліч, І. Серада, А. Баліцкі, З. Жылуновіч*, самыя выдатныя прадстаўнікі беларускай літаратуры. Абвінавачаны *Я. Купала* спрабаваў здзейсніць самагубства. Цэнтр «Саюза вызвалення Беларусі», паводле бальшавіцкай прапаганды, знаходзіўся ў Беларускай Акадэміі навук, а яе прэзідэнт *У. Ігнатоўскі* быў абвінавачаны ў кіраванні адной з груп нацыянал-дэмакратаў. У. Ігнатоўскі не перанёс прыніжэння і паклёпаў і 4 лютага 1931 г. скончыў жыццё самагубствам.

У выніку працэсу, які доўжыўся са снежня 1930 г. да сакавіка 1931 г., найбольш жорстка былі пакараны прыхільнікі нацыянальнага адраджэння

ў 1920-х гг.: З. Жылуновіч, А. Адамовіч, А. Баліцкі, П. Ільючонак, Дз. Прышчэпаў. Яны былі асуджаны да 10 гадоў ссылкі ў канцэнтрацыйныя лагеры. 86 абвінавачаных атрымалі па 3–5 гадоў турэмнага зняволення, а некалькі асоб часова былі апраўданы. У 1937 г., у выніку рэвізіі гэтых прысудаў, большасць абвінавачаных у прыналежнасці да «Саюза вызвалення Беларусі» была прыгаворана да пакарання смерцю. Цяжкія страты панесла навука, бо было рэпрэсавана 26 акадэмікаў і 6 членаў-карэспандэнтаў АН БССР, пісьменнікі *М. Гарэцкі, М. Зарэцкі, М. Чарот, П. Галавач* і інш.

У наступныя гады барацьба з т. зв. нацыянал-дэмакратызмам перамясцілася з Мінска ў правінцыю, дзе яе спалучалі з уціхамірваннем сялян, незадаволеных калектывізацыяй. Прычынай арышту ў правінцыйным мястэчку маглі быць, напрыклад, знойдзеныя кнігі па гісторыі Беларусі У. Ігнатоўскага.

Хутка пачаліся чысткі сярод членаў партыі і кіраўніцтва. З 1933 па 1937 г. колькасць членаў партыі на Беларусі зменшылася з 65 да 31 тыс. чалавек. Падчас XVI з’езда КП(б)Б 1937 г. быў даведзены да самагубства А. Чарвякоў, а хутка арыштаваны першы сакратар партыі *В. Шарангові*ч. У Маскве ў чэрвені 1937 г. арыштавалі старшыню СНК БССР *М. Галадзеда* (пазней выкінуўся з акна будынка НКУС БССР). Да пачатку 1940-х гг. былі рэпрэсаваны кіраўнікі партыі ў Беларусі Я. Гамарнік, К. Гей, М. Гікала, пры якіх і распачаліся рэпрэсіі.

У сельскай мясцовасці пры машынна-трактарных станцыях (МТС) у студзені 1933 г. былі створаны палітаддзелы. Гэтыя надзвычайныя партыйныя органы павінны былі ўмацаваць калгасы палітычна, для чаго праводзілі чыстку сярод сялян-камуністаў. У выніку іх колькасць знізілася амаль напалову. Адначасова палітаддзелы вышуквалі «падкулачнікаў» — бо сапраўдных кулакоў ліквідавалі ў пачатку калектывізацыі, наглядалі за выкананнем т. зв. «закону аб 5 каласках». Гэта закон ад 7 жніўня 1932 г. «Аб ахове маёмасці дзяржаўных прадпрыемстваў, калгасаў, кааператываў і ўмацаванні сацыялістычнай уласнасці», згодна з якім у 1933–1934 гг. было прыгаворана да расстрэлу з канфіскацыяй маёмасці каля 10 тыс. чалавек.

Маштабы рэпрэсій выглядаюць жудаснымі. Па розных падліках, ад бальшавіцкага тэрору ў Беларусі да 1953 г. пацярпела больш за 600 тыс. чалавек. Адным з сімвалаў сталінскіх рэпрэсій з’яўляюцца Курапаты пад Мінскам, але такіх месцаў было шмат. Наступствы гэтага вынішчэння генафонду нацыі адчуваюцца і ў нашы дні.

### 4.4. Асаблівасці нэпа, індустрыялізацыя і калектывізацыя ў Савецкай Беларусі

У час грамадзянскай вайны бальшавікі праводзілі палітыку «ваеннага камунізму», для якой былі характэрныя ўвядзенне харчразвёрсткі, нацыяналізацыя прамысловасці, адмена прыватнага гандлю і пераход сістэмы размеркавання ў рукі дзяржавы. На мяжы 1920–

1921 гг. краіну ахапіў цяжкі эканамічны крызіс, звязаны з памылкамі ў празмерна цэнтралізаваным кіраванні народнай гаспадаркай.

На *X з'ездзе РКП(б)* у **сакавіку 1921 г.** пачалося афармленне ***новай эканамічнай палітыкі (нэпа)*** — сістэмы мер, разлічаных на пераходны перыяд ад капіталізму да сацыялізму. Галоўнымі мэтамі нэпа лічыліся максімальна хуткае пераадоленне гаспадарчага заняпаду і стварэнне ўмоў для пабудовы сацыялістычнага грамадства.

На вёсцы асноўнымі мерапрыемствамі нэпа былі:

– замена харчразвёрсткі падаткам (20 %, пасля 10 і 5 %);

– дазвол гандлю сельскагаспадарчай прадукцыяй;

– абвяшчэнне свабоды выбару формаў землекарыстання (індывідуальная, арцель, хутар, калгасы). Урад у той жа час падтрымліваў калгасы насеннем, жывёлай, інвентаром;

– дазвол на здачу зямлі ў арэнду, найманне рабочай сілы.

Сельскагаспадарчая палітыка ў 1925–1928 гг. абазначаецца тэрмінам «прышчэпаўшчына». *Дз. Прышчэпаў*, наркам земляробства БССР, быў прыхільнікам стварэння хутароў і пасёлкаў па тыпу адрубоў. На 1928 г. у рэспубліцы было землеўладкавана 2344 тыс. гектараў зямлі, з іх хутары і адрубы склалі 23 %. Найбольш шматлікай групай былі серадняцкія гаспадаркі (65 %), якім належала 75 % пасяўной плошчы.

Свабодны гандаль патрабаваў стабільнай грашовай сістэмы, таму ў 1922 г. пачалася грашовая рэформа. З 1922 г. Дзяржбанк пачаў эмісію чырвонцаў, якія мелі намінальнае залатое забеспячэнне. Адмяняліся ўсе абмежаванні для прыватных асоб на сумы ў ашчадных касах, гарантавалася тайна ўкладаў і немагчымасць іх канфіскацый.

У прамысловасці былі адменены дэкрэты, якія абмяжоўвалі свабоду дзеяння дробных і сярэдніх прадпрыемстваў. Дазвалялася арэнда прамысловых прадпрыемстваў, наём працоўнай сілы. У буйной вытворчасці стваралі трэсты — аб'яднанні аднародных прадпрыемстваў, якія здымаліся з дзяржаўнага забеспячэння, атрымлівалі поўную гаспадарчую і фінансавую незалежнасць. Да верасня 1924 г. па ўсёй БССР было арганізавана 9 трэстаў. Уводзілася матэрыяльнае стымуляванне: была адноўлена грашовая аплата працы, зняты абмежаванні на павелічэнне заробкаў і перамену месца работы, ліквідаваны працоўныя арміі, адменена абавязковая працоўная павіннасць. З 1926 г. разгарнулася будаўніцтва шэрагу буйных прадпрыемстваў: Бабруйскага дрэваапрацоўчага камбіната, Гомсельмаша, запалкавай фабрыкі «Чырвоная Бярэзіна» ў Новабарысаве, металаапрацоўчага завода «Камунар» у Мінску, БелДРЭС. Развіццё прамысловасці ў БССР суправаджалася электрыфікацыяй гаспадаркі: у 1925–1926 гг. у Беларусі дзейнічала ўжо 40 электрастанцый.

У 1926 г. колькасць рабочых дасягнула 93,9 % ад даваеннага ўзроўню, выпуск валавой прадукцыі перавысіў даваенны на 41,7 %. Аднаўляліся і дробныя саматужна-рамесніцкія прадпрыемствы. У 1927 г.

іх дзейнічала 85,7 % ад даваеннай колькасці, выпуск валавой прадукцыі склаў 62,5 % ад даваеннага ўзроўню. Сельская гаспадарка Беларусі аднавіла даваенныя аб'ёмы вытворчасці ў 1927 г. Удзельная вага сельскай гаспадаркі ў вытворчасці склала 71,6 %, прамысловасці — 22,3 %, лясной гаспадаркі — 6,1 %.

Разам з дасягненнямі нэпа выявіліся яго сур'ёзныя недахопы, якія прыводзілі гэту палітыку да крызісаў, а ў рэшце рэшт сталі адной з прычын яе згортвання.

Восенью 1923 г. распачаўся першы крызіс. Пачынаючы са жніўня 1922 г. сталі ўтварацца «нажніцы цэн» — калі кошты на прамысловыя вырабы пераўзышлі кошты на сельскагаспадарчую прадукцыю ў параўнанні з даваенным узроўнем больш чым у 3 разы. Сялянам стала нявыгадна прадаваць сваю прадукцыю і купляць тавары прамысловасці. Меры па пераадоленні крызісу былі пераважна эканамічныя: дзяржава ўстанавіла дырэктыўныя цэны на прадметы спажывання, была праведзена грашовая рэформа 1924 г.

Рубеж 1925/26 гг. — гэта другі крызіс, які праявіўся ў вострым дэфіцыце тавараў. Апошні ўзнік у выніку хуткага росту вытворчых сіл. Прычыны крызісу былі ў праліках у планаванні. Дзяржава не змагла закупіць хлеб у сялян па нізкіх цэнах, таму што 1925 г. быў неўраджайны. Рынак прамтавараў БССР залежыў ад іх паступлення з-за мяжы, а памеры экспарту хлеба былі невялікімі. Да таго, значна вырасла пакупная здольнасць сельскага і гарадскога насельніцтва і прамысловасць не паспявала яе задавальняць. Меры пераадолення былі пераважна эканамічныя: быў скарочаны імпарт, замарожаны новабудоўлі, павялічаны ўскосныя падаткі, з 1925 г. уведзена дзяржаўная манаполія на продаж гарэлкі, павялічана нарыхтоўчая цана на зерне, адноўлена дзейнасць закансерваваных тэхнічна адсталых прадпрыемстваў. Крызіс 1925 г. паказаў розніцу паміж мэтамі савецкай дзяржавы і прыватнага сектара, а таксама тое, што кіраўніцтва дрэнна валодае эканамічнымі рычагамі.

Рубеж 1927/28 гг. — трэці крызіс, які меў больш сацыяльна-палітычную сутнасць. Прычынамі крызісу было невыкананне дзяржаўнага плана хлебанарыхтовак па танных коштах, што вызвала недахоп сродкаў для індустрыялізацыі. Меры пераадолення мелі надзвычайны характар і былі блізкі да метадаў «ваеннага камунізму». Такім чынам, нэп страціў актуальнасць.

Асноўнай прычынай крызісаў было імкненне партыйна-дзяржаўнага кіраўніцтва да паскоранай мадэрнізацыі грамадства пад лозунгам «рыўка ў сацыялізм», што дэфармавала эканоміку. Аўтарытарная палітычная сістэма, якая існавала ў краіне, неадпавядала рыначным метадам кіравання эканомікай. Адсутнічалі трывалыя сувязі з сусветнай эканомікай, бо існавала манаполія дзяржавы на знешні гандаль.

Гаспадарчае развіццё было падпарадкавана інтарэсам унутрыпартыйнай барацьбы. Апарат кіравання, звыклы да метадаў «ваеннага камунізму», праяўляў па большай частцы некампетэнтнасць. Адбываўся хуткі рост адміністрацыйна-бюракратычнага апарату, які бачыў у адраджэнні рыначных адносін небяспеку сваім прывілеям. Да таго ж, ў масавай свядомасці савецкіх грамадзян узніклі супярэчлівыя меркаванні. Па сутнасці, пасля рэвалюцыі 1917 г. адбылася «рэстаўрацыя» капіталізму. У выніку ўзнікла незадаволенасць працоўных нэпам, бо мэтай рэвалюцыі была грамадзянская роўнасць.

Эвалюцыйнае развіццё эканомікі СССР было перапынена ў канцы 1920-х гг., бо быў узяты курс на ***індустрыялізацыю***, а крыніцай грошай на яе правядзенне мусіла стаць вёска. Сродкі у неабходных дзяржаве памерах можна было здабыць у сялян толькі шляхам прымусу. Таму ў аграрным сектары краіны была праведзена ***калектывізацыя***.

Індустрыялізацыя — гэта ўтварэнне буйной машыннай вытворчасці ва ўсіх галінах эканомікі, у першую чаргу ў прамысловасці. Асаблівая ўвага пачала надавацца планаванню развіцця эканомікі, якое набыло статус абавязковых для выканання дакументаў. Асаблівасцямі індустрыялізацыі на Беларусі былі:

– шырокае будаўніцтва новых прадпрыемстваў;
– з'яўленне новых галін вытворчасці (напрыклад, станка- і машынабудаванне);
– адсутнасць будаўніцтва ў Мінскай вобласці побач з мяжой.

У маі 1929 г. IX Усебеларускі з'езд Саветаў зацвердзіў першы пяцігадовы план развіцця народнай гаспадаркі і культуры БССР на 1928–1932 гг. У БССР пераважнае развіццё атрымалі дрэваапрацоўчая, запалкавая, папяровая, харчовая, льняная і швейная галіны прамысловасці, якія працавалі ў асноўным на мясцовай сыравіне. Было пабудавана 78 буйных і 480 дробных і сярэдніх новых прамысловых прадпрыемстваў. У 3,8 раза павялічыўся аб'ём вытворчасці прамысловай прадукцыі, узніклі новыя галіны прамысловасці: сельскагаспадарчае машынабудаванне, станкабудаванне, хімічная, вытворчасць стандартных будынкаў і інш. Адбыліся змены ў структуры прамысловасці. Буйныя прадпрыемствы выраблялі 57,3 % прадукцыі, на іх было занята больш паловы прамысловых рабочых. У 1931 г. аб'ём валавой прадукцыі прамысловасці перавысіў аб'ём валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі — Беларусь стала індустрыяльна-аграрнай рэспублікай.

Падчас выканання плана другой пяцігодкі (1933–1937) былі пабудаваны Гомельскі шклозавод, Крычаўскі цэментны завод, Аршанскі льнокамбінат, Магілёўскі аўтарэмонтны камбінат і інш. Усяго было пабудавана 1700 прадпрыемстваў, каля 90 — рэканструявана. Валавая прадукцыя гаспадаркі павялічылася ў 1,9 раза (запланавана ў 3,8 раза). Адначасова

атрымалі шырокае распаўсюджанне судовыя працэсы над шкоднікамі, развівалася «лагерная эканоміка».

Падчас трэцяга пяцігадовага плана (1938–1942 гг.) адбылося хуткае развіццё транспарту. Былі праведзены новыя чыгуначныя лініі. Працягласць аўтамабільных дарог з цвёрдым пакрыццём склала 11,2 тыс. км. Было адкрыта Дняпроўска-Дзвінскае рачное параходства, пабудаваны Гомельскі рачны порт. У 1940 г. быў адноўлены Днепра-Бугскі канал. З'явіўся авіятранспарт. У 1940 г. ужо 80 % прадукцыі народнай гаспадаркі БССР прыходзілася на прамысловасць.

Завышаныя патрабаванні плану і імкненне іх фармальна рэалізаваць прыводзілі да гонкі за стаханаўскімі рэкордамі праз прыпіскі, адмоўна сказваліся на якасці прадукцыі і г. д.

Створаная бальшавікамі адміністратыўна-камандная сістэма эканомікі існавала за кошт пастаяннага дэфіцыту ўсяго, што забяспечвала звыклы побыт людзей: жылля, прадуктаў харчавання, спажывецкіх тавараў і паслуг. За 1928–1940 гг. індэкс рознічных цэн узрос у БССР у 6,3 разы. У 1928–1934 гг. дзейнічала картачная сістэма, пасля адмены якой у гарадскіх крамах існавалі цяжкасці з набыццём мяса і малака, а сыр і масла практычна адсутнічалі.

Да канца 1920-х гг. у народнай гаспадарцы БССР пераважала сельскагаспадарчая вытворчасць. Але агульны ўзровень развіцця сельскай гаспадаркі заставаўся нізкім. Узніклі супярэчнасці паміж патрабаваннямі да вёскі і яе магчымасцямі. На гэты час перад сельскай гаспадаркай былі пастаўлены задачы — задаволіць павышаны попыт горада і прамысловасці на сельскагаспадарчую прадукцыю і сыравіну, удзельнічаць у фінансаванні індустрыялізацыі праз рэалізацыю сялянам прамысловых тавараў.

Да 1927 г. гэтыя задачы вырашаліся пераважна рыначнымі метадамі. Пасля хлебанарыхтоўчага крызісу зімой 1927/28 гг. метады кіравання вёскай кардынальна змяніліся. Шляхі пераадолення крызісу кіраўніцтва бачыла ў бязлітасным знішчэнні ўнутраных ворагаў, сярод якіх на першым месцы стаялі кулакі. Артыкул І. Сталіна «Год вялікага пералому» (7 лістапада 1929 г.) абгрунтаваў неабходнасць масавай калектывізацыі метадам адміністрацыйнага прымусу. *Суцэльная калектывізацыя* сельскай гаспадаркі ў БССР пачалася ў **студзені 1930 г.** Яна суправаджалася палітыкай «***раскулачвання***». Падчас яе першай хвалі ў лютым – маі 1930 г. у БССР было раскулачана больш за 15 тыс. гаспадарак. Выкарыстоўваліся гвалтоўныя метады — арышт, пазбаўленне права голасу, высылка, часам і смяротныя прысуды.

Дапамагчы хуткаму правядзенню калектывізацыі і раскулачвання былі прызваныя ўпаўнаважаныя, «брыгады дапамогі калектывізацыі», «дваццаціпяцітысячнікі» з ліку прамысловых рабочых. Дэталі стварэння калектыўных гаспадарак распрацаваны не былі. Жывёла і інвентар абагульняліся бясплатна. Адсутнічалі формы рацыянальнай арганізацыі вы-

творчасці, уліку працы і яе аплаты. За тры месяцы 1930 г. (студзень–сакавік) у Беларусі ў калгасы прыцягнулі каля 430 тыс. сялянскіх гаспадарак, працэнт калектывізацыі (колькасць сялянскіх гаспадарак) склаў 58 %. На гэтай хвалі пленум ЦК КП(б)Б у студзені 1930 г. пастанавіў скончыць суцэльную калектывізацыю да 1931 г.

Гвалтоўныя метады калектывізацыі прыводзілі да супраціўлення сялян. Адбываўся масавы забой свойскай жывёлы, якая падлягала абагульненню. А за 1930 г. мела месца 520 антысавецкіх узброеных сялянскіх выступленняў. Рост сялянскіх хваляванняў па СССР напалохаў кіраўніцтва, і 2 сакавіка 1930 г. быў надрукаваны артыкул І. Сталіна «Галавакружэнне ад поспехаў». У ім асуджалася прымусовая калектывізацыя, давалася ўказанне весці работу ў адпаведнасці з мясцовымі ўмовамі, не абагульняць прысядзібныя землі, агароды, жылыя будынкі, пэўную частку малочнай жывёлы, свойскую птушку і г. д. У сітуацыі, якая склалася ў сельскай гаспадарцы, абвінавачваліся мясцовыя савецкія і партыйныя органы. У выніку з'яўлення артыкула ў БССР рэзка ўпаў працэнт калектывізацыі: да чэрвеня 1930 г. у калгасах засталося каля 11 % гаспадарак.

Нягледзячы на ўсе гэтыя супярэчнасці, пачалася другая хваля калектывізацыі (восень 1930–1934 г.). Асаблівая роля тут надавалася МТС. Мэтай іх стварэння было пераканаць сялянскія масы ў перавазе сацыялістычнага спосабу вытворчасці. Да канца 1930 г. на Беларусі было створана 6 МТС, у 1932 г. іх дзейнічала 57 (1469 трактароў абслугоўвалі 33 % калгасаў). У выніку працэнт калектывізацыі на пачатак 1932 г. склаў 50,4 %. Адначасова ўлады працягвалі ўціск і праз метады адміністрацыйнага прымусу. Вясной 1931 г. адбылася другая хваля раскулачвання. У выніку яе на Беларусі было разбурана прыкладна 95,5 тыс. сялянскіх гаспадарак, а больш за 250 тыс. чалавек саслана ў іншыя мясціны.

За гады першай пяцігодкі была калектывізавана палова сялянскіх двароў, створана каля 9 тыс. калгасаў. Аднак рост вытворчасці валавой прадукцыі стаў хутка скарачацца. Пагалоўе буйной рагатай жывёлы і свіней у 1932 г. зменшылася больш чым на трэць у параўнанні з 1928 г., авечак — напалову.

Адмоўныя вынікі першых гадоў калектывізацыі не пераканалі кіраўніцтва ў памылковасці выбранага шляху. Наадварот, у планах развіцця сельскай гаспадаркі на другую пяцігодку (1933–1937 гг.) прадугледжвалася паскарэнне калектывізацыі. Дзяржава змяніла форму нарыхтоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі. Продаж дзяржаве прадукцыі ажыццяўляўся па нізкіх цэнах, што і стала крыніцай фінансавання індустрыялізацыі. Дзеля павелічэння дзяржаўных прыбыткаў стымулявалася развіццё жывёлагадоўлі. Ствараліся новыя МТС, у 1937 г. іх было 200 з колькасцю трактароў 8,1 тыс. шт. і 674 камбайны. Адбываўся працэс узбуйнення калгасаў, іх агульная колькасць паменшылася на 1,2 тыс. Усяго ў калгасы да канца 1937 г. было аб'яднана 87,5 % аднаасоб-

ных гаспадарак. Адначасова раслі пасяўныя плошчы калгасаў. Толькі за кошт росту плошчаў павялічыўся валавы збор галоўных культур, бо прадукцыйнасць працы рэзка зніжалася. Гэта сведчыць аб экстэнсіўным шляху развіцця сельскай гаспадаркі ў БССР у 1930-я гг.

У лютым 1935 г. быў прыняты Прыкладны статут сельска-гаспадарчай арцелі. У ім зямля замацоўвалася за калгасамі, уводзілася здзельная аплата працы, прадугледжвалася асабістая гаспадарка ў кожным калгасным двары. Адначасова калгаснікі былі замацаваны за калгасамі. Яны не мелі пашпартоў і поўнасцю залежалі ад старшыні. Старшыня падпарадкоўваўся райкаму партыі.

Па агульных паказчыках другі пяцігадовы план для сельскай гаспадаркі выкананы не быў. Але калектывізацыя на Беларусі ў асноўным была завершана, сацыялістычны спосаб вытворчасці ў сельскай гаспадарцы стаў пануючым.

Такім чынам, да пачатку 40-х гг. XX ст. у Беларусі (як частцы СССР) была разбурана дробнатаварная гаспадарка. Прымусовым шляхам ствараліся буйныя сацыялістычныя гаспадаркі на вёсцы. Аднак узровень сельскагаспадарчай вытворчасці быў вельмі нізкі, планы павелічэння сельскагаспадарчай прадукцыі былі правалены. Была рэалізавана сталінская мадэль дзяржаўнага сацыялізму. Індустрыялізацыя садзейнічала яе ўмацаванню. Былі нацыяналізаваны сродкі вытворчасці, адбылася цэнтралізацыя кіравання прамысловасцю. Прыватны і саматужна-рамесны сектар вытворчасці быў выціснуты з эканомікі БССР. Вырасла колькасць бюракратыі, усталяваўся загадны стыль кіравання эканомікай.

## 4.5. Станаўленне беларускай савецкай культуры ў 20–30-я гг. XX ст.

Нацыянальна-культурнае будаўніцтва ў 1920–1930-я гг. праходзіла ў вострай барацьбе розных сіл: нацыянальна-патрыятычных, што выступалі за развіццё беларускай нацыянальнай культуры, і сіл, якія прапагандавалі ідэі сацыялізму, інтэрнацыяналізму. Культурнае будаўніцтва ў гэты перыяд ажыццяўлялася пад назвай «культурная рэвалюцыя». Яе галоўнымі мэтамі былі: стварэнне новай сацыялістычнай культуры, ліквідацыя непісьменнасці, стварэнне ўмоў для далучэння простага народу да культуры, падрыхтоўка новай савецкай інтэлігенцыі, барацьба супраць рэлігійных поглядаў і г. д.

Важнай праблемай для беларускага савецкага ўрада стала масавая непісьменнасць. У снежні 1920 г. пачала дзейнасць Надзвычайная камісія па ліквідацыі непісьменнасці. У 1922 г. былі створаны чатырохгадовыя пачатковыя і сямігадовыя школы. У 1927 г. уведзена ўсеагульнае пачатковае навучанне, і да 1931 г. 98 % дзяцей атрымлівалі пачатковую адукацыю. Сярэдняя спецыяльная і вышэйшая адукацыя давалася ў прафесійна-тэхнічных школах, тэхнікумах і інстытутах. Згодна з палітыкай «пралетарызацыі» першаснае права атрымліваць вышэйшую адукацыю мелі рабочыя і сяляне. Спалучэнне намаганняў сістэмы адукацыі і шматлікіх

грамадскіх арганізацый тыпу «Далоў непісьменнасць» дазволіла да канца 1930-х гг. непісьменнасць у асноўным ліквідаваць.

Беларуская навука развівалася ў межах вышэйшых навучальных устаноў — БДУ, Беларускага палітэхнічнага інстытута, Беларускай сельскагаспадачай акадэміі, Віцебскага ветэрынарнага інстытута і інш. На базе медыцынскага факультэта БДУ ў 1930 г. быў адчынены Мінскі медыцынскі інстытут, а на базе педагагічнага — Вышэйшы педагагічны інстытут. У 1922 г. быў створаны Інстытут беларускай культуры, які стаў падмуркам для ўтварэння ў **1929 г.** Акадэміі навук. У 1922 г. адчыніла дзверы Дзяржаўная бібліятэка БССР, наладжвалася музейная справа.



**Міхаіл Кроль** (1879–1939) — арганізатар медыцынскай адукацыі ў БССР. Доктар медыцынскіх навук, прафесар, акадэмік АН БССР (1931). Нарадзіўся ў Мінску, скончыў Маскоўскі ўніверсітэт (1901). Працаваў неўролагам у маскоўскіх бальніцах. Падчас Першай сусветнай вайны — загадчык псіхіятрычнага пункту Чырвонага Крыжа на Заходнім фронце ў Мінску.

У 1921 г. з’яўляўся членам урадавай камісіі па арганізацыі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Займаў пасады дэкана медыцынскага факультэта і загадчыка кафедры нервовых захворванняў. У 1923–1924 гг. браў удзел у лячэнні У. Леніна.

Пасля рэарганізацыі медфакультэта БДУ ў Мінскі медыцынскі інстытут (1930) заняў пасаду яго дырэктара (да 1932 г.).

У 1934–1938 гг. займаў пасаду галоўнага ўрача ў знакамітай Крамлёўскай бальніцы (Масква).

Аўтар 120 навуковых публікацый, у тым ліку 3 манаграфій.

З ліпеня 1924 г. КП(б)Б афіцыйна аб’явіла аб пачатку ***палітыкі «беларусізацыі»***, мэтай якой было замацаванне кіруючай ролі партыі ў грамадстве праз прыстасаванне дзяржаўнага апарату да мовы большасці насельніцтва. Пачала дзейнічаць урадавая камісія па правядзенні беларусізацыі. Але мерапрыемствы ў гэтым кірунку пачаліся яшчэ з 1921 г. Перадумовамі «беларусізацыі» былі пачатак нэпа, палітычная амністыя 1923 г. і палітыка вяртання на Беларусь спецыялістаў з іншых саюзных рэспублік. Беларусізацыя мела вызначаныя кірункі — перавод справаводства і адукацыйных устаноў на беларускую мову, абавязковае ўвядзенне прадмета «беларусазнаўства» ў вучэбныя праграмы, вылучэнне на кіруючыя пасады ў дзяржаўных органах улады мясцовых ураджэнцаў («карэнізацыя»). Палітыка карэнізацыі, калі ўлічваць нацыянальны склад насельніцтва беларускіх гарадоў, не прывяла да «панавання» ва ўладзе выключна беларусаў. Пры гэтым не абмяжоўваліся магчымасці для развіцця культуры іншых нацыянальнасцей БССР: па Канстытуцыі 1927 г.

дзяржаўнымі з’яўляліся 4 мовы — беларуская, руская, яўрэйская і польская. З 1936 г. дзяржаўнымі засталіся толькі беларуская і руская.

Беларусізацыя мела станоўчыя вынікі як для культурнага развіцця, так і для палітычнай стабілізацыі ў Беларусі. Яна выбіла глебу з-пад ног дзеячаў БНР, стала прычынай вяртання ў БССР многіх культурных дзеячаў з эміграцыі. Пашырэнне ўжытку беларускай мовы прывяло да паскоранага афармлення яе навуковых асноў, стварэння навуковай, дзелавой, ваеннай тэрміналогіі. У 1926 г. была праведзена міжнародная канферэнцыя па беларускім правапісе, якая вырашыла некаторыя рознагалоссі ў гэтай галіне мовазнаўства.

У канцы 20-х гг. XX ст. разам са згортваннем нэпа пачаліся мерапрыемствы па згортванні палітыкі беларусізацыі. Так, у лістападзе 1927 г. на XI з’ездзе кампартыі Беларусі было заяўлена, што *нацыянал-дэмакратызм* быў прагрэсіўнай з’явай, калі змагаўся з самадзяржаўем, а ва ўмовах дыктатуры пралетарыяту зрабіўся праявай контррэвалюцыі. XII з’езд КП(б)Б у лютым 1929 г. абвясціў аб абвастрэнні класавай барацьбы, у тым ліку і на культурным фронце. Нацыянал-дэмакратызм пачалі трактаваць як ідэалогію, якая ставіць нацыянальныя інтарэсы вышэй за класавыя. Гэта стварыла падмурак для будучых рэпрэсій супраць беларускай інтэлігенцыі, якая была абвінавачана ў адкрытым антысаветызме. Палітыка беларусізацыі была прыпынена.

У рамках змагання з нацыянал-дэмакратызмам у жніўні 1933 г. СНК БССР былі распрацаваныя і зацверджаныя новыя прынцыпы правапісу беларускай мовы. Пад выдуманай прычынай ачышчэння беларускай мовы ад «буржуазных вульгарызмаў» Акадэмія навук БССР наблізіла яе марфалагічныя і сінтаксічныя прынцыпы да тых, якія існавалі у рускай мове. З пачатку 1930-х гг. хутка пачала скарачацца колькасць школ з беларускай мовай навучання. У дзяржаўнай і партыйнай адміністрацыі беларуская мова паўсюль замянялася рускай.

Разам з тым беларуская культура атрымала значнае развіццё. У 1920-я гг. адбыўся ўздым літаратуры. Дзейнічалі беларускія літаратурныя гурткі — *«Маладняк»*, *«Узвышша»* і *«Полымя»*, рускі «Звенья» і г. д. З’явіліся новыя імёны — *К. Чорны, К. Крапіва, М. Зарэцкі, М. Лынькоў* і інш., якія разам з Я. Коласам, Я. Купалам, З. Бядулем, Ц. Гартным развівалі беларускую літаратуру. У 1928 г. узнікла Беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў (БелАПП). Гэта быў перыяд адноснай свабоды творчасці. У пачатку 30-х гг. XX ст. у літаратурным жыцці БССР адбыліся сур’ёзныя змены. Пастановай ЦК ВКП(б) ад 23 красавіка 1932 г. «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый» усе літаратурныя структуры ліквідаваліся і стваралася адна — Саюз савецкіх пісьменнікаў. Ён праводзіў лінію партыйнасці ў мастацкай творчасці, якая выяўлялася ў метадзе сацыялістычнага рэалізму. Са стварэннем саюза пісьменнікаў над усімі творчымі дзеячамі усталёўваецца

жорсткі ідэалагічны кантроль, цэнзура. Лагічным вынікам далейшага развіцця сацыялістычнага рэалізму сталася ідэалізацыя рэвалюцыйных падзей і існуючага ў краіне грамадскага ладу. Савецкі чалавек прадстаўляўся як творца і гаспадар новага жыцця. Сацыялістычны рэалізм стаў выкарыстоўвацца для прапаганды распачатых пераўтварэнняў і для таго, каб адцягнуць увагу народа ад існуючых цяжкасцяў, а таксама пралікаў і злачынстваў кіраўніцтва.

У жніўні 1920 г. пачаў дзейнасць беларускі вандроўны тэатр пад кіраўніцтвам *У. Галубка*. У верасні 1920 г. у Мінску быў адчынены *Першы Беларускі дзяржаўны тэатр (БДТ-1)*, які ставіў расійскую і беларускую класіку. У 1926 г. ў Віцебску быў адчынены *БДТ-2*. У 1920-х гг. у Віцебску і Гомелі былі створаны музычныя тэхнікумы, а ў 1924 г. у Магілёве была пастаўлена першая беларуская опера М. Чуркіна «Вызваленне працы», ён жа стаў аўтарам першага сімфанічнага твора — «Беларускія карцінкі». Вялікую ролю ў падрыхтоўцы прафесійных музычных кадраў, у мастацкім выхаванні працоўных адыгралі народныя кансерваторыі ў Віцебску, Гомелі, Бабруйску. Значнай падзеяй стала адкрыццё Беларускага музычнага тэхнікума ў Мінску. Оперны і балетны класы, музычныя калектывы тэхнікума з’явіліся асновай Беларускай студыі оперы і балета (з 1933 г. *Дзяржаўны тэатр оперы і балета*). У 1932 г. арганізоўваецца Беларуская дзяржаўная кансерваторыя, хор пры радыёцэнтры, у 1937 г. адкрыта Беларуская дзяржаўная філармонія.

Развіццю эстраднага мастацтва спрыяла стварэнне ў Беластоку (пасля ўз’яднання Заходняй Беларусі з БССР) Дзяржаўнага джаза БССР, мастацкім кіраўніком якога з’яўляўся Эдзі Рознер. Калектыў карыстаўся такой папулярнасцю, што з яго творчасцю азнаёміўся Сталін. У Беластоку ў 1940 г. быў арганізаваны Беларускі ансамбль песні і танца пад кіраўніцтвам *Р. Шырмы*. Кампазітарскія і музычныя кадры аб'ядноўваў створаны ў 1934 г. Саюз кампазітараў. Значнае месца надавалася запісу і апрацоўцы народных песень.

У 1921–1928 гг. узнікла беларускае кіно. Спачатку ствараліся дакументальныя стужкі, а *ў 1926 г.* выйшла першая мастацкая карціна «Лясная быль» рэжысёра *М. Тарыча* аб падзеях грамадзянскай вайны на Беларусі.

У выяўленчым мастацтве існавалі разнастайныя стылявыя і жанравыя плыні. З 1919 г. у Віцебску дзейнічала Народная мастацкая школа, заснаваная *Маркам Шагалам*, які неўзабаве выехаў за мяжу. Сярод яе выкладчыкаў былі прадстаўнікі розных жанраў і стыляў. У барацьбе з гэтымі напрамкамі мацнела рэалістычная плынь. У яе развіцці значную ролю адыграў *М. Філіповіч*, пачалася творчая дзейнасць *І. Ахрэмчыка*, які пісаў карціны на гістарычныя тэмы. У 1920–1930-я гг. працягваў пісаць свае творы *В. Бялыніцкі-Біруля*: у гэты час ім былі створаны такія вядомыя лірычныя пейзажы, як «Аголеныя бярозкі», «Лёд пайшоў», «Пачатак

вясны», «Ранняя вясна». У 1939 г. у Мінску была адкрыта Дзяржаўная карцінная галерэя.

У 20-я гг. ХХ ст. закладзены асновы для развіцця графікі, скульптуры, архітэктуры. Гэты час стаў часам пошукаў і набыцця вопыту для карэннай рэканструкцыі гарадоў і вёсак рэспублікі, арганізацыі масавага жыллёвага будаўніцтва. У гэты ж час згодна з палітыкай ваяўнічага атэізму руйнуецца шмат царкоўных пабудоў.

У стылі канструктывізму і функцыяналізму былі пабудаваны Дом урада, Мінскі Дом афіцэраў, тэатр оперы і балета, Магілёўскі Дом саветаў, галоўны корпус АН БССР, будынак ЦК КПБ, гасцініца «Беларусь» і інш. Вядучымі архітэктарамі міжваеннага часу былі *І. Лангбард*, А. Воінаў, У. Вараксін і інш.

Беларуская савецкая скульптура ў першыя паслярэвалюцыйныя гады развівалася пад уздзеяннем ленінскага плана манументальнай прапаганды. Разлічаная на выкананне ідэалагічнай функцыі, скульптура выконвала ролю сімвала новага жыцця. Першыя савецкія скульптуры выконваліся з недаўгавечных матэрыялаў, часцей з гіпсу, цэменту, фанеры і нават са шкла і алебастравых пліт. Напрыклад, скульптура чырванаармейца на плошчы Свабоды ў Мінску была зроблена з дошчачак, а на галаве змешчана фуражка з бляхі. Развіццю беларускай скульптуры спрыяла адкрыццё ў Віцебску скульптурнага аддзялення ў мастацкім тэхнікуме.

Такім чынам, беларуская культура міжваеннага перыяду дасягнула значных поспехаў, якія, аднак, блякнуць пры параўнанні са стратамі ад рэпрэсій, с пачаткам масавай русіфікацыі і дырэктыўнымі метадамі кіравання мастацтвам.

### Кантрольныя пытанні

1. Па якіх прычынах бальшавікі разагналі Усебеларускі з’езд у снежні 1917 г.?
2. Ці можна назваць БНР сапраўднай дзяржавай?
3. Якія палітычныя і эканамічныя дасягненні ў БССР былі здзейснены ў 1920 – 1930-я гг.?
4. Якія страты для Беларусі прынеслі масавыя рэпрэсіі ў 1930-я гг.?
5. Чаму нэп не мог стаць асновай развіцця савецкай эканомікі на доўгія гады? Што ад гэтай палітыкі засталося ў Беларусі?
6. Якія асаблівасці правядзення індустрыялізацыі ў БССР вы можаце назваць?
7. Чаму палітыку калектывізацыі часам называюць мадэрнізаваным прыгонніцтвам?
8. Чаму бальшавіцкія ўлады імкнуліся ліквідаваць непісьменнасць?
9. Ці магла беларусізацыя на доўгі час вызначаць культурнае развіццё Савецкай Беларусі і чаму?

10. Якімі дасягненнямі савецкай культуры 20–30-х гг. XX ст. мы можам ганарыцца?

11. Што перашкаджала культурнаму развіццю ў Савецкай Беларусі ў міжваенны перыяд?

## Практычныя заданні

**Заданне 1. Трэцяя устаўная грамата Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Год назад народы Беларуси разам з народамі Расеі скінулі ярмо Расейскаго царызму, які найцяжей прыціснуу быу Беларусь, ніпытаючыся народу укінуу наш край у пожар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вескі беларускія. Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Республікі, скідаем з роднаго краю апошнее ярмо дзержаунай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскіе цары на наш вольны і нізалежны край. Ад гэтаго часу Беларуская Народная Рэспубліка абвешчаецца нізалежнаю і вольнаю дзержавай. Самі народы Беларусі у асобі свайго Устаноучаго Сойму пастановиць аб будучых дзержауных зьвязах Беларусі.

На моцы гэтаго трацяць сілу усе старыя дзержауныя зьвязі, якія дали, магчмасьці чужому ураду падпісаць і за Беларусь трактат у Берэсьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелючы зямлю яго на часткі. На моцы гэтаго урад Беларускай Народнай Рэспублікі мае увайсьці у адносіны к зацікауленымі старонамі, прапануючы ім перагледзіць тую часьціну Берэсьцейскаго трактату, акая датычыць Беларусі, і падпісаць міравую умову з усімі ваеваушымі дзержавамі.

Беларуская Народная Рэспублика павінна абняць усе землі, две жыве і ма лічбенную перевагу беларускі народ, а ласьне: Магілеушчыну, беларускія часьці Міншчыны, Гродненшчыны (з Гроднай, Беластокам і інш), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чернігаушчыны і сумежныя часьці суседніх губэрняу, заселеныя беларусамі.

Беларуская Народная Рэспубліка падцьверджывае усе тыя правы і вольнась грамадзян і народау Беларусі, якія абвешчаны Устауной Граматай ад 9 сакавіка 1918 руку.

Абвешчаючы аб нізалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што усе любячые волю народы дапомогуць беларускому народу у поунай меры зьдзейсьніць яго палітычнадзяржауные ідэалы.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.

Дана ў Менску-Беларускім 25 сакавіка 1918 г.

(*Беларускі гістарычны часопіс. 1993. № 1. С. 70–71*)

1. Чаго хацела згодна з гэтай граматай дабіцца Рада БНР?
2. Якія землі з дэкларававаных у грамаце сёння не належаць Беларусі?
3. Ці мела шанцы Трэцяя ўстаўная грамата БНР на рэалізацыю?

**Заданне 2. Вытрымка з пратакола № 29 пашыранага пасяджэння калегіі аддзела друку ЦК КП(б)Б. 19 лістапада 1926 г.**

Слухалі:

Пра п’есу Я. Купалы «Тутэйшыя». […]

Пастанавілі:

1. Прызнаць, што Наркамасвет, Глаўпалітасвет, Глаўліт і тэатр зрабілі сур’ёзную памылку, прыняўшы да пастаноўкі п’есу Я. Купалы «Тутэйшыя» ў тым яе выглядзе, у якім яна напісаная і пастаўленая на сцэне…

4. Лічыць неабходным, каб п’еса была перапрацаваная аўтарам; дабівацца, каб адпаведны ліст Я. Купалы з’явіўся на старонках нашага друку.

5. Лічыць абсалютна неабходным: каб п’еса ў перапрацаваным выглядзе была зноў пастаўлена на сцэне, па магчымасці ў найбліжэйшы час… (*История Беларуси в документах и материалах. Минск, 2000. С. 405–408*)

1. Якія арганізацыі павінны былі дазволіць пастаноўку ў тэатрах БССР?

2. Як называецца папярэднія праверкі і дазвол твора дзяржаўнымі органамі?

3. Як вы лічыце, чаму дабіваліся, каб Я. Купала апублікаваў у прэсе ліст, у якім згаджаўся з рашэннем аддзела друку ЦК КП(б)Б?

**Заданне 3. Паведамленне Народнага камісарыята аховы здароўя БССР у нацкамісію пры ЦВК БССР аб беларусізацыі медыцынскіх устаноў.**

20 красавіка 1928 г.

Народны камісарыят аховы здароўя паведамляе, што ўсе ўстановы, падпарадкаваныя яму, за выключэннем некаторых адзінак на перыферыі, у якіх кіраўнікамі ўстаноў знаходзяцца спецыялісты, малазнаёмыя з беларускай мовай, перайшлі як у афіцыйных зносінах, так і ў гутарках з насельніцтвам на беларускую мову.

Цэнтральны ж апарат НК здароўя ўжо больш года ўсю сваю працу вядзе па-беларуску за выключэннем адзінак, якія з’яўляюцца высокакваліфікаванымі спецыялістамі і ў гутарцы ўжываюць расійскую мову, але ж ужо большая частка іх імкнецца гаварыць на беларускай мове.

НК аховы здароўя прымае шэраг мерапрыемстваў па знішчэнні маючыхся яшчэ недахопаў у частцы беларусізацыі […] на розных пасяджэннях, так і пры выездах на месцы.

Нар. камісар аховы здароўя Барсукоў.

Сакратар Гурло.

(*Беларусізацыя. 1920-я гады. Мінск, 2001. С. 187*)

1. Калі цэнтральны апарат Наркамата аховы здароўя перайшоў на беларускую мову? Колькі часу прайшло пасля пачатку беларусізацыі ў БССР?

2. У якой катэгорыі работнікаў Наркамата аховы здароўя назіраліся цяжкасці з пераходам на беларускую мову?

**Заданне 4. Успаміны Галіны Ефімавай, дачкі селяніна, высланага на пасяленне ў перыяд калектывізацыі 1930 г.**

…аднойчы расклалі вялікае вогнішча ў лесе, і сабраліся мужчыны. Іх жа адарвалі ад гаспадаркі — тых, хто ўмеў працаваць, хацеў жыць і працаваць. Сядуць вакол вогнішча і гавораць: «Не, жыць мы тут не будзем. Гэта нас папалохаюць і адправяць назад. Немагчыма ў такіх умовах жыць».

Я была зусім дзіця, і запомнілася мне тое, што мужчыны нарыхтоўвалі лыка. Лесу там вельмі шмат. Калі трошкі ўладкавалі дамы, мужчыны наразалі лыка і прыносілі на плячах гэтыя скруткі. Потым вешалі іх на гарышчы: «Гэта калі вернемся дадому, лапці плесці будзем». Я сваім дзіцячым розумам думала, што ў нас у Беларусі лыка, напэўна, не было.

І як паміралі ад рэзкай перамены клімату… Калі расплачуся — не смейцеся з мяне… Па 5–6 дзяцей у дзень памірала. А хаваць няма куды — балоты навокал. Маленькія труны падвешвалі на дрэва, пакуль знайшлі пясчаны пагорак, каб можна было хаваць людзей. Дык вось, калі б у мяне былі сілы, і грошы, і, можа, улада, то хаця б нейкага святара завезці на тыя могілкі: там мільёны людзей. Ужо па апошніх дадзеных, калі мы ад'язджалі (як нас адтуль пагналі): прывезлі ў пасёлак 1800 чалавек з нечым, а паехала не больш за 180. Астатнія засталіся ў той зямлі… Ну, што зробіш, такі быў час. І крыўдзіцца няма на каго…

Мы былі дзікія сасланыя, жылі сярод комі-пермякоў, цёмнага і страшнага народа. Было вельмі цяжка. Мароз 40º і голад страшны. Жылі травою (колькі там травы, столькі тут няма), грыбамі-ягадамі. Узімку сцірты ўжо выбарачнага гароху стаялі (пермякі вельмі шмат гароху сеялі). Мы гарохвіны вазілі, на печцы сушылі, у ступе таўклі і, калі была мука абмяшаць зверху, каб не разваліўся гэты праснак, тады пяклі гэтыя праснакі і елі…

Пагналі нас на радзіму: далі даведку — выязджайце зараз жа. У даведках было ўказана, што і дом табе твой аддадуць, і агарод табе твой аддадуць. А калі прыехалі ў сваю вёску, нас нават у калгас не прынялі. Мы ж былі «ворагі народа». Сваякі б адвярнуліся, дзецям сваім не хацелася нават казаць, што мы «ворагі народа». Які ж я была «вораг народа», калі мяне ў чатырохгадовым узросце за каўнер узялі, на воз пасадзілі і павезлі? Ну які ж я была «вораг народа»?

У 37-м годзе так выбралі мужчынаў, што засталіся старыя і непаўналетнія. Ужо ў вайну непаўналетнія падраслі — іх забралі на фронт. Хто вярнуўся з тых, каго ўзялі на фронт, усе вярнуліся з ордэнамі, з медалямі. Ніхто не пайшоў да фашыстаў у паслугачы. Ну, хто ўжо не вярнуўся — той ужо не вярнуўся.

Вось так атрымалася ў жыцці, а ці будзе лепш у нашым жыцці — невядома. (*Запісана ў Оршы Шабельцавым С. 24 красавіка 1999 г. Пераклад Н. Кучмель*)

1. У якіх умовах жылі высланыя на пасяленне?

2. Што можна сказаць пра арганізацыю пасялення раскулачаных сялян: яна была добрай ці нездавальняючай?

3. Ці можна называць гэтых сялян «ворагамі народа»? Ці можна лічыць іх рэпрэсіраванымі?

## Тэсты для самакантролю

**1. Якія арганізацыі дабіваліся вырашэння пытання беларускай дзяржаўнасці на савецкай аснове:**

а) Аблвыканкамзах;

б) Белнацкам;

в) Ваенна-рэвалюцыйны камітэт Паўночна-Заходняга фронту;

г) беларускія секцыі РКП(Б);

д) Віленская беларуская рада;

е) БСГ?

**2. Якую тэрыторыю займала БССР у 1922 г.:**

а) былую Мінскую, Віцебскую і Магілёўскую губерні;

б) 6 паветаў Мінскай губерні;

в) былую Мінскую, Віцебскую, Магілёўскую і Смаленскую губерні;

г) Мінскую і часткі Віленскай і Гродзенскай губерняў?

**3. Грубыя парушэнні правоў чалавека, масавыя рэпрэсіі тлумачыліся сталінскай тэорыяй:**

а) аб узмацненні падрыўной дзейнасці імперыялістычных дзяржаў супраць СССР;

б) аб абвастрэнні класавай барацьбы па меры руху да сацыялізму;

в) аб неабходнасці «чысткі грамадства» для ажыццяўлення сусветнай сацыялістычнай рэвалюцыі.

**4. Якія мовы былі дзяржаўнымі па Канстытуцыі БССР 1927 г.:**

а) польская;
б) руская;
в) літоўская;
г) беларуская;
д) яўрэйская;
е) украінская.

**5. Выберыце адметныя рысы грамадска-палітычнага жыцця Беларусі ў 30-я гг. XX ст.:**

а) узвышэнне партыйна-дзяржаўнага кіраўніцтва;

б) выбары дэпутатаў у Саветы на альтэрнатыўнай аснове;

в) масавыя парушэнні правоў чалавека;

г) палітычныя рэпрэсіі;

д) уплыў на ўсе бакі грамадска-палітычнага жыцця Вярхоўнага Савета БССР і мясцовых саветаў дэпутатаў;

е) значны ўплыў на грамадства ідэалагічнага апарата;

ж) прафсаюзы былі сапраўднымі абаронцамі інтарэсаў рабочых;

з) вера людзей у правільнасць кірункаў грамадскага развіцця.

**6. Прычыны ўвядзення нэпа:**

а) незадаволенасць сялянства рэквізіцыямі хлеба;

б) цяжкі эканамічны крызіс 1920–1921 гг.;

в) разруха як вынік грамадзянскай вайны і інтэрвенцыі;

г) неабходнасць калектывізацыі сельскай гаспадаркі.

**7. Выберыце з пераліку меры, якія ажыццяўляліся ў гады нэпа:**

а) увядзенне харчпадатку;
б) абавязковая працоўная павіннасць;
в) ураўняльны прынцып размеркавання заработнай платы;
г) развіццё кааперацыі;
д) вызваленне насельніцтва ад аплаты камунальных паслуг;
е) магчымасць выкарыстання наёмнай працы;
ж) манаполія дзяржавы на гандаль.

**8. З пераліку фактараў выберыце тыя, якія былі асноўнымі пры пераходзе да беларусізацыі:**

а) імкненне бальшавікоў заваяваць давер насельніцтва;
б) жаданне ўлад «выбіць глебу з-пад ног» нацыянальнага руху;
в) рэалізацыя ленінскага лозунга аб праве нацый на самавызначэнне;
г) згортванне нэпа;
д) антысавецкае падполле на тэрыторыі Беларусі.

**9. Першым кіраўніком Інбелкульта быў:**

а) В. Ластоўскі;
б) С. Некрашэвіч;
в) У. Ігнатоўскі;
г) А. Цвікевіч.

**10. Першая мастацкая стужка «Лясная быль» рэжысёра М. Тарыча прысвечана:**

а) Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Беларусі;
б) падзеям грамадзянскай вайны ў Беларусі;
в) партызанскаму супраціўленню ў гады Першай сусветнай вайны;
г) гісторыі Полацкага княства — першага дзяржаўнага ўтварэння на тэрыторыі Беларусі.

**Адказы**: 1 — б, г; 2 — б; 3 — б; 4 — а, б, г, д; 5 — а, в, г, е, з; 6 — б, в; 7 — а, г, е; 8 — а, б, в; 9 — в; 10 — б.

## ЛІТАРАТУРА

### *Асноўная*

1. *Гісторыя* Беларусі : курс лекцый : у 2 ч. / Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт ім. Я. Купалы, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Мінск : РІВШ, 2000–2002. Ч. 2. XIX–XX ст. / П. І. Брыгадзін [і інш.]. 2002. 655 с.

2. *Гісторыя* Беларусі : дапам. для паступаючых у вышэйшыя навучальныя ўстановы / А. Л. Абецэдарская [і інш.] ; пад рэд. Ю. Л. Казакова [і інш.]. Мінск : Экаперспектыва, 1998. 496 с.

3. *Гісторыя* Беларусі (у кантэксце сусветных цывілізацый) : вучэб. дапам. / В. І. Галубовіч [і інш.] ; пад рэд. В. І. Галубовіча, Ю. М. Бохана. Мінск : Экаперспектыва, 2005. 589 с.

4. *Гісторыя* Беларусі : падручнік : у 2 ч. / Я. К. Новік [і інш.] ; пад рэд. Я. К. Новіка, Г. С. Марцуля. Мінск : Выш. шк., 2007. Ч. 2. Люты 1917 г. — 2006 г. / Я. К. Новік [і інш.]. 444 с.

***Дадатковая***

5. *Адамушка, У. І.* Палітычныя рэпрэсіі 20–50-х гадоў на Беларусі / У. І. Адамушка. Мінск : Беларусь, 1994. 158 с.

6. *Беларусізацыя* : 1920-я гады : Дакументы і матэрыялы / пад агульнай рэд. Р. П. Платонава і У. К. Коршука. Мінск : БДУ, 2001. 270 с.

7. *Бригадин, П. И.* История Беларуси в контексте европейской истории : курс лекций / П. И. Бригадин. Минск : ГИУСТ БГУ, 2007. 336 с.

8. *История* советской политической цензуры. Документы и комментарии. 1917–1993 / Ответственный составитель и руководитель творческого коллектива Т. М. Горяева. Москва : РОССПЭН, 1997. 672 с.

9. *Касцюк, М.* Бальшавіцкая сістэма ўлады на Беларусі / М. Касцюк. Мінск : Экаперспектыва, 2000. 308 с.

10. *Брыгадзін, П. І.* Паміж Усходам і Захадам : станаўленне дзяржаўнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі (1917–1939 гг.) / П. І. Брыгадзін, У. Ф. Ладысеў. Мінск : БДУ, 2003. 307 с.

11. *Протько, Т. С.* Становление советской тоталитарной системы в Беларуси : 1917–1941 гг. : [сборник материалов] / Т. С. Протько. Минск : Тесей, 2002. 688 с.

12. *Сарокін, А. Н.* На ростанях айчыннай гісторыі : Бел. вёска: Ад Дэкрэта да Кодэкса аб зямлі (1917–1990-я гг.) / А. Н. Сарокін. Мінск : Дадатак да часопіса «Права і эканоміка», 1999. 298 с.

13. *Ходзін, С. М.* Гісторыя культуры Беларусі ў 1920–1930-я гг. : дапам. для студэнтаў гіст. фак. / С. М. Ходзін. Мінск : БДУ, 2001. 71 с.

## ТЭМА 5. ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ У СКЛАДЗЕ ПОЛЬСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ (1921–1939 ГГ.)

5.1. Беларускае пытанне пры афармленні Версальска-Вашынгтонскай сістэмы.

5.2. Нацыянальна-культурная і эканамічная палітыка ўрада ІІ Рэчы Паспалітай у Заходняй Беларусі.

5.3. Рэвалюцыйны і нацыянальна-вызваленчы рух у Заходняй Беларусі.

5.4. Эмігранты-беларусы з Заходняй Беларусі.

**Агульны час заняткаў**: 2 гадзіны.

**Мэта семінара:** ахарактарызаваць палітычнае і сацыяльна-эканамічнае развіццё Заходняй Беларусі ў складзе ІІ Рэчы Паспалітай.

**Задачы:**

– набыць веды аб міжнародным становішчы ў перыяд афармлення Версальска-Вашынгтонскай сістэмы;

– выявіць характэрныя асаблівасці нацыянальнай і эканамічнай палітыкі ўрада міжваеннай Польшчы;

– вывучыць асаблівасці рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі;

– ахарактарызаваць беларускіх эмігрантаў міжваеннага перыяду.

**Патрабаванні да зыходнага ўзроўню ведаў.** Для засваення тэмы неабходна ведаць падзеі савецка-польскай вайны 1919–1920 гг., уласцівасці развіцця сельскай гаспадаркі Беларусі ў перадваенны перыяд

(да 1914 г.), а таксама працэс развіцця беларускага нацыянальнага руху ў перыяд 1917–1920 гг.

**Паняцці і тэрміны, якія неабходна засвоіць:** «лінія Керзана», нота, мемарандум, паланізацыя, парцэляцыя, асаднікі, камасацыя, санацыя, канцэнтрацыйны лагер, эміграцыя.

## 5.1. Беларускае пытанне пры афармленні Версальска-Вашынгтонскай сістэмы

Падчас *савецка-польскай вайны 1919–1920 гг.* Беларусь стала арэнай упартых баёў паміж польскімі войскамі і Чырвонай Арміяй. Урады ў Маскве і Варшаве імкнуліся як мага шырэй распаўсюдзіць межы свайго ўплыву: вайна то прыпынялася, то разгортвалася з новай сілай, і поспехі на фронце ці то Польшчы, ці то Краіны Саветаў адразу мянялі планы дыпламатаў на вырашэнне актуальнай тэрытарыяльнай праблемы.

Для заходніх краін пасля заканчэння Першай сусветнай вайны таксама галоўным пытаннем было ўсталяванне новых дзяржаўных межаў у Еўропе. На *Парыжскай мірнай канферэнцыі (1919–1920)* для вызначэння ўсходняй мяжы Польшчы была створана спецыяльная камісія. Тыя, хто працаваў над гэтай праблемай, падкрэслівалі, што немагчыма правесці дакладную польскую этнічную мяжу з-за таго, што ёсць вялікія тэрыторыі са змешаным насельніцтвам. Вышэйзгаданая камісія прыйшла да высновы, што этнічна Польшча даходзіць да рэк Нараў і Буг (што прыблізна супадае з сучаснай беларуска-польскай мяжой). Аднак ні польскі, ні савецкі ўрад не прызнавалі гэтую дэмаркацыйную лінію: спачатку польскія войскі вялі наступ на ўсход і дайшлі да Бярэзіны і Дняпра, потым улетку 1920 г. Чырвоная Армія наступала да самай Віслы. Падчас узгаданага савецкага наступлення міністр замежных спраў Вялікабрытаніі Дж. Керзан 11 ліпеня 1920 г. пераслаў ультыматыўную ***ноту*** ў Маскву, дзе патрабавалася спыніць Чырвоную Армію ў раёне вызначанай на Парыжскай канферэнцыі дэмаркацыйнай лініі. Пасля гэтай ноты (якую бальшавікі праігнаравалі) названая лінія стала вядома як ***«лінія Керзана»***.

У выніку польскага контрнаступлення, якое пачалося ў жніўні 1920 г., Чырвоная Армія была разбіта на ўсход ад Варшавы. Пасля палякі працягвалі наступаць на тэрыторыю Беларусі і дайшлі да Мінска. Толькі 12 кастрычніка 1920 г. у Рызе дэлегацыя Польшчы і прадстаўнікі савецкіх урадаў Расіі і Украіны падпісалі папярэдні мірны дагавор, паводле якога мяжа паміж варожымі бакамі прайшла на захад ад Дрысы, Мінска, Турава (у Беларусі). Канчатковы мірны дагавор быў падпісаны ў той жа Рызе *18 сакавіка 1921 г.*, у выніку чаго да Польшчы адышла Заходняя Беларусь, якая знаходзілася на ўсход ад «лініі Керзана». Заходнебеларускія землі ў II Рэчы Паспалітай уваходзілі ў склад *Віленскага, Беластоцкага, Навагрудскага і Палескага ваяводстваў*, плошча іх складала больш за 120 тыс. км$^2$, а насельніцтва ў 1931 г. налічвала звыш 5 млн чалавек (заходнія

землі ў межах сучаснай Беларусі, якія апынуліся ў Польшчы, складалі 82 тыс. км$^2$, насельніцтва — 3,5 млн чалавек).

Усталяванне савецка-польскай дзяржаўнай мяжы прывяло да того, што амаль дваццаць гадоў (з 1921 па 1939 г.) Заходняя Беларусь і БССР развіваліся ў розных палітычных, эканамічных і культурных абставінах. Гэты падзел прывёў да разрыву былых сувязяў (як на грамадскім, так і на асабістым узроўні), амаль поўнай адсутнасці якіх-небудзь узаемадачыненняў жыхароў розных частак Беларусі. І калі ўсходнія беларусы мелі ўласныя элементы нацыянальнай дзяржаўнасці ў выглядзе БССР і яе інстытутаў, то жыхары Заходняй Беларусі былі гэтага пазбаўлены і цярпелі ад паланізацыйнай палітыкі ўрада ІІ Рэчы Паспалітай.

Рыжскі мірны дагавор рабіў немагчымым стварэнне незалежнай дзяржавы беларусаў у этнічных межах іх пражывання. Кіраўніцтва БССР, падкантрольнае Маскве, не змагалася супраць падзелу Беларусі. Таму ініцыятыву ў адстойванні цэласнасці Беларусі ўзялі на сябе Рада і ўрад БНР, якія знаходзіліся ў эміграцыі. Беларускія палітыкі-эмігранты разглядалі савецкія і польскія вайсковыя фарміраванні як акупацыйныя і ўвосень 1920 г. настойвалі на сваім удзеле ў савецка-польскіх перамовах. Яны спрабавалі ўсталяваць кантакты з савецкім кіраўніцтвам, перасылалі да польскіх кіраўнікоў дыпламатычныя ноты, але станоўчага выніку не дасягнулі. Тады ўрад БНР 15 верасня 1920 г. накіраваў ноту на адрас Парыжскай мірнай канферэнцыі, у якой прасіў прызнаць незалежнасць БНР і дапамагчы беларускаму народу ў барацьбе супраць акупацыі суседнімі дзяржавамі. Аднак спадзяванні на дапамогу заходнееўрапейскіх краін аказаліся марнымі. Пасля падпісання Рыжскага мірнага пагаднення ўрад БНР 25 сакавіка 1921 г. звярнуўся з адозвай «Усяму культурнаму свету», у якой адзначыў, што падзел Беларусі ніколі не можа быць прызнаны беларусамі. Тое, што «Беларусь павінна быць дзяржавай непадзельнай і ні ад каго не залежнай», сцвярджала і рэзалюцыя *Беларускай нацыянальна-палітычнай канферэнцыі*, якая прайшла ў Празе ў *верасні 1921 г.* (арганізавана ўрадам БНР).

Спадзяванні беларускіх палітычных эмігрантаў на перагляд палажэнняў Рыжскага трактата не былі адарванымі ад рэальнасці: на Захадзе шматлікія ўплывовыя палітыкі з незадавальненнем адносіліся да захопу Польшчай т. зв. «закерзоння». Да таго ж усходнія межы ІІ Рэчы Паспалітай аспрэчвала Літва, якая прэтэндавала на тэрыторыю Віленшчыны, акупаванай польскімі войскамі ў 1920 г. насуперак жаданням Антанты. Кіраўнік урада БНР В. Ластоўскі прапаноўваў сваё выйсце с такога становішча: урад БНР павінен прэтэндаваць перад *Лігай Нацый* на тэрыторыі ІІ Рэчы Паспалітай на ўсход ад «лініі Керзана». Тады ўзнікне дэмакратычная Беларусь, якая стане апанентам БССР, і беларускае пытанне можа вырашыцца шляхам перамоў паміж імі.

Урад БНР выкарыстоўваў любую магчымасць, каб прыцягнуць увагу міжнароднай супольнасці да беларускага пытання. 11 верасня 1921 г.

дэлегацыя ўрада БНР была прынята ў Жэневе прэзідыумам Лігі Нацый. У лістападзе 1921 г. урад БНР накіраваў удзельнікам міжнароднай канферэнцыі ў Вашынгтоне свае тлумачэнні наконт Рыжскага міру, дзе адзначалася, што падзел Беларусі непрымальны і неабходна перагледзець падпісаныя палажэнні ад 18 сакавіка 1921 г.

Яшчэ адной нагодай прыцягнуць увагу да становішча ў Беларусі з'яўлялася міжнародная канферэнцыя па эканамічных і фінансавых пытаннях у *Генуі (красавік–май 1922 г.)*. Дэлегацыя БНР на чале з *В. Ластоўскім* і *А. Цвікевічам* 27 красавіка прыбыла ў Геную, дзе распаўсюдзіла ***мемарандум*** аб пераглядзе Рыжскага міру і прызнанні БНР незалежнай дзяржавай. З-за таго што на пленарнае пасяджэнне беларускае пытанне вынесена не было, дэлегацыя БНР вырашыла падтрымаць дэлегацыю Літвы: старшыні канферэнцыі была накіравана нота аб тым, што ўрад БНР згодзен на ўваходжанне Віленшчыны і Гродзеншчыны ў склад літоўскай дзяржавы ў якасці аўтаномных зямель. Канферэнцыя ў Генуі не вырашыла тэрытарыяльную спрэчку на карысць Літвы і БНР, але і Польшча не дамаглася міжнароднага прызнання сваёй усходняй мяжы.

У 1923 г. склалася новая палітычная сітуацыя ў Еўропе. Па-першае, зніклі папярэднія мары аб хуткім падзенні камуністычнага рэжыму ў Маскве: у снежні 1922 г. быў створаны СССР і бальшавікі ўмацавалі сваю ўладу. Па-другое, Германія адмовілася выконваць рэпарацыйныя плацяжы, што ў лютым 1923 г. прывяло да акупацыі Францыяй і Бельгіяй заходненямецкай Рурскай вобласці. У гэтых абставінах французскія і брытанскія палітыкі ўбачылі ў Польшчы тую дзяржаву, якая, з аднаго боку, з'яўляецца заслонай ад СССР, з іншага — саюзніцай супраць магчымага дамінавання Германіі. Таму Францыя і Вялікабрытанія сталі выказваць большую зацікаўленасць у моцнай Польшчы, якой бы належала і тэрыторыя на ўсход ад «лініі Керзана».

Польскія палітыкі ведалі, што без міжнароднага прызнання ўсходняй мяжы Польшчы іх становішча ў «закерзонні» будзе хісткім і нетрывалым. Таму яны зрабілі ўсё магчымае, каб скарыстаць сітуацыю, што склалася ў Еўропе, дзеля прызнання сваіх межаў. У гэтай справе палякам найбольшую падтрымку аказала Францыя, якая адстойвала інтарэсы Польшчы перад сваімі саюзнікамі па Антанце. У выніку *15 сакавіка 1923 г.* канферэнцыя паслоў Вялікабрытаніі, Францыі, Італіі і Японіі прыняла дадатковы пратакол да Версальскага дагавора, у якім была юрыдычна прызнана савецка-польская мяжа ад 1921 г.

Хаця ні Літва, ні Савецкі Саюз не лічылі правамоцнымі рашэнні паслоў Антанты ад 15 сакавіка 1923 г., для дзеячаў БНР стала зразумелай марнасць іх спадзяванняў на стварэнне ў бліжэйшым будучым незалежнай беларускай дзяржавы. Пэўная частка палітычных эмігрантаў стала больш прыхільна адносіцца да бальшавіцкай улады, якая ў 1920-я гг. праводзіла *беларусізацыю* ў БССР. Новы кіраўнік урада БНР А. Цвікевіч пачаў ажыццяўляць палітыку на збліжэнне з БССР, вынікам чаго стала *другая Беларуская нацыянальна-*

*палітычная канферэнцыя*, якая прайшла *12–16 кастрычніка 1925 г.* у *Берліне*. Канферэнцыя прыняла рэзалюцыю «Аб агульным палітычным становішчы Беларусі», дзе адзначалася, што толькі БССР можа вызваліць Заходнюю Беларусь ад польскага прыгнёту. На канферэнцыі было вынесена рашэнне аб спыненні дзейнасці ўрада БНР, а шэраг яго кіраўнікоў (А. Цвікевіч, Л. Заяц, У. Пракулевіч) пераехалі ў БССР.

Частка беларускіх палітычных эмігрантаў не прызнала правамоцнымі дзеянні А. Цвікевіча: у Празе дзейнічала Рада БНР, якую ўзначальваў *П. Крачэўскі*, а пасля ягонай смерці ў 1928 г. – *В. Захарка*. Па іх меркаванні, вышэйшая ўлада на тэрыторыі этнаграфічнай Беларусі павінна была належаць выключна Прэзідыуму Рады БНР. В. Захарка супрацоўнічаў з рускай і ўкраінскай эміграцыяй, складаў розныя мемарандумы і пратэсты ў Лігу Нацый і ў дыпламатычныя прадстаўніцтвы розных краін. Дзеячы БНР таксама спрыялі станаўленню беларускіх нацыянальных арганізацый у еўрапейскіх краінах — Чэхаславакіі, Францыі, Латвіі.

Такім чынам, пасля Першай сусветнай вайны пры фарміраванні сістэмы міжнародных адносін (*Версальска-Вашынгтонскай сістэмы*) еўрапейскія краіны-пераможцы імкнуліся зацвердзіць уласнае дамінаванне пры ігнараванні інтарэсаў невялікіх народаў на ўсходзе Еўропы. Прыярытэтнымі напрамкамі палітыкі Вялікабрытаніі і Францыі былі ізаляцыя Краіны Саветаў і стрымліванне Германіі. Таму яны пайшлі на вялікія саступкі Польшчы як свайму бліжэйшаму саюзніку ў гэтым рэгіёне. Намаганні беларускіх эмігрантаў, накіраваныя на ўсталяванне незалежнай БНР ці фарміраванне якіх-небудзь беларускіх небальшавіцкіх дзяржаўных структур у Беларусі, аказаліся марнымі.

## 5.2. Нацыянальна-культурная і эканамічная палітыка ўрада II Рэчы Паспалітай у Заходняй Беларусі

Грамадска-палітычнае развіццё Заходняй Беларусі ў складзе II Рэчы Паспалітай у міжваенны перыяд суправаджалася палітыкай ***паланізацыі***, якая вымушала беларусаў жыць у стане прыгнечанай меншасці. Паланізацыя праяўлялася ў пераследаванні беларускага нацыянальнага руху, закрыцці беларускіх школ і культурных арганізацый, каланізацыі рэгёна польскімі чыноўнікамі і асаднікамі. Міністр Л. Скульскі адкрыта казаў аб сваіх мэтах: каб за 50 гадоў ніякіх беларусаў не стала, каб усіх беларусаў у Польшчы можна было б пасадзіць на адной канапцы. Пры правядзенні такой палітыкі парушаліся артыкулы Рыжскага пагаднення, у якіх Польшча гарантавала этнічным меншасцям (сярод якіх называліся і беларусы) магчымасць «культываваць сваю родную мову, арганізоўваць і падтрымліваць свае школы, развіваць сваю культуру…»

На далучаных да Польшчы тэрыторыях усталяваўся новы адміністрацыйны падзел — уводзіліся ваяводствы, паветы, гміны. Назвы населеных пунктаў пісаліся па-польску і вымаўляліся на польскі лад:

напрыклад, назва горада Брэст пісалася «Brześć» (што вымаўлялася як «Бжэшч»), Глыбокае — «Głębokie» («Глембоке»). Пры ўрадзе працавала спецыяльна ўтвораная камісія для замены беларускіх назваў на польскія: напрыклад, назва беларускай вёскі «Сінкіняты» станавілася «Сінкінента» і да т. п. Плошчы і вуліцы заходнебеларускіх гарадоў і мястэчак насілі імёны нацыянальных дзеячаў і герояў Польшчы. У гміне і судзе панавала польская мова, забаранялася карыстацца беларускай.

Асаблівае значэнне ў выхаванні і фарміраванні чалавека з нацыянальна-польскай дамінантнасцю надавалася школе. Ва ўстановах адукацыі выкладанне вялося па-польску, і былі выпадкі, калі вучням забаранялі нават на перапынку размаўляць па-беларуску. Дзеці вучылі польскія патрыятычныя вершы і дэкламацыі, абавязкова наведвалі ўрачыстасці, дзе чулі ці спявалі польскія гімны. Нярэдка настаўнікамі з’яўляліся людзі з уласнапольскіх зямель ці з Галіцыі: напрыклад, у снежні 1925 г. на Віленшчыне 324 настаўнікі працавалі там, дзе нарадзіліся, а больш за 440 з’яўляліся выхадцамі з іншых рэгіёнаў. Настаўнікаў з мясцовых жыхароў пасылалі на курсы перападрыхтоўкі ў Кракаў, каб потым яны вярталіся і праводзілі «цывілізацыйную польскую місію» на «крэсах всходніх» (як называлі Заходнюю Беларусь), ці накіроўвалі іх у іншыя раёны Польшчы.

Для беларусаў дзейсным спосабам захавання сваёй этнічнай адметнасці і супрацьстаяння *асіміляцыйнай* палітыцы з’яўлялася іх нацыянальная школа. У *1921 г.* было створана *Таварыства беларускай школы (ТБШ)* і на Віленшчыне існавала 178 дзяржаўных беларускіх пачатковых школ. Але польскі ўрад у наступныя гады пад рознымі нагодамі большасць з іх зачыніў — у 1924 г. засталося толькі 13 школ. 31 ліпеня 1924 г. сейм зацвердзіў новы закон аб школах нацыянальных меншасцяў, згодна з якім у паветах, дзе пражывала не менш за 25 % беларускага насельніцтва, можна было адкрыць школу з беларускай мовай выкладання. У гэтым выпадку польская мова вывучалася толькі як адзін з прадметаў. Але такая беларуская школа мусіла адкрыцца пры наяўнасці дэкларацыі з подпісамі 40 бацькоў дзяцей; пры гэтым калі меліся 20 подпісаў за навучанне па-польску, то адкрывалася двухмоўная (польска-беларуская) школа. А ў двухмоўных школах, па словах пасла (дэпутата) сойма *Б. Тарашкевіча*, «навучанне адбываецца на польскай мове, а беларускія гадзіны — гэта гімнастыка, маляванне, гульні». Таму польскія ўлады рабілі розныя махінацыі, каб не дазволіць адкрыць беларускія школы, а ў крайнім выпадку дапускалі існаванне двухмоўных школ.

Адметнай з’явай культурнага жыцця Заходняй Беларусі было існаванне беларускіх прыватных гімназій: у пачатку 1920-х гг. працавала 6 такіх навучальных устаноў. Самай знакамітай з’яўлялася Віленская беларуская гімназія, у якой у розныя гады выкладчыкамі працавалі *М. Гарэцкі, Я. Драздовіч, І. і А. Луцкевічы, Б. Кіт, Р. Шырма*. Але навучэнцы беларускіх гімназій не мелі магчымасці па заканчэнні восьмага класа здаваць экзамен

на атэстат сталасці, што не дазваляла паступаць ва ўніверсітэты Польшчы. Віленская гімназія набыла такое права толькі ў 1928 г. Таму выпускнікі вымушаны былі паступаць у ВНУ Чэхаславакіі (дзе існавала спецыяльная квота чэшскага ўрада для беларусаў) ці БССР.

На мяжы 1920–1930-х гг. польскі ўрад пайшоў у гвалтоўны наступ на беларускую асвету: калі ў 1930/1931 навучальным годзе ў краі налічвалася 21 беларуская і 41 польска-беларуская пачатковая школа, то ў 1937/1938 г. ужо не было ніводнай беларускай і толькі 5 польска-беларускіх школ. У *снежні 1936 г.* было забаронена ТБШ. К верасню 1939 г. беларускія пачатковыя школы ў Польшчы перасталі існаваць. У 1934 г. Віленская беларуская гімназія была пераўтворана ў філіял польскай гімназіі імя Ю. Славацкага, а іншыя беларускія гімназіі ў першай палове 1930-х гг. былі зачынены.



**Станіслаў Нарбут** (1853–1926) — урач, грамадскі дзеяч і мецэнат. Сын архітэктара і гісторыка Тэадора Нарбута, брат Людвіка Нарбута (кіраўніка паўстанцаў Лідскага павета ў 1863 г.). Скончыў Баварскі ўніверсітэт у Мюнхене, дзе атрымаў у 1879 г. дыплом лекара і ступень доктара медыцыны; вучыўся і ў Дэрпцкім універсітэце. З 1904 г. быў на пасадзе ўрача ў Браславе — верагодна, адзіны выпадак у Беларусі, калі доктар медыцыны працаваў у павятовым мястэчку.

У Браславе на ўласныя сродкі пабудаваў бальніцу. У 1907 г. заснаваў таварыства народнай цвярозасці. Падчас Першай сусветнай вайны ўзначальваў лазарэт на расійскім Паўночна-Заходнім фронце, быў цяжка паранены. У 1919 г. аднавіў сваю лекарскую практыку ў Браславе. Пасля 1920 г. зазнаў недаверлівыя адносіны да сябе з боку польскіх улад, бо падчас савецка-польскай вайны аказваў медыцынскую дапамогу хворым і параненым з абодвух бакоў. Памёр у 1926 г. ад запалення лёгкіх пасля таго, як застудзіўся ў дарозе, калі ехаў аказаць дапамогу пацыенту. У 1927 г. на сродкі жыхароў на магіле С. Нарбута на Замкавай гары Браслава пастаўлены помнік-маяк.

У эканамічным плане Заходняя Беларусь з'яўлялася самым адсталым рэгіёнам ІІ Рэчы Паспалітай. Першая сусветная і польска-савецкая войны пакінулі пасля сябе разбураную тэрыторыю, на якой назіралася дэградацыя вядзення гаспадаркі. Гэта абумовіла цяжкае матэрыяльнае становішча насельніцтва, а вяртанне соцень тысяч бежанцаў з Савецкай Расіі павялічвала маштабы галечы. Заходняя Беларусь складала 24 % тэрыторыі і каля 13 % насельніцтва краіны, а колькасць занятых рабочых была толькі каля 5 %. Такая ўдзельная вага была амаль нязменнай і пазней. У гарадах дамінавала дробная вытворчасць, каля 85 % насельніцтва жыло ў сельскай мясцовасці.

Дзеля развіцця эканомікі польскі ўрад праводзіў шэраг рэформаў у аграрным сектары, дзе памешчыкі валодалі агромністымі абшарамі зямлі пры яе недахопе ў сялян. Лічылася, што гаспадарка з 7–8 га зямлі не заўсёды магла пракарміць сялянскую сем'ю. А ў Заходняй Беларусі 14,3 % гаспадарак мелі меней чым 2 га зямлі, 34,2 % — ад 2 да 5 га і 32,8 % — ад 5 да 10 га. Паступова невялікія зямельныя надзелы пры высокай нараджальнасці яшчэ больш драбіліся паміж спадчыннікамі. У той жа час каля 500 магнатаў валодалі землямі больш за 1000 га кожны. Выпраўленню такога зямельнага дысбалансу павінна была садзейнічаць палітыка ***парцэляцыі***.

Парцэляцыя — гэта продаж праз Зямельны банк часткі памешчыцкай зямлі дробнымі ўчасткамі (парцэлямі). Парцэляцыі падлягалі таксама і маёнткі, якія належалі дзяржаве, царкве, былі канфіскаваныя ў дынастыі Раманавых або набытыя махлярствам падчас вайны. Панская маёмасць абмяжоўвалася памерам у 60–180 га (у асобных выпадках — да 400 га), а астатняя зямля прымусова выкуплялася па цэнах, у 2 разы меншых за рынкавыя. Прадавалася зямля па рынкавым кошце, і ў першую чаргу парабкам, якія страцілі працу ў выніку рэформы, былым салдатам польскай арміі, беззямельным сялянам. Тым, каму выдзяляліся парцэлі, дзяржава прадастаўляла доўгатэрміновую пазыку.

Адным з аспектаў зямельнай рэформы было насаджэнне асадніцтва. ***Асаднікі*** — адмысловая катэгорыя насельніцтва, як правіла, былыя вайскоўцы, удзельнікі польска-савецкай вайны, якія звычайна паходзілі з Цэнтральнай ці Заходняй Польшчы і атрымлівалі землі на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Яны павінны былі стаць апорай польскай улады ў справе «ўціхамірвання» мясцовага насельніцтва і насаджэння польскасці. У чатырох ваяводствах, у якія ўваходзілі заходнебеларускія землі, на 1931 г. пражывала 9424 асаднікі.

Яшчэ адным з кірункаў зямельнай палітыкі стала ***камасацыя*** (хутарызацыя), мэтай якой было ліквідаванне цераспалосіцы. Па сутнасці, камасацыя ўяўляла сабой насаджэнне фермерскіх гаспадарак і павінна была садзейнічаць больш прадукцыйнай арганізацыі працы. Згодна з законам аб камасацыі (1923 г.) кожны селянін, які меў некалькі кавалкаў зямлі, атрымліваў надзел, роўны тым, якімі валодаў (з улікам іх цаны). Сяляне павінны былі самастойна плаціць за складанне праектаў і правядзенне дарог, пераносіць сядзібу на хутар. Дзяржава аказвала перасяленцам толькі мізэрную дапамогу, і становішча хутаран было складаным.

Пры правядзенні зямельнай рэформы польская адміністрацыя сутыкнулася з наяўнасцю ў Заходняй Беларусі такой з'явы, як *сервітут* – заснаванае на звычаёвых традыцыях права карыстання сялянамі ўласнасцю памешчыка. Найбольш пашыранай формай зямельнага сервітуту было права сялян пасвіць жывёлу, карыстацца панскімі сенажацямі і лячнымі ўгоддзямі. Гэта давала магчымасць малазабяспечаным гаспадаркам

трымаць больш жывёлы. Па законе ад 10 студзеня 1922 г. сервітуты ліквідаваліся: паны захавалі за сабой ¾ сервітутных зямель, астатняя частка была перададзена сялянам у выглядзе кампенсацыі. І калі напярэдадні Першай сусветнай вайны ў Заходняй Беларусі сервітутамі карысталіся 50 % сялян, то ў 1927 г. — ужо толькі 1 %.

У выніку аграрных рэформаў польскага ўрада быў закладзены падмурак для капіталістычнага развіцця заходнебеларускай вёскі. Сельская гаспадарка рэгіёна ў 1928 г. дасягнула даваеннага ўзроўню, а ў 1930-я гг. адбывалася далейшае павелічэнне ўраджайнасці зерневых, бульбы, ільну, а таксама рост колькасці свойскай жывёлы. Пасля сусветнага эканамічнага крызісу 1929–1933 гг. назіралася ўзрастанне дынамікі гаспадарчага развіцця Заходняй Беларусі. Рост ураджайнасці збожжавых прывёў да збораў у 10–12 ц/га. У 1937 г. пагалоўе буйной рагатай жывёлы дасягнула 1 млн 617,7 тыс. (у 1927 г. было 1 млн 74,6 тыс.), свіней — 1 млн 168 тыс. (у 1927 г. — 638,6 тыс.).

Але праведзеныя рэформы не паменшылі вастрыню сацыяльных праблем: пры павышанай нараджальнасці сярод беларусаў і пры немагчымасці іх выхаду на заробкі ў горад, дзе амаль адсутнічала індустрыяльная вытворчасць, на вёсцы назіраўся зямельны голад. Калі ў 1921 г. беднякі складалі 62 %, сераднякі — 30 %, заможныя — 8 % сялян Заходняй Беларусі, то ў сярэдзіне 1930-х гг. — адпаведна 78, 17 і 5 %.

Такім чынам, эканамічная палітыка ІІ Рэчы Паспалітай садзейнічала замацаванню і развіццю рынкавых адносін у заходнебеларускай вёсцы. Не гледзячы на станоўчыя вынікі аграрных рэформ, гэта не дазволіла вырашыць сацыяльныя праблемы «крэсаў усходніх», а нацыянальны прыгнёт беларусаў прывёў да складвання ў мясцовым грамадстве выбуховай сітуацыі: значная частка насельніцтва разглядала польскія ўлады як прыгнятальнікаў і сімпатызавала СССР, што і выявілася ў 1939 г. падчас руйнавання Польскай дзяржавы.

## 5.3. Рэвалюцыйны і нацыянальна-вызваленчы рух у Заходняй Беларусі

Палітычнае бяспраўе, цяжкае эканамічнае становішча, паланізацыйныя мерапрыемствы ўрада ІІ Рэчы Паспалітай, накіраваныя на «растварэнне беларусаў у польскай нацыі», — усё гэта выклікала незадавальненне і абурэнне значнай часткі насельніцтва Заходняй Беларусі. Да таго ж беларусы мелі ўзор іншага нацыянальнага ўладкавання і адметнай сацыяльнай сістэмы ў выглядзе БССР. Таму ў грамадскім жыцці Заходняй Беларусі існаваў нацыянальна-вызваленчы і рэвалюцыйны рух, найбольшая актыўнасць якога назіралася ў 1920-я гг.

Па падпісанні Рыжскага міру, калі польская ўлада толькі пачала замацоўвацца, у Заходняй Беларусі выбухнулі ўзброеныя паўстанні. У 1921–1922 гг. яны мелі стыхійны і слабаарганізаваны характар. Пры гэтым паўстанцы арыентаваліся і падтрымлівалі сувязі або з урадам БНР, які

знаходзіўся ў Літве, або з савецкімі структурамі ў БССР. На Беласточчыне і Гродзеншчыне значным уплывам карысталася *БПС-Р*: у яе падпольных арганізацыях у 1922 г. налічвалася каля 6 тыс. чалавек. Формамі барацьбы супраць польскіх улад былі напады на паліцэйскія пастарункі, паязды, крамы і інш.

У адказ на разгортванне ўзброеннай барацьбы польскія ўлады ў некаторых паветах увялі стан ваеннай аблогі і выслалі за межы краіны радыкальна настроеных беларускіх палітычных дзеячаў. Пасля гэтага ў лістападзе 1922 г. былі праведзены выбары ў сейм, у выніку чаго ў парламент Польшчы прайшлі і беларусы, якія ўтварылі тут сваю фракцыю — *Беларускі Пасольскі Клуб*. Члены Клуба, сярод якіх найбольшую актыўнасць праявілі *Б. Тарашкевіч, А. Станкевіч, В. Рагуля*, выступалі ў абарону нацыянальна-культурных і сацыяльных правоў беларусаў. Дэпутаты-беларусы склалі праект аб культурнай аўтаноміі для беларусаў, які прадугледжваў стварэнне краёвага парламента ў Вільні, дазвол на карыстанне беларускай мовай у школах і судах, перадачу зямлі сялянам. Аднак гэты праект не быў перададзены на абмеркаванне ў сейм.

У 1924–1925 гг. па заходнебеларускіх землях пракацілася наступная хваля паўстанняў. На гэты раз кіраўніцтва паўстаннямі знаходзілася ў руках *Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі* (*КПЗБ*, створана ў 1923 г.), якая з'яўлялася часткай Кампартыі Польшчы (на правах тэрытарыяльнай нацыянальнай арганізацыі). КПЗБ не мела свайго статута і кіравалася праграмнымі дакументамі Кампартыі Польшчы. У аграрным пытанні КПЗБ выступала за ліквідацыю памешчыцкага землеўладання і перадачу зямлі сялянам без выкупу. Фінансавую і арганізацыйную падтрымку мясцовыя камуністы атрымлівалі з боку СССР, што спрыяла росту ўзброенай барацьбы. У Заходняй Беларусі дзейнічалі такія знакамітыя партызаны, у наступным Героі Савецкага Саюза, як *С. Ваўпшасаў, В. Корж, К. Арлоўскі*. Сваёй мэтай паўстанцы бачылі ўсталяванне савецкай улады ў Заходняй Беларусі, а некаторыя марылі і аб утварэнні адзінай Беларусі. Супрацьстаянне ў Заходняй Беларусі мела выгляд сапраўднай грамадзянскай вайны. Урад ІІ Рэчы Паспалітай распачаў шырокамаштабныя рэпрэсіі супраць насельніцтва: толькі ў красавіку 1925 г. у Навагрудскім ваяводстве было арыштавана каля 1400 чалавек; у Палескім ваяводстве за 9 месяцаў 1924 – 1925 гг. было расстраляна 57 чалавек, дзясяткі былі асуджаны на пажыццёвае турэмнае зняволенне. У выніку гэтых надзвычайных і жорсткіх мер у 1925 г. Заходняя Беларусь была «ўціхамірана».

Паражэнне ўзброеных партызанскіх атрадаў прывяло да змены тактыкі пракамуністычнага супраціўлення. На першы план выходзілі легальныя сродкі барацьбы. Пад уздзеяннем КПЗБ у сярэдзіне **1925 г.** Беларускі Пасольскі Клуб у сойме раскалоўся: частка яго членаў стварыла *Беларускую сялянска-работніцкую грамаду (БСРГ)*, якую ўзначаліў *Б. Тарашкевіч*. БСРГ знаходзілася пад арганізацыйным уплывам КПЗБ: камуністы былі

ў кіраўніцтве Грамады (як цэнтральным, так і ў мясцовых арганізацыях), яны мелі свае фракцыі ў аддзелах БСРГ, фінансавалі яе дзейнасць. Для БСРГ урад БССР у Мінску выпускаў друкаваную прадукцыю. У маі 1926 г. была прынята праграма БСРГ, якая патрабавала аб'яднання ўсіх беларускіх зямель у адзіную рэспубліку пад уладай сялян і рабочых. У эканамічнай сферы праграма змяшчала заклікі да ўсталявання 8-гадзіннага рабочага дня, канфіскацыі зямлі памешчыкаў і асаднікаў з наступным яе падзелам паміж малазямельнымі сялянамі. Гэта знайшло шырокі водгук у асяроддзі беларускага насельніцтва, і БСРГ хутка вырасла ў масавую арганізацыю — у пачатку 1927 г. яна налічвала звыш 100 тыс. членаў, якія былі аб'яднаны ў 2 тыс. гурткоў.

Пасля дзяржаўнага перавароту 1926 г., які ўзначаліў Ю. Пілсудскі, быў усталяваны рэжым ***«санацыі»*** («аздараўлення»). Польскае кіраўніцтва крайне адмоўна ставілася да СССР і, занепакоенае ростам камуністычнага ўплыву, распачало кампанію праследавання БСРГ. Напрыклад, 5 снежня 1926 г. паліцыя разагнала павятовы з'езд Грамады ў вёсцы Стара-Бярозава, падчас чаго шматлікія ўдзельнікі з'езда, сярод якіх былі і дэпутаты сойма П. Валошын і П. Мятла, былі збітыя. У ноч з **14 на 15 студзеня 1927 г.** былі праведзены масавыя арышты актывістаў БСРГ, а пасля гэту арганізацыю забаранілі: яе камітэты і мясцовыя гурткі закрылі, а кіраўнікоў (*Б. Тарашкевіча, С. Рак-Міхайлоўскага, П. Валошына, П. Мятлу*), нягледзячы на дэпутацкую недатыкальнасць, арыштавалі. Прыхільнікі БСРГ пратэставалі супраць забароны арганізацыі, але ўлады не змянілі свой курс. Самыя трагічныя падзеі адбыліся ў мястэчку Косава: *3 лютага 1927 г.* падчас разгону дэманстрацыі, якая праводзілася ў абарону БСРГ, былі забіты 6 чалавек і 15 паранена. У 1928 г. быў арганізаваны судовы «працэс пяцідзесяці шасці», на якім вышэйзгаданых кіраўнікоў БСРГ асудзілі да 12 гадоў турэмнага зняволення; кіраўнік сакратарыята БСРГ М. Бурсевіч атрымаў 8 гадоў турмы, яшчэ 32 актывісты Грамады — ад 3 да 6 гадоў зняволення.

Па выніках выбараў у 1928 г. у наступны склад сойма прайшлі пяць беларускіх дэпутатаў, якія ўтварылі арганізацыю *«Змаганне»* (старшыня *Я. Гаўрылік*) і аб'ядналі вакол сябе актывістаў забароненай БСРГ. Павятовыя сакратарыяты «Змагання» былі цэнтрамі легальнай барацьбы супраць існуючага ладу, якія актыўна выкарыстоўвала КПЗБ. «Змаганне» ў большасці складалася з пракамуністычна настроенай моладзі, якая ў той перыяд трымала пад сваім кантролем і ТБШ. Каб зменшыць уплыў вучняў з левардыкальнымі поглядамі у беларускіх гімназіях, польскія ўлады найбольш актыўных з іх або арыштоўвалі, або ўстанаўлівалі за імі паліцэйскі нагляд. З Віленскай беларускай гімназіі, якую ў тыя часы ўзначальваў Р. Астроўскі, звольнілі І. Дварчаніна і іншых настаўнікаў. «Змаганне» напаткаў той жа лёс, што і БСРГ: у 1930 г. гэтая арганізацыя была

ліквідавана, а яе кіраўнікі (Я. Гаўрылік, І. Дварчанін і інш.) у наступным годзе былі асуджаны на 8 гадоў турэмнага зняволення.

Лёс усіх згаданых членаў БРСГ і «Змагання» склаўся трагічна: яны знаходзіліся па некалькі гадоў у зняволенні ў польскіх турмах, а ў 1930 – 1933 гг. у выніку абмену палітвязнямі паміж Польшчай і СССР апынуліся ў Савецкім Саюзе. Але ў 1933 г. яны, акрамя Б. Тарашкевіча, былі беспадстаўна арыштаваны савецкімі спецслужбамі па сфабрыкаванай справе *«Беларускага нацыянальнага цэнтра»* (нібыта шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі, якая імкнулася адарваць БССР ад СССР і ўсталяваць беларускую буржуазную рэспубліку). Гэтыя знакамітыя беларускія палітычныя дзеячы былі асуджаны на 10 гадоў лагераў, адбывалі пакаранне на Салавецкіх астравах і будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала. П. Мятла памёр у лагеры, астатнія ў 1937–1938 гг. былі расстраляны па прысудзе савецкага НКУС. У 1937 г. па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра» быў арыштаваны і Б. Тарашкевіч, якога пасля нечалавечых катаванняў расстралялі ў 1938 г.

Звесткі аб савецкіх рэпрэсіях у адносінах да былых членаў БСРГ і «Змагання» негатыўна адбіліся на беларускім нацыянальным руху ў Польшчы. Спад вызваленчай барацьбы быў выкліканы і лявацкай пазіцыяй КПЗБ, якая адмоўна ставілася да некамуністычных арганізацый. Да таго ж урад ІІ Рэчы Паспалітай разгарнуў пераследаванні партый, якія былі найбольш небяспечнымі для польскіх улад, — у першую чаргу камуністаў і ўкраінскіх нацыяналістаў. *У 1934 г.* у Бярозе-Картузскай (сучасны горад у Брэсцкай вобласці) быў створаны ***канцэнтрацыйны лагер***, які вызначаўся вельмі жорсткімі ўмовамі ўтрымання зняволеных. Праз гэты канцлагер за 5 гадоў прайшло больш за 10 тыс. палітычных вязняў, значную частку якіх складалі камуністы.

У 1930-х гг. КПЗБ не мела тых магчымасцяў для легальнай прапаганды і барацьбы, якія ў яе былі ў 1920-х гг. У гэты час камуністы праводзілі сваю работу ў прафсаюзах, дзе намагаліся ўтварыць «чырвоныя фракцыі», што дазваляла выкарыстоўваць эканамічную барацьбу працоўных у сваіх палітычных мэтах. Напрыклад, з лістапада 1932 г. па май 1933 г. у Заходняй Беларусі пад кіраўніцтвам камуністаў прайшло 30 забастовак. У ліпені 1933 г. адбылося ўзброенае выступленне сялян у Кобрынскім павеце, сярод арганізатараў якога былі члены КПЗБ. Знакамітай стала і *барацьба рыбакоў воз. Нарач (1935–1936 гг.)* за права вольнага лову рыбы ў возеры. Да забастоўкі рыбакоў далучылася звыш 5 тыс. чалавек, і гэта прывяло да саступак на іх карысць з боку ўлад і арандатара.

У маі 1935 г. адбыўся ІІ з’езд КПЗБ, на якім была прызнана памылковай папярэдняя лявацкая пазіцыя партыі і было заяўлена аб неабходнасці кансалідацыі нацыянальна-вызваленчых сіл. Гэта рашэнне адпавядала агульнаму накірунку дзейнасці міжнароднага камуністычнага руху: улетку 1935 г. VII Кангрэс Камінтэрна вызначыў мэту камуністычных

партый — сфарміраваць адзіны антыфашысцкі фронт як у асобных краінах, так і ў міжнародным маштабе. Кампартыя Польшчы (а з ёй і КПЗБ) пачалі заключаць пагадненні аб сумесных дзеяннях з Польскай партыяй сацыялістычнай, яўрэйскімі сацыялістычнымі арганізацыямі, БДХ. Але гісторыя КПЗБ скончылася трагедыяй, выкліканай рэпрэсіямі з боку кіраўніцтва СССР: у лютым 1936 г. НКУС БССР арыштаваў сакратара ЦК КПЗБ *І. Лагіновіча*, якому пазней быў вынесены смяротны прысуд. У 1938 г. на аснове беспадстаўных абвінавачванняў КПЗБ была распушчана згодна з рашэннем, прынятым у Маскве Выканкамам Камінтэрна. Пасля гэтага тыя члены КПЗБ, якія знаходзіліся ў СССР, былі рэпрэсіраваны савецкімі спецслужбамі.

Акрамя беларускіх арганізацый левага кірунку (БСРГ, «Змаганне» і КПЗБ), у Заходняй Беларусі дзейнічалі і правыя партыі, сярод якіх вылучалася *Беларуская хрысціянская дэмакратыя (БХД)*. Яна была створана яшчэ ў 1917 г., і на чале яе стаялі беларускія ксяндзы *А. Станкевіч, Ф. Абрантовіч і В. Гадлеўскі*. Праграмным падмуркам гэтай партыі была выснова аб бяскласавасці беларускага народа, які насамрэч «сялянскі сярмяжны люд», што адмаўляла наяўнасць унутры яго класавай барацьбы. БХД выступала за перадачу малазямельным і беззямельным сялянам зямлі без выкупу, за аб'яднанне ўсіх беларускіх зямель у складзе дэмакратычнай рэспублікі, за абавязковасць вывучэння рэлігіі ў школах. Такія патрабаванні мелі падтрымку ў часткі беларускага насельніцтва каталіцкага веравызнання. БХД пашырыла ўплыў у пачатку 1930-х гг., асабліва праз свой філіял — Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры, у які нярэдка ўступалі члены ліквідаваных польскімі ўладамі гурткоў ТБШ. Дзеячы БХД імкнуліся ахапіць пад сваёй ідэйнай апекай як мага больш беларусаў: на II (1927) і III (1928) з'ездах партыі падкрэслівалася, што яе членамі з'яўляюцца не толькі католікі, але і праваслаўныя. Тым не менш, БХД не стала масавай арганізацыяй, якая б адчувальна ўплывала на палітычныя настроі беларусаў.

Упартая барацьба паміж урадам II Рэчы Паспалітай і ўплывовымі беларускімі арганізацыямі сведчыць аб праблемнасці знаходжання Заходняй Беларусі ў складзе гэтай дзяржавы. Найбольш папулярная сярод беларусаў КПЗБ вымушана была ўвесь час знаходзіцца ў падполлі, многія іншыя арганізацыі перыядычна падвяргаліся ганенням з боку ўлад. Трагедыя заключалася і ў тым, што заходнебеларускія палітычныя дзеячы, калі атрымлівалі дапамогу з СССР, станавіліся закладнікамі савецкага кіраўніцтва, якое лічыла абсалютна натуральным знішчэнне тых, хто выглядаў «адступнікам» ці проста не падыходзіў пад новую «генеральную лінію партыі». У выніку, многія лідары КПЗБ, БСРГ і «Змагання» прайшлі праз пакуты польскіх турм, а пасля пераезду ў СССР былі знішчаны савецкім НКУС.

## 5.4. Эмігранты-беларусы з Заходняй Беларусі

Цяжкае матэрыяльнае становішча і палітыка паланізацыі ў ІІ Рэчы Паспалітай вымушалі беларусаў выязджаць за межы дзяржавы. Варшаўскі ўрад садзейнічаў ***эміграцыі***, паколькі разлічваў пры яе дапамозе паслабіць сацыяльную напружанасць на «крэсах всходніх». Беларускія гарады і вёскі запаланілі прадстаўнікі розных агенцтваў, якія абяцалі высокія заробкі і камфортнае жыццё ў іншых краінах. У перыяд з 1921 па 1939 г., па розных падліках, за мяжу выехала ад 100 да 180 тыс. жыхароў Заходняй Беларусі. Эмігранты ў пошуках заробку накіроўваліся ў еўрапейскія краіны (напрыклад, Францыю, Латвію) ці на амерыканскі кантынент (у асноўным у Аргенціну і Канаду).

Выключнай з'явай у беларускай эміграцыі міжваеннага перыяду выглядае гісторыя беларускай супольнасці ў Чэхаславакіі. Вялікую колькасць беларусаў у гэтай краіне складалі студэнты мясцовых універсітэтаў. Дзякуючы праграме чэхаславацкага ўрада па падтрымцы эмігрантаў з тэрыторыі былой Расійскай імперыі беларусы атрымалі некалькі дзясяткаў стыпендый для набыцця вышэйшай адукацыі. Жыхары Заходняй Беларусі траплялі ў Чэхаславакію ў асноўным нелегальна і паступалі ва ўніверсітэты па рэкамендацыях ТБШ. Тыя, хто не мог атрымаць стыпендыю, разлічвалі на дапамогу грамадскіх арганізацый і Рады БНР, кіраўніцтва якой знаходзілася ў Празе. Напрыклад, у 1922/1923 навучальным годзе ў Карлавым універсітэце (Прага) навучалася 50 чалавек з Беларусі, а ў 1925/1926 — 100. Асноўнымі спецыяльнасцямі, якія выбіралі студэнты, былі медыцына і тэхнічныя прафесіі. А тыя, хто набываў асвету гуманітарнага профілю, звычайна выбіралі тэмы па беларускай праблематыцы. Абароненыя дысертацыі *І. Дварчаніна* «Францыск Скарына як культурны дзеяч і гуманіст», *Я. Станкевіча* «Беларускія мусульмане і беларуская літаратура арабскім пісьмом» сталі важкім унёскам у развіццё беларусістыкі. З Прагай звязана таксама творчая дзейнасць беларускай паэткі *Л. Геніюш*, якая жыла тут з мужам-эмігрантам у 1937–1948 гг. У 1942 г. свет пабачыў яе першы зборнік вершаў «Ад родных ніў».

У вольны ад вучобы час студэнты ўдзейнічалі у розных грамадска-палітычных арганізацыях — у Аб'яднанні беларускага паступовага (прагрэсіўнага) студэнцтва, якое выдавала часопіс «Перавясла», у Беларускім сялянскім саюзе (з часопісам «Беларускі студэнт»). 20 жніўня 1924 г. у Празе было створана «Аб'яднанне беларускіх студэнцкіх арганізацый Заходняй Беларусі і эміграцыі», якое праіснавала да 1938 г.

У сярэдзіне 1920-х гг. многія студэнты-беларусы з сімпатыяй ставіліся да БССР, дзе ў гэты час праводзілася палітыка беларусізацыі. Праз амбасаду СССР у Празе праводзілася папулярызацыя камуністычнага ладу і агітацыя за пераезд у Савецкую Беларусь. Дзеля гэтага ў 1925 г. сталіцу Чэхаславакіі наведала спецыяльная беларуская пісьменніцкая

дэлегацыя, у якую ўваходзілі *Я. Купала, М. Чарот, Ц. Гартны* і *М. Зарэцкі.* У 1924 г. студэнты стварылі «Саюз грамадзян БССР», які выдаваў часопіс «Прамень» (пазней «Новы Прамень»). У выніку такой прапагандысцкай кампаніі шэраг выпускнікоў чэшскіх ВНУ пераехала ў БССР, сярод іх быў і вядомы паэт *У. Жылка* (у 1931 г. беспадставна арыштаваны ў Мінску за «прыналежнасць» да «Саюза вызвалення Беларусі»).

Калі ў Чэхаславакію беларусы ў асноўным выязджалі, каб набыць вышэйшую адукацыю, то ў краіны амерыканскага кантынента яны ехалі на сталае пражыванне ці на заробкі. Многія жадалі ехаць у ЗША, але гэтая краіна ў 1920-я гг. значна абмежавала іміграцыю. Таму жыхары Заходняй Беларусі накіроўваліся ў Канаду ці ў Паўднёвую Амерыку, дзе самы значны беларускі асяродак склаўся ў Аргенціне (каля 20 тыс. чал.)

Сярод эмігрантаў колькасна пераважалі мужчыны, сялянскія сыны — фізічна моцныя, але без якой-небудзь спецыяльнасці і без валодання замежнымі мовамі. Таму спачатку яны маглі ўладкавацца на працу толькі ў якасці некваліфікаваных рабочых. Агенты тых ці іншых кампаній прыходзілі на біржу працы, глядзелі на прыехаўшых як на жывы тавар і адбіралі маладзейшых і мацнейшых. І ў першыя гады эміграцкага жыцця беларусы вымушана згаджаліся на любы занятак. У пошуках лепшых умоў працы і высокіх заробкаў прыходзілася шмат вандраваць: у Канадзе звычайнай справай беларуса было чаргаванне сезонных работ на якой-небудзь ферме, пілаванне лесу ўзімку ў паўночных правінцыях, занятасць на будаўніцтве падземнага тунэля з Уінсара ў Дэтройт, праца на канвееры на заводзе Форда.

Адметнасцю жыцця ў Аргенціне было тое, што частка эмігрантаў далучылася да каланізацыйнага руху: беларусы набывалі зямлю ў паўночных джунглях, якія пераўтваралі разам з іншымі каланістамі ў цывілізаваную прастору. Праз некалькі гадоў замест сельвы тут былі фермерскія гаспадаркі, якія спецыялізаваліся на вырошчванні тытуню, кукурузы, джэрбы (парагвайскай гарбаты), бавоўны. Замест першапачатковага жылля — буданоў з галля і пальмавага лісця —эмігранты ставілі ўласныя хаты, якія забяспечвалі больш камфортнае існаванне. Пры гэтым беларусы вымушаны былі прыстасоўвацца да навакольнага асяроддзя, у якім звычайнай справай былі трапічныя захворванні, сустрэчы з дзікімі жывёламі і ядавітымі рэптыліямі. Такія ўмовы жыцця і працы задавальнялі далёка не ўсіх, і многія пакідалі свае гаспадаркі і перабіраліся ў гарады, перш за ўсё ў сталіцу краіны — Буэнас-Айрэс.

У працэсе адаптацыі да жыцця на амерыканскім кантыненце эмігранты стваралі і свае нацыянальныя таварыствы. У гэтым найбольшую актыўнасць выявілі беларусы ў Аргенціне. Спачатку разам з украінцамі (такімі ж польскімі грамадзянамі) яны стварылі Саюз украінскіх і беларускіх рабочых арганізацый (СУБРА), які супрацоўнічаў з мясцовай кампартыяй. Пасля забароны ўрадам Аргенціны дзейнасці СУБРА былі

ўтвораны легальныя беларускія таварыствы ў Буэнас-Айрэсе і яго прадмесцях: «Беларуская Грамада» (1934), «Культура» (1936), «Беларуская бібліятэка імя Івана Луцкевіча» (1937) і «Белавеж» (1938). 21 мая 1939 г. беларусы стварылі *Федэрацыю беларускіх таварыстваў і арганізацый у Аргенціне,* якая мела друкаваныя органы — «Новую Газету» і альманах «Беларускі ілюстраваны календар». Кіраўнікамі Беларускай федэрацыі былі *У. Гайлевіч, М. Мярэчка* і *Я. Пятрушак*.

У Канадзе ў той жа час беларусы разам з часткай украінцаў арганізавалі *Рускія рабоча-фермерскія клубы імя М. Горкага*. У 1934 г. у розных гарадах было 47 такіх клубаў (10 з іх аб'ядноўвалі рускіх духабораў, а астатнія — беларусаў і ўкраінцаў). Кожны год, звычайна ў Вініпегу, праводзіліся з'езды, дзе прысутнічалі па 20–40 прадстаўнікоў клубаў. Друкаваным органам гэтага аб'яднання эмігрантаў была газета «Канадскі гудок». Адным з кіраўнікоў клубаў і супрацоўнікам рэдакцыі газеты быў *Р. Акулевіч* з-пад Слоніма. У 1940 г. канадскія ўлады «з-за пранацысцкай прапаганды» забаранілі дзейнасць «Канадскага гудка», які падтрымліваў палітыку СССР пасля падпісання пакта Молатава–Рыбентропа. З лістапада 1941 г. замест забароненай выходзіла газета «Веснік», адміністратарам якой быў беларус І. Шарынскі. А 30–31 мая 1942 г. была створана *Федэрацыя рускіх канадцаў (ФРК)*, сакратаром якой стаў Р. Акулевіч.

Падчас Вялікай Айчыннай вайны беларусы Канады і Аргенціны актыўна падтрымлівалі СССР: збіралі грошы, рэчы, медыкаменты і перапраўлялі сабранае ў Савецкі Саюз. Некаторыя беларусы, каб дапамагчы СССР, ішлі добраахвотнікамі ў армію: на савецка-германскі фронт трапіць было немагчыма, таму яны запісваліся ў Войска Польскае, якое падпарадкоўвалася англійскаму кіраўніцтву і ваявала ў Афрыцы, ці ў канадскую армію (Р. Акулевіч пайшоў дабраахвотнікам і быў цяжка паранены ў Галандыі). Беларусы актыўна ўдзельнічалі ў ініцыяваным СССР славянскім руху: напрыклад, 23–25 красавіка 1943 г. у працы *I Лаціна-Амерыканскага славянскага кангрэса* ў Мантэвідэа (Уругвай) удзельнічалі 14 беларусаў з Уругвая і 50 беларусаў з Аргенціны.

Прасавецкая накіраванасць дзейнасці ўзгаданых беларускіх арганізацый на амерыканскім кантыненце працягвалася і ў пасляваенны перыяд. У лістападзе 1946 г. у Буэнас-Айрэсе (Аргенціна) прайшоў *II Славянскі кангрэс*, на якім з 491 дэлегата беларускія арганізацыі прадстаўлялі 104. У склад кіраўніцтва створанага *Славянскага саюза* ўвайшлі беларусы *Т. Ляшук* і *А. Драмазонак*. Галоўнымі кірункамі дзейнасці Славянскага саюзу, які існаваў да сярэдзіны 1949 г., былі аказанне дапамогі СССР і распаўсюджванне савецкай прапаганды. Па гэтых прычынах у беларускія арганізацыі не прымалі пасляваенных бежанцаў з СССР, якія прыбывалі ў Буэнас-Айрэс з Заходняй Еўропы ў другой палове 1940-х гг. Паміж новапрыехаўшымі і беларусамі, што жылі

тут ад 1920–1930-х гг., адбываліся ідэалагічныя спрэчкі і нават бойкі, якія часам разбірала паліцыя.

У Канадзе ў грамадскім жыцці эмігрантаў-беларусаў міжваеннага перыяду назіраліся тыя ж тэндэнцыі, што і ў Аргенціне. У 1950-х гг. тут дзейнічала 25 буйных аддзелаў ФРК: яе члены па магчымасці куплялі будынкі і адкрывалі Рускія народныя дамы, пры якіх арганізоўвалі бібліятэкі (у Таронта такая бібліятэка насіла імя Я. Купалы). У народных дамах дэманстравалі савецкія фільмы, праводзіліся лекцыі (як правіла камуністамі, якіх было 12 % ад усіх членаў ФРК). Найбольш харызматычнай асобай у гэтай арганізацыі з’яўляўся Р. Акулевіч, які займаў не адзін год пасаду кіраўніка ФРК. Двойчы на тыдзень выходзіла газета «Веснік», падпісчыкамі якой у большасці былі беларусы. У 1980-х гг. дзейнасць ФРК становіцца малапрыкметнай, але афіцыйнай даты роспуску арганізацыі не існуе.

Грамадская дзейнасць эмігрантаў-беларусаў з ІІ Рэчы Паспалітай сведчыць пра іх большую нацыянальную самасвядомасць у параўнанні з перасяленцамі папярэдняга перыяду: беларусы з Расійскай імперыі далучаліся да рускіх ці польскіх эміграцкіх устаноў і не стварылі ніводнай асобнай беларускай арганізацыі. Эмігранты 1920–1930-х гг. у замежжы стварылі свае нацыянальныя асяродкі, якія, асабліва на амерыканскім кантыненце, былі арыентаваны на СССР. Падставай для гэтага было непрыняцце эканамічнай і нацыянальнай палітыкі кіраўніцтва Польшчы, што пад уплывам савецкай прапаганды прыводзіла да ідэалізацыі грамадскай сістэмы ў СССР. Прасавецкая арыентацыя эмігрантаў з Заходняй Беларусі ўзмацнілася падчас Вялікай Айчыннай вайны, і пасля яе заканчэння тысячы нашых суайчыннікаў пажадалі пераехаць у Савецкі Саюз. З Канады вярнулася на радзіму нязначная колькасць беларусаў, але з Паўднёвай Амерыкі (перш за ўсё з Аргенціны) рээмігравала каля 2 тыс. чалавек. Пабачыўшы савецкі лад жыцця, многія зразумелі, што гэта краіна адрозніваецца ад іх уяўнага ідэалу. Некалькі соцень рээмігрантаў праз шэсць-сем гадоў дамагліся дазволу на вяртанне ў Аргенціну. Тыя ж, хто не здрадзіў сваёй мары аб жыцці ў савецкім грамадстве, з цягам часу занялі ў ім паважнае месца. Сярод іх мастак *М. Моўчан*, пісьменнік *К. Шэрман*, дацэнт медуніверсітэта *С. Ціхан,* шматгадовы галоўны аператар рэспубліканскай студыі Беларускага тэлебачання *У. Пранько*.

**Кантрольныя пытанні**

1. Якое месца, на ваш погляд, займае Рыжскі мір у гісторыі беларускага народа?
2. Якія захады на міжнароднай арэне рабіў урад БНР, адстойваючы ідэю адзінства Беларусі?
3. Пералічыце асноўныя кірункі палітыкі паланізацыі ў Заходняй Беларусі.

4. Назавіце беларускія арганізацыі і ўстановы, якія адстойвалі права беларусаў на ўласнае нацыянальнае развіццё ў Заходняй Беларусі.

5. Ці можна назваць рэпрэсіўнай у адносінах да беларусаў палітыку «санацыі»?

6. Якія аграрныя рэформы праводзіў урад II Рэчы Паспалітай?

7. Адзначце характэрную рысу беларускай супольнасці ў Чэхаславакіі.

8. Вызначце прынцыповую розніцу ў развіцці нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі ў 1920-я і ў 1930-я гг.

9. У чым, на вашу думку, трагізм жыцця і дзейнасці заходнебеларускіх палітыкаў левага кірунку?

10. У чым унікальнасць БХД, калі параўноўваць яе з астатнімі беларускімі палітычнымі партыямі і арганізацыямі?

11. Назавіце асаблівыя рысы жыцця і грамадскай дзейнасці беларускіх эмігрантаў у Аргенціне.

## Практычныя заданні

**Заданне 1. Вытрымка з ліста беларускага эмігранта М. Гуйскага, які ў сярэдзіне 1920-х гг. пакінуў сваю родную Старую Вёску Свірскай гміны.**

Буэнас-Айрэс, 16-1-1984 г.

Многія ведаюць, як нам беларусам жылося з польскімі панамі, і я хачу сам ад сябе расказаць, яны нас крыўдзілі. Быў голад зямлі, а як голад зямлі, то была галадоўка хлебная. Нашага краю ўсё багатства было ў руках польскіх паноў спрадвеку. Прадавалі лясы і, помніў, зямлю прадавалі за даляры, а як даляру ўжо ня было, то дарылі сваім верным лакаём, каторых называлі асаднікамі, а мы? Наш народ быў добры, верыў доўгаполым, хадзіў штонядзелю да касцёла, ну, і я хадзіў да касцёла са Старой Вёскі две вярсты ў Канстантынава не маліцца, і толькі пачуць, як там набіваецца клакі мужыкам у галавы.

Адну нядзелю стаімо каля брамы касцельнай, аж глядзім, едзіць граф Сержінскі са двара Камарова, трохі пачакаўшы — і едзіць пан Хамінскі са двара Альшэва. І гэтыя два сябра зашлі ў касцёл, заселі ў лаўках блізі алтара. Яны не прыехалі прасіць бога, каб ім бог грахі адпусціў, яны прыехалі падзякаваць богу, што ім бог дапамагае зямлю прадаваць і набіваць кішэні далярамі. А народ вясковы стаіць на каленях па ўсім касцеле, моліцца да бога за лепшую долю і просіць неба <неразборліва> смерці, а бог толькі ізноў прыбаўляў сямью і вузіў вузкія палоскі зямлі на вузейшыя. Ужо да таго даходзіла: каб сабака лег папярок, то ня тоўпіўся, яго хвост ляжаў бы на мяжі.

Зашоў я ў адну хату ў сваёй вёсцы, чую як сястра вініла свайго брата, для маткі называя яго па прозвішчы. Казала: «Мама, глядзі, Сівы ўжо палез па хлеб!» А матка, седзячы на краваці, крычыць: «Ты, чаго там палез, ня чапай, скора ўжо будзім палудняваць». А хлеб жа быў з нячышчанага

зерня, яго называлі бярловы, прыдзе вясна, то і бярловага не хапала, вясна была бясхлебная.

Адзін чацвер прышлося мне быць у Свіры. У гэты самы дзень быў кірмаш, я зашоў у Гміну і гаварыў з панам Лавінскім па-польску. А пан Лавінскі гэты быў пісар Свірскай Гміны. Адчыняецца дзверы, і ўвашоў мужык у канцэлярыю, ён прышоў да пана Лавінскага і пачаў па-беларуску гаварыць аб сваёй справе. Лавінскі адсыкнуўся да мужіка: «Цо ты мне гядаш псячым ензыкем. Мув по-польску». Ён хацеў гаварыць была па-польску, нешта сказаў і заікнуўся, і знова пачаў гаварыць па-свойму. А Лавінскі як гэта кажаць быў купаны ў гарачай вадзе, як хопіць мужыка за каўнер і выпхнуў яго за дзверы... (*Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 1267, воп. 3, спр. 90, л. 36–39*)

1. Ахарактарызуйце матэрыяльны стан насельніцтва Заходняй Беларусі.

2. У чым бачыцца М. Гуйскаму прычына такога становішча сялян-беларусаў?

3. Як вы лічыце, ці ў стане былі беларусы пераносіць цяжкасці жыцця ў эміграцыі пасля такіх умоў існавання на радзіме?

4. Як вы ацэньваеце паводзіны пісара Лавінскага?

**Заданне 2. Інтэрпэляцыя (запрос) беларускіх паслоў (дэпутатаў) польскага сойму з прыкладам праводзімай зямельнай палітыкі ў Заходняй Беларусі.**

Інтэрпэляцыя

паслоў Беларускага Клюбу да Пана Міністра Зямельных Рэформаў у справе заняцьця пад вайсковае асадніцтва сэрвітутнае пашы жыхароў вёскі Зарэчча, Гарадзейскай гміны Нясьвіскага павету.

Ад часу скасаваньня прыгону сяляне вёскі Зарэчча (Гарадзейскае гміны, Нясьвіскага павету) карысталіся сэрвітутнай пашай у двары Зарэчча. Пасьля заняцьця беларускіх абшараў польскай уладаю пачалася калёнізацыйная палітыка на гэтых землях, і з чаргі было прыступлена такжа да парцэляцыі памянёнага двара Зарэчча пад вайсковае асадніцтва. У сувязі з распачатай парцэляцыйнай работай сяляне вёскі Зарэчча некалькі разоў зварчаліся да павятовае зямельнае ўправы з просьбай пакінуць сэрвітутную пашу дзеля далейшага карыстаньня сялян. Зямельная ўправа абяцалася споўніць іх просьбу, аднак у выніку аказалася тое, што сёлета асаднікі зусім забаранілі сялянам карыстацца пашай.

Таксама засталіся няспоўненымі просьбы малазямельных сялян вёскі Зарэчча, каб ім былі выдзелены вучасткі зямлі ў парцэляваным двары.

Гэтак беларуская зямля, аблітая крывёй і потам працоўнага народу, аддаецца прышлым людзям. Польскі Ўрад паступова імкнецца да гаспадарчага ўціску беларускага насельніцтва, да вырываньня ў яго зямлі, да правядзеньня эканамічнага прыгону.

Дзеля вышэйшага, пазываючыся на лёзунгі справядлівасьці, падпісаныя пытаюцца ў Пана Міністра:

1) Ці ён мае намер вярнуць сялянам вёскі Зарэчча пашу?

2) Ці ён мае намер выдзеліць тутэйшым малазямельным сялянам адпаведныя вучасткі зямлі ў двары Зарэчча?

Варшава, дня 27 травеня 1924 г. Інтэрпэлянты.

(*Інтэрпэляцыі беларускіх паслоў у польскі сойм 1922–1926 гг. Мінск, 1927. С. 88*)

1. Што мелі на ўвазе беларускія дэпутаты, калі пісалі пра «калёнізацыйную палітыку» ў Заходняй Беларусі?

2. Чаго жадалі ад польскіх улад сяляне вёскі Зарэчча падчас аграрных пераўтварэнняў у іх мясцовасці?

3. Чым тлумачылі беларускія дэпутаты такія паводзіны польскіх улад?

4. Ці маглі ў гэтых абставінах беларускія сяляне адчуваць сябе гаспадарамі на сваёй зямлі ў Заходняй Беларусі?

**Заданне 3. Успаміны С. Ваўпшасава аб затрыманні беларускімі партызанамі вясной 1923 г. паручыка Кухарскага і яго жонкі на тракце Радашковічы – Краснае.**

Жанчына, маладая прыгожая полька, аказалася жонкай афіцэра. Яна вельмі напалохалася і, называючы мяне панам камендантам, пачала прасіць злітавацца над ёй, пашкадаваць яе маленькіх дзяцей. Калі я рашуча адказаў ёй, што беларускія партызаны ваююць толькі з польскімі акупантамі, а жанчын не крыўдзяць, тады яна пачала прасіць адпусціць яе мужа.

— Вам, пані, павінна быць вядома, як ваш муж, узначальваючы карны атрад, абыходзіўся з партызанамі, — адказаў я жанчыне.

— Ой, божа, мой божа, — залілася слязьмі яна, схапіўшыся за галаву.

Падышоўшы да верхавода карнікаў, я запытаўся, як ён сябе адчувае. Ён увесь калаціўся. Узняўшы з зямлі галаву, ён павярнуў да мяне бледны, потны твар, але не мог вымавіць і слова.

— Дзе ж ваша ранейшая фанабэрыя? — з агідай паглядзеўшы на афіцэра, запытаўся Дзік.

— Прашу вас, не расстрэльвайце мяне, — прахрыпеў Кухарскі, цяжка дыхаючы. — Злітуйцеся, пакіньце мне жыццё, я даю вам слова гонару, што пайду ў адстаўку і назаўсёды выеду з Заходняй Беларусі.

— А памятаеце, як вы ў мінулым годзе на мітынгу пагражалі сялянам: «За бандытызм заплаціце сваім жыццём!» Толькі за адно гэта вы заслужылі, каб мы павесілі вас на сухой асіне, — паказаў Дзік на бліжэйшае дрэва.

Кухарскі заскуголіў, як падстрэлены воўк.

— Пан камендант! — звярнулася да мяне яго жонка. — Калі вы захаваеце майму мужу жыццё, я абяцаю, што ён пакіне службу ў арміі. Прашу верыць мне.

— Паручык Кухарскі варты расстрэлу, — сказаў я. — Але прымаючы пад увагу яго абяцанне зволіцца са службы ў карным атрадзе і вашу просьбу, як жонкі і маці малых дзяцей, мы даруем яму на гэты раз. Але мы папярэджваем, што калі ён не выканае свайго абяцання, то больш літасці ад партызан не будзе. (*Ваўпшасаў С. На разгневанай зямлі. Мінск, 1963. С. 128–129*)

1. Ці можна называць беларускіх партызан «бандытамі», як гэта рабілі польскія ўлады?

2. Вы падзяляеце погляд на польскую ўладу ў Заходняй Беларусі ў 1921–1939 гг. як на акупацыйную?

3. Як вы ацэньваеце паводзіны партызан і паручыка Кухарскага?

4. Вы згодны з тым, што Ваўпшасаў не памыліўся, калі адпусціў польскага паручыка?

**Заданне 4. Артыкул з віленскай газеты «Беларуская крыніца» (№ 28, 1932).**

У в. Барадзенічы, Браслаўскага павету, 16 мая моладзь вёскі Цяцеркі наладзіла беларускае прадстаўленьне. Падчас прадстаўленьня ў гэтам-жа месцы адбылася дэфіляда з музыкай і сьпевам па-польску. Падчас гэтай дэфіляды «дэфілядчыкі» ў адзін голас крычалі — «не тшэба бялорускего пшедставеня, нех бэндзе польске». Апрача гэткіх крыкаў і сьпеву, білі яны ў барабаны і стукалі палкамі. Прысутная паліцыя, замест супакоіць дзікі крык «культурных» змагароў з беларускасьцяй, загадала спыніць недакончанае прадстаўленьне.

**Артыкул Інфармацыйнага бюлетэня ТБШ аб дзеянні польскіх улад у наваколлі Беластоку.**

Беластоцкая акружная ўправа паведамляе, што ў Гарадоцкім гуртку Беластоцкага павету 28/V гг. адбылася гэткая канфэрэнцыя. Павятовы Стараста і ваяводзкі прадстаўнік бесьпячэнства, прыехаўшы ў Гарадок, заклікалі сяброў гуртка на нараду, на якой дамагаліся, каб Т-ва супрацоўнічала са «стрэльцамі» і «коламі млодзежы польскай», а драматычная сэкцыя гуртка павінна пайсьці пад кіраўніцтва польскіх вучыцеляў, бо ў праціўным выпадку Т-ва будзе ліквідавана.

(*Гарбацэвіч П. Паланізацыя Заходняй Беларусі. Мінск, 1932. С. 17–18*)

1. Ці жадалі беларусы развіваць сваю ўласную культуру ў ІІ Рэчы Паспалітай?

2. Якія формы культурнай дзейнасці выбіралі беларусы для выяўлення сваёй нацыянальнай адметнасці?

3. Выкарыстоўваючы абодва артыкулы і ліст ад М. Гуйскага (№ 1), адкажыце: як адносіліся прадстаўнікі польскай улады да праяў беларускасці?

4. Ахарактарызуйце міжнацыянальныя адносіны ў Заходняй Беларусі. Ці можна іх назваць талерантнымі?

**Заданне 5. Успаміны Я. Кіпеля аб паэце У. Жылку, з якім ён ў 1931 г. апынуўся ў ссылцы ў Вяцкім краі Расіі.**

Мне давялося пазнаёміцца з Уладзімерам Жылкам у Менску ў 1926 годзе на Акадэмічнай канфэрэнцыі. Ён прыехаў на канфэрэнцыю з Прагі, дзе вучыўся на філалагічным факультэце…

Памятаю, яшчэ ў часе канфэрэнцыі яго акружалі вылучна камуністы і ўсё ўгаворвалі застацца — ня ехаць назад у Чэхію. Аднойчы неяк Жылка сустрэўся з намі, беларускімі патрыётамі, адзін на адзін і папытаўся ў нас, ці варта заставацца. Мы ўсе ў адзін голас параілі яму ехаць назад і жыць у Чэхіі. У гутарцы [размова адбывалася ў ссылцы ў Вяцкім край] я і нагадаў Жылку нашыя парады. Пачуўшы гэта, Жылка ўстаў і сказаў:

— Ведаеш, браце, мае раны і так баляць — ты іх больш не цьвялі.

Я папрасіў выбачэнне, ды больш аб гэтым ніхто нічога не ўспамінаў. (*Кіпель Я. Эпізоды. Нью-Йорк. 1998. С. 160*.)

1. Як Вы лічыце, навошта было камуністам заахвочваць У. Жылку застацца ў СССР?

2. Ці меў магчымасць паэт даведацца аб сапраўдным становішчы ў Савецкай Беларусі? Ці шкадаваў ён аб сваім выбары?

## Тэсты для самакантролю

**1. Заходнебеларускія землі ў міжваенны перыяд уваходзілі ў наступныя ваяводствы Польскай дзяржавы. Адзначце *памылковы* адказ:**

а) Віленскае;
б) Полацкае;
в) Беластоцкае;
г) Навагрудскае.

**2. Гэты беларус быў шматгадовым кіраўніком Федэрацыі рускіх канадцаў:**

а) Т. Ляшук;
б) Р. Акулевіч;
в) У. Гайлевіч;
г) М. Мярэчка.

**3. Дзе знаходзіўся вядомы канцлагер у міжваеннай Польшчы:**

а) у Трасцянцы;
б) Асвенціме;
в) Бярозе-Картузскай;
г) Трэблінцы?

**4. Парцэляцыя — гэта:**

а) падзел зямлі паміж абшчыннымі сялянамі;
б) продаж праз Зямельны банк часткі памешчыцкай зямлі дробнымі ўчасткамі;
в) звядзенне ў адно дробных сялянскіх палос зямлі з адначасовым высяленнем на хутар;
г) сумеснае валоданне зямлёй сялянамі і памешчыкамі.

**5. У 1927 г. расстрэл беларускай дэманстрацыі адбыўся:**

а) у Картуз-Бярозе; в) Косаве;
б) Камянцы; г) Кобрыне.

**6. Адзначце лішняе:**

а) выкладчыкі Віленскай беларускай гімназіі: М. Багдановіч, М. Гарэцкі, І. Дварчанін, Я. Драздовіч, М. Зарэцкі, Б. Кіт;

б) беларускія часопісы ў Чэхаславакіі: «Беларускі студэнт», «Белорусский иллюстрированный календарь», «Новы Прамень», «Перавясла», «Узвышша»;

в) дзеячы БСРГ: П. Валошын, В. Ластоўскі, С. Рак-Міхайлоўскі, Б. Тарашкевіч, В. Харужая.

**7. Вызначце дакладную храналагічную паслядоўнасць:**

а) міжнародная канферэнцыя ў Генуі;
б) «нота Керзана»;
в) Рыжскі мірны дагавор;
г) Беларуская нацыянальна-палітычная канферэнцыя ў Берліне.

**8. Па рашэнні Камінтэрна была распушчана:**

а) КПЗБ; в) БСРГ;
б) ТБШ; г) СУБРА.

**9. Заходнебеларускія грамадска-палітычныя дзеячы былі рэпрэсіраваны ў СССР па справе:**

а) «Саюз вызвалення Беларусі»;
б) «Беларускі нацыянальны цэнтр»;
в) «Беларускі філіял Прампартыі»;
г) «Лясныя павукі».

**10. Гэты Герой Савецкага Саюза *не з'яўляўся* адным з кіраўнікоў партызанскага руху ў Заходняй Беларусі:**

а) С. Ваўпшасаў; в) В. Корж;
б) К. Арлоўскі; г) К. Заслонаў.

**11. Беларускі клерыкальны палітычны дзеяч, які з'яўляўся членам Беларускага пасольскага клуба ў польскім сойме:**

а) В. Гадлеўскі; в) А. Станкевіч;
б) Ф. Будзька; г) Ф. Абрантовіч.

**Адказы**: 1 — б; 2 — а; 3 — в; 4 — б; 5 — в; 6 — а) Багдановіч, Зарэцкі; б) «Белорусский иллюстрированный календарь», «Узвышша»; в) В. Ластоўскі, В. Харужая; 7 — б, в, а, г; 8 — а; 9 — б; 10 — г; 11 — в.

## ЛІТАРАТУРА

### *Асноўная*

1. *Гісторыя* Беларусі : курс лекцый : у 2 ч. / Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт ім. Я. Купалы, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Мінск : РІВШ, 2000–2002. Ч. 2 : XIX–XX ст. / П. І. Брыгадзін [і інш.]. 2002. 655 с.

2. *Гісторыя* Беларусі: дапам. для паступаючых у вышэйшыя навучальныя ўстановы / А. Л. Абецэдарская [і інш.]; пад рэд. Ю. Л. Казакова [і інш.]. Мінск : Экаперспектыва, 1998. 496 с.

3. *Гісторыя* Беларусі (у кантэксце сусветных цывілізацый) : вучэб. дапам. / В. І. Галубовіч [і інш.]; пад рэд. В. І. Галубовіча, Ю. М. Бохана. Мінск : Экаперспектыва, 2005. 589 с.

4. *Даніловіч, В. В.* Дзейнасць арганізацыі «Змаганне» у Заходняй Беларусі (1927–1930 гг.) / В. В. Даніловіч. Мінск : Беларуская навука, 2007. 155 с.

***Дадатковая***

5. *Зелинский, П.* Политическая работа КПЗБ в массах / П. Зелинский. Минск : Университетское, 1986. 136 с.

6. *Канфесіі* на Беларусі / В. В. Грыгор’ева [і інш.]. Мінск : Экаперспектыва, 1998. 337 с.

7. *Мірановіч, Я.* Найноўшая гісторыя Беларусі / Я. Мірановіч. СПб. : Неўскі прасцяг, 2003. 243 с.

8. *Окулевич, Г.* Русские в Канаде : История русских рабоче-фермерских клубов имени М. Горького (1930–1940) и федерации русских канадцев (1941 – 1952) / Г. Окулевич. Торонто : Главное управление федерации русских канадцев, 1952. 327 с.

9. *Палуян, У. А.* Беларуская сялянска-рабочая грамада / У. А. Палуян. Мінск : Навука і тэхніка, 1967. 222 с.

10. *Сорокин, А. А.* Аграрный вопрос в Западной Белоруссии / А. А. Сорокин. Минск : Наука и техника, 1968. 199 с.

11. *Токць, С.* Беларуская вёска ў эпоху зьменаў : другая палова XIX – першая траціна XX ст. / С. Токць. Мінск : Тэхналогія, 2007. 306 с.

12. *Шабельцев, С. В.* Иммигранты-чакареро из II Речи Посполитой в Аргентине и Парагвае / С. В. Шабельцев. Минск : РИВШ, 2011. 92 с.

13. *Якутов, В. Д.* Сергей Притыцкий : страницы биографии / В. Якутов. Минск : Беларусь, 1991. 173 с.

## ТЭМА 6. БЕЛАРУСЬ У ГАДЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ І ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ

6.1. Супярэчнасці паміж еўрапейскімі дзяржавамі ў канцы 30-х гг. XX ст. Пакт Молатава–Рыбентропа.

6.2. Пачатак Другой сусветнай вайны. Далучэнне Заходняй Беларусі да БССР.

6.3. Абарончыя баі на тэрыторыі Беларусі ў пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Усталяванне акупацыйнага рэжыму.

6.4. Савецкі партызанскі і падпольны рух на акупаванай тэрыторыі Беларусі.

6.5. Вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Вынікі вайны для беларускага народа і яго ўклад у перамогу над фашызмам.

**Агульны час заняткаў**: 2 гадзіны.

**Мэта семінара:** ахарактарызаваць Другую сусветную вайну і яе падзеі ў Беларусі.

**Задачы:**

– вывучыць міжнароднае становішча ў 1930-х гг.;

– прааналізаваць працэс уз'яднання беларускага народа ў 1939 г.;
– выявіць характэрныя асаблівасці нацысцкага акупацыйнага рэжыму ў Беларусі;
– вывучыць савецкі партызанскі і падпольны рух у Беларусі;
– набыць веды пра ўклад беларускага народа ў перамогу над фашызмам.

**Патрабаванні да зыходнага ўзроўню ведаў.** Для засваення тэмы неабходна ведаць асаблівасці камуністычнага рэжыму ў СССР пры Сталіне: ідэалагічная цэнзура, планавая эканоміка, прымусовая калектывізацыя, масавыя палітычныя рэпрэсіі. Паўтарыць матэрыял аб становішчы Заходняй Беларусі ў складзе ІІ Рэчы Паспалітай.

**Паняцці і тэрміны, якія неабходна засвоіць:** нацызм, таталітарны рэжым, «мюнхенская змова», дэпартацыі, «бітва за Англію», «маланкавая вайна», канцэнтрацыйны лагер, гета, рэквізіцыі, остарбайтэры, «Віцебскія» вароты, партызанскія зоны, «рэйкавая вайна».

## 6.1. Супярэчнасці паміж еўрапейскімі дзяржавамі ў канцы 30-х гг. ХХ ст. Пакт Молатава–Рыбентропа

Напрыканцы 1930-х гг. у Заходняй Еўропе існавала напружанае міжнароднае становішча, якое было выклікана агрэсіўнай палітыкай Германіі. Яшчэ ў 1933 г. да ўлады ў гэтай вялікай індустрыяльнай краіне прыйшлі ***нацысты*** на чале з *А. Гітлерам*, якія сталі праводзіць мілітарысцкую палітыку: рэзка павялічыўся выпуск ваеннай прадукцыі, распрацоўваліся новыя віды ўзбраенняў, у 1935 г. уведзены ўсеагульны вайсковы абавязак. У выніку гэтых і іншых мерапрыемстваў была створана магутная нямецкая армія (вермахт), якую А. Гітлер планаваў выкарыстаць дзеля пашырэння межаў Германіі і дасягнення дамінуючага становішча гэтай краіны ў Еўропе. ***Таталітарны рэжым***, усталяваны А. Гітлерам, дазваляў яму ў кароткі тэрмін мабілізаваць армію, распачаць ваенныя дзеянні і праз падкантрольныя сродкі масавай інфармацыі ідэалагічна абгрунтаваць перад насельніцтвам свае агрэсіўныя намеры.

Мілітарызацыя нацысцкай Германіі стварыла новую ваенна-палітычную сітуацыю на Захадзе, і еўрапейскія краіны імкнуліся наладзіць сістэму калектыўнай бяспекі. Але пры гэтым яны не ўсталявалі шчыльнае супрацоўніцтва з Савецкім Саюзам, бо разглядалі яго як «царства камуністычнага тэрору», якое не можа гарантаваць бяспеку еўрапейскім дэмакратыям і якому ў сваю чаргу нельга даваць гарантыі бяспекі. У выніку заходнееўрапейскім краінам, перш за ўсё Францыі і Вялікабрытаніі, выпадала стрымліваць Гітлера, які перыядычна парушаў умовы Версальскага міру.

Першай значнай падзеяй, якая прадэманстравала, што А. Гітлер не будзе лічыцца з абмежаваннямі Германіі на карысць бяспекі суседніх дзяржаў, быў увод *7 сакавіка 1936 г.* войскаў вермахта ў Рэйнскую дэмілітарызаваную зону — нямецкую тэрыторыю на левым беразе Рэйна

і часткова на яго правым беразе. Гэтая акцыя выклікала вострую негатыўную рэакцыю Францыі, бо непасрэдна на яе мяжы з’явіліся войскі варожай краіны. Дзеянні А. Гітлера парушалі Версальскія артыкулы, і Францыя мела ўсе падставы, каб увесці войскі ў Германію. Але французы не адважыліся гэта рабіць без Вялікабрытаніі, а тая не стала падтрымліваць свайго саюзніка па Першай сусветнай вайне. Як выказаўся адзін англійскі арыстакрат: «Германія ў рэшце рэшт толькі выйшла ва ўласны палісаднік».

Мілітарызацыя Рэйнскай зоны з’явілася парушэннем міжнародных дамоўленасцей і прывяла да дыпламатычнага і маральнага паражэння Францыі. Пасля гэтага яе саюзнікі на ўсходзе (Польшча, Чэхаславакія) не бачылі ў ёй надзейнай апоры ў магчымым супрацьстаянні з Германіяй. Для іх гэта было тым больш небяспечным, што не спраўдзіліся спадзяванні на Лігу Нацый як на арганізацыю, якая можа не дапусціць эскалацыі вайны: у 1935–1936 гг. Ліга Нацый не змагла спыніць агрэсію Італіі супраць Эфіопіі, хаця абедзве краіны з’яўляліся яе членамі. 24 кастрычніка 1936 г. Германія заключыла з Італіяй пакт аб утварэнні «восі Берлін – Рым», што прывяло да ваенна-палітычнага саюзу дзяржаў, якія выношвалі захопніцкія планы ў адносінах да еўрапейскіх суседзяў.

Першай краінай, якая падверглася нацысцкай агрэсіі, стала Аўстрыя, бо А. Гітлер паставіў першапачатковую мэту — аб’яднаць усе землі, дзе ў большасці жылі немцы. У Аўстрыі ў другой палове 1930-х гг. існаваў дыктатарскі рэжым (так званы «аўстрафашызм»), які абмяжоўваў палітычную дзейнасць усіх апазіцыйных партый, у тым ліку і нацысцкай. На чале краіны стаяў прыхільнік незалежнасці канцлер К. Шушніг, які не жадаў далучэння (*«аншлюсу»*) Аўстрыі да Германіі. Згодна з падпісаным у 1936 г. міждзяржаўным пагадненнем Германія абавязалася паважаць суверэнітэт Аўстрыі, але К. Шушніг пайшоў і на саступкі: была праведзена амністыя мясцовых нацыстаў, было дазволена выкарыстанне выяў свастыкі і г. д. Пасля гэтага аўстрыйскія нацысты адчулі сябе больш упэўнена і сталі праводзіць агрэсіўныя дэманстрацыі ў Вене і іншых рэгіёнах. 12 лютага 1938 г. А. Гітлер ультыматыўна запатрабаваў ад К. Шушніга, каб той на працягу тыдня перадаў партфель міністра ўнутраных спраў прыхільніку нацыстаў А. Зейс-Інкварту. К. Шушніг вымушаны быў падпісаць гэты ўльтыматум, а 11 сакавіка наогул пайшоў у адстаўку, бо прэзідэнту Аўстрыі было загадана прызначыць канцлерам А. Зейс-Інкварта (у іншым выпадку германскія войскі пагражалі ўвайсці ў Аўстрыю). Аднак выкананне гэтага патрабавання не выратавала краіну: новы канцлер адразу звярнуўся «па дапамогу» да А. Гітлера, і *12 сакавіка 1938 г.* вермахт перайшоў аўстрыйскую мяжу. І ўжо 13 сакавіка быў падпісаны закон аб уваходжанні Аўстрыі ў склад Трэцяга рэйха.

Наступнай ахвярай нацысцкай Германіі стала Чэхаславакія, на тэрыторыі якой (у асноўным у Судэцкай вобласці) пражывала больш за 3 млн этнічных немцаў. Сярод іх пасля 1933 г. стаў пашырацца нацызм:

створаная судэта-нямецкая партыя фінансавалася з Берліна, а яе кіраўнікі пасля аншлюсу Аўстрыі атрымалі ўказанні германскага кіраўніцтва выстаўляць патрабаванні, якія б мелі для чэхаславацкага ўрада непрымальны характар. У наступным адбыўся шэраг міжэтнічных сутыкненняў, што дазволіла А. Гітлеру рабіць заявы аб тым, што «немцы ў Судэцкай вобласці церпяць цяжкія нягоды пад чэхаславацкім прыгнётам». Сярод прыхільнікаў нацызму ў Судэтах стаў папулярны лозунг: «Адзіны народ! Адзіная краіна! Адзіны фюрар!» У такой напружанай абстаноўцы А. Гітлер патрабаваў ад Чэхаславакіі перадаць Судэцкую вобласць Германіі.

Каб вырашыць судэцкую праблему мірным шляхам, *29–30 верасня 1938 г.* была склікана *канферэнцыя* ў Мюнхене, у якой прынялі ўдзел кіраўнікі Германіі, Італіі, Вялікабрытаніі і Францыі (адпаведна А. Гітлер, Б. Мусаліні, Н. Чэмберлен і Э. Даладзье). Удзельнікі канферэнцыі вырашылі, што частка Чэхаславакіі, дзе жыве больш за 50 % немцаў, павінна быць далучана да Германіі. Дэлегацыі Чэхаславакіі, якая знаходзілася ў Мюнхене, было сказана, што калі яны не пагодзяцца з гэтым рашэннем, то будуць вырашаць свае спрэчкі з Германіяй сам-на-сам. Чэхаславакія на ваенны канфлікт з Германіяй не пайшла, і восенню 1938 г. Германія (са згоды Вялікабрытаніі і Францыі) адарвала $^{1}/_{5}$ частку яе тэрыторыі і каля 5 млн насельніцтва. У гістарыяграфіі мюнхенскія пагадненні называюць ***«мюнхенскай змовай»***, каб падкрэсліць несумленнасць палітыкі Вялікабрытаніі і Францыі, якія не выканалі свае саюзніцкія абавязацельствы перад Чэхаславакіяй і дазволілі Германіі парушыць прынцып недатыкальнасці дзяржаўных межаў.

Нягледзячы на тое што А. Гітлер публічна і ў прыватных размовах сцвярджаў, што Судэцкая вобласць — гэта яго апошняе запатрабаванне ў Еўропе, *15 сакавіка 1939 г.* Германія без усялякіх дамоў акупавала Чэхаславакію, і гэтая краіна перастала існаваць. А праз пяць дзён — 23 сакавіка — германскі ваенны флот увайшоў у літоўскую Клайпеду, і ўрад Літвы вымушаны быў пагадзіцца з далучэннем гэтага горада да Германіі. Ад Польшчы А. Гітлер пачаў патрабаваць частку тэрыторыі (т. зв. «калідор» ва Усходнюю Прусію). Усе гэтыя падзеі сведчылі пра адназначны крах палітыкі Вялікабрытаніі і Францыі па «супакаенні Германіі», бо стала зразумела, што Гітлер не выконвае падпісаныя пагадненні; спыніць яго можна толькі ўзброеным супраціўленнем. І Германія стала вельмі небяспечнай не толькі для малых краін, але і для вялікіх дзяржаў.

Геапалітычны *рэвізіянізм* Гітлера пагражаў не толькі Вялікабрытаніі і Францыі, але таксама бяспецы Савецкага Саюза. Яшчэ з 1933 г. у Еўропе склалася меркаванне, што Масква і Берлін абавязкова пачнуць ваяваць паміж сабой. Таму ў 1939 г., калі пагроза заходнім дэмакратычным краінам стала відавочнай, І. Сталін выглядаў як натуральны сапернік А. Гітлера

і, як следства, верагодны саюзнік Францыі і Вялікабрытаніі. Гэтыя дзяржавы пачалі шукаць паразумення з СССР і ў жніўні 1939 г. накіравалі на перамовы ў Маскву свае ваенныя місіі. Аднак перамовы ішлі вельмі марудна і неэфектыўна, бо заходнія дэлегацыі былі ўкамплектаваны другараднымі чыноўнікамі, якія не мелі даручэнняў дамаўляцца з СССР аб канкрэтных дзеяннях. Савецкая дэлегацыя, у сваю чаргу, рабіла непрымальныя для Вялікабрытаніі і Францыі прапановы: напрыклад, права ўводзіць Чырвоную Армію на тэрыторыю памежных краін без згоды іх урадаў.

У гэтых абставінах А. Гітлер звярнуўся да І. Сталіна з прапановай заключэння міждзяржаўнага мірнага дагавору. Прапанова была прынята, бо спробы ўсталяваць давяроныя адносіны з Вялікабрытаніяй і Францыяй праваліліся. У Маскву прыляцеў міністр замежных спраў Германіі, і **23 жніўня 1939 г.** быў заключаны так званы *пакт Молатава–Рыбентропа* — савецка-германскі мірны дагавор аб ненападзе тэрмінам на 10 гадоў. Пры гэтым быў падпісаны і сакрэтны пратакол «аб размежаванні сфер узаемных інтарэсаў ва Усходняй Еўропе» паміж СССР і Германіяй. У савецкую «сферу інтарэсаў» увайшла частка Польшчы (на ўсход ад Віслы), Фінляндыя, Латвія, Эстонія і Бесарабія. Дзякуючы гэтаму пакту ў 1939 г. стала магчыма ўз'яднанне ўкраінскага і беларускага народаў у складзе СССР, а ў наступны год — далучэнне да гэтай дзяржавы Латвіі, Эстоніі, Бесарабіі (частка Румыніі) і таксама Літвы (пасля дададковай дамовы паміж СССР і Германіяй у верасні 1939 г.).

Але падпісанне савецка-германскага пакта мела для І. Сталіна і адмоўныя бакі. У ходзе яго рэалізацыі паміж СССР і Германіяй усталявалася сумесная дзяржаўная мяжа, што рабіла магчымым непасрэдны напад вермахта на Савецкі Саюз. І ў той жа час СССР шчыльна супрацоўнічаў з Германіяй у эканамічнай сферы, забяспечваючы сыравінай свайго патэнцыяльнага ворага. СССР таксама дазваляў транзітныя перавозкі для Германіі з краін Ціхаакіянскага басейна і Бліжняга Усходу праз сваю тэрыторыю.

Такім чынам, у канцы 1930-х гг. вынікам германскага рэваншызму стала сітуацыя, калі Еўропа апынулася на парозе новай вайны. Сапернікі і патэнцыяльныя ахвяры Германіі не змаглі наладзіць сістэму калектыўнай бяспекі, што дазволіла Гітлеру развязаць буйнамаштабныя баявыя дзеянні.

## 6.2. Пачатак Другой сусветнай вайны. Далучэнне Заходняй Беларусі да БССР

Другая сусветная вайна пачалася **1 верасня 1939 г.** з нападу Германіі на Польшчу. А. Гітлер яшчэ 11 красавіка 1939 г. зацвердзіў план ваеннага захопу ІІ Рэчы Паспалітай, а 31 жніўня ў нямецкім памежным горадзе Гляйвіц (сучасны польскі горад Глівіцэ) эсэсаўцы арганізавалі правакацыю (нібыта палякі захапілі мясцовую радыёстанцыю і заклікалі «біць

немцаў»). А. Гітлер аддаў загад вермахту перайсці польскую мяжу, а ўсю віну за пачатак баявых дзеянняў усклаў на Польшчу. Канфлікт набыў сусветны характар, бо 3 верасня вайну Германіі аб'явіла Францыя, а таксама Вялікабрытанія, разам з якой выступілі Канада, Паўднёва-Афрыканскі Саюз, Індыя, Аўстралія і Новая Зеландыя. На працягу наступных шасці гадоў у сусветную вайну была ўцягнута 61 дзяржава.

У верасні 1939 г. асноўныя баявыя дзеянні разгортваліся ў Польшчы, на якую нямецкія войскі наступалі трыма кампактнымі групоўкамі: з захаду, з поўначы (з Усходняй Прусіі) і з поўдня (з акупаванай тэрыторыі былой Чэхаславакіі). Ваенная авіяцыя наносіла знішчальныя ўдары па аэрадромах, вузлах сувязі, гарадах, і ў гэтых абставінах у Польшчы было няшмат шанцаў эфектыўна абараняцца. Вермахт імкліва прасоўваўся ўглыб краіны: 6 верасня быў захоплены Кракаў, а 8 верасня пачаліся баі за Варшаву. Польская армія там, дзе ўдалося арганізаваць абарону, гераічна змагалася: Варшава, Вестэрплятэ, Хель, Модлін, Брэсцкая крэпасць — месцы, пакрытыя ў 1939 г. славай польскай зброі.

Адзначым, што ў Войску Польскім змагалася не менш за 70 тыс. беларусаў, з якіх каля 7–9 тыс. загінулі ў барацьбе супраць нацызму ў ходзе гэтай вераснёўскай кампаніі. Шмат палескіх рэзервістаў апынулася ў 30-й пяхотнай дывізіі, якую за гераізм пры абароне Варшавы называлі «жалезнай». Калі нямецкі танкавы корпус, наступаючы з Усходняй Прусіі, 14 верасня дасягнуў Брэста, то сустрэў абаронцаў крэпасці, якія адбілі сем нямецкіх атак. Сярод польскіх ваеннаслужачых значную колькасць складалі беларусы, якім блізкасць іх родных мясцін надавала больш сілаў у змаганні з ворагам. Упартыя баі за Брэсцкую крэпасць працягваліся з 14 па 16 верасня, падчас іх загінула да 40 % гарнізона цытадэлі. Апошнія, хто застаўся ў жывых, прарваліся з крэпасці і адступілі ў паўднёвым кірунку.

Імклівае развіццё падзей вымусіла савецкае кіраўніцтва правесці паскораную ваенна-тэхнічную падрыхтоўку да ўступлення ў Заходнюю Украіну і Заходнюю Беларусь. Пачалася мабілізацыя і разгортванне войскаў Чырвонай Арміі на мяжы з Польшчай. Нацысцкія кіраўнікі падштурхоўвалі І. Сталіна хутчэй выступіць супраць Польшчы, але той не спяшаўся выконваць палажэнні таемнага пратакола да пакта Молатава–Рыбентропа. Толькі 10 верасня пасла Германіі ў Маскве праінфармавалі, што савецкае кіраўніцтва абвесціць: «Польшча развальваецца на кавалкі, і ў выніку гэтага Савецкі Саюз павінен прыйсці на дапамогу ўкраінцам і беларусам, якім пагражае Германія».

**17 верасня 1939 г.** Чырвоная Армія атрымала загад перайсці мяжу з Польшчай і пачала паход у Заходнюю Украіну і Заходнюю Беларусь. Беларускае насельніцтва ў сваёй абсалютнай большасці радасна, з кветкамі і хлебам-соллю вітала чырвонаармейцаў. У Заходняй Беларусі савецкія салдаты не сустрэлі моцнага супраціўлення, бо тут знаходзіліся ці рэзервісты, ці разбітыя вермахтам часткі Войска Польскага. Самае буйное

сутыкненне адбылося каля Гродна: Чырвоная Армія заняла горад 21 верасня пасля крывавага бою, у якім страціла 47 чалавек забітымі, 156 параненымі, а таксама 4 танкі і бронемашыны. Да 1 кастрычніка 1939 г. Беларускі фронт страціў 996 чалавек забітымі і 2002 параненымі, пры гэтым захоплена ў палон было 60 тыс. польскіх вайскоўцаў.

За 12 дзён вызваленчага паходу ў Заходнюю Украіну і Заходнюю Беларусь Чырвоная Армія заняла тэрыторыю ў 190 тыс. км², на якой пражывала каля 12 млн чалавек, у асноўным украінцаў і беларусаў. *28 верасня 1939 г.* Савецкі Саюз падпісаў з Германіяй Дагавор аб дружбе і граніцы, згодна з якім заходняя мяжа СССР у асноўным супала з «лініяй Керзана» (з адступленнем ад яе ў раёне Беластока на карысць Савецкага Саюза). Пасля гэтага было праведзена адміністратыўна-прававое афармленне ўваходжання новай тэрыторыі ў СССР, і пачалася саветызацыя грамадскага жыцця.

Карэнная перабудова на савецкі лад усяго жыццёвага ўкладу ў Заходняй Беларусі праводзілася згодна са спецыяльнай пастановай Палітбюро ЦК ВКП (б) «Пытанні Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі» (ад 1 кастрычніка 1939 г.), тэкст якой рэдагаваў асабіста І. Сталін. У гэтай пастанове патрабавалася правесці ў Беластоку Беларускі Народны Сход, які павінен быў зацвердзіць нацыяналізацыю банкаў і перадачу панскай зямлі сялянам, вызначыць характар улады, вырашыць пытанне аб уваходжанні Заходняй Беларусі ў склад БССР. Акрамя таго, на далучанай тэрыторыі ўтвараліся камуністычныя і камсамольскія арганізацыі, уводзілася савецкая валюта. Выбары ў Народны Сход прызначаліся на 22 кастрычніка 1939 г.

Наступныя падзеі цалкам адпавядалі прынятай у Маскве пастанове. 22 кастрычніка ва ўмовах забароны ўсіх партый, акрамя камуністычнай, адбыліся выбары ў *Беларускі Народны Сход*, які прайшоў *28–30 кастрычніка 1939 г.* у *Беластоку*. Дэпутаты Народнага Сходу аднадушна прагаласавалі за ўз’яднанне Заходняй Беларусі з БССР, прынялі дэкларацыі аб тым, што ўлада будзе савецкай, панская зямля павінна належаць сялянам, а буйную прамысловасць і банкі трэба нацыяналізаваць. Сесія Вярхоўнага Савета СССР (2 лістапада 1939 г.) і сесія Вярхоўнага Савета БССР (12 лістапада 1939 г.) прынялі законы аб уключэнні Заходняй Беларусі ў склад СССР і ўз’яднанні яе з БССР. Такім чынам быў пакладзены канец падзелу беларускага народа, які існаваў пасля Рыжскага міру 1921 г.

Пасля далучэння Заходняй Беларусі БССР павялічыла сваю тэрыторыю на 100 тыс. км², а насельніцтва — на 4,7 млн чалавек. Паўднёвая рэспубліканская мяжа на далучаных землях была праведзена па лініі мяжы былых Мінскай і Гродзенскай губерняў з Валынскай губерняй. А Віленскі край (6900 км²), па прынятаму яшчэ 10 кастрычніка 1939 г. маскоўскім кіраўніцтвам рашэнні, перадалі Літве.

У Заходняй Беларусі ўводзіўся савецкі адміністрацыйны падзел, былі ўтвораны Вілейская, Баранавіцкая, Беластоцкая, Брэсцкая і Пінская вобласці. У 1940 г. завяршылася савецкая пашпартызацыя ў Заходняй Беларусі, прайшлі *безальтэрнатыўныя давыбары* ў Вярхоўны Савет БССР і Вярхоўны Савет СССР. На кіруючыя пасады прызначаліся перш за ўсё камуністы, у сваёй абсалютнай большасці тыя, што прыехалі з усходу. Каб ліквідаваць кадравы недахоп, толькі ў 1940 г. з цэнтральных і ўсходніх абласцей БССР сюды завезлі 31 тыс. апаратчыкаў. У пачатку 1941 г. у Заходняй Беларусі дзейнічалі 1232 пярвічныя партарганізацыі, якія аб'ядноўвалі 16 948 камуністаў. Сярод насельніцтва планамерна праводзілася савецкая прапаганда і агітацыя праз газеты, пашыраную сетку радыёўстановак, а таксама ўтрая павялічаную колькасць кінатэатраў. Камуністычным выхаваннем моладзі займаліся школы (большасць з іх пераводзілася на беларускую мову), у якіх было забаронена выкладанне рэлігіі.

Пераўтварэнні адбываліся і ў сацыяльна-эканамічнай сферы. У канцы 1939 г. улады правялі нацыяналізацыю банкаў і большасці прамысловых прадпрыемстваў. У сельскай гаспадарцы праводзілася павольная калектывізацыя: да чэрвеня 1941 г. было створана больш за 1000 калгасаў, у якія ўступілі каля 50 тыс. чалавек (6,7 % сялянскіх гаспадарак Заходняй Беларусі). Была ўведзена савецкая сістэма сацыяльнага забеспячэння і бясплатнага медыцынскага абслугоўвання насельніцтва, практычна ліквідавана беспрацоўе.

Дзеля сацыялістычнай трансфармацыі грамадства камуністычнае кіраўніцтва выкарыстоўвала і масавыя рэпрэсіі, якія пачаліся адразу пасля прыходу Чырвонай Арміі. Было праведзена чатыры масавыя ***дэпартацыі*** жыхароў Заходняй Беларусі ў Сібір і Казахстан — у лютым, красавіку, чэрвені 1940 г. і ў чэрвені 1941 г., у выніку чаго было выселена каля 125 тыс. чалавек. Жорсткасць сталінскага рэжыму характарызуе і тое, што згодна з рашэннем ЦК УКП(б) ад 5 сакавіка 1940 г. былі расстраляны 21 857 польскіх ваеннаслужачых, якіх узялі ў палон падчас вераснёўскага паходу Чырвонай Арміі.

У той час калі Заходняя Беларусь набывала савецкае аблічча, у Еўропе працягваліся баявыя дзеянні. Разгром і ліквідаванне ІІ Рэчы Паспалітай мелі значныя стратэгічныя наступствы для Германіі: вермахт атрымаў магчымасць сканцэнтраваць свае войскі супраць Францыі і Вялікабрытаніі. Але да пачатку красавіка 1940 г. ніякіх актыўных дзеянняў на заходнім германскім фронце не назіралася: так, напрыклад, колькасць брытанскіх вайскоўцаў у Францыі дасягала 158 тыс. чалавек, а першую ахвяру яны панеслі толькі 9 снежня (быў забіты адзін капрал). Такое становішча на фронце набыло назву «дзіўная вайна».

Германія разгарнула актыўныя наступальныя аперацыі *9 красавіка 1940 г.*, калі міністрам замежных спраў нейтральных Даніі і Нарвегіі быў зачытаны ўльтыматум: без супраціўлення пайсці «пад ахову рэйха». Нямецкія войскі ўжо высаджваліся на тэрыторыі гэтых краін, і Данія капітулявала, а Нарвегія пачала змагацца (хаця яе асноўныя гарады былі захоплены ў той жа дзень). Нарвежцы пры дапамозе англічан вялі баі да пачатку мая, але пасля вымушаны былі ці эвакуіравацца, ці скласці зброю. Захоп Германіяй Польшчы, Даніі і Нарвегіі зрабіў моцнае ўражанне на грамадскасць еўрапейскіх краін, садзейнічаў дэмаралізацыі іх войскаў. 10 мая 1940 г. вермахт пачаў наступленне на Францыю, прасоўваючыся праз тэрыторыю нейтральных Бельгіі і Галандыі. Адбыўся хуткі разгром антыгітлераўскіх войскаў: 14 мая капітулявала Галандыя, 28 мая — Бельгія, 22 чэрвеня — Францыя. Толькі Вялікабрытанія засталася няскоранай, бо нямецкі флот не меў магчымасці забяспечыць буйную дэсантную аперацыю, а ў ваенна-паветранай вайне — ***«бітве за Англію»*** — перамаглі брытанскія лётчыкі. Апошнімі ахвярамі А. Гітлера сталі Югаславія і Грэцыя, захопленыя ў красавіку-чэрвені 1941 г.

Такім чынам, у 1939–1941 гг. у выніку ваеннай агрэсіі Германіі і экспансіяніcцкай палітыкі СССР у Еўропе адбыліся радыкальныя палітычныя змены. У 1941 г. А. Гітлер кантраляваў амаль усю Заходнюю Еўропу. Нейтральнымі засталіся толькі Швецыя, Швейцарыя і Турцыя, а астатнія краіны былі ці сатэлітамі Германіі (Венгрыя, Румынія і інш.), ці падпарадкаваны ёй. Пасля гэтага на кантыненце супрацьстаяць нацызму мог толькі Савецкі Саюз, які пашырыў сваю тэрыторыю на захадзе і ўжо меў агульную граніцу з Германіяй.

## 6.3. Абарончыя баі на тэрыторыі Беларусі ў пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Усталяванне акупацыйнага рэжыму

**22 чэрвеня 1941 г.** нацысцкая Германія напала на Савецкі Саюз — пачалася вызваленчая Вялікая Айчынная вайна савецкага народа.

А. Гітлер планаваў разграміць Чырвоную Армію, захапіць Маскву, Ленінград, Украіну, выйсці на мяжу Астрахань–Волга–Архангельск і скончыць вайну супраць СССР да пачатку зімы 1941 г. Нямецкая армія ўварвання складалася з трох асноўных груповак: «Поўнач», «Цэнтр» і «Поўдзень». Праз тэрыторыю Беларусі на маскоўскім кірунку наступала самая магутная група армій «Цэнтр», якая мела ўдарных злучэнняў у два разы больш, чым дзве астатнія групы, разам узятыя. Супрацьстаяў гітлераўцам у Беларусі Заходні фронт (на чале з генералам *Д. Паўлавым*), які саступаў захопнікам па колькасці ваеннаслужачых (см. табл. 1).

У Беларусі вермахт планаваў акружыць савецкія войскі на захад ад сталіцы БССР: на мінскім напрамку атакавалі дзве танкавыя групоўкі (з боку Вільнюса і з боку Брэста і Баранавіч). Ударам з паветра падвергліся ваенныя аб’екты і мірныя гарады: напрыклад, 24 чэрвеня 1941 г. пасля чатырох

налётаў люфтвафэ быў фактычна зруйнаваны Мінск. У савецкім тыле дзейнічалі нямецкія дыверсанты, якія да таго ж сеялі паніку сярод насельніцтва.

*Табліца 1*

**Заходні фронт і група армій «Цэнтр» (на 22.06.1941 г.)***

| | **Асабовы склад** | **Дывізіі** | **Гарматы і мінамёты** | **Танкі** | **Баявыя самалёты** |
|---|---|---|---|---|---|
| Заходні фронт | 672 000 | 55 | 10 087 | 2502 | 1909 |
| Вермахт | 820 000 | 47 | 10 763 | 1177 | 1468 |

Войскі Заходняга фронту з першых дзён вайны аказвалі ўпартае супраціўленне захопнікам. Асабліва варта адзначыць *абарону Брэсцкай крэпасці (22.06–20.07):* за першыя восем дзён вайны нямецкая 45-я дывізія, якая вяла напружаныя баі ў Брэсце, страціла 1120 чалавек — самыя вялікія страты для ўсёй групы армій «Цэнтр». Пры *абароне Мінска* праславілася 100-я стралковая дывізія пад кіраўніцтвам *І. Русіянава*. Але 28 чэрвеня 1941 г. войскі нацыстаў захапілі сталіцу Беларусі. Камандаванне Заходняга фронту страціла магчымасць кіраваць арміяй, і савецкія войскі між Беластокам і Мінскам апынуліся ў акружэнні: толькі ў палон тут трапілі 328 898 чырвонаармейцаў. Камандуючы Заходняга фронту Д. Паўлаў 30 чэрвеня быў зняты з пасады (пазней расстраляны).

Новы кіраўнік Заходняга фронту *С. Цімашэнка* намагаўся наладзіць абарону па буйных рэках. На Бярэзіне пад Барысавам адзначылася 1-я мотастралковая дывізія з танкамі «Т-34», якая затрымала немцаў на двое сутак. Але асноўны абарончы рубеж Чырвонай Арміі праходзіў па Заходняй Дзвіне і Дняпры. Каб сарваць наступальныя планы праціўніка, савецкімі войскамі былі нанесены моцныя танкавыя контрудары. 20-я армія П. Курачкіна контратакавала на захад ад Оршы, і *6–10 ліпеня 1941 г.* у раёне Сянно адбылася адна з самых буйных у гісторыі танкавая бітва, у якой удзельнічала з боку Чырвонай Арміі больш за 1000 танкаў. У выніку войскі вермахта не змаглі хутка прайсці да лініі абароны на Дняпры. *13 ліпеня 1941 г.* па загадзе С. Цімашэнкі на бабруйскім напрамку ў наступ перайшоў 63-ці мехкорпус Л. Пятроўскага, які фарсіраваў Дняпро і выбіў немцаў са Жлобіна і Рагачова. Гэта дазволіла савецкім войскам умацаваць свае становішча ў *Магілёве,* дзе яны упарта абараняліся з *3 па 26 ліпеня 1941 г.* Апошнім абласным цэнтрам БССР, захопленым вермахтам, быў *Гомель*, абарона якога доўжылася з 12 па 19 жніўня 1941 г.

На беларускай зямлі былі сарваны нямецкія планы ***«маланкавай вайны»*** і закладзены падмуркі будучай перамогі. Гераічны і адначасова трагічны перыяд лета 1941 г. паказаў, што савецкія салдаты нават у

* Вялікая Айчынная вайна савецкага народа (у кантэксце другой Сусветнай вайны): вучэб. дапам. / А. А. Каваленя [і інш.] ; пад рэд. А. А. Кавалені. Мінск : БДУ, 2004. С. 93.

безвыходных сітуацыях здольныя эфектыўна абараняцца. У небе над Беларуссю лётчыкі самааддана змагаліся супраць нямецкіх самалётаў і ўжо ў першы дзень вайны здзяйснялі паветраныя тараны. Жыхары Беларусі актыўна дапамагалі Чырвонай Арміі: толькі за першы тыдзень вайны з БССР у войска было мабілізавана 500 тыс. чалавек. Цывільныя грамадзяне працавалі на будаўніцтве абарончых аб’ектаў, уступалі ў народнае апалчэнне і знішчальныя атрады. З Беларусі на ўсход удалося эвакуіраваць каля 1,5 млн чалавек, якія сваёй працай на прамысловых прадпрыемствах і ў сельскай гаспадарцы набліжалі перамогу над ворагам.

К верасню 1941 г. нацысты захапілі ўсю Беларусь і пачалі ўводзіць свой адміністрацыйны апарат. Пры гэтым яны кіраваліся толькі ўласнымі інтарэсамі і намагаліся вырашыць задачу ўсталявання поўнага кантролю над акупаванай тэрыторыяй. Усходняя частка акупаванай БССР — Віцебская, Магілёўская і амаль уся Гомельская вобласці, а таксама некаторыя раёны Мінскай і Палескай абласцей былі аднесены да тылавога раёна групы армій «Цэнтр». Да рэйхскамісарыята «Украіна» былі далучаны 10 паўднёвых раёнаў (з гарадамі Мазыр, Пінск, Брэст). Цэнтральная Беларусь у выглядзе «Генеральнай акругі Беларусь» уваходзіла ў склад рэйхскамісарыята «Остланд». У склад Усходняй Прусіі гітлераўцы ўключылі 16 заходніх раёнаў (з гарадамі Беласток, Гродна, Ваўкавыск).

На акупаваных землях уводзіўся т. зв. «новы парадак», які абапіраўся на адкрыты тэрор і гвалт над савецкімі грамадзянамі. Уводзілася калектыўная адказнасць і сістэма заложніцтва: напрыклад, 27 ліпеня 1941 г., пасля неаднаразовага пашкоджання кабеля сувязі, нямецкае камандаванне абвясціла аб расстрэле 100 заложнікаў. Загад аднаго з кіраўнікоў вермахта В. Кейтэля патрабаваў смяротнай кары для 50–100 камуністаў у выпадку забойства нямецкага салдата. Любога чалавека маглі пазбавіць жыцця без усялякага следства за нязначную правіннасць: знаходжанне на вуліцы пасля ўстаноўленай гадзіны, нясвоечасовае з’яўленне на рэгістрацыю, нявыхад на працу, нявыплату падаткаў, нездачу вопраткі для нямецкай арміі і інш. Прыняць рашэнне расстраляць чалавека мог не толькі афіцэр, але і любы нямецкі ваеннаслужачы — тым самым салдаты вермахта атрымалі права на забойства і неабмежаваны прымус у дачыненні да мірных жыхароў, якіх лічылі «недачалавекамі». Ідэалагічнай падставай для такой нацысцкай палітыкі з’яўлялася тэорыя аб «расавай перавазе» нямецкай нацыі над іншымі народамі. У адпаведнасці з планам *«Ост»* Беларусь падлягала нямецкай каланізацыі і поўнай германізацыі: на працягу трыццаці гадоў планавалася выселіць за Урал 75 % яе насельніцтва, 10–15 % анямечыць, астатнюю частку знішчыць.

На акупаванай тэрыторыі нацысты стварылі сістэму ***канцэнтрацыйных лагераў*** і ***гета***, дзе ў жудасных умовах знаходзіліся тысячы людзей. На тэрыторыі Беларусі дзейнічала 260 такіх лагераў смерці, у якіх

загінула больш за 1,4 млн чалавек. Самым буйным з'яўляўся *Трасцянецкі лагер смерці* (пад Мінскам), дзе было знішчана больш за 206 500 чалавек.

Большую частку ахвяр у канцэнтрацыйных лагерах складалі палонныя чырвонаармейцы. Немцы заявілі, што па стану на лістапад 1941 г. узялі ў палон 3 млн 725 тыс. савецкіх ваеннаслужачых. Пазней лічба палонных чырвонаармейцаў перавысіла 5 млн чалавек. У лагерах толькі на тэрыторыі Беларусі іх загінула больш за 800 тыс. Масавая смяротнасць сярод ваеннапалонных была выклікана недастатковым харчаваннем, амаль поўнай адсутнасцю медыцынскай дапамогі, забойствамі і здзекамі. Афіцыйныя нормы харчавання не маглі забяспечыць мінімум, неабходны для жыцця чалавека: 6 жніўня 1941 г. была падпісана германская дырэктыва аб забеспячэнні савецкіх ваеннапалонных, згодна з якой тыя, хто выкары-стоўваўся на работах, атрымлівалі на дзень толькі 200 г хлеба, 13 г мяса, 15 г тлушчу, 20 г цукру. Але і гэтыя мізэрныя нормы не заўсёды выконваліся.

Другой катэгорыяй асоб, якія масава гінулі ад нацысцкай палітыкі, стала яўрэйскае насельніцтва: з 800 тыс. мясцовых яўрэяў падчас акупацыі Беларусі загінула каля 600 тыс. Іх масава расстрэльвалі ці размяшчалі для пражывання ў спецыяльныя месцы — *гета*. Вязняў гета выкарыстоўвалі ў якасці рабочай сілы. З самага пачатку сярод жыхароў гета паўстала праблема голаду, бо непрацуючым штодзённа выдавалася 150 г хлеба, 10 г крупаў, 9 г солі; хто працаваў — 250 г хлеба і літр супу з травы. З-за голаду, вялікай скучанасці, хвароб, перыядычных пагромаў, якія рабілі нацысты, яўрэі ў гета паміралі тысячамі. Па колькасці ахвяр самым вялікім з'яўлялася *Мінскае гета*, у якім загінула каля 100 тыс. чалавек. І амаль адзіным спосабам выратаваць жыццё былі ўцёкі з гета. Беларускае насельніцтва дапамагала яўрэям, нягледзячы на тое, што нацысты за гэта пагражалі смяротным пакараннем. У Ізраілі медалём «Праведнік народаў свету» ўзнагароджваецца той чалавек, які дапамог яўрэю захаваць жыццё падчас генацыду. На 1 студзеня 2010 г. такім медалём узнагародзілі 608 жыхароў Беларусі.

Беларускае насельніцтва ведала і бачыла, як нямецкія ўлады адносяцца да савецкіх ваеннапалонных і яўрэяў, і гэта выклікала жах. Мірных жыхароў запалохвалі таксама загадамі, за невыкананне якіх пагражала смерць, публічнымі расстрэламі ці павешаннем асуджаных. 26 кастрычніка 1941 г. у Мінску было праведзена першае публічнае пакаранне смерцю: дванаццаць чалавек былі павешаны ў розных месцах горада (у раёне Камароўкі, на скрыжаванні вуліц Камсамольская і Маркса, у скверы ля Дома афіцэраў і на варотах дражджавога завода). Сярод асуджаных былі Вольга Шчарбацэвіч, якая працавала ў бальніцы і выводзіла з палону параненых савецкіх салдат, і яе сям'я — муж, сястра, 15-гадовы сын Валодзя. Экзекуцыю акупанты фатаграфавалі. На пасляваенным Нюрнбергскім працэсе гэтыя фотаздымкі сталі сведчаннем нацыстскіх злачынстваў.

Знішчэнне беларускага насельніцтва мела масавы характар падчас карных аперацый, якія праводзіліся дзеля ліквідацыі партызанскага руху і з мэтай рабавання краю. З 9200 населеных пунктаў, разбураных і спаленых акупантамі ў Беларусі, 628 былі знішчаны з усімі жыхарамі, 4667 — з часткай насельніцтва. Агульнавядомым прыкладам такой злачыннай палітыкі з’яўляецца карная аперацыя *22 сакавіка 1943 г.* у вёсцы *Хатынь*. У гэты дзень партызаны абстралялі на дарозе Лагойск – Плешчаніцы нямецкі аўтамабіль, у выніку чаго быў забіты афіцэр 118-га паліцэйскага батальёна Ханс Вёльке, былы вядомы спартсмен, алімпійскі чэмпіён у штурханні ядра. Паліцэйскія 118-га батальёна правялі карную аперацыю: спачатку былі забітыя 27 чалавек з вёскі Козыры, а пасля знішчана вёска Хатынь, у бок якой вялі сляды партызан. Жыхары гэтай вёскі былі загнаны эсэсаўцамі і паліцэйскімі ў калгасны сарай, які падпалілі. Пад ціскам людзей дзверы абрынуліся, але тыя, хто ратаваўся ад полымя, былі расстраляны з кулямётаў. У выніку 149 жыхароў вёскі загінула, з іх больш за палову — дзеці, якім не было і шаснаццаці гадоў. У ліпені 1969 г. на месцы Хатыні быў адкрыты мемарыяльны комплекс (скульптар *С. Селіханаў*, архітэктары *Ю. Градаў, В. Занковіч, Л. Левін*), прысвечаны сотням беларускіх вёсак, знішчаных нацыстамі.

Гаспадарчая палітыка нацысцкіх улад зводзілася да выкарыстоўвання прамысловых прадпрыемстваў і сельскай гаспадаркі Беларусі ў інтарэсах ваеннай эканомікі Германіі. На тэрыторыі Беларусі была адноўлена дзейнасць 800 прамысловых прадпрыемстваў, і ў першую чаргу яны працавалі на патрэбы вермахта. Вёска павінна была выконваць «гадавыя гаспадарчыя заданні» па абавязковых пастаўках прадуктаў харчавання, а таксама воўны, ільну, канапель і г. д. Рабіліся і «пазапланавыя» ***рэквізіцыі***, а па сутнасці — рабаванне беларускіх сялян. З сярэдзіны 1942 г. сельская мясцовасць усё больш падлягала кантролю партызан: у канцы 1942 г. акупацыйныя ўлады канстатавалі страту 48 % трактароў, 42 % малатарняў, 49 % грузавікоў і 31 % малочных фермаў.

Ва ўмовах зацягвання вайны Германія адчувала моцны недахоп працоўных рук у рэйху, а эканамічнае міністэрства патрабавала дадатковых работнікаў. Гэта стала прычынай набору рабочых на акупаванай тэрыторыі СССР. Тых, хто быў вывезены на працу ў Германію, называлі ***«остарбайтарамі»***. Савецкія грамадзяне, за рэдкім выключэннем, не жадалі ехаць у рэйх, таму акупанты забіралі іх гвалтоўна. З Беларусі было вывезена больш за 380 тыс. остарбайтараў. Звычайна з імі абыходзіліся як з ваеннапалоннымі: транспартавалі ў таварных вагонах, трымалі ў абнесеных дротам лагерах, у якіх баракі зачыняліся нанач, а вокны мелі краты. Остарбайтары насілі маркіровачны знак «ОСТ», іх харчаванне было вельмі дрэнным, адзенне — абношаным. На прадпрыемствах остарбайтары працавалі па 11–12 гадзін, іх намагаліся трымаць асобна ад заходніх рабочых. Прымусова вывезеныя ў Германію

беларусы маглі загінуць ад няшчаснага выпадку на вытворчасці, ад хвароб ці падчас англа-амерыканскіх налётаў на рэйх. Адзначым, што пасля рэпатрыяцыі да 29 мая 1947 г. у Беларусь вярнулася ўсяго каля 250 тыс. былых остарбайтараў.

Такім чынам, нягледзячы на гераізм савецкіх салдат, Чырвоная Армія зведала цяжкае паражэнне ўлетку 1941 г. і вымушана пакінула тэрыторыі Беларусі. Нацысцкі акупацыйны рэжым быў адзначаны нястрымным тэрорам у адносінах да мірнага насельніцтва Беларусі. Рэквізіцыі, разбурэнне населеных пунктаў, гвалт і забойствы зрабіліся штодзённымі з'явамі. Нават выкананне правілаў «новага парадку» не гарантавала выжывання. Усё гэта садзейнічала пашырэнню атмасферы ўсеагульнага страху і стварала патэнцыял для беларускага руху супраціўлення.

## 6.4. Савецкі партызанскі і падпольны рух на акупаванай тэрыторыі Беларусі

З першых дзён акупацыі на тэрыторыі Беларусі разгарнуўся партызанскі рух. У шмат якіх выпадках партызанскія фарміраванні ўзнікалі стыхійна з мясцовых савецкіх актывістаў, а таксама чырвонаармейцаў-акружэнцаў. Ужо ў ліпені 1941 г. на Палессі ў тыле ворага быў сфарміраваны і вёў баі атрад *В. Каржа*, а ў жніўні 1941 г. камандзіры атрада «Чырвоны Кастрычнік» *Ф. Паўлоўскі і Ц. Бумажкоў* сталі першымі партызанамі — Героямі Савецкага Саюза. Адзначым, што арганізацыя партызанскага руху праходзіла ва ўмовах адступлення Чырвонай Арміі і пэўнай дэмаралізацыі насельніцтва. Хутка надышла суровая зіма 1941–1942 гг., што таксама адмоўна паўплывала на разгортванне ўзброенай барацьбы ў тыле ворага.

Савецкае кіраўніцтва займалася арганізацыяй барацьбы супраць захопнікаў у тыле ворага. Пры адступленні пераводзіліся на нелегальную работу мясцовыя камуністычныя ячэйкі; за ліпень–кастрычнік 1941 г. у цэнтралізаваным парадку ў Беларусі было сфарміравана звыш 430 партызанскіх атрадаў і груп колькасцю больш за 8300 чалавек. Актывізацыі партызанскага руху садзейнічаў разгром немцаў пад Масквой узімку 1941–1942 гг. Па-першае, гэта ўзняло маральны дух савецкіх патрыётаў; па-другое — у выніку контрнаступлення Чырвонай Арміі ў лініі савецка-германскага фронту паміж Веліжам і Усвятамі ўтварыўся 40-кіламетровы разрыў, які існаваў з лютага па верасень 1942 г. Праз гэтыя ***«Віцебскія» вароты*** на тэрыторыю Беларусі было перапраўлена 20 партызанскіх атрадаў, шматлікія арганізатарскія і дыверсійныя групы, якія налічвалі больш за 3 тыс. чалавек. Партызанскія атрады з акупаванай тэрыторыі праз «Віцебскія» вароты выходзілі на перафарміраванне, а таксама выводзілі ў савецкі тыл мірнае насельніцтва, якое ратавалася ад карнікаў.

Пры арганізацыі савецкага партызанскага руху ў 1941–1942 гг. існавала пэўная геаграфічная асаблівасць: кіраўніцтва СССР не імкнулася

да значнага пашырэння руху супраціўлення ў Заходняй Беларусі. Тут разгортвала сваю дзейнасць польская арганізацыя — Армія Краёва (АК), якая змагалася за аднаўленне Польшчы. Паміж савецкімі партызанамі і АК існаваў пэўны палітычны антаганізм, але наяўнасць агульнага ворага — нацыскай Германіі — дазваляла пазбягаць адкрытага ўзброеннага канфлікта паміж імі.

Паступовае разгортванне ў Беларусі савецкага руху супраціўлення можна прасачыць па колькасці партызанскіх дыверсій на чыгунцы: у лютым 1942 г. праведзена 6 дыверсій, у красавіку — 65, у ліпені — 398, у верасні — 695. Найбольш вядомай за гэты перыяд стала Дрысенская аперацыя (жнівень 1942 г.), калі пад кіраўніцтвам *П. Машэрава* народныя мсціўцы разбурылі 110-метровы мост, і рух цягнікоў па лініі Полацк–Даўгаўпілс быў спынены на шаснаццаць сутак. Сталі больш маштабнымі і напады на карнікаў: пасля разгрому паліцэйскай калоны каля Налібокаў (9 чэрвеня 1942 г.) было нават склікана пасяджэнне ў рэйхскамісарыяце «Остланд», прысвечанае абмеркаванню сітуацыі з немагчымасцю захаваць бяспеку з-за актыўнасці савецкіх партызан.

Для каардынацыі дзеянняў і павелічэння эфектыўнасці аперацый у тыле ворага *30 мая 1942 г.* быў створаны *Цэнтральны штаб партызанскага руху (ЦШПР)*, які ўзначаліў першы сакратар ЦК КП(б)Б *П. Панамарэнка*. Тое, што на гэтую пасаду прызначылі кіраўніка Кампартыі Беларусі, сведчыць, што «беларускі напрамак» партызанскай барацьбы ў планах савецкага кіраўніцтва знаходзіўся на першым месцы. *9 верасня 1942 г.* распачаў сваю дзейнасць *Беларускі штаб партызанскага руху*, на чале якога стаяў другі сакратар ЦК КП(б)Б *П. Калінін*.

З восені 1942 г. пачынаецца новы этап развіцця партызанскага руху, які характарызуецца значным павелічэннем колькасці партызан: у лістападзе 1942 г. іх налічвалася каля 50 тыс., а ў канцы 1943 г. — 212 тыс. На канец 1943 г. яны кантралявалі 108 тыс. км², што складала 58 % акупаванай тэрыторыі Беларусі. Дзейнічалі ***партызанскія зоны***, у якіх была адноўлена савецкая ўлада і дзе хаваліся ад нацыстаў тысячы мірных жыхароў. У Беларусі існавала каля 20 вялікіх партызанскіх зон: Клічаўская (70 тыс. чалавек), Ушацка-Лепельская (73 тыс. чалавек), Івянецка-Налібоцкая (60 тыс. чалавек) і інш.

Супраціўленне акупантам у Беларусі набыло такія маштабы, што германскія ўлады вымушаны былі трымаць тут значныя вайсковыя фарміраванні: сіл паліцыі не ставала, і для захавання кантролю выкарыстоўваліся ахоўныя дывізіі. Ужо ў 1941 г. сталі праводзіцца буйныя карныя аперацыі супраць партызан і цывільнага насельніцтва. Прыкладам можа быць аперацыя «Балотная ліхаманка» (25 жніўня – 20 верасня 1942 г.), у час якой карнікі забілі 10 013 чалавек, 1217 вывезлі на работы ў Германію. Пры правядзенні гэтай аперацыі *13 верасня 1942 г.* адбыўся *Агінскі бой* у Целяханскім раёне: байцы атрада ім. Шчорса атакавалі

гітлераўцаў на Агінскім канале і ў выніку 5-гадзіннага бою знішчылі больш за 60 карнікаў. Знакамітым стаў і *Лаўскі бой* у Капыльскім раёне: *3 снежня 1942 г.* 18 партызан на чале з *В. Драздовічам* чатыры гадзіны стрымлівалі карнікаў, якія імкнуліся разграміць брыгаду імя Варашылава. Падчас бою ўсе партызаны загінулі, але брыгада здолела выйсці з акружэння. Заўважым, што ў ходзе карных аперацый у першую чаргу гінула цывільнае беларускае насельніцтва. Пра гэта сведчыць нямецкая справаздача аб аперацыі «Котбус» (май–чэрвень 1943 г.): карнікі паведамілі, што забілі ў баях 6084 партызаны, расстралялі 3709 палонных. Пры гэтым са зброі было захоплена толькі 950 вінтовак. Зразумела, што большасць забітых склалі няўзброеныя людзі, гэта значыць мірнае насельніцтва.

Асноўнымі відамі партызанскай дзейнасці былі: разведка, дыверсіі на камунікацыях, зрыў нямецкіх карных аперацый, знішчэнне варожых гарнізонаў, савецкая прапаганда і агітацыя. Толькі за вясну–лета 1943 г. было разгромлена 220 варожых гарнізонаў і апорных пунктаў. Дыверсіі на дарогах прыводзілі да зрыву паставак нямецкім ваенным часцям, а таксама да значных страт сярод акупантаў. Напрыклад, улетку 1943 г. на шашы Шацк–Валер'яны атрадам *М. Мармулева* была практычна ліквідавана мінская абласная адміністрацыя: партызаны падарвалі некалькі машын і знішчылі 36 гітлераўцаў, у тым ліку 10 нямецкіх чыноўнікаў. Сярод дыверсій на чыгунцы вылучаецца партызанская аперацыя на станцыі Асіповічы: у ноч на *30 ліпеня 1943 г.* у выніку падрыву міны, закладзенай *Ф. Крыловічам*, было знішчана 29 цыстэрнаў паліва, 60 вагонаў з боепрыпасамі, а таксама эшалон з ваеннай тэхнікай.

Каб значна скараціць перавозкі для нямецкіх армій на фронт, у 1943 г. савецкім кіраўніцтвам была ініцыявана ***«рэйкавая вайна»*** — правядзенне дыверсійных аперацый на чыгуначных камунікацыях ворага. ЦШПР распрацоўваў план аперацый, вызначаў кожнаму партызанскаму атраду колькасць рэек, якія неабходна падарваць, накіроўваў у тыл ворага інструктараў-мінёраў. Аперацыі праводзіліся напярэдадні і ў час наступу Чырвонай Арміі на франтах, каб перашкодзіць гітлераўцам у неабходны момант перавезці свае войскі і боезапасы. «Рэйкавая вайна» праводзілася ў тры этапы. Першы (з 3 жніўня па сярэдзіну верасня 1943 г.) пачаўся ў час контрнаступлення савецкіх войскаў пад Курскам. Партызаны ўзарвалі больш за 121 тыс. рэек і вывелі са строю асобныя напрамкі чыгункі. У гэты перыяд перавозкі для нямецкай групы армій «Цэнтр» скараціліся на 40 %. Другі этап «рэйкавай вайны» (з 19 верасня да сярэдзіны лістапада 1943 г.) меў назву *«Канцэрт»* і быў звязаны з пачаткам вызвалення Беларусі. Трэці этап пачаўся 20 чэрвеня 1944 г. (напярэдадні аперацыі «Баграціён») і працягваўся да поўнага вызвалення Беларусі: толькі да 29 чэрвеня 1944 г. партызаны падарвалі звыш 60 тыс. рэек, паралізаваўшы чыгуначны рух на нямецкіх лініях камунікацыі. Даследчыкі адзначаюць, што сагласаваныя

дзеянні Чырвонай Арміі і партызан мелі важную ролю, садзейнічалі больш хуткаму вызваленню акупаваных тэрыторый СССР.

У 1943 г., пасля разрыву ў красавіку дыпламатычных адносін паміж СССР і польскім эміграцыйным урадам (які знаходзіўся ў Лондане), адбыліся змены ў адносінах паміж савецкімі партызанамі і АК. Паміж імі пачалася адкрытая ўзброеная барацьба, якая прыводзіла да знішчэння асобных польскіх фарміраванняў. На пачатак 1944 г. на тэрыторыі Беларусі засталося 20 тыс. «акаўцаў». У перыяд шырокага наступлення Чырвонай Арміі ўлетку 1944 г. звыш 5 тыс. байцоў АК прымалі ўдзел у вызваленні Вільні, але потым яны былі раззброены савецкім камандаваннем.

Акрамя партызанскіх атрадаў, на Беларусі дзейнічала разгорнутая сетка падпольных арганізацый. Як правіла, антыфашысцкія ячэйкі ўтваралі камуністы і камсамольцы, якія засталіся на акупаванай тэрыторыі. Іх работа праходзіла ў вельмі неспрыяльных умовах, калі вораг паўсюдна патруляваў населеныя пункты, праводзіў аблавы і арышты. Сярод беларускіх гарадоў актыўнай дзейнасцю падполля вылучаліся Мінск, Асіповічы, Магілёў, Віцебск, Брэст, Мазыр. Знакамітымі сталі дыверсіі на чыгуначных станцыях Обаль і Орша. Так, падпольная група *К. Заслонава* (Орша) пры дапамозе вугальных мін пусціла пад адхон некалькі эшалонаў, а таксама вывела са строю больш за 170 паравозаў. К. Заслонаў вымушаны быў пакінуць горад, арганізаваў партызанскі атрад і 14 лістапада 1942 г. загінуў у баі. На станцыі Обаль дзейнічала камсамольскае падполле (кіраўнікі *Е. Зянькова, З. Партнова* і інш.), на рахунку якога 21 дыверсія: знішчэнне мясцовага льнозавода, падрыў эшалона з боепрыпасамі, падрыў вадакачкі і інш. На жаль, нацысты арыштавалі і расстралялі амаль усіх членаў гэтай тайнай арганізацыі.

Шырокі размах набыў падпольны рух у Мінску: за ўвесь час акупацыі агульная колькасць падпольшчыкаў у горадзе склала 9 тыс. чалавек (паіменна вядома 2 тыс.). На чале падполля стаяў Мінскі гарка́м КП(б)Б. З-за недастатковай канспірацыі нямецкія ўлады выявілі і арыштавалі вясной 1942 г. 404 падпольшчыкі, з якіх 279 былі расстраляны ці павешаны. Нягледзячы на гэта, была створана новая арганізацыя, але арышты 26 верасня 1942 г. забралі каля 100 савецкіх патрыётаў. Пяцёра з падпольшчыкаў Мінска атрымалі званне Героя Савецкага Саюза — *І. Казінец, І. Кабушкін, У. Амельянюк, М. Кедышка і Я. Клумаў*. Апошні з іх — Яўген Клумаў — кандыдат медыцынскіх навук, хірург, які забяспечваў партызан і падпольшчыкаў медыкаментамі і хірургічнымі інструментамі, аказваў кваліфікаваную дапамогу параненым. У кастрычніку 1943 г. быў арыштаваны і закатаваны разам з жонкай у нацысцкай душагубцы. Зараз імем Я. Клумава названа 3-я мінская клінічная бальніца, дзе ён працаваў.

Самай знакамітай акцыяй мінскіх падпольшчыкаў стала забойства *22 верасня 1943 г.* камісара Генеральнай акругі Беларусь *В. Кубэ*. На акупаванай тэрыторыі СССР нямецкага функцыянера такога ўзроўню савецкае падполле ліквідавала толькі ў Мінску. Кубэ быў забіты выбухам міны ва ўласнай кватэры, а ў падрыхтоўцы і рэалізацыі гэтай аперацыі прымалі ўдзел *А. Мазанік, М. Осіпава, Н. Траян* — будучыя Героі Савецкага Саюза.

Такім чынам, супраціўленне заваёўнікам на акупаванай тэрыторыі мела масавы характар. Выключна актыўны ўдзел у разгортванні партызанскай і падпольнай барацьбы прымалі камуністычныя арганізацыі і савецкія спецслужбы. У Беларусі змагаліся 373 942 партызаны і 70 тыс. падпольшчыкаў. (Для параўнання: на Украіне — каля 60 тыс. савецкіх партызан, у Латвіі — 200, у Літве — 199 чалавек.) Страты гітлераўскіх акупацыйных структур у Беларусі ад рук партызан склалі больш за 500 тыс. чалавек, пры гэтым самі партызаны страцілі забітымі 44 791 чалавека.

### 6.5. Вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Вынікі вайны для беларускага народа і яго ўклад у перамогу над фашызмам

Восенню 1943 г. Чырвоная Армія разгарнула вялікі наступ на працягу ўсяго савецка-германскага фронту. Кіраўніцтва СССР разлічвала вызваліць тэрыторыю Беларусі да канца 1943 г., бо спадзявалася на дэмаралізацыю вермахта пасля Курскай бітвы. На беларускім напрамку дзейнічалі войскі Калінінскага, Заходняга, Бранскага і Цэнтральнага франтоў. *23 верасня 1943 г.* быў вызвалены першы раённы цэнтр БССР — *Камарын*; да канца верасня вызвалены раённыя цэнтры Хоцімск, Крычаў, Мсціслаў, Касцюковічы і Клімавічы.

Далейшы наступ Чырвонай Арміі ўглыб Беларусі сутыкнуўся з жорсткім супраціўленнем нямецкай групы армій «Цэнтр», што паказала нечакана высокі ўзровень баяздольнасці вермахта на гэтым участку фронту. Наступальныя аперацыі ў кастрычніку–снежні 1943 г. не дасягнулі той мэты, якую ставіла савецкае кіраўніцтва. Калінінскі фронт (з 20 кастрычніка — 1-шы Прыбалтыйскі) адваяваў чыгуначны вузел г. Невель, а потым вызваліў беларускі Гарадок. Гітлераўцы ўбачылі тут магчымасць прарыву Чырвонай Арміі ў Прыбалтыку, таму перакінулі на поўнач Беларусі некалькі дывізій і дадатковыя авіяцыйныя злучэнні. Цяжкія баі на віцебскім напрамку працягваліся да сакавіка 1944 г., але вызваліць гэты абласны цэнтр не ўдалося.

Арміі Заходняга фронту сем разоў пераходзілі ў наступ з агульным напрамкам на Магілёў, але прасунуліся толькі на 10–20 км. Пры гэтым страты фронту за шэсць месяцаў баёў склалі 330 тыс. чалавек (забітымі, паранемымі і прапаўшымі без вестак). Войскі Цэнтральнага фронту (з 20 кастрычніка 1943 г. — Беларускі) праводзілі наступ на поўдні Беларусі, падчас якога былі вызвалены два абласныя цэнтры — *Гомель* (26 лістапада 1943 г.) і *Мазыр* (14 студзеня 1944 г.). Наступаючым войскам істотную

падтрымку аказалі партызаны, якія разбуралі камунікацыі ворага. Да пачатку вясны 1944 г. Чырвоная Армія поўнасцю ці часткова вызваліла *36 раёнаў* БССР з двума ўзгаданымі абласнымі цэнтрамі.

К вясне 1944 г. лінія фронту стабілізавалася і праходзіла на ўсход ад Полацка, Віцебска, Оршы, Магілёва, Бабруйска, Жлобіна, на захад ад Мазыра і далей уздоўж Прыпяці. У Беларусі гітлераўцы стварылі эшаланіраваную абарону пад умоўнай назвай *«Фатэрлянд»* («Бацькаўшчына»), таму што яна прыкрывала два галоўныя шляхі ў Германію — на Берлін і ва Усходнюю Прусію. Некаторыя гарады — Віцебск, Магілёў, Бабруйск і інш. — былі абвешчаны крэпасцямі, якія неабходна было абараняць да апошняга салдата. Каб зрабіць больш бяспечным свой тыл, немцы правялі некалькі буйных карных аперацый супраць партызан. Абарону ў Беларусі трымалі ў асноўным злучэнні нямецкай групы армій «Цэнтр», якія налічвалі 1,2 млн чалавек, 9500 гармат і мінамётаў, 900 танкаў і самаходных гармат, каля 1300 самалётаў.

У 1944 г. Чырвоная Армія ўтрымлівала стратэгічную ініцыятыву, і савецкае кіраўніцтва вызначыла, што галоўны ўдар па вермахту летам будзе нанесены ў Беларусі. Вярхоўнае камандаванне распрацавала Беларускую наступальную аперацыю пад кодавай назвай *«Баграціён»*: перад савецкімі войскамі ставілася задача разграміць нямецкую групу армій «Цэнтр» і вызваліць Беларусь. Правядзенне аперацыі ўскладалася на чатыры франты: *1-шы Прыбалтыйскі* (камандуючы *І. Баграмян*), *1, 2 і 3-ці Беларускія франты* (камандуючыя *К. Ракасоўскі, Г. Захараў, І. Чарняхоўскі*), якія налічвалі 1 430 тыс. чалавек, 32 тыс. гармат і мінамётаў, 5,2 тыс. танкаў і самаходных гармат, 5 тыс. самалётаў. Каардынавалі дзеянні франтоў прадстаўнікі Вярхоўнага камандавання — маршалы *А. Васілеўскі і Г. Жукаў*.



**Зінаіда Тусналобава-Марчанка** (1920–1980) — медсястра Чырвонай Арміі. Герой Савецкага Саюза (1957). Нарадзілася ў наваколлі Полацка. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны скончыла курсы медсясцёр. У красавіку 1942 г. была накіравана на Варонежскі фронт. За восем месяцаў баёў вынесла з поля бою 128 параненых. У лютым 1943 г. яе цяжка паранілі, яна была абмарожана, у выніку чаго страціла рукі і ногі. Аўтар ліста да савецкіх салдат і афіцэраў 1-га Прыбалтыйскага фронту (май 1944 г.), у якім заклікала савецкіх воінаў адпомсціць за яе пакуты і скалечанае жыццё. Гэты заклік чыталі чырвонаармейцам напярэдадні штурму Полацка, і надпіс «За Зіну Тусналобаву!» з'явіўся на савецкіх гарматах, танках і самалётах.

У 1965 г. у знак прызнання выключных прафесійных якасцей Міжнародны Камітэт Чырвонага Крыжа ўзнагародзіў З. Тусналобаву-Марчанка медалём Флорэнс Найтынгейл. Імя З. Тусналобавай-Марчанка носіць Полацкі медыцынскі каледж.

Аперацыя «Баграціён» пачалася *23 чэрвеня 1944 г.,* калі ў наступ перайшлі войскі 1-га Прыбалтыйскага, 2-га і 3-га Беларускіх франтоў. 1-шы Беларускі фронт пачаў актыўныя баявыя дзеянні 24 чэрвеня. Наступу 23 чэрвеня папярэднічалі трохгадзінная артпадрыхтоўка і моцны налёт савецкай авіяцыі. Немцы не маглі ўявіць магчымасць такога імклівага і падрыхтаванага ўдару ў Беларусі, бо чакалі наступу Чырвонай Арміі на поўдні. Абарона немцаў не вытрымала, і *26 чэрвеня* быў вызвалены *Віцебск*, а ***28 чэрвеня*** — *Магілёў*. Выкананне загаду Гітлера не адступаць толькі ўскладніла становішча немцаў: пад Віцебскам у палон трапіла больш чым 10 тыс., а пад Бабруйскам — 23,5 тыс. варожых салдат і афіцэраў.

За першы тыдзень баёў была знішчана ўся абарона вермахта ў Беларусі, пасля чаго пачалося імклівае савецкае наступленне. Спроба немцаў утрымацца на р. Бярэзіне аказалася няўдалай, і праз вялікую брэш у нямецкай абароне Чырвоная Армія хутка прасоўвалася на захад. **3 ліпеня 1944 г.** войскі 1-га і 3-га Беларускіх франтоў вызвалілі сталіцу БССР: першымі ў Мінск уварваліся часці танкавага корпуса *А. Бурдзейнага*. На ўсход ад Мінска ў акружэнні апынулася варожая групоўка ў 105 тыс. чалавек, асноўныя сілы якіх былі разгромлены 7–8 ліпеня. У выніку гэтага ў палон трапіла 35 тыс. гітлераўцаў, сярод якіх было 12 генералаў. У вызваленай сталіцы Беларусі *16 ліпеня* адбыўся грандыёзны мітынг працоўных, партызан і прадстаўнікоў Чырвонай Арміі, на якім прысутнічаў камандуючы 3-м Беларускім фронтам генерал арміі І. Чар-няхоўскі.

Вызваленнем Мінска скончыўся першы этап аперацыі «Баграціён», пасля чаго савецкія войскі пачалі рухацца на захад у напрамку даваеннай дзяржаўнай граніцы СССР, а таксама ў Прыбалтыку. Нямецкае камандаванне не мела ніякіх магчымасцяў закрыць велізарны разрыў у лініі фронту, і пачалося канчатковае выгнанне захопнікаў з беларускай зямлі: 5 ліпеня савецкія войскі вызвалілі Маладзечна, 14 ліпеня — Пінск, 16 ліпеня — Гродна, *28 ліпеня* — Брэст. Наступленне савецкіх франтоў актыўна падтрымлівалі беларускія партызаны, якія захапілі 17 тыс. палонных, сваімі сіламі вызвалілі Капыль, Карэлічы, Свір і іншыя населеныя пункты БССР. Каля 180 тыс. партызан было адразу мабілізавана ў Чырвоную Армію.

У выніку аперацыі «Баграціён» група армій «Цэнтр», якая ў 1941 г. дайшла амаль да Масквы, была разгромлена: цалкам знішчаны 17 нямецкіх дывізій і 3 брыгады, а 50 дывізій страцілі больш за палову свайго складу. Загінулі ці апынуліся ў палоне 500 тыс. гітлераўцаў, што было значна больш, чым выніку разгрому немцаў пад Сталінградам. Беларуская наступальная аперацыя стала адной з самых выбітных стратэгічных аперацый Другой сусветнай вайны. На жаль, яна таксама суправаджалася значнымі стратамі Чырвонай Арміі: ў чэрвені–ліпені 1944 г. яны склалі каля 440 тыс. чалавек.

Разгром групы армій «Цэнтр» прадэманстраваў высокі ўзровень майстэрства камандавання і простых салдат Чырвонай Арміі, яе колькасную і тэхнічную перавагу над ворагам. У выніку аперацыі «Баграціён» савецкія войскі значна наблізіліся да Германіі і адкрылі кароткі шлях на Берлін. У канцы 1944 г. «тысячагадовы рэйх» страціў усіх сваіх саюзнікаў, а Чырвоная Армія і амерыкана-англійскія войскі стаялі на яго межах. Авіяцыя заходніх саюзнікаў метадычна знішчала нямецкія прамысловыя аб'екты і мірныя гарады: у Германіі не засталося нават бяспечнага тылу.

Падчас ваенных дзеянняў Чырвонай Арміі ва Усходняй Еўропе былі вызвалены ад нацызму Польшча, Чэхаславакія, Венгрыя, Югаславія і частка Нарвегіі. Фінляндыя, Румынія і Балгарыя выйшлі з саюзу з Германіяй і абвясцілі ёй вайну. Савецкія войскі разграмілі нямецкія дывізіі ва Усходняй Прусіі, а 16 красавіка 1945 г. пачалася Берлінская аперацыя, у якой удзельнічалі 1-шы і 2-гі Беларускія франты (кіраўнікі — Г. Жукаў і К. Ракасоўскі) і 1-шы Украінскі фронт (камандуючы І. Конеў). Пасля акружэння і штурму Берліна Сцяг Перамогі быў узняты над рэйхстагам, і апоўначы 8 мая 1945 г. кіраўнікі Германіі падпісалі акт аб безагаворачнай капітуляцыі. У **2 гадзіны 10 хвілін 9 мая 1945 г.** радыёстанцыі Савецкага Саюза абвясцілі аб сканчэнні вайны і перамозе над нацысцкай Германіяй.

Праблемы пасляваеннага ўладкавання ў Германіі былі абмеркаваны кіраўнікамі СССР, ЗША і Вялікабрытаніі на *Патсдамскай канферэнцыі* **(17 ліпеня – 2 жніўня 1945 г.)**. У Патсдаме былі зацверджаны рашэнні аб пасляваенных межах у Еўропе, пакаранні ваенных злачынцаў, рэпарацыях і інш. Савецкі Саюз пацвердзіў намер выступіць супраць Японіі і *8 жніўня 1945 г.* аб'явіў ёй вайну. *6 жніўня 1945 г.* ВПС ЗША скінулі атамную бомбу на японскі горад *Хірасіму*, а *9 жніўня* — на *Нагасакі*. У выніку гэтых бамбардзіровак загінула 114 тыс. мірных жыхароў, сотні тысяч былі паранены, а гарады ператвораны ў руіны. Разгром Японіі стаў апошнім актам Другой сусветнай вайны. **2 верасня 1945 г.** Японія капітулявала, што стала заканчэннем Другой сусветнай вайны.

Такім чынам, вызваленне Беларусі завяршылася аперацыяй «Баграціён», якая суправаджалася упартымі баямі і велізарнымі стратамі сярод байцоў Чырвонай Арміі і партызан. Разгром групы армій «Цэнтр» дазволіў у наступныя месяцы вызваліць краіны Еўропы ад нацызму. Па выніках вайны Беларусь з'яўлялася самай пацярпелай часткай Савецкага Саюза: матэрыяльныя страты рэспублікі склалі 75 млрд рублёў (у эквіваленце цэн 1941 г.). З 270 гарадоў і раённых цэнтраў БССР 209 былі цалкам знішчаны, прамысловая вытворчасць у 1945 г. склала толькі 20 % ад даваеннага ўзроўню. У сельскай гаспадарцы назіраўся гіганцкі рэгрэс: было спалена і разбурана каля 9200 вёсак, пасяўныя плошчы скараціліся на 43 %, ад даваеннай колькасці засталіся 31 % буйной рагатай жывёлы, 11 % свіней, 22 % авечак і коз. Агромністымі былі страты насельніцтва: у вайне

загінула больш за 2,2 млн (па некаторых звестках — 3 млн) жыхароў Беларусі, значная частка якіх была забіта падчас гвалту над мірным насельніцтвам у перыяд нацысцкай акупацыі.

Разгром Германіі і Японіі мае сусветнае значэнне, бо знішчыў нацызм як адзін з магчымых кірункаў далейшага развіцця чалавецтва. Вырашальным фактарам дасягнення Вялікай Перамогі было тое, што ў барацьбе супраць фашысцкага блока аб'ядналіся шматлікія краіны. Значны ўклад у перамогу зрабілі беларусы, якія змагаліся на франтах Другой сусветнай вайны з першага і да апошняга яе дня. Тысячы нашых суайчыннікаў знаходзіліся ў складзе Войска Польскага ў верасні 1939 г., а таксама ў складзе арміі У. Андэрса (сфарміраванай з дэпартаваных у Сібір), якая была перапраўлена праз Іран на захад і якая вызначылася ў Італіі. Але асноўны цяжар барацьбы вынес на сабе савецкі народ. Да 1,3 млн беларусаў змагаліся супраць нацызму ў складзе Чырвонай Арміі, 446 з іх сталі Героямі Савецкага Саюза, чацвёра — лётчык *П. Галавачоў* і камандзіры танкавых злучэнняў *І. Гусакоўскі, С. Шутаў, І. Якубоўскі* — удастоены гэтага звання двойчы. Ваеннай тэхнікай і боезапасам забяспечваў Чырвоную Армію савецкі тыл, дзе ў эвакуацыі працавалі каля 1,5 млн жыхароў БССР і дзе аднавілі сваю работу ў тым ліку і беларускія прадпрыемствы. Беларусы змагаліся ў партызанскіх атрадах у родным краі, а таксама прымалі ўдзел у руху Супраціўлення ў Францыі, Бельгіі, Італіі, іншых заходнееўрапейскіх краінах. Дзякуючы актыўнаму змаганню беларускі народ разам з іншымі народамі адстаяў сваё права на існаванне і далейшае самастойнае жыццё.

**Кантрольныя пытанні**

1. Як вы лічыце, ці была магчымасць стварыць сістэму калектыўнай бяспекі ў Еўропе і не дапусціць Другой сусветнай вайны?
2. Чаму дамоўленасці ў Мюнхене (1938 г.) называюць «мюнхенскай змовай»?
3. Ці можна назваць агрэсіўнай палітыку Вялікабрытаніі і Францыі ў 1936–1938 гг.?
4. Якія падзеі, з вашага пункту гледжання, былі лёсавызначальнымі для ўз'яднання беларускага народа ў 1939 г.?
5. Назавіце месцы баёў на тэрыторыі БССР, дзе Чырвоная Армія аказала ўпартае супраціўленне вермахту ў 1941 г.
6. Якія адміністрацыйныя адзінкі ўтварылі нацысты на акупаванай тэрыторыі Беларусі?
7. Якія метады рэалізацыі нацысцкай улады сведчаць пра яе злачынны характар?
8. Чаму мела месца масавая смяротнасць савецкіх ваеннапалонных у нямецкіх канцэнтрацыйных лагерах?
9. Ахарактарызуйце палітыку нацыстаў у адносінах да яўрэяў.

10. Раскрыйце сэнс умоўных назваў: «Віцебскія» вароты, «рэйкавая вайна», «Канцэрт», «Баграціён».

11. Назавіце этапы вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

12. Які ўклад зрабіў беларускі народ у перамогу над нацызмам?

## Практычныя заданні

**Заданне 1. Успаміны жыхара сучаснага Іеўскага р-на М. Васілючака аб падзеях 1939 г.**

…у маёй мясцовасці, у вёсках Вялікія і Малыя Князікоўцы, дзе пражывала каля тысячы жыхароў, ужо 17 верасня 1939 г. з’явіўся ўзброены атрад на чале з былым членам КПЗБ І. М. Нябежка. Яшчэ да прыходу Чырвонай Арміі яны арыштавалі і расстралялі войта Ліпнішкоўскай воласці Лідскага павета С. Кавальскага, двух ксяндзоў, якія прыехалі на германскі фронт, святара Жыжмянскай царквы У. Бука.

Беларускае насельніцтва, як правіла, сустракала Чырвоную Армію з хлебам-соллю. Што тычыць польскага насельніцтва, то большасць з іх адносілася да прыходу Чырвонай Арміі варожа. Я добра памятаю, як мы пайшлі на шасэйную дарогу Іўе – Ліда і сустракалі савецкіх салдат. І вельмі хацелася ўбачыць савецкія тачанкі, пра якія шмат было размоў як пра добрую зброю. І вось мы бачым, як едуць чырвонаармейцы на павозцы, запрэжанай двумя канямі, а на ёй стаіць кулямёт, як нам сказалі, «Максім». Шмат савецкіх салдат ішлі пешшу, а некаторыя ехалі на машынах (палутарках), мы бачылі некалькі танкаў і гармат. Радасць маіх аднавяскоўцаў ад прыходу Чырвонай Арміі была вялікая. Яны рашылі ўрачыста сустрэць нашых вызваліцеляў. Мужчыны збілі і паставілі ў канцы вёскі браму, а мы, хлапчукі і дзяўчаты, пайшлі ў лес, набралі дзеразы і прынеслі, каб упрыгожыць гэтую браму. Асабліва стараліся ўпрыгожыць Ніна Ярмош, Надзя Заруба, Малец Марыя і інш. На верху брамы паставілі мятровую звязду. Хутка ў вёску прыехалі на машыне чырвонаармейцы. Іх каля брамы ўрачыста сустрэлі аднавяскоўцы. Хтосьці і з боку чырвонаармейцаў выступіў з прамовай. Яшчэ чырвонаармейцы прасілі жанчын, каб яны напяклі ім хлеба. Яны раздалі сялянам па мяшку ржаной мукі. Усе жанчыны стараліся спячы добры хлеб, каб ён быў лепшым, чым у саветаў, — так казалі жанчыны. Мая мама, якую звалі Вольга, вельмі старалася. Замясіла цеста, дабавіла саладухі і выпекла 4–5 боханаў хлеба, і ён быў вельмі смачны, пра гэта казалі і дзякавалі чырвонаармейцы. Гэтым і я ганарыўся. *(Восень 1939 года ў гістарычным лёсе Беларусі. Мінск, 2010. С. 266–267)*

1. Якія эмоцыі адчувалі прадстаўнікі беларускага і польскага насельніцтва з нагоды прыходу Чырвонай Арміі?
2. Ці мірна адбылося ўсталяванне савецкай улады ў гэтай мясцовасці?
3. Чаму ў беларускай вёсцы чырвонаармейцаў называлі «вызваліцелямі»?
4. Растлумачце сэнс такіх слоў, як «тачанка» і «палутарка».

**Заданне 2. Спецпаведамленне наркама ўнутраных спраў БССР Л. Цанавы сакратару ЦК КП(б)Б П. Панамарэнку аб дэпартацыі насельніцтва з заходніх абласцей БССР.**

г. Мінск 14 красавіка 1940 г.

На золку 13 красавіка 1940 года ў заходніх абласцях Беларускай ССР пачалі аперацыю па высяленні членаў сямей тых, хто ўтрымліваецца ў лагерах для ваеннапалонных, у турмах, збеглых у розны час за мяжу, схаваўшыхся і знаходзячыхся ў вышуку — былых афіцэраў польскай арміі, паліцэйскіх, турэмшчыкаў, жандараў, разведчыкаў, былых памешчыкаў, фабрыкантаў, буйных чыноўнікаў былога польскага дзяржаўнага апарату і ўдзельнікаў контррэвалюцыйных паўстанцкіх і шпіёнскіх арганізацыяў.

Усяго падлягала высяленню з заходніх абласцей БССР — 9639 сямей, з агульнай колькасцю 29 699 асобаў.

Па стану на 24 гадзіны 00 хвілін 13 красавіка 1940 года па ўсім заходнім абласцям БССР рэпрэсавана 8055 сямей, з агульнай колькасцю 26 777 асобаў, з іх: пагружаны ў вагоны — 7286 сямей, у іх 24 253 асобы.

Вобыскам у высяляемых канфіскавана: два рэвальвера, адна баявая вінтоўка, тры штыка, 37 баявых патронаў і 30 рублёў золатам царскай чаканкі.

Аперацыя ў асноўным адбываецца задавальняюча. Пакідаемая рухомая маёмасць перадаецца давераным асобам высяляемых па вопісу для рэгістрацыі.

Настрой мясцовага насельніцтва ў сувязі з праводзячымся высяленнем у асноўным станоўчы […]

Народны камісар унутраных спраў Беларускай ССР Л. Цанава

*(«Ты з Заходняй, я з Усходняй нашай Беларусі…» Верасень 1939 г. – 1956 г.: дакументы і матэрыялы. Кн. 1. Верасень 1939 г. – 1941 г. Мінск, 2009. С. 152. Пераклад Н. Кучмель)*

1. Якія катэгорыі насельніцтва падлягалі высылцы з Заходняй Беларусі 13 красавіка 1940 г.?

2. Па выніках вобыскаў ці можна сцвярджаць, што высланыя людзі з'яўляліся членамі антысавецкага ўзброенага падполля?

3. Колькі часу прайшло ад пачатку аперацыі па высылцы да пагрузкі людзей у вагоны? Ці магчыма за гэты тэрмін добра падрыхтавацца да ад'езду?

4. Ці адбывалася ўзброенае супраціўленне рэпрэсіям?

**Заданне 3. Успаміны А. Ханяка аб нямецкім канцэнтрацыйным лагеры.**

Размяшчаліся ў чыгуначных бараках. Там знаходзіліся нары ў 3–4 ярусы. Ежу давалі раз у суткі. Варылі баланду са сланечнікавага жмыху. Гэта такая маса карычневага колеру. Суткі-двое яго размочвалі ў бочках, потым крыху награвалі і нам давалі. Выганяюць з баракаў, навокал немцы, сабакі. Стаяць чатыры бочкі, а мы з кацялочкам ідзём. Разлівае ваеннапалонны. Каля

кожнага з іх стаіць немец з палкай. Як толькі падыходзіш, табе налiваюць, а ён цябе то па руках б'е, то па спіне, то па твары. Гэтак кожны дзень […]

Як было, я вам раскажу. Лагер, барак, уваходзіць немец, і не ведаеш, што рабіць. Калі глядзіш на яго, ён: «Ком». Калі намагаешся сысці, ён даганяе — што ты сыходзіш? Яны садысты, здзекавацца ім было ў задавальненне. Аднаго разу мяне прымусілі стаяць каля вертыкальнай сценкі, упёршыся каленкамі ў сцяну і з паднятымі рукамі, таксама прыслоненымі да сцяны. Колькі вы ў стане трымацца? Рукі апускаюцца. Яны па іх гумавай палкай. Б'юць да таго часу, пакуль чалавек не звальваецца, потым прыстрэльваюць. Мяне яны кінулі — ім надакучыла.

Аднойчы выйшаў з барака, чую — страляніна. Незразумела, у чым справа. Некалькіх палонных прымусілі лезці на дрэва. А яны стаяць і страляюць па іх як па мішэнях. Я сам бачыў.

Жыхары прыносілі і хлеб, і бульбу. Немцы дазвалялі даваць. Хтосьці кіне кусок хлеба, людзі галодныя, кідаюцца. Кожны намагаўся схапіць гэты кавалачак. Стаяць, рагочуць, а потым страляюць у самы натоўп і пры гэтым рагочуць.

А я ж хворы. Я не разумеў, ці гэта сон, ці маё мінулае жыццё — гэта сон, а гэта сапраўднае. Суцэльная абыякавасць. Аднойчы ноччу страляніна. Раніцай усіх выгналі з баракаў. Потым даведаліся, што група палонных, трапіўшых не так даўно ў лагер, забіла часавога і збегла. Атрымалася ў іх ці не — не ведаю. Вышкі праз 50 метраў, патрулі з сабакамі ходзяць. Але страляніну мы чулі. Пакаранне ўсім. Выгналі некалькі тысяч палонных з баракаў. Сталі ў лінію, навокал сабакі, канваіры. Выцягваюць кожнага чацвёртага і расстрэльваюць. Думаю: «Хутчэй бы гэта ўсё скончылася». Я апынуўся трэцім і вельмі шкадаваў аб гэтым. У палон я трапіў 19 верасня. Станавілася ўсё больш сцюдзёна. Я ў адной гімнасцёрачцы. Баракі зачынілі на замок. Дождж, слота, а мы стаім. На шчасце, малярыя ў мяне заглухла. З сабою ў мяне быў хінін. Але ад голаду шум у вушах. Становішча вельмі цяжкае. Так нас трымалі пад небам тыдзень, потым дазволілі вярнуцца ў баракі. *(Драбкин А. На войне как на войне. М., 2012. С. 590–591. Пераклад Н. Кучмель)*

1. Ці можна сцвярджаць, што немцы забяспечвалі здавальняючыя ўмовы жыцця для савецкіх ваеннапалонных?

2. Якія меры пакарання ў лагеры практыкавалі немцы?

3. Ці ведала мірнае насельніцтва пра становішча савецкіх ваеннапалонных?

4. Ці можна казаць, што немцы выконвалі палажэнні Гаагскай канферэнцыі (1907 г.), якая забараняла выкарыстоўваць зброю супраць тых людзей, якія не ўдзельнічаюць у баявых дзеяннях?

**Заданне 4. Успаміны С. Кароткінай аб падзеях 19 ліпеня 1943 г. у вёсцы Пяршаі (Валожынскі р-н).**

Раніцай, каля 9 гадзін, да кожнай хаты падыходзяць немцы і паліцыя і ўсім загадваюць выходзіць на праверку дакументаў. З боку касцёла ўсіх гналі

ў бок гміны (управы). Усіх загналі за плот Жыдаловічаў і Сульвеся Жаборта. Усе адчувалі блізкую смерць і горка плакалі. Русовіч Яна сядзела на руках у маці і горка плакала: «Мамачка, я не хачу паміраць!» А маці цалавала яе і таксама плакала. Плакалі ўсе. Потым немцы адабралі самых старых і малых і паставілі каля рэмізіі (пажарнай). Астатніх пастроілі ў шэрэнгі і загадалі ісці ў хлеў, які стаяў каля гміны. Тут быў крыж. Не памятаю, хто першы ўпаў на калені перад крыжам, але ўпалі на калені ўсе і пачалі маліцца на ўвесь голас. Пасля кароткай малітвы ўсе ўсталі і накіраваліся ў хлеў. У адзін хлеў загналі жанчын, а ў другі — мужчын. Трое мужчын: Мікулевіч Канстанцін, Шашкевіч Вінцэнт і Більман Вацлаў пачалі ўцякаць і былі застрэлены. Потым немец падыйшоў да хлява і нагой правёў лінію, сказаў, што калі хто пераступіць гэтую лінію — будзе забіты. Усе і так ведалі, што іх чакае, бо немцы прынеслі бензін і ўстанавілі кулямёты. Глядзім, аж гоняць нашых ксяндзоў, айца Пухалу-Ахілеса і Стэмпеня Германа. Як прамень сонца з'явіўся нам. Усе пачалі прасіць ксяндзоў паблагаславіць нас на шчаслівую смерць. Айцец Пухала затрымаўся каля дзвярэй, перахрысціў і благаславіў нас, а сам пайшоў у хлеў да мужчын. Прыбыло больш эсэсаўцаў, а з імі обер-лейтэнант з Вілейкі, казалі, што гэта гебіткамісар. Пайшоў да аднаго хлява, потым да другога, узяў у руку гранату, падняў яе і на польскай мове сказаў: «Выбірайце, што хочаце, — смерць тут ці работу ў Германіі». Ніхто не хацеў паміраць, усе крычалі: «На работу! На работу!» Потым зноў загадалі ўсім выйсці з хлявоў і пачалі сартыраваць. Людзей 15–50-гадовага ўзросту адабралі, паставілі ўбок, а астатніх акружылі і пагналі па івянецкай дарозе у Баравікоўшчыну. Ксяндзы ішлі з намі. У Баравікоўшчыне нас зноў загналі ў загародку, а ксяндзоў ад нас аддзялілі. Іх пагналі на казнь… Больш мы нашых пастыраў не бачылі, нічога аб іх не ведалі. Толькі, магчыма, праз якую гадзіну прыехаў салдат і сказаў па-руску, што нашых ксяндзоў няма, хопіць ім нас падманваць. *(Ганчарык М. Мая Пяршайшчына. Мінск, 2005. С. 55–57)*

1. Ці ведалі вяскоўцы, што іх чакае, падчас правядзення экзекуцыі? Ці была ў ахвяр магчымасць уцячы?

2. Якімі эмоцыямі ахоплены жыхары Пяршаяў?

3. Чаму нямецкі обер-лейтэнант звяртаецца да сялян на польскай мове?

4. Па якой прычыне нацысты забілі двух ксяндзоў гэтай вёскі?

**Заданее 5. Успаміны І. Друяна аб медыцынскай дапамозе ў партызанскім атрадзе на беларускім Палессі.**

Парашок з бярозавых пупышак з'яўляецца ўнікальным лекавым сродкам. Пры розных захворваннях скуры тыпу гнойных, экзэмы, ранах, якія марудна загойваюцца, мы рабілі спецыяльную мазь-пасту. Прыгатаванне яе вялося без дакладнай дазіроўкі. Напрыклад, пры лячэнні экзэмы бралі чайную лыжку бярозавага парашку, змешвалі з 100–150 грамамі топленага несалёнага свінога сала, іншы раз для большай шчыльнасці дадавалі трохі парафіну. Гэтым саставам багата змазвалі пашкоджаныя экзэмай месцы.

Калі ж гатаваліся лекі для ран, што марудна гаіліся, мы да гэтай мазі дадавалі трохі ёду, некалькі крышталікаў марганцоўкі. Пазней, калі з Вялікай зямлі да нас стаў пастпаць белы і чырвоны стрэптацыд, дадавалі яго ў гэтую сумесь. Такая бярозавая мазь аказалася вельмі эфектыўнымі лекамі. Пры экзэме ўжо на другія суткі рэзка змяншаўся сверб у вобласці пашкоджання, праз два-тры дні гэтыя месцы падсыхалі. Калі мазь накладвалася на раны, яны хутка пазбаўляліся гнойных наслаенняў, і загойванне праходзіла нашмат хутчэй.

З поспехам прымяняўся бярозавы парашок і для прафілактыкі абмарожванняў. У гэтым выпадку мазь рыхтавалі на гавяджым лою.

Асаблівую папулярнасць набыла наша бяроза пры лячэнні кароcты. Захворванне гэта ў нас было даволі распаўсюджана. Яно і зразумела. У нашых умовах цяжка, звычайна проста немагчыма прытрымлівацца санітарна-гігіенічнага рэжыму. Хлопцы сыходзілі на заданне іншы раз на шмат сутак. Доўгі час яны знаходзіліся далёка ад асноўнай базы, заставаліся на начлег дзе прыйдзецца. Можа, гэта сялянская хата, дзе незнаёмыя, але добрыя людзі пакідалі хлопцаў нанач у сябе, ці то сарай, стог сена, ці проста арэха куст. І калі ў такіх выпадках улетку можна ўмыцца ў возеры ці безыменнай рачулцы, то ўзімку гэта зрабіць цяжка. Мыліся снегам. Таму кароста была больш распаўсюджана ўзімку […]

Ад каросты вылечвалі прымітыўным, але вельмі эфектыўным спосабам. З бярозавай кары здабывалі дзёгаць, да яго дабаўлялі тол, які замяняў нам серу, і здор. Кампаненты старанна перамешвалі і наносілі на пашкоджаныя вобласці цела. Такой маззю націралі пашкоджаныя месцы тройчы ў дзень на працягу некалькіх дзён, потым хворага накіроўвалі ў баню. Такая працэдура паўтаралася два-тры разы, да канчатковай папраўкі хворага.

Увогуле бяроза была ў нас унікальнай крыніцай для атрымання самых розных лекаў. Акрамя пупышак і кары выкарыстоўвалі саму драўніну. Кавалкі бярозавага вугалю прымянялі як таблеткі пры метэарызме, атручваннях.

У партызан былі распаўсюджаны страўнікавыя захворванні. Гэта цалкам зразумела. Падчас выканання баявых задач, асабліва ў перыяд блакад, елі мы нерэгулярна. Па некалькі сутак не харчаваліся цёплай ежай, часам заставаліся літаральна на падножным харчаванні. Елі тое, што было ў лесе. Гэта былі розныя грыбы, ягады, ядомыя травы. Наступствамі такога харчавання і былі нярэдкія гастрыты, язвы страўніка, кішачныя хваробы. *(Друян И. Клятву сдержали. Минск, 1975. С. 137–138. Пераклад Н. Кучмель)*

1. Якія віды захворванняў былі распаўсюджаны сярод партызан?

2. Чым было выклікана распаўсюджванне гэтых захворванняў?

3. Якое дрэва найчасцей выкарыстоўвалі партызанскія медыкі і якім чынам рыхтавалі з яго неабходныя лекі?

## Тэсты для самакантролю

**1. На Мюнхенскай канферэнцыі *не прысутнічаў* кіраўнік:**

а) Германіі;
б) Італіі;
в) Францыі;
г) СССР.

**2. Пакт Молатава–Рыбентропа быў заключаны:**

а) 15 сакавіка 1939 г.; в) 23 жніўня 1939 г.;
б) 23 сакавіка 1939 г.; г) 1 верасня 1939 г.

**3. Вызваленчы паход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь пачаўся:**

а) 1 верасня 1939 г.; в) 28 верасня 1939 г.;
б) 17 верасня 1939 г.; г) 30 лістапада 1939 г.

**4. У якім горадзе адбыўся Беларускі Народны Сход:**

а) Брэст; в) Гродна;
б) Баранавічы; г) Беласток?

**5. Заходні фронт улетку 1941 г. узначальваў:**

а) К. Ракасоўскі; в) А. Васілеўскі;
б) Г. Жукаў; г) Дз. Паўлаў.

**6. З 3 па 26 ліпеня 1941 г. працягвалася абарона:**

а) Мінска; в) Магілёва;
б) Віцебска; г) Гомеля.

**7. У якім горадзе было самае вялікае па колькасці ахвяр гета:**

а) Мінск; в) Полацк;
б) Бабруйск; г) Гомель?

**8. Беларускі штаб партызанскага руху ўзначальваў:**

а) П. Панамарэнка; в) П. Калінін;
б) П. Машэраў; г) К. Заслонаў.

**9. Вызначце дакладную храналагічную паслядоўнасць:**

а) Лаўскі бой; в) трагедыя Хатыні;
б) знішчэнне Кубэ; г) дыверсія Ф. Крыловіча ў Асіповічах.

**10. Першы вызвалены абласны цэнтр БССР:**

а) Віцебск; в) Гомель;
б) Магілёў; г) Мазыр.

**11. На партызанскім парадзе 16 ліпеня 1944 г. ў Мінску прысутнічаў:**

а) І. Баграмян; в) Г. Захараў;
б) К. Ракасоўскі; г) І. Чарняхоўскі.

**Адказы**: 1 — г; 2 — в; 3 — б; 4 — г; 5 — г; 6 — в; 7 — а; 8 — в; 9 — а, в, г, б; 10 — в; 11 — г.

## ЛІТАРАТУРА

### *Асноўная*

1. *Вялікая* Айчынная вайна савецкага народа (у кантэксце Другой сусветнай вайны) /А. А. Каваленя [ і інш.] ; пад рэд. А. А. Кавалені. Мінск : БДУ, 2004. 278 с.

2. *Гісторыя* Беларусі : курс лекцый : у 2 ч. / Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт ім. Я. Купалы, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Мінск : РІВШ, 2000–2002. Ч. 2. : XIX–XX стагоддзі / П. І. Брыгадзін [і інш.]. 2002. 655 с.

3. *Гісторыя* Беларусі (у кантэксце сусветных цывілізацый) : вучэб. дапам. / В. І. Галубовіч [і інш.] ; пад рэд. В. І. Галубовіча, Ю. М. Бохана. Мінск : Экаперспектыва, 2005. 589 с.

4. *Белуга, З. И.* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии 1941–1944 гг. / З. Белуга. Минск : Беларусь, 1965. 462 с.

***Дадатковая***

5. *Адамушка, У. І.* Палітычныя рэпрэсіі 20–50-х гадоў на Беларусі / У. І. Адамушка. Мінск : Беларусь, 1994. 158 с.

6. *Белорусские* остарбайтеры / Г. Кнатько [и др.]. Минск : НАРБ, 2001. 335 с.

7. *Всенародная* борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны / гл. редкол. А. Т. Кузьмин (председатель). Минск : Беларусь, 1983–1985. Т. 1. [Начало войны – осень 1942 г.] / Л. Аржаева [и др.]. 590 с.

4. *Долготович, Б. Д.* Военачальники — сыны Беларуси на фронтах Великой Отечественной войны / Б. Д. Долготович. Минск : БНТУ, 2003. 145 с.

5. *Доморад, К. И.* Партийное подполье и партизанское движение в Минской области 1941–1944 гг. / К. И. Доморад. Минск : Навука і тэхніка, 1992. 412 с.

6. *Залескі, А. І.* Быт беларускіх сялян у партызанскім краі / А. І. Залескі. Мінск : Выдавецтва АН БССР, 1960. 210 с.

7. *Коваленя, А. А.* Беларусь, 1939–1945 гг. : Война и политика / А. А. Коваленя. Минск : Веды, 2001. 204 с.

8. *К'яры, Б.* Штодзённасць за лініяй фронту. Акупацыя, калабарацыя і супраціў у Беларусі (1941–1944 г.) / Б. К'яры. Мінск : Беларускі гістарычны агляд, 2008. 389 с.

9. *Літвін, А. М.* Акупацыя Беларусі (1941–1944): Пытанні супраціву і калабарацыі / А. М. Літвін. Мінск : Беларускі кнігазбор, 2000. 287 с.

10. *Раманоўскі, В. П.* Саўдзельнікі ў злачынствах / В. П. Раманоўскі. Мінск : Беларусь, 1964. 288 с.

11. *Факторович, А. А.* Крах аграрной политики немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии / А. А. Факторович. Минск : Наука и техника, 1979. 148 с.

12. *Хацкевич, А. Ф.* Становление партизанского движения в Белоруссии и дружба народов СССР / А. Ф. Хацкевич, Р. Р. Крючок. Минск : Наука и техника, 1980. 317 с.

## ТЭМА 7. БССР: ДАСЯГНЕННІ І ПРАБЛЕМЫ СТВАРАЛЬНАЙ ПРАЦЫ НАРОДА (1945–1991 ГГ.)

7.1. Процістаянне дзвюх сацыяльна-палітычных сістэм. «Халодная вайна».

7.2. Савецкая сістэма ўлады і народная гаспадарка БССР у пасляваеннае дзесяцігоддзе.

7.3. Грамадска-палітычнае жыццё БССР у другой палове 1950-х – першай палове 1980-х гг.

7.4. Эканамічнае развіццё БССР у другой палове 1950-х – першай палове 1980-х гг.

7.5. Спробы рэфармавання савецкай палітычнай сістэмы ў гады перабудовы (1985–1991 гг.).

**Агульны час заняткаў**: 2 гадзіны.

**Мэта семінара:** ахарактарызаваць палітычнае жыццё і сацыяльна-эканамічнае развіццё БССР у перыяд з 1945 па 1991 г.

**Задачы:**

– набыць веды аб міжнародным становішчы ў перыяд «халоднай вайны»;

– вывучыць асаблівасці развіцця БССР у пасляваеннае дзесяцігоддзе;

– замацаваць веды аб грамадска-палітычным і эканамічным становішчы ў БССР у другой палове 1950-х – першай палове 1980-х гг.;

– вывучыць радыкальныя змяненні і рэформы ў перыяд перабудовы.

**Патрабаванні да зыходнага ўзроўню ведаў.** Для засваення тэмы неабходна ведаць асаблівасці камуністычнага рэжыму пры І. Сталіне: ідэалагічная цэнзура, планавая эканоміка, прымусовая калектывізацыя, масавыя палітычныя рэпрэсіі. Неабходна паўтарыць наступствы Вялікай Айчыннай вайны для Беларусі.

**Паняцці і тэрміны, якія неабходна засвоіць:** «халодная вайна», «разрадка», «аксамітныя рэвалюцыі», рэабілітацыя, «адліга», дысідэнты, «эпоха застою», гаспадарчы разлік, экстэнсіўнае развіццё, «перабудова», галоснасць.

### 7.1. Процістаянне дзвюх сацыяльна-палітычных сістэм. «Халодная вайна»

Пасля разгрому Германіі і Японіі ў 1945 г. у свеце засталося дзве дзяржавы, якія імкнуліся распаўсюдзіць свой уплыў на як мага большую колькасць краін і дасягнуць сусветнага панавання. Першая — ЗША, якія валодалі ядзернай зброяй і мелі эканамічную моц (60 % сусветнай вытворчасці). Амерыканскі прэзідэнт *Г. Трумэн* у снежні 1945 г. заявіў: «Жадаем ці не, а перамога ўсклала на амерыканскі народ кіраўніцтва светам». Другой дзяржавай з'яўляўся СССР, які пасля Другой сусветнай

вайны валодаў значнай вайсковай магутнасцю: пад яго кантролем знаходзілася Усходняя Еўропа, і савецкія танкавыя дывізіі ў выпадку наступу за адзін дзень маглі дайсці да Ла-Манша. У краінах, дзе знаходзілася Савецкая Армія, у другой палове 1940-х гг. былі ўсталяваны палітычныя рэжымы, навязаныя Масквой, у выніку чаго сфарміраваўся «сацыялістычны лагер» (у першую чаргу ГДР, Польшча, Чэхаславакія (ЧССР), Венгрыя, Румынія, Балгарыя). Да таго ж у 1949 г. у СССР таксама з'явілася ядзерная зброя, у выніку чаго быў дасягнуты парытэт са Злучанымі Штатамі.

Канфрантацыйныя адносіны паміж ЗША і СССР пачалі ўсталёўвацца ўжо ў 1945 г., калі І. Сталін распачаў «саветызацыю» Усходняй Еўропы. Узаемаадносіны паміж былымі саюзнікамі па антыгітлераўскай кааліцыі станавіліся ўсё больш напружанымі. *5 сакавіка 1946 г.* былы прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі *У. Чэрчыль* у сваёй прамове ў *г. Фултан* (ЗША) заявіў, што СССР уладкаваў жалезную заслону, якая адасобіла ад астатняга свету ўсходнееўрапейскія краіны. Брытанскі палітык сцвярджаў, што пагроза камунізму становіцца рэальнасцю і для далёкіх ад СССР краін, бо паўсюдна створаны камуністычныя «пятыя калоны», якія выконваюць дырэктыўныя распараджэнні Масквы. У. Чэрчыль абагульніў тое, што ўжо існавала на міжнароднай арэне, і пасля фултанскай прамовы супрацьлеглыя бакі сталі пераследаваць свае інтарэсы больш адкрыта.

Шматлікія даследчыкі называюць фултанскую прамову пачаткам ***«халоднай вайны»*** — становішча, калі былі вядомы два галоўныя сапернікі (ЗША і СССР), паміж імі існавала варожая напружанасць ва ўзаемаадносінах, але баявых дзеянняў не адбывалася. Неабходна дадаць і тое, што саперніцтва ЗША і СССР адбывалася не толькі ў ваеннай, але і ў эканамічнай і ідэалагічнай сферах: кожная з краін адстойвала тэзіс, што яе сістэма (адпаведна — капіталістычная і сацыялістычная) лепшая ў свеце. Гэтае супрацьстаянне цягнулася чатыры з паловай дзесяцігоддзі і скончылася толькі з распадам СССР у 1991 г.

Падчас «халоднай вайны» непасрэднага ваеннага сутыкнення паміж ЗША і СССР не адбылося, але іх саперніцтва прыводзіла да канфліктаў у розных рэгіёнах планеты, калі супердзяржавы падтрымлівалі «сваіх» палітыкаў у той ці іншай краіне. Напрыклад, у другой палове 1940-х гг. у грамадзянскіх войнах у Грэцыі (1946–1949 гг.) і Кітаі (1946–1950 гг.) СССР падтрымліваў зброяй камуністаў, а ЗША — антыкамуністычныя палітычныя партыі і фарміраванні. У выніку ў Грэцыі перамогу атрымалі стаўленікі ЗША, але ў Кітаі да ўлады прыйшлі камуністы. Каб не дапусціць кітайскага сцэнарыя ў Карэі, ЗША непасрэдна прынялі ўдзел у грамадзянскай вайне ў гэтай азіяцкай краіне (1950–1953 гг.). Карэйскіх камуністаў падтрымлівала кітайская армія, а таксама СССР, які накіраваў на дапамогу ім ваенных спецыялістаў, перш за ўсё ваенных лётчыкаў. Цяжкая грамадзянская вайна скончылася падзелам Карэі на дзве асобныя

дзяржавы — Паўночная Карэя засталася пад уладай камуністаў, Паўднёвая апынулася ў амерыканскай сферы ўплыву.

У Еўропе супрацьстаянне дзвюх сацыяльна-палітычных сістэм прывяло да ўзнікнення ваенна-палітычных блокаў. *У 1949 г.,* каб процістаяць савецкаму ўплыву, у *Паўночна-Атлантычны Альянс (NATO)* аб'ядналіся 12 краін — ЗША, Канада, Вялікабрытанія, Францыя, Італія, Бельгія, Нідэрланды, Люксембург, Данія, Нарвегія, Ісландыя і Партугалія. Адной з галоўных мэт гэтай арганізацыі абвяшчалася «забеспячэнне стрымлівання любой формы агрэсіі ў адносінах да тэрыторыі дзяржавы-члена НАТА ці абарона ад яе». У адказ на фарміраванне НАТА Савецкі Саюз *у 1955 г.* утварыў пад сваёй эгідай *Арганізацыю Варшаўскага дагавора (АВД)*, да якой далучыліся ГДР, Польшча, ЧССР, Венгрыя, Румынія, Албанія, Балгарыя. Тым самым была замацавана ідэалагічная біпалярнасць Еўропы. СССР з'яўляўся апекуном камуністычных рэжымаў ва Усходняй Еўропе і не спыняўся перад уводам сваіх войскаў на іх тэрыторыю ў выпадку непажаданых палітычных пераўтварэнняў (напрыклад, у Венгрыю (1956) ці ў ЧССР (1968)).

Ад самага пачатку «халоднай вайны» разгарнуўся працэс мілітарызацыі абодвух бакоў. Гонка ўзбраенняў прыводзіла да таго, што ЗША і СССР выдзялялі вялікія сродкі на стварэнне моцных ліній супрацьпаветранай абароны вакол сваіх тэрыторый, а таксама значную долю бюджэтаў выкарыстоўвалі на мадэрнізацыю і падтрымку ўласных армій. Напрыклад, у ЗША меркавалі, што іх ваенны патэнцыял павінен значна пераўзыходзіць савецкі, каб краіна адчувала сябе ў бяспецы. Але ў канцы 1950-х гг. на Захадзе зразумелі, што ў выпадку ядзернай вайны Савецкі Саюз здолее зрабіць моцны ўдар у адказ па амерыканскіх цэнтрах. Таму эксперты прыйшлі да высновы, што татальная ядзерная вайна паміж ЗША і СССР немагчымая, бо будзе зруйнавана ўся цывілізаваная прастора.

Найбольш небяспечнымі міжнароднымі крызісамі, калі свет знаходзіўся вельмі блізка да ядзернай вайны, былі *Берлінскі* (*1961*) і *Карыбскі* (*1962*). Першы адбыўся з прычыны таго, што СССР настойваў, каб заходняя частка Берліна (якая пасля вайны кантралявалася ЗША, Вялікабрытаніяй і Францыяй) была перададзена пад кантроль ГДР. Калі на гэтае патрабаванне быў атрыманы адмоўны адказ, 12 жніўня 1961 г. улады ГДР забаранілі вольнае перамяшчэнне з усходняй часткі Берліна ў заходнюю. У хуткім часе была пабудавана бетонная сцяна з кантрольна-прапускнымі пунктамі, што парушала пасляваенныя дамоўленасці, якія забяспечвалі ў Берліне вольнае перамяшчэнне насельніцтва. Жыхары заходняй часткі Берліна апынуліся пад пагрозай, і ЗША маглі пайсці на выкарыстанне ядзернай зброі ў выпадку блакады горада з боку АВД. Тады дыпламатычныя намаганні з абодвух бакоў далі плён, і ядзернай вайны ўдалося пазбегнуць.

Самым вострым канфліктам перыяду «халоднай вайны» з'яўляецца Карыбскі крызіс 1962 г. Ён звязаны з падзеямі на Кубе, дзе ў 1959 г. прыйшлі да ўлады рэвалюцыянеры на чале з *Ф. Кастра*, які абвясціў аб намеры будаваць сацыялізм. Каб гарантаваць незалежнасць «Вострава Свабоды», кіраўніцтва СССР на чале з *М. Хрушчовым* у 1962 г. вырашыла размясціць на Кубе 40 балістычных ракет з ядзернымі боегалоўкамі. Гэта значыць, каля самага ўзбярэжжа ЗША з'явіліся б ракеты, якія былі ў стане даляцець, напрыклад, да Вашынгтона за 20 хвілін. Тым самым магчымасці савецкіх ракет дасягнуць тэрыторыі ЗША павялічваліся ў 2 разы. Але таемна ўсталяваць ракеты на Кубе не ўдалося, бо амерыканская разведка ўбачыла іх разгортванне. 24 кастрычніка 1962 г. Злучаныя Штаты ўвялі ваенна-марскую блакаду (каранцін) Кубы, што перашкаджала дзеянням савецкага ваенна-марскога флоту. М. Хрушчоў зразумеў: немагчыма мець на Кубе савецкія ракеты і не ваяваць са Злучанымі Штатамі. Таму савецкае кіраўніцтва прапанавала амерыканцам дэманціраваць ракеты ў абмен на гарантыі ЗША пакінуць свае намаганні звергнуць уладу Ф. Кастра. Яшчэ адным патрабаваннем быў вывад амерыканскіх ракетных баз з Турцыі. Амерыканцы згадзіліся, і пасля дэмантажу савецкіх ракет на Кубе 20 лістапада 1962 г. блакада вострава была знята. А яшчэ праз некалькі месяцаў амерыканскія ракеты былі выведзены з Турцыі.

Падчас Карыбскага крызісу чалавецтва спынілася ў некалькіх кроках ад глабальнай катастрофы. Палітыкам стала зразумела, наколькі небяспечныя канфлікты паміж ядзернымі дзяржавамі. З сярэдзіны 1960-х гг. і да 1979 г. прыкладаліся намаганні, скіраваныя на аслабленне канфрантацыі паміж заходнім (капіталістычным) і ўсходнім (сацыялістычным) блокамі. Гэты перыяд у міжнародных адносінах атрымаў назву ***«разрадка»*** *(«дэтант»)*. У Еўропе актыўным прыхільнікам палітыкі разрадкі міжнародных адносін з'яўляўся канцлер ФРГ В. Брант, які распачаў новую «ўсходнюю палітыку». 12 жніўня 1970 г. у Маскве ім быў падпісаны дагавор аб прызнанні паваенных межаў у Еўропе і аб адмове ад тэрытарыяльных прэтэнзій да суседзяў з боку ФРГ. Пазней аналагічныя дагаворы былі ім падпісаны з кіраўніцтвам Польшчы, ЧССР і ГДР. Паляпшэнне адносін назіралася таксама паміж супердзяржавамі, праявай чаго стаў першы афіцыйны візіт прэзідэнта ЗША ў Савецкі Саюз (1972). У ходзе гэтага візіту прэзідэнт Р. Ніксан і генеральны сакратар Л. Брэжнеў падпісалі дагаворы аб абмежаванні стратэгічных наступальных узбраенняў, а таксама дамовіліся аб супрацоўніцтве ў космасе. Вяршыняй палітыкі разрадкі можна лічыць падпісанне 35 краінамі ў *Хельсінкі (1975) акта аб бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе*.

Але палітыка «дэтанту» не стала доўгатэрміновай. ЗША праводзілі мадэрнізацыю тактычнага ядзернага ўзбраення, размешчанага ў Еўропе, і распрацоўвалі новае пакаленне дакладных міжкантынентальных ракет. Савецкі Саюз разгортваў на еўрапейскай частцы сваёй тэрыторыі ракеты

сярэдняй далекасці, якія былі здольны знішчыць усю інфраструктуру НАТА. У адказ на гэта ў снежні 1979 г. НАТА прыняло рашэнне аб размяшчэнні ў Заходняй Еўропе аналагічных савецкім амерыканскіх ракет. Снежань 1979 г. можна лічыць канцом разрадкі, бо ў гэтым месяцы СССР увёў свае войскі ў Афганістан, што прывяло да новага вітка супрацьстаяння паміж Захадам і Усходам.

Невядома, колькі б працягвалася «халодная вайна», але Савецкі Саюз не вытрымаў эканамічнага спаборніцтва са Злучанымі Штатамі. Грашовыя паступленні ў бюджэт СССР скарачаліся, што не давала магчымасці ўтрымліваць вялізную армію і фінансава дапамагаць сваім саюзнікам. У другой палове 1980-х гг. кіраўніцтва Савецкага Саюза вымушана было браць на Захадзе займы, а гэта абмяжоўвала дзеянні СССР у знешнепалітычнай сферы. Прыкладам сталі падзеі ва Усходняй Еўропе, дзе адбыліся ***«аксамітныя рэвалюцыі»*** *(1989)* — некрывавая змена камуністычнай улады ў Польшчы, ЧССР, ГДР, Венгрыі. (Камуністычная дыктатура М. Чаўшэску ў Румыніі была зрынута шляхам узброенага паўстання.) Савецкае кіраўніцтва не перашкаджала працэсам дэмакратызацыі ва Усходняй Еўропе, у адрозненне ад палітыкі папярэдняга перыяду (падзеі ў Венгрыі ў 1956 г., «пражская вясна» 1968 г.). Пасля падзей 1989 г. «сацыялістычны лагер» спыніў сваё існаванне, і 1 ліпеня 1991 г. АВД была распушчана. У тым жа годзе распаўся і Савецкі Саюз, што канчаткова завяршыла перыяд процістаяння дзвюх сацыяльна-палітычных сістэм.

Такім чынам, супрацьстаянне СССР і камуністычнага блока са Злучанымі Штатамі Амерыкі і іх саюзнікамі мела працяглы глабальны характар. Напружаны стан міжнародных адносін прыводзіў да выбухаў лакальных войнаў і часам мог прывесці да ядзернага канфлікту. Ідэалагічны фактар гэтага супрацьстаяння садзейнічаў непрымірымасці барацьбы паміж варагуючымі бакамі, якая скончылася толькі пасля распаду СССР.

## 7.2. Савецкая сістэма ўлады і народная гаспадарка БССР у пасляваеннае дзесяцігоддзе

Развіццё БССР ва ўмовах пасляваеннага сталінскага рэжыму адзначана аднаўленнем савецкай грамадскай мадэлі, якая сфарміравалася ў 1930-я гг., і пераадоленнем ваеннага разбурэння эканомікі. Палітычны рэжым меў *таталітарны* характар, калі амаль усе сферы жыцця (палітыка, эканоміка, культура) знаходзіліся пад кантролем камуністычнай партыі.

На грамадска-палітычнае жыццё другой паловы 1940-х гг. значны адбітак наклала Вялікая Айчынная вайна. Пасля цяжкай і гераічнай барацьбы супраць смяротнага ворага народ-параможца ў большай ступені стаў адчуваць сваю годнасць. Салдаты Савецкай Арміі вярталіся з Еўропы, дзе яны ўбачылі краіны, якія адносіліся да капіталістычнага свету. Хаця Вялікая Перамога над нацызмам давала адчуванне, што савецкая сістэма

вышэйшая за «буржуазную», тым не менш пасля дэмабілізацыі былыя вайскоўцы сталі больш крытычнымі ў выказваннях і ацэнках камуністычнага ладу. Гэта хутка выклікала рэпрэсіі з боку ўлады. У Беларусі становішча значнай часткі людзей ускладнялася і тым, што камуністычныя кіраўнікі з недаверам адносіліся да былых палонных чырвонаармейцаў, падлеткаў, якія наведвалі школы падчас акупацыі. Сярод падазроных апынуліся і тыя, хто быў прымусова вывезены нацыстамі ў Германію, а пасля вайны вяртаўся на радзіму. Былыя остарбайтары праходзілі праверку органамі НКУС у праверачна-фільтрацыйных пунктах (ПФП), дзе людзі жылі ў цяжкіх умовах, а тэрмін іх утрымання мог расцягнуцца на месяцы. Калі былыя остарбайтэры пакідалі ПФП, яны былі абавязаны зарэгістравацца на месцы пастаяннага пражывання на працягу 24 гадзін з моманта прыбыцця. Савецкія спецслужбы пільна сачылі за імі і прымалі рэпрэсіўныя меры, калі хто з іх выказваўся аб высокім узроўні жыцця ў Германіі ці іншых еўрапейскіх краінах. У некаторых выпадках прадстаўнікі ўлады перашкаджалі былым остарбайтэрам займаць тыя ці іншыя пасады, што дадаткова крыўдзіла пацярпеўшых людзей.

Спадзяванні на змены палітычнага ладу аказаліся марнымі: сталінскую сістэму не толькі не сталі ўдасканальваць — яе сталі дагматызаваць. У *1946–1948 гг.* у СССР разгарнулася *«барацьба з нізкапаклонствам і рабалепствам перад Захадам»*: на прадпрыемствах арганізоўваліся «суды гонару», на якіх «працоўныя калектывы» выносілі грамадскія нараканні тым, каго лічылі не сапраўднымі савецкімі патрыётамі. Хутка ў грамадства вярнуўся страх, бо пераследаванні не спыніліся: як і раней, за іранічны палітычны анекдот ці крытыку ўлады чалавека маглі судзіць як за «антысавецкую агітацыю і прапаганду», што прадугледжвала суровыя меры пакарання (ад 6 месяцаў зняволення да расстрэлу). Дзеля самазахавання І. Сталін і яго паплечнікі ішлі на ўсе магчымыя крайнасці, пры гэтым нават сусветная вядомасць ахвяры не магла яе выратаваць. Напрыклад, па асабістым загадзе І. Сталіна ў ноч на *13 студзеня 1948 г.* у Мінску на дачы кіраўніка МДБ (тагачасная назва КДБ) Л. Цанавы быў забіты сусветна вядомы яўрэйскі культурны дзеяч *С. Міхоэлс*. У *1953 г.* з’явілася *«справа ўрачоў»*: арыштаваных медыкаў яўрэйскай нацыянальнасці абвінавачвалі ў прыналежнасці да амерыканскіх спецслужбаў. Сцвярджалася, што арыштаваныя праводзілі «злачыннае лячэнне» дзяржаўных дзеячаў: «Забойцы ў белых халатах імкнуліся скараціць жыццё кіраўнікоў партыі і ўрада». Па Савецкім Саюзе, у тым ліку і ў Беларусі, пракацілася хваля антысеміцкіх мітынгаў, на якіх гучалі заклікі да кантролю над усім яўрэйскім насельніцтвам СССР. Толькі смерць І. Сталіна спыніла гэты грамадскі псіхоз.

У пасляваенны перыяд ахвярамі сталінскага тэрору ў Беларусі стала каля 50 тыс. чалавек. Не абмінулі пераследаванні і прадстаўнікоў

палітычнай і культурнай эліты БССР. У 1947 г. з пасады прэзідэнта АН БССР быў зняты *А. Жэбрак* за тое, што на старонках амерыканскага часопіса «Навука» змясціў крытычны артыкул у дачыненні да папулярнай у СССР тэорыі Т. Лысенкі. У 1952 г. за «нацыяналістычны ўхіл» быў асуджаны на 25 гадоў зняволення міністр асветы БССР *П. Саевіч*. Пасля вайны ў ГУЛАГ паўторна трапілі беларускія паэты і пісьменнікі — *С. Грахоўскі*, А. Александровіч і інш.

Савецкая палітычная практыка ў некаторых месцах БССР выклікала ўзброенае супраціўленне: у 1945–1947 гг. у барацьбе з антысавецкім падполлем загінула 924 савецкіх супрацоўнікі; у той час органы бяспекі БССР ліквідавалі 814 падпольных арганізацый і ўзброеных атрадаў, у тым ліку 667 польскіх, 97 беларускіх, 23 украінскіх і 27 іншых. Складанае становішча назіралася ў Заходняй Беларусі, дзе пасля вайны дзейнічалі фарміраванні былой Арміі Краёвай. Толькі актыўная работа савецкіх спецорганаў і масавы выезд польскага насельніцтва з Заходняй Беларусі ў Польшчу (у 1945–1947 гг. выехала 274 163 чал.) паскорылі тут замацаванне савецкай улады. Але ўзброеныя акцыі працягваліся, і апошнія з «лясных братоў» былі ліквідаваны толькі ў пачатку 1954 г.

Пра нелегальныя беларускія арганізацыі, якія дзейнічалі ў пасляваенны перыяд, вядома няшмат: называюцца *«Чайка»* ў Слоніме, *«Саюз вызвалення Беларусі»* ў Баранавіцкай вобласці, мядзельска-смаргонскае вучнёўскае падполле, глыбоцка-пастаўскі *«Саюз беларускіх патрыётаў»*. Апошняя арганізацыя, мабыць, была найбольш шматлікай і складалася са школьнікаў і навучэнцаў Глыбоцкага педвучылішча. «Саюз беларускіх патрыётаў» прапагандаваў антысталінскія ідэі: навучанне павінна праводзіцца па-беларуску, Беларусь павінна быць вольнай. Па справе гэтай арганізацыі праходзіла 44 чалавекі, большасць з якіх у 1947 г. атрымалі прысуды па 10 і 25 гадоў пазбаўлення волі. Не менш жорстка абышліся з юнакамі і дзяўчатамі мядзельска-смаргонскага падполля, якія не прымалі сутнасць камуністычнага рэжыму і раскідвалі па Смаргоні ўлёткі з заклікам «Смерць Сталіну!» Пасля арыштаў і суда летам 1950 г. большасць з удзельнікаў гэтай арганізацыі атрымалі 25 гадоў зняволення, а яе кіраўнік — *Р. Лапіцкі* — быў расстраляны.

Правы і свабоды грамадзяніна, дэклараваныя ў Канстытуцыі БССР, пры Сталіне ператварыліся ў простую фікцыю. Гэта рабіла немагчымым існаванне сапраўднай дэмакратыі ў БССР, як і ў цэлым у Савецкім Саюзе. Перыядычна праводзіліся выбары ў Вярхоўны Савет БССР і мясцовыя Саветы (органы ўлады ў раёнах, абласцях і гарадах), але ў выбарчых бюлетэнях заўсёды была толькі адна кандыдатура ад «сталінскага блока камуністаў і беспартыйных», якую перад гэтым вылучала камуністычнае кіраўніцтва. Такім чынам, выбары былі *безальтэрнатыўнымі*, а Саветы выступалі выканаўцамі волі камуністычнай партыі, у руках якой і знаходзілася рэальная ўлада.

Кіраўнікамі Кампартыі Беларусі (КПБ) у пасляваеннае дзесяцігоддзе былі стаўленікі І. Сталіна — *П. Панамарэнка* (да 1947 г.), *М. Гусараў* (1947–1950) і *М. Патолічаў* (1950–1956), якія не былі беларусамі. Усе значныя дзяржаўныя рашэнні прымаліся толькі вузкім колам асоб, без народнага волевыяўлення. Ілюстрацыяй гэтага стала вырашэнне пытання пра пасляваенныя межы БССР. У 1944 г. у Маскве быў складзены праект перадачы ўтворанай Полацкай вобласці ў склад РСФСР. Толькі дзякуючы намаганням і ўгаворванням П. Панамарэнкі кіраўніцтва БССР здолела адстаяць усходнюю мяжу рэспублікі. Але заходняя мяжа Савецкай Беларусі была зменена: І. Сталін пайшоў насустрач польскім камуністам і перадаў Беласточчыну ў склад Польшчы. У выніку падпісанага 25 жніўня 1945 г. дагавора паміж СССР і Польшчай БССР страціла эканамічна развітую заходнюю частку сваёй тэрыторыі.

Першаснай задачай для савецкага кіраўніцтва пасля вайны было аднаўленне цалкам разбуранай народнай гаспадаркі БССР. У верасні 1946 г. быў прыняты эканамічны план на 1946–1950 гг., які прадугледжваў развіццё новых галін прамысловасці і ператварэнне БССР у індустрыяльную рэспубліку на моцным тэхнічным падмурку. Беларуская эканоміка павінна была ў 1950 г. перавысіць даваенныя паказчыкі на 16 %. Вырашэнню гэтай задачы перашкаджалі павольны тэмп аднаўлення выпуску электраэнергіі (у 1945 г. яе было выпрацавана 16 % ад аб'ёму 1940 г.), недахоп працоўных рук і нізкая прафесійная кваліфікацыя рабочых.

Асаблівую ўвагу рэспубліканскія органы ўлады надавалі аднаўленню машынабудавання і металаапрацоўчай прамысловасці: у 1947 г. першую прадукцыю выпусцілі *МАЗ* і *матавелазавод*, у 1950 г. пачаў выпуск серыйнай прадукцыі *МТЗ*. Вытворчасць станкоў была наладжана ў Мінску, Віцебску і Гомелі. Абсталяванне для беларускіх заводаў і фабрык паступала з іншых саюзных рэспублік, а таксама ў выглядзе рэпарацый з Германіі. Вырашалася і пытанне забеспячэння вытворчасці кваліфікаванымі кадрамі: за 1946–1950 гг. праз навучанне ў сістэме дзяржаўных працоўных рэзерваў прайшло 80 тыс. чалавек, якія атрымалі неабходныя веды. У 1950 г. прамысловасць Беларусі перавысіла даваенны ўзровень на 15 %. У наступнай пяцігодцы (1951–1955) аб'ём валавой прамысловай прадукцыі павялічыўся ў 2 разы. І ў гэты перыяд прыярытэт надаваўся развіццю машынабудавання і металаапрацоўкі, сярэднегадавы прырост выпуску прадукцыі якіх склаў 28 %.

Найвялікшай праблемай эканамічнага развіцця паваеннага дзесяцігоддзя было аднаўленне сельскай гаспадаркі. У 1945 г. пасяўныя плошчы ў БССР складалі толькі 73,8 % ад даваеннага ўзроўню, пагалоўе грамадскага прадукцыйнага статка — 30 %. У калгасах рэспублікі не ставала цяглавой сілы (42 % калгасаў мелі ад 2 да 10 коней), не хапала мужчын, якія загінулі падчас вайны ці знаходзіліся ў войску. Жанчыны,

старыя, падлеткі складалі 77 % усяго працаздольнага насельніцтва вёскі. Становішча паступова паляпшалася дзякуючы пастаўкам тэхнікі і жывёлы з іншых рэгіёнаў СССР, і даваенны ўзровень развіцця сельскай гаспадаркі быў дасягнуты ў 1950 г. Але потым назіраўся спад, і да 1953 г. усе паказчыкі сельскагаспадарчай вытворчасці былі ніжэйшыя ў параўнанні нават з першым паваенным 1946 г. Гэта было наступствам па сутнасці антысялянскай дзяржаўнай палітыкі: заставаліся высокімі абавязковыя пастаўкі сельскагаспадарчай прадукцыі пры яе аплаце па нізкіх цэнах, якія былі часам у 5–10 разоў ніжэй за сабекошт.

Асаблівасцю развіцця аграрнага сектара БССР было дамінаванне ў Заходняй Беларусі індывідуальных гаспадарак, бо да пачатку Вялікай Айчыннай вайны тут амаль не была праведзена калектывізацыя. Да 1949 г. у гэтым рэгіёне калектывізацыя праводзілася ў асноўным пры выкарыстанні прапаганды і пераконвання. Але вясной 1949 г. сталі дамінаваць прымусовыя мерапрыемствы, якія суправаджаліся рэпрэсіямі. Толькі ў першай палове 1949 г. з Заходняй Беларусі было выселена каля 3100 «кулацкіх» сем'яў, а ў 1952 г. — 4431 сям'я (каля 30 тыс. чалавек). Узмацніўся і эканамічны ціск на аднаасобнікаў: ім абразалі надзелы, павялічвалі падаткі. Калі ў 1948 г. у калгасы ў Заходняй Беларусі было аб'яднана 5 % сялянскіх гаспадарак, то ў канцы 1950 г. — амаль 84 %. Скончыўся працэс калектывізацыі ў *1952 г.,* у выніку чаго сяляне былі пазбаўлены зямлі і сродкаў вытворчасці, адзяржаўленых у форме калгаснай уласнасці.

Матэрыяльнае становішча беларускіх сялян было жудаснае: у паваенныя гады звыш 1 млн з іх жыло ў зямлянках, панаваў голад. Каб ні ў кога не было спакусы карыстацца ўласнасцю калгасаў, у чэрвені 1947 г. быў прыняты чарговы ўказ аб крымінальнай адказнасці за раскраданне дзяржаўнай і грамадскай маёмасці: нават за нязначны крадзеж прызначаўся тэрмін зняволення ад 5 да 20 гадоў. Прысядзібныя ўчасткі сялян павінны былі стаць яшчэ адной крыніцай паступлення прыбытку дзяржаве, якая абклала падаткамі вуллі, пладовыя дрэвы, свойскую птушку.

Пры складаным становішчы ў вёсцы хуткае развіццё прамысловасці садзейнічала паступоваму фарміраванню індустрыяльнага грамадства ў Беларусі. Вырашэнню пытання сацыяльнага забеспячэння насельніцтва надавалася другаснае значэнне. Тым не менш у 1946 г. былі скасаваны абавязковыя звышурочныя работы і дазволены чарговыя водпускі рабочым і служачым. У 1949 г. было завершана фарміраванне сістэмы медыцынскага забеспячэння і ліквідавана пагроза масавых эпідэмій інфекцыйных захворванняў, асабліва тыфу і малярыі (хаця беларускія паказчыкі забеспячэння насельніцтва медыцынскім персаналам і бальнічнымі ложкамі саступалі агульнасаюзнаму ўзроўню). Паступова аднавілася сетка навучальных устаноў. У *1947 г.* была праведзена грашовая

рэформа і ліквідавана карткавая сістэма набыцця грамадзянамі харчовых прадуктаў. У 1949–1950 гг. нават былі зніжаны цэны на большасць тавараў.

Прысутнасць І. Сталіна на вяршыні ўладнай вертыкалі не дазваляла савецкім грамадзянам спадзявацца на правядзенне глыбокіх змен у сацыяльным жыцці. Магчымасць правядзення рэформаў з'явілася *5 сакавіка 1953 г.*, калі памёр «бацька народаў». У БССР, як і па ўсёй краіне, на прадпрыемствах і ва ўстановах прайшлі шматлюдныя жалобныя мітынгі: самы грандыёзны сход адбыўся ў Мінску каля помніка І. Сталіну на праспекце, які таксама насіў яго імя (зараз — праспект Незалежнасці).

Такім чынам, пасляваенны сталінскі рэжым меў тыя ж характэрныя рысы, што і ў даваенны час. У СССР адсутнічалі рэальныя выбары ўлады, а партыйныя органы і разгалінаваныя спецслужбы кантралявалі жыццё насельніцтва. Працягваліся масавыя рэпрэсіі і аднавілася калгасная сістэма, якая была распаўсюджана і на Заходнюю Беларусь. Самаадданая праца рабочых і сялян вяла да росту прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці, але гэта не забяспечвала прыстойнага жыцця людзей. Толькі ў 1953 г., пасля смерці І. Сталіна, у кіраўніцтве СССР пачаліся змены у планах далейшага развіцця краіны. Ужо ў сакавіку 1953 г., калі жалобныя мерапрыемствы па «вялікаму правадыру» скончыліся, пачаў праводзіцца новы палітычны курс, накіраваны на спыненне масавых рэпрэсій: 27 сакавіка 1953 г. быў прыняты ўказ «Аб амністыі…», згодна з якім вызваляліся са зняволення сотні тысяч грамадзян. Калі ўвесну 1953 г. у сістэме ГУЛАГа знаходзілася 2 526 402 вязні, то на 1 красавіка 1954 г. — прыблізна 1 360 000. Але ў ЦК КПСС сярод былых паплечнікаў І. Сталіна не было адзінства па пытанні далейшага развіцця краіны. Гэта справакавала жорсткую барацьбу за лідарства. Урэшце канчатковую перамогу ў 1955 г. атрымаў першы сакратар ЦК КПСС М. Хрушчоў (1953– 1964).

## 7.3. Грамадска-палітычнае жыццё БССР у другой палове 1950-х – першай палове 1980-х гг.

У савецкім грамадстве наспявалі палітычныя змены, бо сотні тысяч нявінна асуджаных людзей вярталіся ў родныя мясціны і расказвалі пра жахі сталінскіх лагераў: толькі ў 1956 г. у БССР вярнулася каля 17 тыс. раней рэпрэсаваных. Такая колькасць нявінна пацярпелых у грамадстве рабіла немагчымым далейшае замоўчванне факта масавых рэпрэсій.

У гэтых умовах па ініцыятыве М. Хрушчова ў лютым **1956 г.** на *XX з'ездзе КПСС* (на закрытым пасяджэнні) былі асуджаны злачынствы І. Сталіна і яго памагатых. Асноўнай тэмай даклада М. Хрушчова *«Аб кульце асобы і яго выніках»* былі рэпрэсіі 1937–1938 гг., і ў першую чаргу супраць членаў самой партыі і яе кіраўніцтва. Першы сакратар ЦК КПСС расказваў аб злоўжываннях сталінскага перыяду: фальсіфікацыях крымінальных спраў, катаваннях зняволеных, памылках І. Сталіна напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны, што прывяло да цяжкіх паражэнняў

Чырвонай Арміі ў 1941 г. Многія дэлегаты з’езда былі разгублены, бо з трыбуны гучала крытыка таго, каго яны шмат гадоў лічылі бездакорным правадыром. Пасля з’езда даклад М. Хрушчова не быў апублікаваны (ён з’явіўся ў савецкім друку толькі ў 1989 г.), але па ўсёй краіне яго разаслалі ў мясцовыя камуністычныя арганізацыі, дзе ён абмяркоўваўся: напрыклад, у БССР на 1 чэрвеня 1956 г. з дакладам азнаёміліся 507 356 камуністаў і камсамольцаў, а таксама 174 524 беспартыйных.

ХХ з’езд КПСС паклаў канец сталінскай эпосе: абмеркаванне некаторых грамадскіх пытанняў стала больш вольным, ідэалагічная цэнзура ў мастацтве аслабела, адбывалася масавая ***рэабілітацыя*** рэпрэсаваных. На 1962 г. у БССР вярнулася 29 тыс. рэабілітаваных, таксама працэс рэабілітацыі закрануў і тых, хто быў расстраляны падчас сталінскага тэрору. У 1961 г. цела І. Сталіна было вынесена з маўзалея Леніна, па ўсёй краіне былі дэманціраваны помнікі І. Сталіна, пачаліся пераіменаванні населеных пунктаў і вуліц, якія насілі яго імя. У грамадстве паступова знікаў страх, у выніку распаўсюджвалася мноства антысавецкіх анекдотаў; загучалі бардаўскія песні, пачалі выходзіць з друку творы, публікацыю якіх раней немагчыма было ўявіць (напрыклад, «Адзін дзень Івана Дзянісавіча» А. Салжаніцына). Таму звычайна хрушчоўскі перыяд называюць ***«адлігай»***.

У структуры кіравання краінай падчас «адлігі» амаль нічога не змянілася: КПСС захавала кантроль над грамадствам (перш за ўсё ў палітычнай сферы), і да канца 1980-х гг. у краіне не было ніводнай апазіцыйнай партыі. Галоўную ролю ў сістэме кіравання займалі першыя сакратары партыі, якія прызначаліся з Масквы. Камсамол і грамадскія арганізацыі былі служкамі КПСС у дасягненні мэты — не дапусціць ідэалагічнага іншадумства ў краіне. Выбары ў мясцовыя органы ўлады па-ранейшаму адбываліся на безальтэрнатыўнай аснове, а кандыдаты на выбарах папярэдне зацвярджаліся камуністычнымі органамі. Спробы забяспечыць поўнаўладдзе Саветаў і пераадолець практыку ўмяшання ў іх работу партыйных органаў скончыліся няўдачай. Спатрэбілася больш за 30 гадоў пасля смерці І. Сталіна, каб перайсці да формы ўлады, заснаванай на дэмакратычнай аснове.

Камуністычныя лідары СССР, каб забяспечыць мабілізацыю грамадзян на выкананне тых ці іншых праграм, разгортвалі кампаніі пад рознымі ідэалагічнымі лозунгамі. Напрыклад, ХХІІ з’езд КПСС (1961) прыняў новую праграму партыі, у якой змяшчалася заява аб пабудове камуністычнага грамадства ў СССР на працягу жыцця аднаго пакалення. У прамовах першага сакратара ЦК КПСС загучала ўпэўненасць, што праз дваццаць гадоў савецкія людзі будуць жыць пры камунізме. У прапагандысцкіх мэтах і для ўзняцця энтузіязму грамадзян выкарыстоўваліся дасягненні савецкай навукі і тэхнікі, напрыклад, палёт *Ю. Гагарына* ў космас *12 красавіка 1961 г.* Але такія заклікі былі не вельмі

эфектыўныя, бо СССР адставаў у сваім развіцці ад Захаду, а побач з касмічнымі навінамі савецкія грамадзяне слухалі прамовы аб неабходнасці «дагнаць і перагнаць Амерыку».

Адзінай ідэалагічнай дактрынай у СССР заставаўся *марксізм-ленінізм*, а яго крытыкі абвяшчаліся ***дысідэнтамі***, іх пераследавалі. У канцы 1950-х гг. пачалася антырэлігійная кампанія, якую Руская праваслаўная царква трактавала як новыя ганенні на хрысціян. Савецкія ўлады прымусова зачынялі храмы (у СССР з 1958 па 1964 г. было закрыта каля 4 тыс. праваслаўных цэркваў), павялічвалі падаткі на царкоўныя зямельныя ўчасткі і на зарплаты святароў, спынялі дзейнасць рэлігійных семінарый. Дыскрымінацыйная палітыка праводзілася і ў адносінах да іншых канфесій: напрыклад, толькі ў заходніх раёнах БССР за перыяд 1955–1970 гг. колькасць касцёлаў скарацілася з 152 да 107.

У хрушчоўскі перыяд працягвалася мілітарызацыя Савецкага Саюза: каб забяспечыць парытэт ва ўзбраенні з ЗША велізарныя сродкі расходваліся на ваенна-прамысловы комплекс. Напрыклад, з 1957 па 1962 г. аб'ём ваеннай вытворчасці у БССР павялічыўся ў 12 разоў. Прадукцыю ваеннага прызначэння выпускалі амаль усе буйныя прадпрыемствы рэспублікі. У 1960-я гг. у Беларусі з'явіліся і першыя міжкантынентальныя балістычныя ракеты (МБР) з ядзернымі боегалоўкамі. Новыя ўзоры ваеннай аўтамабільнай тэхнікі пачалі выпускаць МТЗ, Гомсельмаш, 26 іншых прадпрыемстваў БССР.

М. Хрушчоў быў зняты з усіх займаемых пасад у *1964 г.*, і яму на змену прыйшоў *Л. Брэжнеў* (1964–1982). Гэты кіраўнік СССР быў схільны да кансерватызму ва ўнутранай і знешняй палітыцы, і пры ім нават адбылася пэўная рэабілітацыя І. Сталіна. Партыя ўмацавала сваё дамінаванне ў сістэме ўлады, што зацвердзіла прынятая ў *1977 г.* Канстытуцыя СССР, якая мела шосты артыкул аб кіруючай ролі КПСС у жыцці грамадства. Пры Л. Брэжневе адна і тая ж асоба магла займаць сваю пасаду неабмежаваную колькасць тэрмінаў, што прывяло да карупцыі, «кумаўства» ў кіраўніцтве. У той час калі афіцыйна сцвярджалася аб сацыяльнай роўнасці, партыйны апарат меў значныя прывілеі: пры паўсюдным дэфіцыце камуністычныя кіраўнікі па нізкіх цэнах маглі набываць неабходныя тавары, мелі лепшае медыцынскае абслугоўванне, атрымоўвалі дадатковыя грашовыя выплаты.

Брэжнеўскі перыяд называюць ***«эпохай застою»***, калі любое патрабаванне дэмакратызацыі грамадства выклікала жорсткія пераследаванні. Адметнай з'явай гэтага перыяду стала выкарыстанне псіхіятрыі ў якасці інструмента палітычных рэпрэсій: нязгодныя з камуністамі абвяшчаліся «вар'ятамі», хворымі, і іх прымусова ўтрымлівалі ў псіхіятрычных бальніцах. Напрыклад, бабруйчаніна *М. Кукабаку* за выступленні ў абарону правоў чалавека ў 1969 г. на восем гадоў «закрылі» ў псіхіятрычнай бальніцы. Пасля гэты праваабаронца правёў некалькі

гадоў у савецкіх турмах і лагерах. Міжнародная супольнасць рэзка адмоўна ставілася да такіх інцыдэнтаў: у 1977 г. на Сусветным кангрэсе псіхіятраў у Ганалулу (ЗША) савецкая «карніцкая псіхіятрыя» была асуджана, а ў 1983 г. дэлегацыя СССР вымушана была пакінуць Сусветную асацыяцыю псіхіятраў.

Грамадска-палітычнае развіццё БССР у другой палове 1950-х – першай палове 1980-х гг. мала адрознівалася ад агульнасаюзнага. У *1956–1965 гг.* пасаду кіраўніка ЦК КПБ займаў *К. Мазураў* — палітычны дзеяч, уплывовы ў агульнасаюзным маштабе. Дзякуючы гэтаму ўплыву з саюзнага бюджэта ў БССР выдзяляліся вялікія капіталаўкладанні: напрыклад, у 1958 г. на будаўніцтва Наваполацкага нафтаперапрацоўчага завода было выдзелена амаль 315 млн рублёў. Пры ім у БССР завяршылася апошняя рэформа тэрытарыяльнага кіравання (засталося шэсць абласцей, якія існуюць і зараз), скарацілася колькасць адміністрацыйнага апарату. У сферы нацыянальна-беларускага развіцця К. Мазураў не пярэчыў М. Хрушчову, які ў 1959 г. з нагоды 40-годдзя БССР заявіў у Мінску: «Чым хутчэй мы пачнём гаварыць па-руску, тым хутчэй пабудуем камунізм». Вынікам стала русіфікацыя грамадскага жыцця: двухмоўныя часопісы і газеты пераводзіліся на рускую мову, якая дамінавала і на тэлебачанні. Рэформа 1959 г. уводзіла прынцып добраахвотнасці выбару мовы навучання, а беларуская мова рабілася толькі адзінай з астатніх дысцыплін амаль ва ўсіх школах Беларусі.

У *1965 г.* К. Мазураў заняў пасаду намесніка старшыні савецкага ўрада ў Маскве, а першым сакратаром ЦК КПБ стаў *П. Машэраў* (**1965–1980**). Новы кіраўнік БССР аказаўся сапраўдным адміністратарам: на адказныя пасады ён прызначаў тых людзей, якія дамагліся значных поспехаў на папярэднім месцы працы. Ён клапаціўся, каб дэпутатамі Вярхоўнага Савета БССР станавіліся найбольш адказныя асобы. Дарэчы, па яго ініцыятыве такім дэпутатам стаў *В. Быкаў*. У Беларусі ў меншай ступені адзначаліся негатыўныя з’явы ва ўладных органах (карупцыя, разбэшчанасць), якія мелі месца ў жыцці СССР. Патрабавальнасць П. Машэрава да прадстаўнікоў кіруючага апарату была вядома ўсім: па яго распараджэнні за розныя (у тым ліку і амаральныя) учынкі пазбавіліся сваіх пасад пракурор рэспублікі, першы сакратар ЦК камсамола Беларусі, сакратар Мінскага абкама КПБ. БССР на прасторы ўсёй савецкай дзяржавы выглядала вядучай рэспублікай па ўзроўні жыцця насельніцтва, працоўнай дысцыпліне і развіцці эканомікі.

Ва ўмовах жорстка цэнтралізаванай сістэмы П. Машэраў не праводзіў самастойнай палітыкі і старанна рэалізоўваў планы саюзнага ўрада. Але ён быў адметны сярод састарэлых членаў і кандыдатаў у члены Палітбюро: высокі і зграбны, з шырокай зычлівай усмешкай, ён прыцягваў увагу нават знешне. Павагі надавала і тое, што сваю вышэйшую ўзнагароду — Залатую Зорку Героя Савецкага Саюза — П. Машэраў

атрымаў падчас вайны за асабістую мужнасць у адрозненне ад Л. Брэжнева, які чатыры Залатыя Зоркі Героя атрымаў у мірны час. Адметны П. Машэраў быў і своеасаблівым стылем кіравання — не кабінетным, а заснаваным на сустрэчах з насельніцтвам, што спрыяла аўтарытэту кіраўніцтва БССР сярод простых грамадзян. Несумненна, гэты беларускі лідар быў найбольш папулярным сярод насельніцтва ў савецкі перыяд. Таму беларускі народ шчыра шкадаваў, калі *4 кастрычніка 1980 г.* пад Мінскам П. Машэраў загінуў у аўтакатастрофе. Пасля заўчаснай гібелі П. Машэрава яго месца заняў *Ц. Кісялёў* (1980–1983).

Пасля смерці Л. Брэжнева ў кіраўніцтве СССР пачалася выпрацоўка планаў выхаду краіны са склаўшайся сітуацыі застою. Генеральны сакратар ЦК КПСС *Ю. Андропаў* (1982–1984) пачаў рашучую барацьбу з карупцыяй і заняўся навядзеннем працоўнай дысцыпліны на прадпрыемствах. Але пасля яго смерці новы кіраўнік СССР — *К. Чарненка* (1984–1985) — фактычна спыніў мерапрыемствы свайго папярэдніка, і зноў на кароткі час наступіў застой. Гэтыя агульнасаюзныя змены адбіваліся і ў БССР, якая ва ўмовах адсутнасці палітычных свабод заставалася «самай савецкай» рэспублікай СССР.

Такім чынам, у другой палове 1950-х – першай палове 1980-х гг. савецкае кіраўніцтва праводзіла супярэчлівую палітыку — ад «лібералізацыі» ў час «адлігі» да ўзмацнення кансерватыўных тэндэнцый у перыяд застою, ад змагання Ю. Андропава з карупцыяй і разбэшчанасцю да «неазастою» ў часы К. Чарненка. Але ў параўнанні з папярэднім перыядам у СССР адбыліся істотныя змяненні — адышла ў нябыт практыка масавых рэпрэсій у адносінах да насельніцтва. Неаслабны кантроль за грамадствам з боку камуністычных улад выклікаў пратэст толькі з боку хрысціянскіх вернікаў і нешматлікай нацыянальна арыентаванай інтэлігенцыі. У той жа час колькасць членаў КПБ у 1985 г. перавысіла 660 тыс. чалавек, унутрыпалітычнае становішча і эканамічнае развіццё былі стабільнымі. Гэта садзейнічала ўпэўненасці людзей у заўтрашнім дні, росту іх сімпатый да ідэі «развітога сацыялізму».

## 7.4. Эканамічнае развіццё БССР у другой палове 1950-х – першай палове 1980-х гг.

У 1950–1960-х гг. змяніліся прыярытэты эканамічнай палітыкі дзяржавы: прамысловасць пераарыентавалася (з пункту гледжання тэмпаў росту) з вытворчасці машын на вытворчасць у масавай колькасці спажывецкіх тавараў для насельніцтва: адзення, абутку, халадзільнікаў, радыётавараў і інш. Дастатак і ўзровень жыцця савецкіх людзей значна павялічыўся ў параўнанні са сталінскім перыядам. Адбывалася масавая забудова гарадоў шматкватэрнымі дамамі, што забяспечыла перасяленне рабочых з баракаў у асобныя кватэры. У 1960-я гг. правялі электрыфікацыю амаль усіх вёсак, калгаснікі атрымалі права мець пашпарты, на іх распаўсюдзілі дзяржаўныя пенсіі.

У развіцці беларускай прамысловасці працягвалася пашырэнне аўтамабілебудавання — пачаў выпуск прадукцыі *Жодзінскі завод цяжкіх грузавікоў*. Але прыярытэтным кірункам стала развіццё радыёэлектроннай (Мінскі радыёзавод) і асабліва хімічнай галіны вытворчасці: дзякуючы вялікім капіталаўкладанням гэтага перыяду ў Беларусі з'явіліся аб'яднанні *«Палімір»* у Наваполацку, *«Азот»* у Гродне, *«Хімвалакно»* ў Магілёве; у *1963 г.* пачалася дзейнасць *Салігорскага калійнага камбіната* і *нафтаперапрацоўчага завода ў Наваполацку*. Узгаданыя прадпрыемствы застаюцца вызначальнымі і ў эканоміцы сучаснай Беларусі. Аднак празмерная цэнтралізацыя і адміністрацыйна-камандныя метады кіравання перашкаджалі эфектыўнай працы прадпрыемстваў: у Маскве былі слаба знаёмы з патрэбнасцямі рэгіёнаў. Не ўлічваліся і ўласна беларускія эканамічныя інтарэсы: прадпрыемствы былі часткай агульнасаюзнай гаспадаркі, шмат з іх працавала на прывезенай сыравіне, а транспартныя выдаткі зніжалі тэмпы росту вытворчасці.

У 1957 г. па ініцыятыве М. Хрушчова пачалася рэформа, накіраваная на развіццё тэрытарыяльнай (у тым ліку і рэспубліканскай) кааперацыі. У выніку ліквідаваліся саюзныя прамысловыя міністэрствы, а заводы і фабрыкі пачалі падпарадкоўвацца мясцовым органам улады. Асноўнай адзінкай кіравання замест міністэрства стаў *Савет народнай гаспадаркі (Саўнаргас)*. Паўнамоцтвы мясцовых сакратароў кампартыі, якія кантралявалі старшынь мясцовых саўнаргасаў, значна павялічыліся. Фактычна кіраванне эканомікай перадавалася на ўзровень саўнаргасаў, што павінна было садзейнічаць мясцовай кааперацыі. Аднак не ўсе прадпрыемствы зазналі гэтыя пераўтварэнні: напрыклад, абаронныя заводы не рэарганізоўваліся, а заставаліся ў межах свайго міністэрства. І, вядома, усе саўнаргасы падпарадкоўваліся цэнтру, таму ні аб якой самастойнасці гаворка не ішла. Але дзякуючы рэформе атрымала імпульс развіцця мясцовая прамысловасць, паколькі рэспубліканскія органы ўлады былі зацікаўлены ў паляпшэнні мясцовай эканомікі і дабрабыту насельніцтва.

У СССР было створана 105 гаспадарчых зон. У Беларусі дзейнічаў *Саўнаргас БССР*, у складзе якога налічвалася 12 галіновых упраўленняў. З агульнай колькасці 2419 беларускіх прамысловых прадпрыемстваў Саўнаргас БССР кіраваў 814 буйнейшымі заводамі, на долю якіх прыпадала звыш 71 % усёй валавой прадукцыі. З мэтай мінімізацыі выдаткаў ствараліся міжгаліновыя прадпрыемствы, а некаторыя аб'ядноўваліся — у выніку з'явіліся абутковыя аб'яднанні ў Мінску і Гомелі, тытунёвае *«Нёман»*, гадзіннікавае *«Прамень»*. Былі пабудаваны 157 новых прадпрыемстваў, а ўзровень вытворчасці беларускай эканомікі ў другой палове 1950-х гг. павялічыўся на 79 %.

Станоўчыя вынікі рэформы пасля стварэння саўнаргасаў мелі абмежаваны характар, а разам з тым з'явілася шмат негатыву. Былі

парушаны сувязі ўнутры галін вытворчасці, бо рэгіянальныя ўлады клапаціліся аб развіцці свайго раёна, не звяртаючы асаблівай увагі на міжрэгіянальнае супрацоўніцтва. Сучасныя тэхналогіі можна больш эфектыўна ўводзіць пры дапамозе цэнтральнага (агульнасаюзнага) міністэрства, калі пры вялікіх аб’ёмах вытворчасці зніжаюцца выдаткі. А пры сістэме саўнаргасаў сродкі накіроўваліся на развіццё той галіны прамысловасці, якую мясцовае кіраўніцтва лічыла больш перспектыўнай для сябе. Да гэтага трэба дадаць шэраг рашэнняў М. Хрушчова, якія сведчаць аб яго пэўным валюнтарызме. Маюцца на ўвазе сумнавядомыя кукурузная і мяса-малочная кампаніі. У першым выпадку, паводле рашэння М. Хрушчова, пачалі пашыраць пасевы кукурузы, нават на прысядзібных участках сялян ці ў паўночных раёнах краіны, дзе немагчыма збіраць высокія ўраджаі гэтай культуры. А мяса-малочная кампанія — гэта наступства заклiку: «Перагонім Амерыку па вытворчасці малака і мяса на душу насельніцтва» (1957). У выніку, каб паказаць высокія тэмпы вытворчасці, у абласцях пачалі масава забіваць жывёлу, пасля чаго яе пагалоўе значна скарацілася.

Уведзеныя саўнаргасы не спрыялі вырашэнню праблемы зніжэння тэмпаў росту савецкай эканомікі. У 1965 г. (ужо пасля адстаўкі М. Хрушчова) вярнуліся да галіновага прынцыпу кіравання і ліквідавалі сістэму саўнаргасаў. У **верасні 1965 г.** пачалася новая эканамічная рэформа, якую распачаў кіраўнік урада СССР *А. Касыгін*. Асноўным кірункам правядзення рэформы стала змяненне сістэмы планавання і стымулявання:

1) скасоўвалася залішняя рэгламентацыя гаспадарчай арганізацыі прадпрыемстваў, а вынікі іх дзейнасці прадугледжвалася вызначаць па атрыманым прыбытку (раней такім паказчыкам была колькасць прадукцыі — «вал»);

2) дазвалялася за кошт прыбытку ад рэалізаванай прадукцыі ствараць фонды эканамічнага стымулявання, якія выкарыстоўваліся для прэмій супрацоўнікам, будаўніцтва жылля, а таксама для пашырэння вытворчасці. Такая з’ява атрымала назву ***«гаспадарчы разлік»***;

3) ранейшае фінансаванне прадпрыемстваў шляхам прадастаў-лення беззваротных датацый прапаноўвалася змяніць на крэдытаванне — грошы, атрыманыя заводам ці фабрыкай, трэба было вяртаць дзяржаве.

На вёсцы рэформа пачалася ў тым жа 1965 г.: павялічваліся ў 1,5–2 разы закупачныя цэны на сельскагаспадарчую прадукцыю, здымаліся абмежаванні на ўтрыманне хатняй жывёлы ва ўласнай гаспадарцы сялян, пастаўлялася дадатковая тэхніка і абсталяванне, укараняліся прынцыпы гаспадарчага разліку ў рабоце калгасаў і саўгасаў.

Такім чынам, прадпрыемствы павінны былі працаваць на прынцыпах рэнтабельнасці і матэрыяльнай зацікаўленасці рабочых і сялян. І восьмая пяцігодка (1966–1970), якая праходзіла пад знакам рэформаў, стала самай

паспяховай у савецкай гісторыі. У БССР у гэты перыяд на гаспадарчы разлік было пераведзена 1559 прадпрыемстваў (83 % ад іх агульнай колькасці). Прадукцыйнасць працы ў прамысловасці рэспублікі павялічылася на 39 % (па СССР — на 32 %), а сярэднегадавыя тэмпы росту прамысловай прадукцыі склалі 12,4 % супраць 10,4 % у папярэднім пяцігоддзі.

Але рэформа 1965 г. не вырашала глыбінныя праблемы ўласнасці і таварных адносін. У СССР эканоміка засталася планавай, а сярод заідэалагізаванага кіраўніцтва перамаглі тыя, хто выступаў супраць рынку. Звяртанне да матэрыяльнай зацікаўленасці людзей бачылася кіраўніцтву КПСС як галоўны недахоп: лічылася, што энтузіязм працоўных — гэта штосьці значна вышэйшае за прынцып аплаты паводле працы. Асноўная частка прыбыткаў прадпрыемстваў па-ранейшаму забіралася ў бюджэт, а неэфектыўным заводам рэгулярна спісваліся іх запазычанасці па крэдытах. Тым больш, што асаблівай праблемы з фінансавымі сродкамі ў СССР не было: з канца 1960-х гг. у Заходняй Сібіры пачалася масавая здабыча нафты, кошты на якую ў 1970-я гг. былі стабільна высокія. Таму касыгінская рэформа ператварылася ў «разавае антывалавое мерапрыемства» і ў пачатку 1970-х гг. фактычна спынілася.

Па мерках Савецкага Саюза гаспадарка БССР выглядала даволі эфектыўнай, але эканамічная сістэма не прапаноўвала людзям трывалых стымулаў для паляпшэння якасці сваёй працы. У сувязі з гэтым фарміраваўся тып кіраўніка, які праяўляў уяўную дзелавітасць. Звычайнай з'явай ва ўсіх сферах гаспадарання зрабіўся фармалізм, калі галоўным было знаходжанне на працоўным месцы, а не якасць працы. У выніку гэтага сярэднегадавыя тэмпы прыросту ў прамысловасці БССР у 1980-я гг. скараціліся ў параўнанні з пачаткам 1960-х гг. амаль у два разы. Адсутнасць рынкавай эканомікі, калі цэны не фарміруюцца ў сістэме попыту–прапановы, вяла і да такой з'явы, як дэфіцыт: не хапала тых ці іншых тавараў, на якія ў насельніцтва быў вялікі попыт.

Сельская гаспадарка знаходзілася ў найбольш складаным становішчы: створаны калгасны лад не садзейнічаў дынамічнаму развіццю аграрнага сектара. Ураджайнасць збожжавых культур у БССР у 1960 г. склала 8,7 ц/га, а напачатку 1980-х гг. — 22 ц/га. Гэтыя беларускія паказчыкі былі вышэйшыя, чым у сельскай гаспадарцы Расіі і Украіны, але ўтрая ніжэйшыя, чым заходнееўрапейскія. Нягледзячы на пэўную колькасць узорных калгасаў (*«Рассвет»* Кіраўскага р-на, *«Савецкая Беларусь»* Камянецкага р-на), забяспечыць трывалы рост сельскагаспадарчай вытворчасці не ўдалося. А гэта было небяспечна пры значным павелічэнні насельніцтва ў краіне. Дзяржава ўсялякімі спосабамі падтрымлівала калгасы: ім перадавалася тэхніка, спісваліся запазычанасці, праводзілася меліярацыя і хімізацыя вытворчасці. Але за два дзесяцігоддзі (1965–1985) аб'ём валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі БССР

павялічыўся ў 1,6 раза — нязначны паказчык у параўнанні з планам і тымі сродкамі, якія паступалі на развіццё вёскі. Патрэбы насельніцтва ў прадуктах харчавання ўжо не забяспечваліся, і з канца 1960-х гг. СССР стала займаўся імпартам хлеба: у 1967 г. на закупку зерня было выдзелена 50 тон золата, а ў 1972 г. — 458 тон золата.



**Мікалай Саўчанка** (1922–2001) — грамадскі і дзяржаўны дзеяч Беларусі. Доктар медыцынскіх навук, прафесар, акадэмік АН БССР. Нарадзіўся ў Гомельскай вобласці, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Скончыў Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут (МДМІ, сучасны БДМУ). Хірург-уролаг, кіраўнік Беларускага цэнтра трансплантацыі нырак (з 1970 г.). 11 верасня 1970 г. на базе клінікі уралогіі МДМІ ў 4-й клінічнай бальніцы г. Мінска здзейсніў першую трансплантацыю ныркі ў БССР. Атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР (1982 г.).

Аўтар больш за 300 навуковых публікацый, у тым ліку 11 манаграфій.

У 1967–1980 гг. дэпутат Вярхоўнага Савета БССР. Сучасная мінская 4-я клінічная бальніца носіць імя М. Саўчанкі.

Пры недасканаласці эканамічнай палітыкі камуністаў адзначаліся і станоўчыя з’явы, звязаныя з матэрыяльным становішчам насельніцтва. Асабліва гэта датычыцца 1970-х – першай паловы 1980-х гг. Так, спажыванне асноўных прадуктаў харчавання (мяса, малака, яек і інш.) было на ўзроўні фізічных нормаў (у 1990-я гг. гэты паказчык быў у 1,5 раза ніжэйшы). Нягледзячы на вялікія чэргі на жыллё, кожная сям’я магла у перспектыве атрымаць асобную кватэру з сімвалічнай жыллёвай платай. З 1971 па 1985 г. заработная плата вырасла амаль у тры разы пры тым, што цэны на тавары народнага спажывання павялічыліся на 4 %. У 1964 г. былі ўведзены пенсіі калгаснікам, якія ў наступным павышаліся, хаця зраўняліся з пенсіямі рабочых толькі ў 1990 г. Аднак сацыяльнае забяспечанасць насельніцтва ў гэты перыяд стала магчымай дзякуючы вялікім цэнам на нафту за мяжой, а не павышэнню эфектыўнасці працы савецкіх грамадзян.

Такім чынам, к сярэдзіне 1980-х гг. у БССР быў створаны моцны прамысловы комплекс, але нарасталі негатыўныя з’явы ў эканоміцы. Непаслядоўныя рэформы не змаглі выправіць сітуацыю — для трывалага эканамічнага развіцця былі неабходны радыкальныя пераўтварэнні, а камуністычнае кіраўніцтва краіны іх не праводзіла.

## 7.5. Спробы рэфармавання савецкай палітычнай сістэмы ў гады перабудовы (1985–1991 гг.)

У сярэдзіне 1980-х гг. у Савецкім Саюзе склалася сітуацыя, у якой немагчыма было не праводзіць палітычныя і эканамічныя рэформы. Планавыя паказчыкі на многіх прадпрыемствах не выконваліся, а прадукцыя заводаў і фабрык на адпавядала тагачасным патрэбам насельніцтва. Нерацыянальна выкарыстоўваліся вялікія сродкі, саюзная гаспадарка паказвала мінімальныя працэнты павелічэння выпуску тавараў, а пераход прамысловасці на новы тэхнічны ўзровень ажыццяўляўся марудна — ***экстэнсіўнае развіццё*** працягвала заставацца пераважным. Савецкую эканоміку падтрымлівалі высокія цэны на нафту, якія «абваліліся» на міжнародным рынку ў сярэдзіне 1980-х гг. Разлік толькі на фінансавыя пазыкі ад заходніх краін не мог задаволіць савецкае кіраўніцтва, якое вырашыла распачаць шэраг рэформаў. Палітычныя і сацыяльна-эканамічныя пераўтварэнні ў апошні перыяд існавання СССР былі закліканы аднавіць усе сферы жыцця савецкага грамадства: яны атрымалі назву ***«перабудовы»*** і былі распачаты генеральным сакратаром ЦК КПСС *М. Гарбачовым*, які заняў гэтую вышэйшую пасаду ў *1985 г.*

Дзейнасць новага кіраўніка СССР спрыяла дэмакратызацыі грамадскага жыцця, што суправаджалася абвешчанай у 1987 г. палітыкай ***галоснасці***. М. Гарбачоў разлічваў, што ва ўмовах крытыкі партыйная і гаспадарчая наменклатура будзе больш адказная і менш адарваная ад насельніцтва, а гэта ў рэшце рэшт прывядзе да «сацыялізму з чалавечым аблічам». Лозунг «Больш дэмакратыі, больш сацыялізму» падтрымала шырокае кола насельніцтва, і ў прэсе, на тэлебачанні разгарнулася палеміка аб перспектывах развіцця Савецкай краіны. Разам з тым стала гучаць вострая крытыка палітыкі мінулага перыяду: брэжнеўская эпоха характарызавалася як «застой», а імя І. Сталіна звязвалі з масавымі рэпрэсіямі, што падавалася як скажэнне ленінскай тэорыі і практыкі. Крытыка камуністычнай партыі за памылкі ў мінулым садзейнічала паступоваму развіццю крытычных адносін і да саміх ініцыятараў рэформаў. Такія настроі насельніцтва фарміраваліся ва ўмовах значнага падзення ўзроўню жыцця грамадзян, што прывяло да абясцэньвання камуністычных ідэалаў.

У Беларусі крызісныя з’явы пачалі праяўляцца з пэўным спазненнем у параўнанні з іншымі рэгіёнамі СССР. Тут быў створаны эканамічны патэнцыял, блізкі да некаторых заходнееўрапейскіх краін, і ў 1988 г. рэспубліканская прамысловая вытворчасць паказала нават рост у 8 %. Кіраўнікі БССР не былі прыхільнікамі адасаблення ад агульнасаюзнай эканомікі і імкнуліся захаваць гаспадарчыя (як і палітычныя) сувязі з іншымі савецкімі рэспублікамі. Насельніцтва даволі лаяльна ставілася да КПБ, бо крытыка мінулага была звязана з асобамі маскоўскіх лідараў, а не рэспубліканскіх кіраўнікоў. Ва ўмовах большай свабоды слова ў Беларусі

з'явіліся нефармальныя арганізацыі, якія аб'ядноўвалі ў асноўным моладзь (*«Талака», «Тутэйшыя», «Паходня»*). Але яны займаліся папулярызацыяй беларускай мовы і гістарычнай спадчыны, а ў маштабе ўсяго грамадства не былі ўплывовымі. Пастулат аб адраджэнні нацыянальных каштоўнасцяў як неабходнай умове паспяховага развіцця не быў такім папулярным, як у прыбалтыйскіх рэспубліках ці Украіне.

Грамадскі спакой у БССР не мог быць працяглым, бо агульнасаюзныя падзеі ўплывалі на настроі насельніцтва. Адной з іх стала буйнейшая ў гісторыі аварыя **26 красавіка 1986 г.** на атамнай станцыі ў *Чарнобылі* (ва Украіне, на мяжы з Беларуссю). Кіраўніцтва СССР спачатку свядома ўтойвала інфармацыю: аб катастрофе было зроблена паведамленне толькі 29 красавіка ў тэлевізійнай праграме «Время». Радыенуклідныя выкіды з ЧАЭС працягваліся, а ёдная прафілактыка ў БССР была праведзена са спазненнем ці ўвогуле адсутнічала. У першы месяц пасля аварыі на забруджанай тэрыторыі было шпіталізавана 11 682 дарослыя і 5750 дзяцей. Пасля сталі праводзіць дэзактывацыю населеных пунктаў, пры якой дэманціравалі забруджаныя аб'екты, рабілі пахаванні асобных вёсак. У 1986 г. з зоны паражэння было эвакуіравана каля 25 тыс. беларусаў, а астатняя частка перасялялася з 1990 г., бо толькі ў 1989 г. кіраўніцтва БССР абвясціла Беларусь зонай экалагічнага бедства і стала праводзіць маштабную эвакуацыю насельніцтва з забруджанай тэрыторыі. За 15 гадоў пасля катастрофы ў Чарнобылі колькасць перасяленцаў у Беларусі перавысіла 135 тыс. чалавек, цалкам было адселена 415 населеных пунктаў. На сённяшні момант у Рэспубліцы Беларусь на забруджаных тэрыторыях (фон — звыш 1 Кюры/км$^2$) пражывае каля 1,8 млн чалавек; на 2001 г. налічвалася 9985 інвалідаў, у якіх выяўлена прычынная сувязь захворвання з вынікамі аварыі на ЧАЭС. Чарнобыльская катастрофа мела палітычныя наступствы ў Беларусі: пастунова, калі памер трагедыі станавіўся больш зразумелым, кампетэнтнасць савецкіх улад усё часцей ставілася пад сумненне.

Яшчэ адной падзеяй, якая моцна пахіснула аўтарытэт камуністычнай партыі ў БССР, стала публікацыя ў газеце «Літаратура і мастацтва» *3 чэрвеня 1988 г.* артыкула *З. Пазняка* і *Я. Шмыгалёва*, прысвечанага масавым расстрэлам савецкіх грамадзян ва ўрочышчы *Курапаты* (пад Мінскам) у часы сталінскага тэрору. Гэты артыкул меў такі грамадскі водгук, што яго перадрукаваў «флагман перабудовы» — газета «Московские новости». Імідж КПБ быў значна сапсаваны: атрымлівалася, што кампартыя ў Беларусі таксама праводзіла масавыя расстрэлы, і яе ахвяры проста закапаны ў ямах каля Мінска. 30 кастрычніка 1988 г., на Дзяды (Дзень памінання продкаў), адбыўся мітынг каля Маскоўскіх могілак, на якім прысутнічалі некалькі тысяч мінчан. Ён быў разагнаны міліцыяй. Пацярпелыя падчас разгону гараджане паведамлялі, што супраць іх прымянілі «спецсродкі» (слёзатачывы газ). Такія жорсткія паводзіны

беларускіх улад выклікалі адмоўную рэакцыю сярод жыхароў рэспублікі, асабліва інтэлігенцыі. Нават маскоўскае кіраўніцтва не падтрымала сваіх беларускіх калег, а ў агульнасаюзнай «Литературной газете» з'явілася падрабязная інфармацыя аб падзеях 30 кастрычніка, якая суправаджалася юрыдычным заключэннем аб неправамоцнасці дзеянняў мінскай міліцыі.

Ва ўмовах пашырэння ў грамадстве апазіцыйных настрояў КПБ імкнулася перахапіць ініцыятыву: у студзені 1989 г. урадавая камісія афіцыйна прызнала факт масавых расстрэлаў у перыяд з 1937 па 1941 г. у Курапатах, дзе пахавана каля 30 тыс. савецкіх грамадзян. Планавалася стварыць пры Вярхоўным Савеце БССР камісію па забеспячэнні правоў рэабілітаваных грамадзян, а таксама былі прапановы аб узвядзенні помніка ахвярам сталінскіх рэпрэсій. Ініцыятывы ўлад маглі садзейнічаць таму, каб грамадскія працэсы і надалей заставаліся пад кантролем кіраўніцтва БССР.

У той час адбывалася кансалідацыя і антыкамуністычных палітычных сіл: у *чэрвені 1989 г.* у Вільнюсе адбыўся ўстаноўчы з'езд *Беларускага народнага фронту (БНФ)*. Галоўнай мэтай абвяшчалася адраджэнне беларускай мовы і нацыянальнай самасвядомасці, а таксама ліквідацыя наступстваў катастрофы на ЧАЭС. Паралельна з афармленнем БНФ у *чэрвені 1989 г.* узнікла *Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны*, якое ўзначаліў вядомы паэт *Н. Гілевіч*. Гэтыя арганізацыі намагаліся абудзіць нацыянальную годнасць, звярталіся да традыцый дзяржаўнасці ў перыяд Полацкага княства і Вялікага Княства Літоўскага, а сярод беларускіх герояў называліся лідары антымаскоўскага змагання — К. Астрожскі, Т. Касцюшка і К. Каліноўскі. У выніку ў насельніцтва з'явілася рэальная альтэрнатыва выбару пры галасаванні: можна абіраць камуністаў, а можна і БНФ.

Першыя альтэрнатыўныя выбары ў БССР адбыліся ў сакавіку–красавіку 1989 г., калі насельніцтва абрала 60 сваіх прадстаўнікоў на З'езд народных дэпутатаў СССР. Устаноўчы з'езд БНФ быў яшчэ наперадзе, але сярод дэпутатаў былі і тыя, каго актыўна падтрымлівала апазіцыя, — *А. Дабравольскі, А. Жураўлёў, С. Шушкевіч, В. Карнеенка, М. Ігнатовіч*. Асноўную ж частку пасланцаў з БССР складалі прадстаўнікі беларускай камуністычнай наменклатуры. *З'езд народных дэпутатаў СССР* распачаў сваю дзейнасць у маі 1989 г., і савецкія грамадзяне ўпершыню маглі сачыць у прамым эфіры за дыскусіяй паміж дэпутатамі, якія спрачаліся з нагоды будучага развіцця СССР. Беларускія дэпутаты не сталі прыкметнымі асобамі, але выступленні А. Сахарава, А. Сабчака, Г. Старавойтавай, якія заклікалі да дэмакратыі, ускалыхнулі ўсю Савецкую краіну.

Наступныя выбары ў БССР праводзіліся ў **сакавіку–маі 1990 г.** у рэспубліканскі Вярхоўны Савет XII склікання. Згодна са зменамі ў законе «Аб выбарах…» (кастрычнік 1989 г.) кандыдатаў маглі вылучаць сходы грамадзян. Але выбарчы закон не быў зусім дэмакратычны, бо 50 месцаў

у Вярхоўным Савеце было зарэзервавана для прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый — Беларускага саюза ветэранаў вайны і працы, Беларускага таварыства інвалідаў, Беларускага таварыства сляпых, Беларускага таварыства глухіх. Гэтыя арганізацыі знаходзіліся пад кантролем камуністаў, у выніку чаго 1/7 частка месцаў у Вярхоўным Савеце, які павінен быў складацца з 360 дэпутатаў, ад самага пачатку заставалася за прыхільнікамі КПБ. Апазіцыя, аб'яднаная ў Дэмакратычны блок, звярталася да насельніцтва з лозунгамі пра беларусізацыю, ліквідацыю прывілеяў для партыйнага апарату, абвінавачваючы ў сацыяльных праблемах камуністычную ўладу. У сваю чаргу камуністы казалі аб БНФ як аб экстрэміскай арганізацыі, якая імкнецца парушыць братэрскія адносіны паміж беларусамі і іншымі народамі СССР. Па выніках выбараў 85 % дэпутатаў беларускага парламента склалі члены КПСС, ад Дэмакратычнага блока прайшло 67 прадстаўнікоў (з якіх больш за трыццаць дэпутатаў належала да БНФ). Вынікі выбараў сведчылі пра тое, што большасць насельніцтва (асабліва ў правінцыі) схільныя падтрымліваць улады.

На першай сесіі Вярхоўнага Савета БССР XII склікання яго старшынёй быў абраны былы сакратар Палітбюро ЦК КПБ *М. Дземянцей*, урад БССР узначаліў таксама камуніст *В. Кебіч*. Беларусь засталася пад кіраваннем кансерватараў, якія на ўладным узроўні не праяўлялі сепаратысцкіх настрояў. У той жа час на выбарах у суседніх рэспубліках да ўлады прыйшлі прыхільнікі нацыянальнай самастойнасці, і парламенты Літвы, Латвіі, Расіі і Украіны (як і Малдовы, Грузіі і Арменіі) прынялі дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце. Пасля гэтага беларускі Вярхоўны Савет вымушаны быў пайсці на аналагічны крок і **27 ліпеня 1990 г.** прыняў *Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце БССР*.

Ва ўмовах нарастання цэнтрабежных рухаў М. Гарбачоў імкнуўся захаваць Савецкі Саюз і схіляў рэспубліканскіх кіраўнікоў да падпісання новай саюзнай дамовы. Дзеля падмацавання яго пазіцыі ў сакавіку 1991 г. быў праведзены рэферэндум аб лёсе СССР, і на тэрыторыі БССР за захаванне агульнасаюзнай краіны выказалася 82,7 % насельніцтва. Аднак контррэфармацыйная камуністычная эліта бачыла выйсце са складанага становішча ў адхіленні М. Гарбачова ад улады і ўсталяванні дыктатуры. У выніку змовы частка маскоўскага кіраўніцтва *19 жніўня 1991 г.* абвясціла пра ўтварэнне *ГКЧП («Государственный комитет по чрезвычайному положению»)* і пра пераход да яго ўсёй улады. 21 жніўня гэта спроба дзяржаўнага перавароту канчаткова правалілася, а саюзныя рэспублікі пакрысе пачалі набываць рэальныя атрыбуты незалежнасці.

Надзвычайная сесія Вярхоўнага Савета БССР 25 жніўня 1991 г. надала статус канстытуцыйнага закона Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР. М. Дземянцей з-за сувязяў з маскоўскімі путчыстамі быў вымушаны пакінуць пасаду старшыні парламента, а яго месца

17 верасня заняў *С. Шушкевіч*. **19 верасня 1991 г.** Вярхоўны Савет прыняў рашэнне аб новай назве дзяржавы — *«Рэспубліка Беларусь»* (у скарочаных і састаўных назвах — «Беларусь»). У той жа дзень былі прыняты новыя дзяржаўныя сімвалы — бела-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня». Глыбокі эканамічна-сацыяльны крызіс пры паралізаванай цэнтральнай уладзе ў Маскве штурхаў кіраўнікоў рэспублік да пошуку самастойных шляхоў вырашэння нацыянальных праблем. **8 снежня 1991 г.** кіраўнікі Беларусі, Украіны і Расіі (С. Шушкевіч, Л. Краўчук і Б. Ельцын) *у Віскулях* (у Беларусі, на тэрыторыі Белавежскай пушчы) падпісалі пагадненне аб стварэнні замест СССР *Садружнасці Незалежных Дзяржаў (СНД)*. У хуткім часе белавежскія пагадненні былі ратыфікаваны парламентамі трох рэспублік, у выніку чаго СССР перастаў існаваць.

Такім чынам, палітыка «перабудовы» прывяла да значных перамен у жыцці савецкага грамадства. Беларусь у гэты перыяд характарызавалася захаваннем значнага ўплыву КПБ і спазненнем у пераўтварэннях у параўнанні з суседзямі. Эканоміка БССР дэманстравала неблагія паказчыкі, і рэспубліканскае кіраўніцтва выступала за далейшую інтэграванасць Беларусі ў агульнасаюзную дзяржаву. Але цэнтрабежныя рухі прывялі да распаду СССР, і Беларусь стала незалежнай.

## Кантрольныя пытанні

1. Растлумачце сэнс тэрмінаў «халодная вайна», «дэтант», «аксамітныя рэвалюцыі».

2. Ці можна назваць савецкі рэжым у 1945–1953 гг. таталітарным?

3. Назавіце беларускія нелегальныя антыкамуністычныя арганізацыі, якія дзейнічалі ў другой палове 1940-х гг.

4. Як змяніліся межы БССР пасля вайны ў параўнанні з 1939 г.?

5. Чым адрозніваецца працэс калектывізацыі ў Заходняй Беларусі ад калектывізацыі, праведзенай у СССР у 1930-я гг.?

6. Якія грамадска-палітычныя змяненні, на ваш погляд, былі самымі значнымі ў перыяд «адлігі»?

7. Назавіце буйныя машынабудаўнічыя заводы, якія з'явіліся ў Беларусі пасля вайны.

8. У чым розніца паміж эканамічнымі рэформамі М. Хрушчова і А. Касыгіна?

9. Якія падзеі другой паловы 1980-х гг. садзейнічалі зніжэнню даверу насельніцтва БССР да камуністычнага кіраўніцтва?

10. Растлумачце выказванне А. Адамовіча, які назваў Беларусь «Вандэяй перабудовы».

11. Ці можна выбары ў Вярхоўны Савет XII склікання назваць дэмакратычнымі?

12. Якая падзея, на вашу думку, паклала пачатак палітычнаму працэсу, што ў выніку прывёў да незалежнасці Беларусі?

## Практычныя заданні

### Заданне 1. Вытрымка са спецданясення першага сакратара Брэсцкага АККП(б)Б Н. Красоўскага аб негатыўных настроях часткі насельніцтва падчас выбараў у Вярхоўны Савет БССР (сакавік 1947 г.)

9 студзеня 1947 года жыхар вёскі Сялец Кобрынскага раёна — Раманюк Даніл Лаўрэнцьевіч заявіў гр-цы Раманюк М. Е., што: «Галасаваць за рабаўнікоў не пайду. Што яны далі нам добрага, толькі рабуюць сялян. Ёсць добрыя людзі «украінскія нацыяналісты», якія змагаюцца за нас. Хутка яны зладзяць «самастойную Украіну» і тады будзе жыць добра».

Жыхар Лышчыцкага сельсавета Брэсцкага раёна — Лакай А. І. на пытанне — ці ведае ён за каго будзе галасаваць, адказаў: «Ведаю, за Урублеўскага (камандзіра 86 пагранатрада), мяне завядуць, як барана, хаця б я і не жадаў галасаваць, але змусяць галасаваць за яго. У мінулым годзе гналі галасаваць пад зброяй, як выберуць, так ён стане агітаваць на калгас»…

Жыхар вёс. Любішчыцы Касаўскага раёна — Асіпчык А. Д. у дачыненні выбараў заявіў: «Галасаваць за бандытаў блока камуністаў і беспартыйных я ня буду, так як для мяне гэтыя выбары ў Вярхоўны Савет БССР не патрэбны, а хто жадае галасаваць — няхай аддаюць свае галасы за рабаўнікоў».

Жыхар вёс. Лелікава Дзівінскага раёна Тарасюк Аляксандр у прысутнасці аднавяскоўцаў заявіў: «Выбіраць мы самі не выбіраем, а нам прапануюць свайго кандыдата. Яны нашыя інтарэсы не адстойваюць і аб нас не клапоцяцца. Солі, газы няма і нічога нам не даюць, а з нас патрабуюць. Пры польскай уладзе жылося значна лепш, усяго было дастаткова, а ў Расіі праз калгасы ўсё спустошылі, і гэта будзе ў нас».

Жыхар вёс. Палонск Ружанскага раёна — Кодзешка Сцяпан заявіў: «За каго мы будзем галасаваць? За бандытаў, якія прымушаюць нас паміраць з голаду».

Жыхар вёс. Бусяж Косаўскага раёна — Дземідовіч А. І. заявіў: «Трэба ўхіляцца ад галасавання, бо гэта падман народа. Калі мы будзем галасаваць, то гэтыя паразіты ад нас ніколі не сыдуць». (*«Ты з Заходняй, я з Усходняй нашай Беларусі…» Верасень 1939 г. – 1956 г.: дакументы і матэрыялы. Кн. 2. Мінск, 2009. С. 127–128. Пераклад Н. Кучмель*)

1. Ці разумее сялянскае насельніцтва, што выбары ў Вярхоўны Савет БССР — гэта псеўдавыбары?

2. Каго сяляне, узгаданыя ў спецданясенні, называюць «бандытамі», «рабаўнікамі»? Чаму іх так называюць?

3. Якія эмоцыі ў гэтых сялян выклікаюць калгасы? З чым гэта звязана?

4. Ці бачыцца ўзгаданым сялянам нейкі выхад са становішча, якое склалася? Ці была альтэрнатыва савецкай уладзе?

5. Як вы лічыце, якім чынам кіраўніцтва Брэсцкай вобласці даведалася пра выказванні названых сялян?

**Заданне 2. З успамінаў Ганны Скумс, якая жыла ў вёсцы Ліпавец (недалёка ад Барысава), пра медыцынскае абслугоўванне ў другой палове 1940-х гг.**

Пры сельсавеце ў вёсцы Кашчына адкрылі медпункт. У медпункце працаваў стары фельчар ды акушэрка незразумелага ўзросту і невядомай адукацыі. Яны і аказвалі медыцынскую дапамогу насельніцтву ўсяго сельсавета… Ніякіх, нават элементарных, дыягнастычных ці іншых медыцынскіх прыбораў ці абсталявання медпункт не меў. Фармальна жыхары сельсавета медыцынскім абслугоўваннем былі забяспечаны. Але што сапраўды адбывалася? Ліпавец знаходзіцца за 8 км ад Кашчына. Туды і назад 16 км. Калі ў сям'і сур'ёзна хварэў ці то дарослы, ці то дзіця, неабходна было ці адвезці хворага ў Кашчына, ці выклікаць фельчара. Але як выклікаць? Тэлефона ж не было. Гэта магчыма было зрабіць наступным чынам. Хто-небудзь з сям'і (калі было каму) мусіў пайсці па фельчара ў Кашчына. Калі-нікалі здаралася аказія, і ў медпункт перадавалі запіску. Часам даведваліся, колькі ў вёсцы хворых, і з паштальёнам, які два разы на тыдзень хадзіў у Кашчына на пошту за газетамі і пісьмамі, адпраўлялі спіс хворых з бачнымі сімптомамі захворвання і прасілі прыйсці на дапамогу. Канешне, аднаму фельчару немагчыма было абслугоўваць жыхароў усяго сельсавета. Тады да яго далучалася акушэрка. Фельчар быў вопытны спецыяліст-практык. Ён у былыя гады выратаваў нямала сельскіх жыхароў. Але, на жаль, гады бяруць сваё. І зрок становіцца не такі востры, і слых зніжаецца. Ён прыходзіў да хворага, даставаў з рукзака трубку, выслухваў хворага. Часам слых падводзіў, і праз трубку ён нічога не чуў. Тады ён прыкладваў да хворага вуха і доўга-доўга слухаў. Ці чуў ён што-небудзь, цяжка сказаць. Прастудныя захворванні — грып, ангіну і г. д. ён распазнаваў адразу, а ў тое, што датычылася больш складаных захворванняў, не лез… Сярод насельніцтва фельчар меў аўтарытэт і павагу.

Зусім іншае меркаванне склалася пра акушэрку. Замест фельчара яна часта прыходзіла да хворых. Нават нявопытнаму чалавеку было бачна, што яна вельмі далёкая ад медыцыны, ад справы ўрача. Калі прыходзіла да хворага, то першай справай было паглядзець язык. Гэта быў універсальны метад дыягностыкі. Па колеру языка яна вызначала захворванне. Пры гэтым ніякіх сумненняў яна не выказвала. Безапеляцыйна, самаўпэўнена прызначала лячэнне. Праўда, пералік вызначаных ёю захворванняў быў крайне абмежаваным і ўніфікаваным. Верагодна, яна больш і не ведала. У яе заўсёды былі таблеткі двух колераў: белыя і чырвоныя. Усім хворым, незалежна ад захворвання, яна выдавала аднолькавыя таблеткі, па чарзе: то белыя, то чырвоныя. Калі ж у яе пыталіся, якія гэта таблеткі і ад якіх захворванняў, у яе быў адзін і той жа катэгарычны і безапеляцыйны адказ: «Ад ста хвароб»… Жанчыны пры родах намагаліся пазбягаць яе, асабліва пасля таго, як яна прымала роды ў дзвюх маладых жанчын, і абодва выпадкі скончыліся смяротным вынікам. Яна занесла інфекцыю. Пасля гэтага яе не сталі прымаць хворыя, і яна ў хуткім часе знікла.

Стацыянарная бальніца, дзе працавалі кваліфікаваныя медыкі, знаходзілася ў раённым цэнтры Халапенічы, там жа быў і стаматалагічны кабінет. Але да раённага цэнтра 25 км дрэннай пасялковай дарогі, і звярталіся туды крайне рэдка, калі ўжо, як кажуць, прыпірала, станавілася нясцерпна. (*Скумс А. Былое. Минск, 2003. С. 149–151. Пераклад Н. Кучмель*)

1. Апішыце сістэму медыцынскага абслугоўвання сельскіх раёнаў БССР.

2. Вызначце ўзровень падрыхтоўкі медыцынскіх работнікаў.

3. Як вы лічыце, чаму медыцынскае абслугоўванне насельніцтва было на такім узроўні?

4. Як можна было змяніць наяўную сістэму медыцынскага абслугоўвання? Ці магло насельніцтва паўплываць на такі стан рэчаў?

**Заданне 3. Разгледзьце табл. 2.**

*Табліца 2*

**Выпуск асноўных відаў прадукцыі машынабудавання і металаапрацоўкі ў БССР, тыс. шт.***

| Від прадукцыі | 1940 г. | 1950 г. | 1960 г. | 1965 г. | 1970 г. | 1973 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Аўтамабілі грузавыя | – | 2,4 | 18,7 | 23,1 | 29,8 | 32,8 |
| Трактары (у фіз адзінках) | – | 0,036 | 34,2 | 70,2 | 80,3 | 83 |
| Камбайны сіласаўборачныя | – | – | 15 | 19,7 | 34 | 42,9 |
| Металарэзныя станкі | 6 | 4,8 | 16,8 | 24,2 | 27,6 | 31,5 |
| Аўтаматычныя лініі для машынабудавання і металаапрацоўкі (камплектаў) | – | – | 13 | 22 | 21 | 31 |
| Падшыпнікі качэння (з велападшыпнікамі) | – | – | 69100 | 93300 | 101300 | 119285 |
| Электрарухавікі магутн. ад 0,25 да 100 кВт | 7,7 | 13,2 | 74,1 | 145,5 | 421,7 | 532 |
| Трансфарматары сіла-выя, тыс. кВт | – | – | 903 | 2501 | 4636 | 5442 |
| Газавыя пліты | – | – | - | 146,9 | 287,3 | 344,1 |
| Матацыклы | – | – | 101,4 | 121,4 | 152,4 | 173,2 |
| Веласіпеды | – | 70 | 286,6 | 433 | 519,7 | 559 |
| Тэлевізары шырокага вяшчання | – | – | 103,2 | 289,4 | 634,8 | 454,1 |
| Гадзіннікі ручныя | – | – | 910 | 1266 | 2379 | 3173 |
| Радыёпрыёмнікі і радыёлы шырокага вяшчан-ня | 0,4 | 46,3 | 118,6 | 410,3 | 423,6 | 338,9 |
| Халадзільнікі бытавыя | – | – | – | 60,1 | 216,5 | 488,3 |
| Фотаапараты | – | – | 297,3 | 83,4 | 535,9 | 462 |

* Гісторыя Беларусі : дапам. для паступаючых у вышэйшыя навучальныя ўстановы / А. Л. Абецэдарская [ і інш.] ; пад рэд. Ю. Л. Казакова [і інш.]. Мінск : Экаперспектыва, 1998. С. 440.

1. У які перыяд назіраецца значны рост выпуску прадукцыі машынабудавання і металаапрацоўкі? З чым гэта звязана?

2. Узгадайце, адкуль з’явілася значная колькасць машынабудаўнічых заводаў на тэрыторыі Беларусі.

3. Пералічыце прапісаныя ў табліцы тавары народнага спажывання. Калі назіраецца павелічэнне выпуску гэтых тавараў?

**Заданне 4. Артыкул У. Міронычка, былога загадчыка каферы МДМІ, з успамінамі аб пераследваннях за яго іншадумства**

… я не мог маўчаць, усё набалелае выклаў у сваіх пісьмах у ЦК КПСС, КПБ у 1979–1982 гадах, у «Сустрэчных закліках да ЦК КПСС». Усяго іх было 99 — столькі, колькі і заклікаў ЦК КПСС да савецкага народа. Вось некаторыя з маіх сустрэчных заклікаў: «Далоў афганскую аванцюру, а вінаватых за яе пад суд! Кастрычніцкая рэвалюцыя нарадзіла новыя формы эксплуатацыі чалавека чалавекам! Камунізм, як і вечны рухавік, пабудаваць немагчыма! Няхай намі не кіруе састарэлая камуністычная хунта! Няхай выбары ў Саветы будуць дэмакратычнымі! Наша свабода слова — хваліць КПСС і ўрад тады, калі яны гэтага не заслугоўваюць. Далоў цэнзуру! Няхай будуць свабодны выезд з СССР і ўезд у яго. Сумленнаму чалавеку жыць цяжка! Далоў паказуху, ураўнілаўку, прыпіскі, прывілеі, незаслужаныя ўзнагароды, прэміі і званні! На дэманстрацыю па загаду сумлення і сэрца, а не па спіску і прымусу! Няхай у Беларусі не закрываюцца беларускія школы! Няхай ў спецыяльных навучальных установах навучанне вядзецца на роднай беларускай мове! Саюз непарушны рэспублік свабодных з’яднала навекі вялікая Русь... бальшавіцкімі штыкамі!»...

Усе мае дысідэнцкія матэрыялы аказаліся ў Мінскім абласным КДБ, куды забралі і аўтара, дзе мяне абвінавацілі ў «паклёпе на Савецкі Саюз». Пад дыктоўку мяне прымусілі пакаяцца, што больш «клеветать» не буду, і ў гэтым узялі распіску. А потым я «добровольно» прабыў паўтара месяца ў псіхушцы, «добровольно» пакінуў пасаду загадчыка кафедры ў Мінскім медыцынскім інстытуце, дзе адвучыўся і адпрацаваў 35 гадоў і прайшоў шлях ад студэнта да прафесара. «Добровольно» пацярпела мая сям’я. Рэпрэсіўны апарат КПСС так працаваў, каб усё выглядала «добровольно», «обоснованно», «законно». Толькі выхад з партыі «добровольно» не афармлялі, а «выключалі». І мяне выключылі «за паклёп на Савецкі Саюз», хаця заяву ў красавіку 1983 года падаў з просьбай выключыць як «вар’ята» (я тады быў у псіхушцы).

У псіхушках пабывалі самыя шкодныя для КПСС дысідэнты. Наогул прымяненне псіхіятрыі ў палітычных і карных мэтах з часоў Брэжнева стала ў Савецкім Саюзе даволі распаўсюджанай з’явай, што выклікала пратэст ва ўсім свеце. 29 чэрвеня 1990 года пастановай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР была абрана Часовая Камісія ВС БССР па расследаванні фактаў выкарыстання псіхіятрыі ў палітычных і рэпрэсіўных мэтах з 12 чалавек, пад старшынствам народнага дэпутата РБ У. Заблоцкага. Гэтай высокай камісіі паступіла ад грамадзян РБ больш за 150 скаргаў…

(*Міронычк У. Патрыятызм — галоўны стоўп // Літаратура і мастацтва. 1993. 5 сакавіка. С. 4*)

1. Як вы лічыце, чым займаецца У. Міронччык: барацьбой за ўладу ці проста яе крытыкай?

2. Ці была магчымасць у прафесара абараніць у судзе свае правы, гарантаваныя Канстытуцыяй СССР?

3. Як вы лічыце, чаму выключэнне з партыі У. Міронччыка было аформлена не як «добраахвотнае»?

### Тэсты для самакантролю

**1. Гэты беларускі пісьменнік пасля вайны быў паўторна арыштаваны і высланы ў Сібір:**

а) А. Дудар; в) М. Лынькоў;
б) П. Саевіч; г) С. Грахоўскі.

**2. Тэрыторыю якой вобласці БССР І. Сталін меркаваў перадаць у склад РСФСР:**

а) Полацкай; в) Магілёўскай;
б) Віцебскай; г) Гомельскай?

**3. Калі была праведзена калектывізацыя ў Заходняй Беларусі:**

а) 1939–1941 гг.; в) 1946–1948 гг.;
б) 1945–1948 гг.; г) 1949–1952 гг.

**4. Прадоўжыце і завяршыце лагічны рад (як мага больш поўна):**

а) П. Панамарэнка, М. Гусараў …;
б) І. Сталін, М. Хрушчоў … .

**5. Колькі ў БССР у 1950-я гг. было саўнаргасаў:**

а) ніводнага; в) па колькасці абласцей;
б) адзін; г) па колькасці абласцей і рэспубліканскі?

**6. Самым значным рашэннем XXII з'езда КПСС (1961 г.) было:**

а) адмена 6-га артыкула Канстытуцыі;
б) рэабілітацыя ахвяр сталінскіх рэпрэсій;
в) прыняцце новай праграмы партыі;
г) ліквідацыя саўнаргасаў.

**7. Адзначце лішняе:**

а) П. Машэраў з'яўляўся: Героем Савецкага Саюза, кіраўніком партызанскага атрада, дарадцам М. Хрушчова, ініцыятарам палітыкі перабудовы, кіраўніком Камуністычнай партыі Беларусі.

б) Нефармальныя арганізацыі ў БССР: «Талака», ВЛКСМ, «Тутэйшыя», «Паходня».

**8. Апошнім кіраўніком урада БССР з'яўляўся:**

а) В. Кебіч; в) А. Дабравольскі;
б) С. Шушкевіч; г) М. Дземянцей.

**9. Вызначце дакладную храналагічную паслядоўнасць:**

а) аварыя на ЧАЭС;
б) выбары ў Вярхоўны Савет БССР XII склікання;

в) утварэнне ГКЧП;
г) белавежскія пагадненні.

**10. Калі Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР быў нададзены статус закона?**

а) 27 ліпеня 1990 г.; в) 25 жніўня 1991 г.;
б) 17 сакавіка 1991 г.; г) 8 снежня 1991 г.

**11. На падпісанні пагадненняў аб утварэнні СНД *не прысутнічаў*:**

а) М. Гарбачоў; в) Б. Ельцын;
б) С. Шушкевіч; г) Л. Краўчук.

**Адказы**: 1 — г; 2 — а; 3 — г; 4 — а) П. Панамарэнка, М. Гусараў, М. Патолічаў, К. Мазураў, П. Машэраў, Ц. Кісялёў, М. Слюнькоў, Я. Сакалоў, А. Малафееў; б) І. Сталін, М. Хрушчоў, Л. Брэжнеў, Ю. Андропаў, К. Чарненка, М. Гарбачоў; 5 — б; 6 — в; 7 — а) дарадца М. Хрушчова, ініцыятар перабудовы; б) ВЛКСМ; 8 — а; 9 — а, б, в, г; 10 — в; 11 – а.

## ЛІТАРАТУРА

### *Асноўная*

1. *Гісторыя* Беларусі : курс лекцый: у 2 ч. / Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт ім. Я. Купалы, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Мінск : РІВШ, 2000–2002. Ч. 2. XIX–XX ст. / П. І. Брыгадзін [і інш.]. 2002. 655 с.

2. *Гісторыя* Беларусі : дапам. для паступаючых у вышэйшыя навучальныя ўстановы / А. Л. Абецэдарская [і інш.] ; пад рэд. Ю. Л. Казакова [і інш.]. Мінск : Экаперспектыва, 1998. 496 с.

3. *Гісторыя* Беларусі (у кантэксце сусветных цывілізацый) : вучэб. дапам. / В. І. Галубовіч [і інш.] ; пад рэд. В. І. Галубовіча, Ю. М. Бохана. Мінск : Экаперспектыва, 2005. 589 с.

4. *Эканамічная* гісторыя Беларусі / В. І. Галубовіч [і інш.] ; пад рэд. В. І. Галубовіча. Мінск : Экаперспектыва, 1999. 428 с.

### *Дадатковая*

5. *Адамушка, У. І.* Палітычныя рэпрэсіі 20–50-х гадоў на Беларусі / У. І. Адамушка. Мінск : Беларусь, 1994. 158 с.

6. *Белязо, А. П.* Беларуская вёска ў пасляваенныя гады (1945–1950) / А. П. Белязо. Мінск : БДУ, 1974. 175 с.

7. *История* советской политической цензуры : документы и комментарии. М. : Росспэн, 1997. 672 с.

8. *Валаханович, И. А.* Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944–1953 гг. / И. А. Валаханович. Минск : БГУ, 2002. 144 с.

9. *Мазуров, К. Т.* Незабываемое / К. Т. Мазуров. Минск : Беларусь, 1987. 413 с.

10. *Сын* белорусского народа Петр Машеров : воспоминания и статьи / под ред. С. Л. Кандыбовича. М. : Лига содействия оборонным предприятиям, 2013. 416 с.

11. *Чернобыльская* катастрофа в документах и материалах, 1986–2006 гг. / под ред. М. А. Алейникова. Гомель, 2006. 187 с.

12. *Сосновская, Е. Я.* Состояние здоровья населения Республики Беларусь, пострадавшего от катастрофы на Чернобыльской АЭС / Е. Я. Сосновская. Гомель : РНПЦ РМ и ЭЧ, 2006. 250 с.

## Тэма 8. Суверэнная Беларусь у канцы XX – пачатку XXI ст.

8.1. Прававое афармленне дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

8.2. Асноўныя тэндэнцыі грамадска-палітычнага жыцця Рэспублікі Беларусь у 1990-х гг. – першым дзесяцігоддзі XXI ст.

8.3. Станаўленне і рэалізацыя беларускай мадэлі сацыяльна арыентаванай рынкавай эканомікі.

8.4. Геапалітычнае становішча Рэспублікі Беларусь.

**Агульны час заняткаў**: 2 гадзіны.

**Мэта семінара:** ахарактарызаваць грамадска-палітычнае, сацыяльна-эканамічнае развіццё і асаблівасці знешнепалітычнага курсу Рэспублікі Беларусь у канцы XX – пачатку XXI ст.

**Задачы:**

– набыць веды аб асаблівасцях прававога афармлення дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь;

– вывучыць асноўныя тэндэнцыі грамадска-палітычнага развіцця Рэспублікі Беларусь у 1990-х гг. – першым дзесяцігоддзі XXI ст.;

– раскрыць сутнасць і механізмы рэалізацыі беларускай мадэлі сацыяльна арыентаванай рынкавай эканомікі;

– вывучыць асаблівасці геапалітычнага становішча і знешнепалітычнага курсу Рэспублікі Беларусь.

**Патрабаванні да зыходнага ўзроўню ведаў.** Для засваення тэмы неабходна ведаць асноўныя дасягненні сацыяльна-эканамічнага і грамадска-палітычнага развіцця БССР у другой палове 1940-х – першай палове 1980-х гг., перадумовы і вынікі радыкальных змяненняў і рэформаў у час палітыкі «перабудовы», асаблівасці міжнароднага становішча БССР у перыяд «халоднай вайны».

**Паняцці і тэрміны, якія неабходна засвоіць:** суверэнітэт, рэферэндум, путч, дэнансацыя, канстытуцыя, парламенцкая форма кіравання, прэзідэнцкая форма кіравання, антыдэмпінгавыя меры, прыватызацыя, ваенная дактрына.

### 8.1. Прававое афармленне дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь

Першым крокам на шляху да набыцця дзяржаўнага ***суверэнітэту*** рэспублікі была пастанова Вярхоўнага Савета БССР ад 20 чэрвеня 1990 г. «Аб падрыхтоўцы Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі». З 35 дэпутатаў была створана Камісія Вярхоўнага Савета па падрыхтоўцы праекта Дэкларацыі (з іх 24 — члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета). 22 чэрвеня 1990 г. была створана Канстытуцыйная камісія, мэтай працы якой была распрацоўка тэксту но-

вай Канстытуцыі. Непасрэдна сама Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце была прынята 27 ліпеня 1990 г.

Усведамляючы гістарычную важнасць прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце, Вярхоўны Савет пастановай ад 27 ліпеня 1990 г. *вырашыў* лічыць дзень 27 ліпеня Днём Незалежнасці і адзначаць его надалей як нацыянальнае свята Беларусі. Па выніках правядзення рэспубліканскага рэферэндуму 24 лістапада 1996 г. Дзень Незалежнасці пачаў святкавацца штогод 3 ліпеня.

28 ліпеня 1990 г. тэкст ***Канстытуцыі*** 1978 г. быў дапоўнены шэрагам палажэнняў, прызначаных пакласці пачатак дэмакратызацыі ўнутранага жыцця дзяржавы. Была юрыдычна гарантавана шматпартыйнасць, ліквідавана манаполія адной партыі на ўладу, абвяшчалася развіццё эканамічнай сістэмы рэспублікі на аснове розных формаў уласнасці, усталёўвалася забарона на стварэнне і дзейнасць палітычных партый, грамадскіх арганізацый і масавых грамадскіх рухаў, якія маюць мэтай гвалтоў-ную змену канстытуцыйнага ладу, выступаюць супраць канстытуцыйных правоў і свабод грамадзян рэспублікі, цэласнасці і бяспекі краіны.

27 лютага 1991 г. Вярхоўным Саветам быў прыняты Закон «Аб асноўных прынцыпах народаўладдзя ў Рэспубліцы Беларусь», палажэннямі якога абвяшчаўся прыярытэт актаў БССР над актамі саюзных органаў.

Пасля правалу маскоўскага ***путчу*** ГКЧП 25 жніўня 1991 г. на пазачарговай пятай сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі быў прыняты Закон «Аб наданні статуса канстытуцыйнага закона Дэкларацыі Вярхоўнага Савета БССР аб дзяржаўным суверэнітэце БССР». У той жа дзень пастановай Вярхоўнага Савета БССР была прыпынена дзейнасць кампартыі (рашэнне адменена ВС Рэспублікі Беларусь у лютым 1993 г.). Усе прадпрыемствы абвешчаны ўласнасцю БССР.

**19 верасня 1991 г.** Вярхоўным Саветам БССР быў прыняты закон № 1085-XII «Аб назве Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі», арт. 1 якога абвяшчаў: «Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку надалей называць «Рэспубліка Беларусь», а ў скарочаных і састаўных назвах — «Беларусь». Вызначыць, што гэтыя назвы транслітаруюцца на іншыя мовы ў адпаведнасці з беларускім гучаннем». У той жа дзень аб змене назвы была праінфармавана ААН.

Асноўную ролю ў станаўленні дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь адыграла заключэнне *пагаднення паміж Рэспублікай Беларусь, РСФСР і Украінай аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў* (СНД), якое было падпісана ў Белавежскай пушчы **8 снежня 1991 г.** (ратыфікавана Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь 10 снежня). 10 снежня Вярхоўны Савет прыняў пастанову «Аб ***дэнансацыі*** Дагавора 1922 г. аб стварэнні Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік». Іншыя саюзныя рэспублікі, за выключэннем Грузіі і Прыбалтыйскіх дзяржаў, прызналі незалежнасць Беларусі толькі з падпісаннем 21 снежня 1991 г. Алмацінскай дэкларацыі (выкладала асноўныя мэты і прынцыпы стварэння СНД).

Сейм Польскай Рэспублікі афіцыйна прызнаў незалежнасць Беларусі 30–31 жніўня 1991 г. Дэ-факта незалежнасць Беларусі прызнала Чэшская і Славацкая Федэратыўная Рэспубліка, калі ў кастрычніку заявіла аб намеры ўсталяваць дыпламатычныя адносіны з Мінскам. Паласа міжнароднаправавога прызнання Беларусі пачалася пасля распаду СССР. У лік першых дзяржаў, якія прызналі Беларусь, увайшлі Турцыя (16 снежня 1991 г.), Швецыя (19 снежня 1991 г.), Манголія (20 снежня 1991 г.). 27 снежня 1991 г. суверэнітэт Беларусі быў прызнаны ЗША. Да канца года Беларусь была прызнана 54 дзяржавамі свету, 2 з якіх (ЗША і Украіна) усталявалі з ёй дыпламатычныя адносіны.

Рашэнне аб прызнанні суверэнітэту былых рэспублік СССР было прынята кіраўнікамі краін-членаў ЕС 23 снежня 1991 г. падчас сустрэчы ў г. Гаазе, на якой была распаўсюджана «Заява дванацаці аб будучым статусе Расіі і іншых былых рэспублік СССР». Прызнанне Беларусі заходнееўрапейскімі дзяржавамі практычна завяршылася ў лютым 1992 г., за выключэннем Люксембурга (9 ліпеня 1992 г.), Ватыкана (11 лістапада 1992 г.) і Партугаліі (7 снежня 1992 г.). Да 1994 г. Рэспубліку Беларусь прызналі 123 краіны свету.

З пачаткам распаду СССР узнікла неабходнасць фарміравання ўласнай заканадаўчай базы БССР. З 1990 г. па май 1992 г. Вярхоўны Савет прыняў 153 заканадаўчых акты, у тым ліку ўжо згаданыя акты канстытуцыйнага заканадаўства, пастанову «Аб забеспячэнні палітычнай і эканамічнай самастойнасці Беларускай ССР». У 1991 г. былі прыняты такія важныя заканадаўчыя акты, як Гаспадарчы працэсуальны кодэкс, законы «Аб сялянскай (фермерскай) гаспадарцы», «Аб інвестыцыйнай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь», «Аб замежных інвестыцыях на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь», «Аб адукацыі», «Аб міліцыі». У 1992 г. прымаюцца законы «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду», «Аб пенсійным забеспячэнні», «Аб абароне», «Аб дзяржаўнай мяжы», «Аб аператыўна-вышуковай дзейнасці», у 1993 г. — «Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь», «Аб пракуратуры», «Аб ахове здароўя», «Аб унутраных войсках Міністэрства ўнутраных спраў», «Аб абароне правоў спажыўцоў», Мытны кодэкс Рэспублікі Беларусь. У 1994 г. прымаюцца законы «Аб грамадскіх аб’яднаннях», «Аб палітычных партыях», «Аб дзяржаўнай падатковай інспекцыі» і інш.

Паралельна ажыццяўлялася фарміраванне асноўных дзяржаўных органаў. 13 сакавіка 1992 г. Вярхоўны Савет прыняў закон аб Кантрольнай палаце Рэспублікі Беларусь, 23 красавіка 1992 г. — закон аб судова-прававой сістэме Рэспублікі Беларусь. У жніўні 1991 г. саюзнае рэспубліканскае МУС стала рэспубліканскім МУС, тое ж адбылося з КДБ, якія перайшоў у падпарадкаванне Вярхоўнага Савета БССР. У пачатку 1992 г. было створана галоўнае ўпраўленне пагранічных войскаў пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, памежныя атрады на мяжы з Літвой

і Латвіяй. У верасні 1992 г. прыняты закон аб мытнай службе Рэспублікі Беларусь, 20 верасня 1992 г. — рашэнне аб стварэнні Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. У 1992 г. пачынае дзейнічаць Міністэрства абароны, распрацоўваецца ваенная дактрына. Важным крокам становіцца фарміраванне ўласнай грашовай сістэмы: з 1995 г. беларускія рублі сталі адзіным плацёжным сродкам у Рэспубліцы Беларусь.

Фактычным замацаваннем працэсу здабыцця дзяржаўнага суверэнітэту стала прыняцце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, якая са зменамі і дапаўненнямі, унесенымі па выніках ***трох рэспубліканскіх рэферэндумаў*** (14 мая **1995 г.**, 24 лістапада **1996 г.** і 17 кастрычніка **2004 г.**), дзейнічае і зараз. Праект распрацоўваўся Канстытуцыйнай камісіяй, у склад якой увайшлі 61 дэпутат Вярхоўнага Савета, важныя палітычныя дзеячы Беларусі і 13 вядучых вучоных у галіне права. У новым Асноўным Законе былі замацаваны агульнапрызнаныя правы і свабоды чалавека з вызначэннем неабходных гарантый іх рэалізацыі. Новая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь была прынята **15 сакавіка 1994 г.** на трынаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання.

Асноўнымі прынцыпамі дзеючай Канстытуцыі з'яўляюцца:

– палітычны плюралізм;

– замацаванне ў якасці эканамічнай асновы розных формаў уласнасці;

– усталяванне роўнасці дзяржавы і грамадзяніна, наяўнасць у іх узаемных абавязацельстваў;

– замацаванне ў якасці вектара для развіцця дзеючага заканадаўства прыярытэту агульнапрызнаных прынцыпаў міжнароднага права;

– вяршэнства права;

– падзел і ўзаемадзеянне ўлад.

Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь увасобіла ў сабе пераемнасць і вопыт шматвяковага гістарычнага шляху Беларусі. У ёй знайшоў адлюстраванне вопыт канстытуцыйнага будаўніцтва такіх дзяржаў, як Аўстрыя, Бельгія, Данія, Італія, ЗША, Францыя, ФРГ, Швецыя і іншых краін з улікам асаблівасцяў умоў развіцця нашага грамадства і яго гістарычных традыцый.

У **1994 г.** першым Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь быў абраны *Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка*. 10 ліпеня ў другім туры галасавання за яго прагаласавалі 80 % выбаршчыкаў, якія з'явіліся на галасаванне (56 % ад усіх выбаршчыкаў).

Такім чынам, стварэнне незалежнай Беларусі праходзіла ў складаны перыяд, на фоне палітычнага і эканамічнага крызісу СССР. На працягу 1990-х гг. ажыццяўлялася прававое афармленне суверэнітэту рэспублікі, прыняцце і ўдасканаленне канстытуцыі. Актывізаваліся дыпламатычныя стасункі з замежнымі краінамі.

## 8.2. Асноўныя тэндэнцыі грамадска-палітычнага жыцця Рэспублікі Беларусь у 1990-х гг. – першым дзесяцігоддзі XXI ст.

Пасля распаду СССР у незалежнай Беларусі пачалося стварэнне новай палітычнай сістэмы, фарміраванне органаў дзяржаўнага кіравання, арганізацыя ўласных міністэрстваў, сілавых структур. З'явіліся новыя дзяржаўныя сімвалы — герб «Пагоня» і бела-чырвона-белы сцяг. У 1992–1994 гг. дзейнічала ***парламенцкая форма кіравання***. У краіне да 1994 г. захоўвалася дзеянне Канстытуцыі БССР 1978 г., у адпаведнасці з якой Вярхоўны Савет быў правамоцны прыняць да разгляду і вырашыць любое пытанне. Старшыня Вярхоўнага Савета з'яўляўся кіраўніком дзяржавы.

У парламенце ў гэты час разгарнулася вострая палітычная барацьба паміж living рознымі партыямі і палітычнымі групоўкамі. «Закулісныя гульні», нецярпімасць да іншадумства, папулізм, барацьба за ўладу сталі рэаліямі палітычнага жыцця. Пасаду старшыні Вярхоўнага Савета ў гэты час займалі С. Шушкевіч (выконваючы абавязкі да 9.09.1991–26.01.1994), В. Кузняцоў (26.01.1994–28.01.1994), М. Грыб (28.01.1994–6.01.1996). У 1993 г. у Беларусі налічвалася 12 партый і 7 грамадска-палітычных рухаў. Ва ўмовах вострага эканамічнага крызісу многія з іх набылі значную папулярнасць і былі шматлікімі. Найбольш актыўнай палітычнай сілай з'яўляўся Беларускі народны фронт (БНФ). У тым ліку і пад яго ціскам у краіне разгарнулася новая хваля «беларусізацыі». Беларуская мова пачала масава ўводзіцца ў школы, ВНУ, дзяржаўныя ўстановы, войска і г. д., што выклікала незадаволенасць у часткі насельніцтва.

З цягам часу стала відавочная неабходнасць моцнага палітычнага цэнтра ў выглядзе пасады прэзідэнта. Беларуская эліта ўзяла ў якасці прыкладу палітычны лад краін Захаду, дзе інстытут прэзідэнцтва існаваў на працягу некалькіх стагоддзяў. 15 сакавіка 1994 г. Вярхоўны Савет прыняў новую Канстытуцыю. Беларусь абвяшчалася ўнітарнай дэмакратычнай сацыяльнай прававой дзяржавай, уводзілася ***прэзідэнцкая форма кіравання***. Выбары былі прызначаны на 23 чэрвеня 1994 г. Кандыдатамі з'яўляліся А. Дубко, А. Лукашэнка, В. Новікаў, З. Пазняк, С. Шушкевіч. «Партыю ўлады» прадстаўляў прэм'ер-міністр В. Кебіч.

У выніку вострай барацьбы ў другім туры выбараў **10 ліпеня 1994 г.** *першым Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь быў абраны А. Лукашэнка*. Малады палітык правёў рэфармаванне сістэмы выканаўчай улады, у выніку чаго была створана падпарадкаваная Прэзідэнту скразная вертыкальная структура.

Важным этапам барацьбы паміж новай уладай і апазіцыяй сталі парламенцкія выбары, прызначаныя на 14 мая 1995 г. Для ўдзелу ў выбарах апазіцыйныя Прэзідэнту партыі арганізавалі перадвыбарчы блок, але перамагчы не змаглі. А. Лукашэнка ініцыяваў правядзенне ў адзін дзень з парламенцкімі выбарамі рэспубліканскага рэферэндуму. Насельніцтва падтрымала прапановы Прэзідэнта аб наданні рускай мове

роўнага статусу з беларускай, развіцці эканамічнай інтэграцыі з Расійскай Федэрацыяй, устанаўленні новага Дзяржаўнага сцяга і герба, якія ўяўлялі сабой крыху змененую дзяржаўную сімволіку Савецкай Беларусі.

У 1995 г. былі зацверджаны дзяржаўныя ўзнагароды Рэспублікі Беларусь, у тым ліку Палажэнні аб званні «Герой Беларусі», ордэнах Айчыны, Францыска Скарыны. Першым Героем Беларусі стаў у 1996 г. ваенны лётчык У. Карват. Цаной уласнага жыцця ён адвёў палаючы самалёт ад населенага пункта.

У 1996 г. Прэзідэнт А. Лукашэнка ініцыяваў правядзенне рэферэндуму па змене Канстытуцыі. Вярхоўны Савет 13-га склікання палічыў дзеянні Прэзідэнта спробай пашырэння ўлады. Апазіцыйныя дэпутаты пачалі збор подпісаў, неабходных для пачатку працэдуры імпічменту. У якасці пасрэднікаў для ўрэгулявання палітычнага крызісу прыбылі дэпутаты Дзяржаўнай думы Расіі на чале са спікерам Г. Селязнёвым. Было падпісана пагадненне аб тым, што дэпутаты не будуць праводзіць працэдуру імпічменту да падвядзення вынікаў рэферэндуму. Дэпутаты фракцый камуністаў і аграрыяў унеслі альтэрнатыўны прэзідэнцкаму праект новай рэдакцыі Канстытуцыі, згодна з якой прадугледжвалася ліквідацыя інстытута прэзідэнцтва і вяртанне да парламенцкай рэспублікі.

24 лістапада 1996 г. адбыўся другі рэспубліканскі рэферэндум. Пытанні, вынесеныя на галасаванне:

1. Аб перанясенні Дня незалежнасці Беларусі на 3 ліпеня — Дзень вызвалення Мінску ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

2. Аб унясенні змен і дадаткаў да Канстытуцыі (прапанаваных прэзідэнтам), якія значна пашыралі паўнамоцтвы прэзідэнта.

3. Аб увядзенні вольных, без абмежаванняў, куплі і продажу зямель сельскагаспадарчага прызначэння.

4. Аб скасаванні смяротнага пакарання.

5. Аб унясенні змен і дадаткаў, прапанаваных дэпутатамі парламенцкіх фракцый камуністаў і аграрыяў, у Канстытуцыю.

6. Аб выбарнасці кіраўнікоў мясцовых органаў выканаўчай улады.

7. Аб фінансаванні ўсіх галін улады адкрыта і толькі з дзяржаўнага бюджэту.

Беларускі народ прагаласаваў за прыняцце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. са змяненнямі і дапаўненнямі, прапанаванымі А. Лукашэнкам («за» прагаласавала 70 % выбаршчыкаў). Кіраўнік краіны пачаў валодаць шырокімі паўнамоцтвамі выканаўчай улады, вызначаць асноўныя кірункі ўнутранай і знешняй палітыкі. Выканаўчую ўладу ўзначаліў прэм’ер-міністр. Новая рэдакцыя Канстытуцыі пашырыла правы і паўнамоцтвы Савета Міністраў. Замест аднапалатнага Вярхоўнага Савета быў сфарміраваны двухпалатны парламент — Нацыянальны сход, які складаецца з Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі. Акрамя таго,

на рэферэндуме насельніцтва выказалася за перанясенне Дня незалежнасці з 27 на 3 ліпеня — дзень вызвалення Мінска ад гітлераўскіх захопнікаў падчас Вялікай Айчыннай вайны («за» прагаласавала 88 % выбаршчыкаў); супраць свабодных, без абмежаванняў, куплі і продажу зямлі; супраць адмены смяротнага пакарання ў Рэспубліцы Беларусь.

**2 красавіка 1997 г.** *быў створаны Саюз Беларусі і Расіі*. Працэс будаўніцтва саюзнай дзяржавы ішоў вельмі марудна, што звязана з эканамічнымі і палітычнымі супярэчнасцямі паміж краінамі.

У 2000 г. у Беларусі налічвалася 17 палітычных партый і 1326 грамадскіх аб’яднанняў. Сярод вядомых партый трэба адзначыць Ліберальна-дэмакратычную партыю, Беларускую аграрную партыю, Аб’яднаную грамадзянскую партыю, Беларускі народны фронт «Адраджэнне», Кансерватыўна-Хрысціянскую Партыю - БНФ, Рэспубліканскую партыю, Камуністычную партыю Беларусі і Партыю камуністаў Беларусі. Большасць палітычных партый і грамадска-палітычных рухаў з’яўляліся малалікімі, з імі мала хто звязваў свае надзеі. Ніводнае грамадска-палітычнае згуртаванне не мела яснай канцэпцыі палітычнага, сацыяльна-эканамічнага і духоўнага развіцця. Нягледзячы на тое што ўсе яны выступалі за пераход да рынку, за дэмакратыю і прававую дзяржаву, суверэнітэт Беларусі і г. д., у іх праграмах адсутнічаў механізм такога пераходу. Партыі і рухі мелі вузкую сацыяльную базу. Яны, як правіла, абапіраліся на частку інтэлігенцыі, студэнтаў і навучэнцаў, іх слаба падтрымлівалі рабочыя, сяляне, служачыя, працаўнікі адукацыі і аховы здароўя. Гэта тлумачыцца тым, што погляды многіх палітыкаў разыходзіліся з інтарэсамі і палітычным вопытам шырокіх колаў народа. Партыям і рухам не хапала арганізаванасці, здольнасці мяняць сваю тактыку ў новых умовах і г. д.

У 2000 г. адбыліся выбары дэпутатаў Нацыянальнага сходу, а ў **2001 г.** — выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Ім на новы пяцігадовы тэрмін быў абраны А. Лукашэнка. Між тым артыкул 81 Канстытуцыі дазваляў знаходжанне на пасадзе Прэзідэнта не больш за два тэрміны, таму было ўзнята пытанне аб вырашэнні гэтага пытання шляхам рэферэндуму. Ён адбыўся 17 кастрычніка 2004 г. 87 % выбаршчыкаў прагаласавалі за дазвол першаму Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнку ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах, а таксама за пяцігадовы тэрмін прэзідэнцтва. На наступных выбарах А. Лукашэнка таксама ўстойліва лідзіраваў. У **2006 г.** у *выбарах* прынялі ўдзел 6 630 653 чалавек, за дзеючага прэзідэнта прагаласавалі 83 %. У **2010 г.** у *выбарах* прыняў удзел 6 433 681 выбаршчык, 79 % з іх аддалі галасы за А. Лукашэнку. У 2010 г. у краіне дзейнічалі 15 палітычных партый і 2293 грамадскіх аб’яднанні.

Важную ролю ў грамадстве адыгрывалі прафсаюзы. У кастрычніку 1990 г. была ўтворана Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі (ФПБ). Самымі вялікімі структурамі ФПБ з’яўляліся Беларускі прафсаюз работнікаў

аграпрамысловага комплексу, адукацыі і навукі, аховы здароўя і інш. Акрамя ФПБ у рэспубліцы працаваў Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў (БКДП). Прафсаюзныя камітэты выдзялялі пуцёўкі ў санаторыі, дамы адпачынку і піянерскія лагеры; ажыццяўлялі размеркаванне пабудаваннага жылля сярод работнікаў прадпрыемстваў і арганізацый; аказвалі матэрыяльную дапамогу працаўнікам перад сыходам у адпачынак, на пенсію, пры нараджэнні дзяцей, юбілеях, у выпадках страты блізкіх і інш. У калектывах працягвалі праводзіцца спаборніцтвы для ўзнагароды лепшых работнікаў.

Сярод грамадскіх аб'яднанняў вылучаецца Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі (БРСМ), створаны 6 верасня 2002 г. на аб'ядноўчым з'ездзе Беларускага патрыятычнага саюза моладзі і Беларускага саюза моладзі. БРСМ працягваў традыцыі камсамола БССР. У лістападзе 2007 г. было створана Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне «Белая Русь». Мэтай яго дзейнасці з'яўлялася садзейнічанне аб'яднанню прагрэсіўных сіл грамадства, зацікаўленых у пабудове моцнай і квітнеючай Беларусі, сацыяльна справядлівага грамадства, заснаванага на патрыятычных і духоўна-маральных каштоўнасцях беларускага народа. Сярод грамадскіх аб'яднанняў варта адзначыць Беларускі саюз ветэранаў вайны ў Афганістане, Беларускае таварыства інвалідаў па зроку, Беларускае таварыства Чырвонага Крыжа, Беларускую асацыяцыю ўрачоў, Беларускую асацыяцыю ўрачоў агульнай практыкі, Беларускі саюз жанчын, Беларускае таварыства аховы прыроды, Дабрачыннае грамадскае аб'яднанне дапамогі бяздомным жывёлам «ЗООшанс» і інш.

У 1990-я гг. у грамадстве пачалося адраджэнне цікавасці да рэлігіі. Сталі актыўна развівацца рэлігійныя канфесіі і напрамкі. Пачалося інтэнсіўнае будаўніцтва храмаў. Першанства па колькасці вернікаў і прыходаў займалі праваслаўныя, якія належаць да Беларускага экзархата Рускай праваслаўнай царквы. Кіраўніцтва Царквой ажыццяўляў Сінод, на чале якога ў той час знаходзіўся Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі. Значным уплывам карысталася Рымска-Каталіцкая царква. Вялікія намаганні да наладжвання міжканфесійнага праваслаўна-каталіцкага дыялогу прыклаў ураджэнец Гродзеншчыны Архіепіскап Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі Тадэвуш Кандрусевіч. Спачатку Рымска-Каталіцкая царква адчувала кадравы дэфіцыт. Актыўна дзейнічалі такія традыцыйныя канфесіі, як пратэстанцкая, уніяцкая, іудзейская і інш.

Такім чынам, пераход да прэзідэнцкай формы праўлення станоўча адбіўся на развіцці Беларусі. Пераадолеўшы барацьбу за ўладу і палітычны крызіс першай паловы 1990-х гг. рэспубліка змагла аформіцца як незалежная краіна. Была ўдасканаленна Канстытуцыя, асноўныя заканадаўчыя акты. Дзяржава, грамадства, палітычныя партыі і шматлікія арганізацыі ў цэлым знайшлі паразуменне і выйсце з крызіснага становішча.

## 8.3. Станаўленне і рэалізацыя беларускай мадэлі сацыяльна арыентаванай рынкавай эканомікі

З развалам СССР у 1991 г. адбылося абсалютнае падзенне вытворчасці прамысловай і сельскагаспадарчай прадукцыі. Крызіс паглыбляўся і набыў абвальны характар. Асновай беларускай праграмы рынкавых пераўтварэнняў стала радыкальная праграма «500 дзён» расійскіх эканамістаў С. Шаталіна і Г. Яўлінскага. У ходзе яе правядзення эканоміка Беларусі апынулася ў стане заняпаду. Гэта выявілася ў спадзе вытворчасці, рэзкім скарачэнні інвестыцый у асноўны капітал, падзенні жыццёвага ўзроўню насельніцтва, росце інфляцыі, беспрацоўя. З 1991 па 1995 г. унутраны валавы прадукт скараціўся на 35 % у параўнанні з 1990 г., сельскагаспадарчая вытворчасць — на 26 %, заработная плата знізілася ў 2 разы. Знешняя запазычанасць складала палову валавога прадукту ў грашовым выражэнні. У 1995 г. за мяжой беднасці апынулася больш за 60 % насельніцтва. Значна вырaслі злачыннасць, алкагалізм і наркаманія. Як вынік, вельмі павялічылася колькасць т. зв. «сацыяльных сірот» — сірот пры жывых бацьках. Масавая незадаволенасць насельніцтва мадэллю рыначных рэформаў шляхам «шокавай тэрапіі», рэзкае зніжэнне даходаў, непаслядоўнасць дзеянняў кіраўніцтва сталі асноўнай прычынай недаверу да палітыкі С. Шушкевіча і В. Кебіча.

У 1994 г. з прыходам А. Лукашэнкі да ўлады была прынята «Праграма неадкладных мер па выхаду эканомікі Беларусі з крызісу». Яе выкананне дазволіла зменшыць у 1995 г. дэфіцыт дзяржаўнага бюджэту і падзенне асноўных вытворчых паказчыкаў. Новая сітуацыя запатрабавала распрацоўкі «Асноўных кірункаў развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996–2000 год». Мэтай гэтай праграмы стала пабудова сацыяльна арыентаванай эканомікі. Галоўнымі прыярытэтамі праграмы сталі экспарт, жыллё, прадукты харчавання. Асновай эканомікі Беларусі сталі нафтаперапрацоўка, металургія, здабыча калійнай солі, сельская гаспадарка, машынабудаванне. Важнейшымі відамі прамысловай прадукцыі Беларусі ў 1994–2014 гг. сталі мінеральныя ўгнаенні, пракат чорных металаў, прадукты першаснай перапрацоўкі нафты, бензін, дызельнае паліва, аўтамабільныя шыны, металарэзныя станкі, грузавыя аўтамабілі, трактары, піламатэрыялы, папера, цэмент і інш.

Сярод краін СНД Расія ўяўляла сабой найбуйнейшы рынак збыту беларускіх тавараў і паслуг, а таксама асноўную крыніцу сыравіны, энергарэсурсаў, камплектуючых. У сваю чаргу Беларусь для Расіі з’яўлялася пастаўшчыком якасных высокатэхналагічных тавараў, сельскагаспадарчай прадукцыі, найважнейшым транзітным калідорам. Пазітыўна ўплывала на эканамічнае развіццё нашай краіны атрыманне ад Расіі нафты і газу на льготных умовах. Напрыклад, у 2006 г. Беларусь за 1 тыс. м$^3$ газу плаціла 47 дол. ЗША, у той час як краіны Заходняй Еўропы —

120–130 дол. За 2007 г. аб'ём знешнегандлёвага абароту з Расійскай Федэрацыяй склаў 26,1 млрд дол.

Расла роля ЕС і Еўропы ў цэлым у знешнім гандлі рэспублікі. Доля экспарту у Еўропу складала ў 2000-х гг. прыкладна 40 %. Найбольш буйнымі гандлёвымі партнёрамі Беларусі з ліку краін-членаў ЕС з'яўляліся Германія (15 % тавараабароту па-за СНД), Вялікабрытанія (12,7 %), Нідэрланды (6,3 %), Італія (5,2 %). Экспарт Рэспублікі Беларусь у краіны ЕС мог бы быць значна большым, калі б Еўрасаюз не ўжываў ***антыдэмпінгавыя меры*** ў дачыненні да экспартуемай беларускай прадукцыі. За апошнія дзесяць гадоў Беларусь замацавалася на рынках большасці краін Азіі і Лацінскай Амерыкі. Асабліва плённа развіваліся адносіны з Венесуэлай, Лівіяй, В'етнамам, Кітаем. Да ліку найважнейшых экспартных пазіцый адносяцца нафтапрадукты і нафта, калійныя і азотныя ўгнаенні, металапрадукцыя, грузавыя аўтамабілі, трактары, хімічныя валокны і ніткі, шыны, малочная і мясная прадукцыя, цукар. У структуры беларускага экспарту паслуг асноўнае месца займаюць транспартныя, камп'ютарныя і будаўнічыя. Структуру імпарту складаюць энергарэсурсы (нафта і прыродны газ), сыравіна, матэрыялы і камплектуючыя (металы і вырабы з іх, сыравіна для хімічнай вытворчасці, часткі машын), тэхналагічнае абсталяванне, тавары народнага спажывання.

Пэўнае развіццё атрымаў прыватны сектар эканомікі, але тэмпы яго развіцця былі марудныя. Да таго ж прадпрымальнікі аддавалі перавагу сферы гандлю, будаўніцтва, аказання паслуг — там, дзе хутка акупляліся ўкладзеныя сродкі. Стрымлівалі развіццё прыватнага сектара падатковая палітыка, бюракратычныя абмежаванні, недахоп інвестыцый, высокія стаўкі па крэдытам і г. д. Разам з тым мелі месца выпадкі, калі прадпрымальнікі гандлявалі кантрабанднымі таварамі, займаліся рознымі злоўжываннямі, ашуканствам, што наносіла шкоду беларускім вытворцам і дзяржаве. Ураду даводзілася прымаць меры, каб спыніць недобрасумленных бізнесмэнаў.

Беларуская мадэль сацыяльна арыентаванай эканомікі мела свае адметныя рысы і вылучалася на постсавецкай прасторы. У рэспубліцы не было дапушчана рэвалюцыйнай ломкі эканамічнай базы. Значная частка намаганняў была накіравана на ўдасканаленне існуючага эканамічнага патэнцыялу. У выніку былі захаваны рэальная вытворчасць, прамысловыя гіганты — «БелАЗ», «МАЗ», «МТЗ», «Гарызонт» і інш. Дзяржава значна ўзмацніла сваю ролю ў фарміраванні рыначных адносін і ў структурнай перабудове эканомікі. Беларуская мадэль грунтавалася не на масавай, а на індывідуальнай, «кропкавай» ***прыватызацыі***. Дзяржаўныя інтарэсы сталі пераважаць над інтарэсамі прыватнага бізнесу. Беларуская мадэль эканамічнага развіцця выключала магчымасць фарміравання ў краіне алігархічных кланаў, пранікнення ва ўладу крыміналу, масавае беспрацоўе і сацыяльную палярызацыю насельніцтва. З дзяржаўнага бюджэту

вылучаліся значныя сродкі на сацыяльныя патрэбы, што дазволіла стабільна павышаць і выплачваць зарплаты, пенсіі, стыпендыі і дапамогі. Захаваліся маштабнае жыллёвае будаўніцтва, бясплатная медыцына і адукацыя. Усё гэта знізіла палітычную актыўнасць і радыкальнасць насельніцтва.

Дзяржава надавала шмат увагі праграме адраджэння вёскі і развіццю сельскагаспадарчай вытворчасці. На гэтыя мэты штогод вылучалася каля 1 млрд дол. ЗША. Меркавалася, што сельскія населеныя пункты будуць паступова ператварацца ў добраўпарадкаваныя аграгарадкі. Вакол іх паступова канцэнтравалася буйнатаварная аграрная вытворчасць. Стварэнне буйных сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, наладжванне вытворчасці беларускіх сельскагаспадарчых машын (напрыклад, камбайнаў), мадэрнізацыя трактарнага парку, ферм, абсталявання дазволілі знізіць сабекошт прадукцыі. Вынікам шматмільярдных капіталаўкладанняў у сельскую гаспадарку стала стварэнне канкурэнтаздольных прадпрыемстваў і масавы экспарт прадукцыі за межы краіны (у асноўным у Расію і краіны СНД).

Негатыўна ўплывалі на эканоміку і насельніцтва краіны крызісы ў суседніх краінах і сусвеце. Так, зніжэнне кошту нафты і дэлітанцкая палітыка расійскага ўраду прывялі ў 1998 г. да крызісу. Быў аб’яўлены тэхнічны дэфолт (адмова дзяржавы выконваць абавязацельствы па сваіх аблігацыях). Як вынік — дэвальвацыя нацыянальнай валюты (курс даляра ў адносінах да рубля на працягу некалькіх дзён павялічыўся ў 4,5 разы), рэзкі рост цэн і імклівае падзенне ўзроўню жыцця, што часткова адбілася і на эканоміцы Беларусі.

У 2008 г. у свеце пачаўся фінансава-эканамічны крызіс, які спачатку выявіўся ў выглядзе моцнага зніжэння асноўных эканамічных паказчыкаў у большасці краін з развітой эканомікай, а пасля перарос у запаволенне эканомікі. Узнікненне такога становішча звязваюць з шэрагам фактараў: іпатэчным крызісам; агульнай цыклічнасцю эканамічнага развіцця; высокімі цэнамі на сыравіну (у тым ліку на нафту); перагрэвам фондавага рынку. Сусветны фінансава-эканамічны крызіс 2008 г. выклікаў дадатковыя цяжкасці ў развіцці эканомікі і сацыяльнай сферы рэспублікі. Узніклі складанасці з рэалізацыяй беларускай прадукцыі на сусветным рынку, запаволілася сацыяльна-эканамічнае развіццё краіны. У большай ступені дадзены крызіс справакаваў фінансавыя праблемы ў краіне ў 2011 г., калі адбылася дэвальвацыя беларускага рубля і як вынік — рост цэн і падзенне пакупніцкай здольнасці насельніцтва.

Адмоўна адбіўся на нацыянальнай эканоміцы крызіс у Расіі ў 2014 г., выкліканы рэзкім спадам сусветных цэн на энергарэсурсы, продаж якіх складаў значную частку даходаў бюджэту суседняй краіны. Як вынік — значнае зніжэнне курсу рубля адносна замежных валют, павелічэнне інфляцыі, памяншэнне рэальных даходаў насельніцтва і значнае пагаршэнне сітуацыі ў шэрагу галін расійскай эканомікі.

Сацыяльная абарона насельніцтва стала асновай дзяржаўнай палітыкі Рэспублікі Беларусь. Галоўныя намаганні былі сканцэнтраваны на павышэнні пенсій і іншых сацыяльных выплат. У Беларусі ў першай палове 2000-х гг. пражывала каля 2,6 млн пенсіянераў, што складала больш за чвэрць насельніцтва. Пенсійная сістэма краіны працуе стабільна, пенсіі выплачваюцца своечасова, пастаянна ажыццяўляецца іх індэксацыя. Дзякуючы паслядоўнасці дзяржаўных мер па павышэнні ўзроўню грашовых даходаў і сацыяльнай абароны насельніцтва паступова адбывалася зніжэнне колькасці малазабяспечаных. У прыватнасці, калі ў 1995 г. удзельная вага грамадзян з даходамі ніжэй за бюджэт пражытачнага мінімуму (а менавіта гэтая велічыня лічыцца рысай малазабяспечанасці) склала 38 %, то ў 2004 яна зменшылася да 18 %. Пачынаючы з 1996 г. у выніку эканамічнага ўздыму адзначаецца ўстойлівая тэндэнцыя росту грашовых даходаў і заработнай платы. Дзяржаве ўдалося знізіць узровень беспрацоўя. Склалася сістэма надзялення шматдзетных сем’яў жыллём. Трэба адзначыць, што вялікая колькасць працаздольнага насельніцтва, у асноўным будаўнічых спецыяльнасцяў, выязджала на заробкі ў Расію і іншыя краіны.

У перыяд эканамічнага крызісу першай паловы 90-х гг. XX ст. Беларусь апынулася практычна адзінай з краін СНД, дзе не дапусцілі зніжэння аб’ёму прадастаўлення медыцынскіх паслуг. Рэспубліка не пайшла па шляху глабальнай ломкі галіны, а пакінула традыцыі савецкай мадэлі аховы здароўя. Захоўваючы прынцып бюджэтнага фінансавання і дзяржаўных гарантый аказання бясплатнай медыцынскай дапамогі, у галіну ўкаранілі новую мадэль гаспадарання — фінансаванне ў разліку на аднаго жыхара. Сур’ёзнай праблемай стала зніжэнне нараджальнасці і «старэнне» насельніцтва. Ахова мацярынства і дзяцінства стала прыярытэтам сацыяльнай палітыкі дзяржавы. У Беларусі быў дасягнуты сярэднееўрапейскі ўзровень дзіцячай смяротнасці, і ў сярэдзіне 2000-х гг. ён складаў прыкладна 7,6 на 1 тыс. народжаных. Гэта быў лепшы паказчык сярод краін СНД. Аднак у бальніцах адчуваўся недахоп новага медыцынскага абсталявання, кваліфікаваных кадраў. Нізкай была заработная плата медыцынскага і тэхнічнага персаналу. Выклікала нараканні сістэма размеркавання выпускнікоў ВНУ. Разам з тым перад грамадствам усё яшчэ востра стаялі праблемы росту алкагалізму і наркаманіі, сацыяльнага сіроцтва, скарачэння працягласці жыцця.

З 1991 г. пачаліся даволі значныя змены ў сістэме беларускай адукацыі. У школах Беларусі быў уведзены курс асноў інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі. Ствараліся такія навучальныя ўстановы, як ліцэі і гімназіі. Частка тэхнікумаў была пераўтворана ў каледжы, дзе адначасова ажыццяўлялася падрыхтоўка спецыялістаў сярэдняй кваліфікацыі і спецыялістаў павышанага ўзроўню. З’явіліся недзяржаўныя дзіцячыя сады, школы і ВНУ. Разам з тым крызісны стан у эканоміцы востра адбіўся

на адукацыі. Рэзка скарацілася фінансаванне школ, прафесійна-тэхнічных і сярэднеспецыяльных устаноў. Складаным стала набыццё літаратуры, метадычных дапаможнікаў, абсталявання і г. д. З устаноў адукацыі ў іншыя сферы пачалі сыходзіць спецыялісты, у асноўным мужчыны. Рэзка павялічылася колькасць студэнтаў у ВНУ, але разам з тым знізілася якасць адукацыі.

Цяжка адбілася эпоха перамен на беларускай навуцы. Скарачэнне фінансавання, масавы адток высокакваліфікаваных кадраў за мяжу і ў бізнес негатыўна адбіліся на навуковых установах. Тым не менш, Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, ВНУ, навукова-даследчыя і канструктарскія арганізацыі здолелі захаваць свой магутны інтэлектуальны патэнцыял і развіваць фундаментальныя і прыкладныя даследаванні.

Традыцыйным стала правядзенне розных фестываляў: «Музы Нясвіжа», Міжнароднага фестывалю арганнай музыкі ў Полацку, «Залаты шлягер» у Магілёве, фестывалю беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне. Асаблівую папулярнасць набыў міжнародны фестываль «Славянскі базар» у Віцебску. У выяўленчым мастацтве пашырыліся нефармальныя традыцыі. Адкрыліся недзяржаўныя галерэі «Арт-творчасць», «Верхні горад». Высокім прафесіяналізмам вылучаецца беларуская школа графікі.

Такім чынам, беларуская сацыяльна-эканамічная мадэль характарызуецца стабільнасцю свайго развіцця. Пасля цяжкага становішча першай паловы 1990-х гг., выкліканага разрывам ранейшых гаспадарчых сувязяў і махлярствам з дзяржаўнай уласнасцю, была усталявана моцная прэзідэнцкая улада, што суправаджалася навядзеннем парадку ў народнай гаспадарцы. З цягам часу ўдалося пераадоліць негатыўныя тэндэнцыі і выйсці на шлях паступовага развіцця. На жаль, знешнія крызісныя з’явы негатыўна адбіваліся на эканоміцы Беларусі, але дзяржава падтрымлівала годны ўзровень сацыяльнага забеспячэння сваіх грамадзян.

## 8.4. Геапалітычнае становішча Рэспублікі Беларусь

Прынятая 27 ліпеня 1990 г. Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце БССР закладвала прынцыпова іншы змест дзейнасці БССР на міжнароднай арэне. 2 кастрычніка 1991 г. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў заяву «Аб прынцыпах знешнепалітычнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь», у якім пацвярджалася прыхільнасць Беларусі прынцыпам Статута ААН, Усеагульнай дэкларацыі аб правах чалавека 1948 г., а таксама ўсім міжнародным абавязкам Беларусі, гатоўнасць далучыцца да факультатыўнага пратаколу Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах ад 16 снежня 1966 г. і прызнаць кампетэнцыю Камісіі па правах чалавека. Акрамя таго, заяўлялася аб намеры Беларусі падпісаць Заключны акт Нарады па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (НБСЕ), прыняць на сябе абавязацельствы па дакументах у рамках гэтай арганізацыі. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь звяртаўся да кіраўніцтва парламентаў дзяржаў-удзельніц НБСЕ з прапановай прыняць Беларусь

у якасці паўнапраўнага члена Нарады і прыступіць да перамоў аб знішчэнні ядзернай зброі і абвяшчэнні еўрапейскага кантынента бяз'ядзернай зонай.

Дэзінтэграцыя Савецкага Саюза і суверэнізацыя яго суб'ектаў узнялі пытанне аб межах паміж рэспублікамі. Прынцыповае значэнне адносна яго мела заява старшыні ўрада БССР В. Кебіча ад 5 верасня 1991 г., у якой падкрэслівалася: «Мы не пойдзем ні на якія крокі па пераглядзе існуючых межаў. У нас няма аніякіх тэрытарыяльных патрабаванняў да суседзяў». С. Шушкевіч на пазачарговым V з'ездзе народных дэпутатаў СССР (2–5 верасня 1991 г.) заявіў ад імя Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, што Беларусь выступае за «нулявы варыянт», які прадугледжвае захаванне існуючых межаў.

У кастрычніку 1991 г. Беларусь падпісала Дэкларацыю аб добрасуседстве, узаемадапамозе і супрацоўніцтве з Польшчай і Дэкларацыю аб прынцыпах добрасуседскіх адносін з Літвой. У дэкларацыі з Польшчай Беларусь прызнала непарушнасць межаў, усталяваных 16 жніўня 1945 г. У беларуска-літоўскай Дэкларацыі бакі дамовіліся разгледзець у найбліжэйшы час пытанні дэлімітацыі беларуска-літоўскай мяжы і яе наступнай дэмаркацыі.

Міністр замежных спраў П. Краўчанка ў прамове на 46-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у кастрычніку 1991 г. выклаў прыярытэты знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь: 1) дасягненне Беларуссю рэальнай незалежнасці і суверэнітэту; 2) узаемадзеянне з іншымі рэспублікамі СССР у стварэнні адзінай эканамічнай прасторы і новага Саюза суверэнных дзяржаў; 3) мабілізацыя міжнароднай падтрымкі ў вырашэнні чарнобыльскай праблемы; 4) ператварэнне Беларусі ў бяз'ядзерную зону і нейтральную дзяржаву; 5) уключэнне Рэспублікі Беларусь у агульнаеўрапейскі працэс; 6) стварэнне ўмоў для фарміравання рынкавай эканомікі ў рэспубліцы; 7) забеспячэнне экалагічнай бяспекі; 8) забеспячэнне свабоднага ўзаемадзеяння культур.

Прынятая Вярхоўным Саветам у лістападзе 1992 г. ***Ваенная дактрына*** Рэспублікі Беларусь дэкларавала адсутнасць у Беларусі патэнцыяльных ворагаў, прадугледжвала правядзенне самастойнай знешняй палітыкі, замацавала канцэпцыю стрымлівання і актыўнай абароны. Акрамя таго, у ёй была дадзена характарыстыка геастратэгічнага становішча краіны, вызначаны статус і парадак прымянення стратэгічных ядзерных сіл Расіі, якія часова размяшчаліся на тэрыторыі Беларусі. Перад кіраўніцтвам дзяржавы на той момант востра стаяла пытанне аб вывадзе ядзернай зброі з тэрыторыі Беларусі. Рашэнне аб гэтым было прынята, і ў 1992 г. пачаўся вывад зброі, які быў завершаны ў 1996 г.

Згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь асновай беларускай знешняй палітыкі прызнаваліся: прыярытэт агульнапрызнаных прынцыпаў міжнароднага права і забеспячэнне адпаведнасці ім заканадаўства,

роўнасць дзяржаў, непрымяненне сілы або пагрозы сілай, непарушнасць межаў, мірнае ўрэгуляванне спрэчак, неўмяшанне ва ўнутраныя справы; пацверджана мэта зрабіць Беларусь бяз'ядзернай зонай і нейтральнай дзяржавай; вызначана права Беларусі на добраахвотнай аснове ўваходзіць у міждзяржаўныя ўтварэнні і выходзіць з іх.

У снежні 1991 г. МЗС Беларусі інфармавала аб намеры адкрыць свае дыппрадстаўніцтвы ў ФРГ, Францыі, Вялікабрытаніі, Італіі, Швецыі, Польшчы, ЧСФР, ЗША, Канадзе, Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы, Ізраілі, Егіпце, адной з некалькіх краін Азіяцка-Ціхаакіянскага рэгіёна. У ліпені 1992 г. у спіс былі ўключаны Расія, Украіна, Літва, Кітай і Індыя. На працягу 1992–1994 гг. на ўзроўні кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў, а таксама міністраў замежных спраў актыўна развіваліся афіцыйныя кантакты з Расіяй, краінамі Заходняй Еўропы і ЗША.

Фарміраваць свой міжнародны курс Беларусі давялося ў няпростых умовах кардынальных геапалітычных, эканамічных, грамадскіх і іншых перамен. Па дадзеных афіцыйнага сайта МЗС, на сённяшні дзень Беларусь падтрымлівае дыпламатычныя зносіны са 173 дзяржавамі, у 51 з іх адкрыта 48 пасольстваў, 2 пасольствы/пастаянных прадстаўніцтвы пры міжнародных арганізацыях, 2 пастаянных прадстаўніцтвы пры міжнародных арганізацыях, 13 аддзяленняў пасольстваў, 9 генеральных консульстваў і 1 консульства. Замежныя дзяржавы прадстаўлены ў нашай краіне 43 пасольствамі, 3 аддзяленнямі пасольстваў, 1 гандлёвым прадстаўніцтвам, 28 консульскімі ўстановамі (уключаючы ганаровых консулаў); міжнародныя арганізацыі — 17 прадстаўніцтвамі. Па сумяшчальніцтве ў нас акрэдытавана 85 замежных дыппрадстаўніцтваў.

Асноўныя прынцыпы, мэты і задачы знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь замацаваны ў Законе «Аб зацвярджэнні Асноўных напрамкаў унутранай і знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь» ад 14 лістапада 2005 г. № 60-З. Міжнародная актыўнасць Беларусі заклікана ў першую чаргу забяспечваць бяспеку дзяржавы і абарону нацыянальных інтарэсаў ад любых знешніх выклікаў і пагроз, садзейнічаць фарміраванню спрыяльных умоў для стабільнага эканамічнага развіцця краіны і павышэння дабрабыту грамадзян. Важнай умовай з'яўляецца раўнапраўная інтэграцыя Беларусі ў сусветную палітычную, эканамічную і культурную прастору. Прынцыповае значэнне для нашай дзяржавы мае забеспячэнне абароны правоў і свабод яе грамадзян за мяжой, захаванне беларускага этнасу за межамі краіны.

Геаграфічнае становішча Рэспублікі Беларусь, няпростая гісторыя краіны абумовілі курс на шматвектарнасць знешняй палітыкі як яе фундаментальны прынцып, што прадугледжвае развіццё збалансаваных канструктыўных стасункаў з партнёрамі ў розных рэгіёнах свету. Пры выбудоўванні дыялогу і ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва з імі Беларусь кіруецца прынцыпамі прагматызму і паслядоўнасці, узаемнай павагі, раўнапраўя, неўмяшання ва ўнутраныя справы, адмовы ад ціску і прымусу.

У той жа час Беларусь, як і любая іншая дзяржава, канцэнтруе свае знешнепалітычныя намаганні на шэрагу найбольш важных і перспектыўных вектараў, сярод якіх:

– супрацоўніцтва з Расійскай Федэрацыяй у рамках Саюзнай дзяржавы;

– супрацоўніцтва з дзяржавамі-удзельніцамі Мытнага саюза / Адзінай эканамічнай прасторы (АЭП), СНД і Арганізацыі Дагавора аб калектыўнай бяспецы (АДКБ);

– супрацоўніцтва з Еўрасаюзам у гандлёва-эканамічнай і інвестыцыйнай сферы;

– развіццё супрацоўніцтва з краінамі сусветнага Поўдня;

– крокі па нармалізацыі адносін са Злучанымі Штатамі Амерыкі;

– супрацоўніцтва ў рамках міжнародных арганізацый.

Прававой асновай беларуска-расійскай інтэграцыі з’яўляецца падпісаны **8 снежня 1999 г.** *Дагавор аб стварэнні Саюзнай дзяржавы*. Расія традыцыйна з’яўляецца асноўным гандлёвым партнёрам Беларусі і найбуйнейшым экспартным рынкам для беларускіх тавараў. Толькі ў 2012 г. на долю Расіі прыйшлося 47,4 % усяго аб’ёму беларускага знешняга гандлю і 35 % беларускага экспарту. Значныя вынікі дасягнуты ў сферы абароны і бяспекі, антытэрарыстычнай дзейнасці, барацьбы са злачыннасцю. Падпісаны шэраг двухбаковых дакументаў у галіне ваеннага і ваенна-тэхнічнага супрацоўніцтва, створана і функцыянуе рэгіянальная групоўка войскаў (сіл) Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі, ажыццяўляецца ўзаемадзеянне паміж сістэмамі СПА. На заходняй мяжы Саюзнай дзяржавы створаны надзейны бар’ер наркатрафіку і нелегальнай міграцыі. У пераліку важных задач захоўваюцца пытанні забеспячэння роўных правоў грамадзян дзвюх краін, стварэння адзінай сістэмы сацыяльных гарантый.

У адпаведнасці з прынятым на пасяджэнні Савета кіраўнікоў дзяржаў СНД 22 студзеня 1993 г. у Мінску Статутам у сталіцы Беларусі размяшчаецца Выканаўчы сакратарыят СНД, функцыі якога ў 1999 г. пераняў Выканаўчы камітэт — пастаянна дзеючы выканаўчы, адміністрацыйны і каардынуючы орган Садружнасці. Выканаўчы Камітэт СНД, а таксама Эканамічны суд СНД размяшчаюцца ў Мінску. Асноўнымі гандлёвымі партнёрамі Беларусі ў межах Садружнасці з’яўляюцца Украіна, Казахстан, Малдова, Туркменістан і Азербайджан, на долю якіх прыпадае больш за 95,6 % беларускага экспарту ў рэгіёне СНД (без уліку Расіі). На працягу свайго існавання стала зразумела запатрабаваннась і жыццяздольнасць такой арганізацыі як СНД. Неабходнасць захаваць эканамічныя і палітычныя стасункі ў рамках постсавецкай прасторы пераважыла і была відавочнай для ўсіх новых рэспублік. Да таго ж СНД не замінаў міжнароднай дзейнасці краін і быў вельмі карыснай арганізацыяй у эканамічным плане. Але ж патрэбны быў рух наперад, што прывяло да арганізацыі Мытнага саюза, АЭП і АДКБ.

Стварыўшы Мытны саюз і АЭП, Беларусь разам з Расіяй і Казахстанам пачала фарміраванне Еўразійскага эканамічнага саюза. 29 красавіка 2014 г., па выніках праведзенага ў Мінску пасяджэння Вышэйшага Еўразійскага эканамічнага савета, кіраўнікі дзяржаў даручылі Еўразійскай эканамічнай камісіі і ўрадам трох краін завяршыць прапрацоўку ў бліжэйшы час усіх нюансаў дамовы аб Еўразійскім эканамічным саюзе. Акрамя таго, было прынята рашэнне аб падрыхтоўцы да 1 чэрвеня дагавора аб далучэнні да МС і АЭП Арменіі.

Прыярытэтам знешняй палітыкі Беларусі на еўрапейскім вектары з'яўляецца інтэнсіфікацыя партнёрства з краінамі Еўрасаюза ў сферах гандлю і інвестыцый, транспарту, транзіту, трансгранічнага і рэгіянальнага супрацоўніцтва, спрашчэння візавага рэжыму, аховы навакольнага асяроддзя. Штогод праз тэрыторыю Беларусі перамяшчаецца звыш 100 млн тон транзітных грузаў, да 30 % прыроднага газу і 50 % нафты, якая спажываюцца значнай часткай еўрапейскага насельніцтва. Сёння ў Заходняй Еўропе адкрыты і актыўна дзейнічаюць беларускія дыпламатычныя і консульскія прадстаўніцтвы (усяго 28 замежных установ). Асноўнымі гандлёва-эканамічнымі партнёрамі Беларусі сярод краін еўрапейскага рэгіёна з'яўляюцца Нідэрланды, Германія, Латвія, Польшча і Італія, вядучымі інвестарамі ў беларускую эканоміку — Вялікабрытанія, Кіпр, Аўстрыя, Нідэрланды і Італія.

Асноўныя напрамкі развіцця адносін Беларусі ў азіяцкім, лацінаамерыканскім, блізкаўсходнім і афрыканскім рэгіёнах — актывізацыя палітычнага і эканамічнага ўзаемадзеяння з традыцыйнымі партнёрамі (Аргенціна, Бразілія, Венесуэла, В'етнам, Егіпет, Індыя, Іран, Кітай, Куба, ААЭ, Сірыя, Японія, Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка), наладжванне дыялогу, актыўны выхад і замацаванне на рынках Анголы, Аўстраліі, Інданезіі, Катара, Калумбіі, Кот-д'Івуара, Малайзіі, Мексікі, Нігерыі, Нікарагуа, Пакістана, Перу, Саудаўскай Аравіі, Філіпін, Эквадора і іншых краін.

Дыпламатычныя адносіны паміж Беларуссю і ЗША былі ўсталяваныя 28 снежня 1991 г., у 1992 г. у Вашынгтоне пачало працаваць Пасольства Беларусі. Нягледзячы на правядзенне з 1997 г. з некаторымі перапынкамі палітыкі санкцый у дачыненні да Беларусі, у 2010–2011 гг. узровень двухбаковага тавараабароту ўзрос, склаўшы 642,7 млн дол. Злучаныя Штаты з'яўляюцца адным з вядучых інвестараў у Беларусі: па стане на 1 студзеня 2012 г. зарэгістравана 282 сумесных і замежных прадпрыемствы з удзелам амерыканскага капіталу. Шэраг амерыканскіх кампаній у сферы высокіх тэхналогій зарэгістраваны ў якасці рэзідэнтаў Парку высокіх тэхналогій і маюць свае прадстаўніцтвы ў Беларусі.

У імя вырашэння шэрагу міжнародных праблем Рэспубліка Беларусь з'яўляецца актыўным удзельнікам у працы такіх міжнародных арганізацый і рухаў, як ААН, Рух недалучэння, Арганізацыя па бяспецы

і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ), намагаецца паглыбіць супрацоўніцтва з краінамі Шанхайскай арганізацыі супрацоўніцтва, Міжнародным валютным фондам, Сусветным банкам, Еўрапейскім банкам рэканструкцыі і развіцця, Еўрапейскай эканамічнай камісіяй ААН і Канферэнцыяй ААН па гандлі і развіцці (ЮНКТАД). У ліпені 1993 г. Беларусь афіцыйна далучылася да Дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі (ДНЯЗ), стаўшы першай дзяржавай, якая добраахвотна адмовілася ад магчымасці валодання ядзернай зброяй, што засталася пасля распаду СССР. У 1995 г. Беларусь падпісала Пагадненне аб гарантыях з Міжнародным агенцтвам па атамнай энергіі (МАГАТЭ), далучылася да канвенцый пад эгідай МАГАТЭ аб фізічнай абароне ядзернага матэрыялу і аб ядзернай бяспецы.

Беларусь прымае актыўны ўдзел у працы Канферэнцыі па раззбраенні ў Жэневе і Камісіі ААН па раззбраенні ў Нью-Ёрку, з’яўляецца ўдзельніцай Канвенцыі аб забароне распрацоўкі, вытворчасці, назапашвання і выкарыстання хімічнай зброі і аб яе знішчэнні (КХЗ) і Канвенцыі аб забароне распрацоўкі, вытворчасці і назапашвання запасаў бактэрыялагічнай (біялагічнай) і таксічнай зброі і аб іх знішчэнні (КБТЗ). У 2006 г. Беларусь падтрымала прыняцце Глабальнай контртэрарыстычнай стратэгіі ААН, з 2009 г. удзельнічае ў Глабальнай ініцыятыве па барацьбе з актамі ядзернага тэрарызму, якая аб’ядноўвае 85 дзяржаў. Беларусь прымае ўдзел у праграмах развіцця інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогій (ІКТ) такіх міжнародных арганізацый, як ААН, Міжнародны саюз электрасувязі, Рэгіянальная садружнасць у галіне сувязі краін СНД. Падзяляючы ўсеагульную заклапочанасць у сувязі са змяненнем клімату, Беларусь з’яўляецца ўдзельнікам Рамачнай канвенцыі ААН аб змяненні клімату (РКЗК ААН) з 1992 г. і Кіёцкага пратакола да РКЗК ААН з 2005 г. У 2007 г. падчас 62-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН Беларусь выступіла з ініцыятывай стварэння глабальнага механізму перадачы тэхналогій новых і аднаўляльных крыніц энергіі для краін, якія развіваюцца, і краін з пераходнай эканомікай.

Такім чынам, відавочна, што Беларусь у складаным геапалітычным становішчы пачатку 1990-х гг. змагла выстаяць. Рэспубліка адмовілася ад тэрытарыяльных прэтэнзій да суседзяў, выбрала ўраўнаважаны шлях мірнага суіснавання з імі. Краіна стала паважаным членам сусветных арганізацый, набыла аўтарытэт у міжнародных адносінах і з’яўляецца ва Усходняй Еўропе важным рэгіянальным цэнтрам.

**Кантрольныя пытанні**

1. Назавіце асноўныя падзеі на шляху станаўлення дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі.

2. Назавіце асноўныя віды прадукцыі прамысловай вытворчасці Беларусі ў 1994 – 2014 гг.

3. Ахарактарызуйце адметныя асаблівасці палітычнага жыцця краіны ў першай палове 1990-х гг.

4. Узгадайце, якія рэферэндумы прайшлі ў Беларусі і якія пытанні на іх вырашаліся.

5. У чым адметнасць функцыянавання сістэмы аховы здароўя Беларусі?

6. Назавіце асноўныя кірункі сацыяльнай палітыкі дзяржавы.

7. Якія музычныя фестывалі праводзіліся ў Беларусі ў 1990-х гг.?

8. Ахарактарызуйце асноўныя этапы станаўлення Беларусі як суб'екта міжнародных адносін.

9. Вызначце найбольш істотныя прынцыпы беларускай знешняй палітыкі.

10. Назавіце асноўныя вектары міжнароднага супрацоўніцтва Рэспублікі Беларусь на сучасным этапе.

11. У дзейнасці якіх міжнародных арганізацый і ініцыятыў прымае ўдзел Рэспубліка Беларусь?

## Практычныя заданні

**Заданне 1. Вытрымка з Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г. (са зменамі і дапаўненнямі, прынятымі на рэспубліканскіх рэферэндумах 24 лістапада 1996 г. і 17 кастрычніка 2004 г.)**

**Артыкул 1.** Рэспубліка Беларусь — унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава …

**Артыкул 3.** Адзінай крыніцай дзяржаўнай улады і носьбітам суверэнітэту ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляецца народ. Народ ажыццяўляе сваю ўладу непасрэдна, праз прадстаўнічыя і іншыя органы ў формах і межах, вызначаных Канстытуцыяй …

**Артыкул 4.** Дэмакратыя ў Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца на аснове разнастайнасці палітычных інстытутаў, ідэалогій і поглядаў ...

**Артыкул 5.** Палітычныя партыі, іншыя грамадскія аб'яднанні, дзейнічаючы ў рамках Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь, садзейнічаюць выяўленню і выказванню палітычнай волі грамадзян, удзельнічаюць у выбарах …

Забараняецца стварэнне і дзейнасць палітычных партый, а таксама іншых грамадскіх аб'яднанняў, якія маюць на мэце гвалтоўнае змяненне канстытуцыйнага ладу ці вядуць прапаганду вайны, сацыяльнай, нацыянальнай, рэлігійнай і расавай варожасці.

**Артыкул 6.** Дзяржаўная ўлада ў Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца на аснове падзелу яе на заканадаўчую, выканаўчую і судовую. Дзяржаўныя органы ў межах сваіх паўнамоцтваў самастойныя: яны ўзаемадзейнічаюць паміж сабой, стрымліваюць і ўраўнаважваюць адзін аднаго.

**Артыкул 7.** У Рэспубліцы Беларусь устанаўліваецца прынцып вяршэнства права.

Дзяржава, усе яе органы і службовыя асобы дзейнічаюць у межах Канстытуцыі і прынятых у адпаведнасці з ёю актаў заканадаўства.

Прававыя акты або іх асобныя палажэнні, прызнаныя ва ўстаноўленым законам парадку супярэчнымі з палажэннямі Канстытуцыі, не маюць юрыдычнай сілы ...

**Артыкул 11.** Замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства на тэрыторыі Беларусі карыстаюцца правамі і свабодамі і выконваюць абавязкі нароўні з грамадзянамі Рэспублікі Беларусь, калі іншае не вызначана Канстытуцыяй, законамі і міжнароднымі дагаворамі ...

**Артыкул 106.** … Урад у сваёй дзейнасці падсправаздачны Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь і адказны перад Парламентам Рэспублікі Беларусь …

Прэм'ер-міністр назначаецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь са згоды Палаты прадстаўнікоў … (*Конституция Республики Беларусь. Режим доступа : http://pravo.by*)

1. Вызначце форму кіравання і дзяржаўнага ладу ў Рэспубліцы Беларусь.
2. Ці з'яўляецца Рэспубліка Беларусь дэмакратычнай дзяржавай згодна са зместам канстытуцыі?
3. Дзейнасць якіх партый забараняецца ў Рэспубліцы Беларусь?
4. У чым сутнасць прынцыпу падзелу дзяржаўнай улады ў Рэспубліцы Беларусь?
5. Ахарактарызуйце прававы статус замежных грамадзян і асоб без грамадзянства на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

**Заданне 2. Вытрымка з Закона Рэспублікі Беларусь ад 14 лістапада 2005 г. № 60-З «Об утверждении Основных направлений внутренней и внешней политики Республики Беларусь»**

**…** 23. Внешняя политика Республики Беларусь основывается на следующих принципах:

соблюдение общепризнанных принципов и норм международного права;

соразмерность внешнеполитических целей политико-дипломатическому, экономическому, оборонному, научно-техническому, интеллектуальному потенциалу государства, обеспечение их реализации для укрепления международных позиций Республики Беларусь и ее международного авторитета;

повышение эффективности политических, правовых, внешнеэкономических и иных инструментов защиты государственного суверенитета Республики Беларусь и ее национальной экономики в условиях глобализации;

развитие на основе общепризнанных принципов и норм международного права всестороннего сотрудничества с иностранными государствами, международными организациями, взаимный учет и соблюдение интересов всех членов международного сообщества;

добровольность вхождения и участия в межгосударственных образованиях;

приверженность политике последовательной демилитаризации международных отношений;

отсутствие территориальных претензий к сопредельным государствам, непризнание территориальных притязаний к Республике Беларусь ...

25. Основными задачами внешней политики Республики Беларусь являются:

содействие построению стабильного, справедливого, демократического миропорядка, базирующегося на общепризнанных принципах международного права;

равноправная интеграция Республики Беларусь в мировое политическое, экономическое, научное, культурное и информационное пространство;

создание благоприятных внешнеполитических и внешнеэкономических условий для повышения уровня благосостояния народа, развития политического, экономического, интеллектуального и духовного потенциала государства;

формирование добрососедских отношений с сопредельными государствами;

обеспечение защиты прав, свобод и законных интересов граждан Республики Беларусь за границей;

содействие реализации национальных, культурных и иных прав и законных интересов этнических белорусов, выходцев из Республики Беларусь и лиц, идентифицирующих себя как белорусы, проживающих за пределами ее территории;

содействие укреплению международной безопасности, нераспространению оружия массового поражения и контролю над вооружением;

расширение международного сотрудничества в области предупреждения и ликвидации чрезвычайных ситуаций, охраны окружающей среды, в информационной и гуманитарной сферах;

привлечение внешних интеллектуальных и научных ресурсов в интересах образовательного, научного и культурного развития Республики Беларусь;

участие в международном сотрудничестве в области поощрения и защиты прав человека.

26. Внешняя политика Республики Беларусь реализуется в следующих основных сферах:

внешнеэкономическая деятельность;

международное экономическое сотрудничество;

международное сотрудничество в области космической деятельности;

международное военное сотрудничество;

международное сотрудничество по реализации государственной пограничной политики;

международная безопасность;

гуманитарное сотрудничество и права человека;

международное сотрудничество в области здравоохранения, образования, науки, информации и информатизации, культуры, спорта, туризма, охраны окружающей среды;

международное сотрудничество в области предупреждения и ликвидации чрезвычайных ситуаций;

сотрудничество в области кодификации и прогрессивного развития международного права;

трансграничное сотрудничество …

(*Закон Республики Беларусь от 14 ноября 2005 г. № 60-З «Об утверждении Основных направлений внутренней и внешней политики Республики Беларусь» . Режим доступа : http://www.pravo.by*)

1. З улікам якіх фактараў павінны выпрацоўвацца мэты знешнепалітычнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь?

2. На якіх асноўных прынцыпах будуецца знешняя палітыка Рэспублікі Беларусь?

3. Якія асноўныя задачы знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь?

4. У якіх асноўных сферах рэалізуецца знешняя палітыка Рэспублікі Беларусь?

**Заданне 3. Вытрымка з прамовы Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі на ўрачыстым сходзе і канцэрце майстроў мастацтваў Беларусі і Расіі, прысвечаных 70-й гадавіне вызвалення Рэспублікі Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дню Рэспублікі).**

Семдзесят гадоў назад, у ліпені тысяча дзевяцьсот сорак чацвёртага года з беларускага Дома Урада быў зрынуты галоўны нацысцкі сімвал — злавесная чорная свастыка.

Гэтыя некалькі велічных імгненняў адлюстравала кінахроніка. І з той пары знакаміты кадр з толькі што вызваленага Мінска стаў адным з яркіх сімвалаў краху нацызму. У той далёкі дзень сталіца нашай Радзімы стала вольнай. І глыбока сімвалічна, што менавіта трэцяга ліпеня з’яўляецца галоўным дзяржаўным святам — Днём Незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

Прыняўшы на рэферэндуме такое рашэнне, беларускі народ аднавіў сувязь часоў. Уся наша нацыя схілілася ў паклоне ўдзячнасці перад велічным подзвігам герояў, якія вызвалілі родную зямлю. Фармальна гітлераўцы акупіравалі тэрыторыю Беларусі. Але паставіць беларусаў на калені яны не змаглі. Супраціўленне стала сапраўды ўсенародным. Пяць тысяч партызанскіх атрадаў, паўтара мільёна франтавікоў-беларусаў змагаліся з ворагам. У вогнішчы вайны згарэла жыццё кожнага трэцяга нашага суайчынніка. Былі разбураны больш за дзвесце гарадоў. Знішчаны амаль дзесяць тысяч вёсак і пасёлкаў. Сотні з іх спалены разам з людзьмі.

Акупанты ўстроілі на беларускай зямлі страшны канвеер смерці, стварыўшы дзвесце шэсцьдзесят канцэнтрацыйных лагераў і сто дзесяць гета. Забываць пра гэта нельга! Памяць — гэта трывожны звон Гісторыі. Ён папярэджвае сусвет, што любая вайна — гэта вар’яцтва. Ён папярэджвае, што ні адна мэта не варта чалавечага жыцця. Ён папярэджвае, што любога агрэсара рана ці позна спасцігне ганебны крах.

Сёння мы аддаём даніну пашаны ўсім загінуўшым — героям-вызваліцелям і бязвінным ахвярам той крывавай бойні. Мы памятаем і ганарымся под-

звігам пакалення Пераможцаў. І мы абяцаем, што Нашу Перамогу мы нікому не аддадзім!

Барацьба з фашызмам выкавала лепшыя рысы нацыянальнага характару — патрыятызм, свабодалюбства і стойкасць. Тое, што нам заўсёды дапамагала пераадольваць любыя цяжкасці.

Вайна пакінула глыбокі след у генетычнай памяці беларускай нацыі. З неверагоднай сілай уплавіла ў душу кожнага з нас непрыняцце гвалту. Таму мы, як ніхто іншы ў свеце, цэнім магчымасць жыць без страху і гадаваць нашых дзяцей.

Наша вернасць памяці аб той вялікай вайне — гэта не проста даніна савецкаму мінуламу. Менавіта там, у агні народнага супраціўлення па-сапраўднаму ўмацавалася тое пачуццё адзінства, якое і стварае нацыю.

…Беларускую свабоду і незалежнасць сённяшняга дня адстойвалі беларус і рускі, украінец і грузін, азербайджанец і армянін... Усе ў партызанскім і франтавым страі былі ў згодзе ў барацьбе з фашызмам, жылі з разуменнем і асэнсаваннем сваёй еднасці. Гэтаму спрыяла адвечная людскасць народа Беларусі. Нездарма ў нас спрадвеку казалі: «Дзе няма згоды, там няма ладу».

Свой дабрабыт наш народ збірае і развівае ў агульнаграмадскай згодзе, у прыхільнасці і павазе да ўсяго свету. Відаць, таму так і ўтульна ў нашай багатай на нацыянальную культуру краіне дзяржаўным мовам, на якіх гавораць беларусы. Аснова паразумення з суседзямі і светам — у нашай ваеннай гісторыі…

(*Рэжым доступу : http://president.gov.by*)

1. Па меркаванні Прэзідэнта, што з’яўляецца ўмовай існавання незалежнай Рэспублікі Беларусь?

2. Чаму Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь адзначаецца 3 ліпеня?

3. На думку Прэзідэнта, ці з’яўляецца вайна сродкам вырашэння праблем міждзяржаўных адносін?

4. Якія рысы нацыянальнага характару садзейнічалі перамозе ў Вялікай Айчыннай вайне?

## Тэсты для самакантролю

**1. Пастаўце падзеі ў храналагічнай паслядоўнасці:**

а) прыняцце Закона «Аб асноўных прынцыпах народаўладдзя ў Рэспубліцы Беларусь»;

б) прыняцце Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР;

в) падпісанне Пагаднення паміж Рэспублікай Беларусь, РСФСР і Украінай аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў;

г) прыняцце Закона «Аб наданні статуса канстытуцыйнага закона Дэкларацыі Вярхоўнага Савета БССР аб дзяржаўным суверэнітэце БССР».

**2. Рэспубліканскі рэферэндум, на якім ставілася пытанне аб нацыянальнай сімволіцы, адбыўся:**

а) 24 лістапада 1996 г.; в) 14 мая 1995 г.;
б) 17 кастрычніка 2004 г.; г) 15 сакавіка 1994 г.

**3. Да рэферэндуму 1996 г. парламент Рэспублікі Беларусь называўся:**

а) Вярхоўны Савет;
б) Народны сход;
в) Нацыянальны сход;
г) Савет Міністраў.

**4. Першым героем Беларусі стаў:**

а) В. Кебіч;
б) Д. Домрачава;
в) Г. Навіцкі;
г) У. Карват.

**5. Якія навучальныя ўстановы з’явіліся ў Беларусі пасля 1991 г.?**

а) тэхнікумы;
б) каледжы;
в) інстытуты;
г) універсітэты.

**6. Флагманы беларускага машынабудавання. Выкрэсліце *лішняе*:**

а) БелАЗ;
б) МАЗ;
в) МТЗ;
г) «Гарызонт»;
д) «Мілавіца».

**7. Назавіце папулярны музычны фестываль, які штогод праходзіць у Віцебску:**

а) «Музы Нясвіжа»;
б) «Залаты шлягер»;
в) «Магутны Божа»;
г) «Славянскі базар.

**8. Спікерам беларускага парламента *не з’яўляўся:***

а) С. Шушкевіч;
б) М. Грыб;
в) А. Лукашэнка;
г) В. Кузняцоў.

**9. Фундаментальным прынцыпам знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь з’яўляецца:**

а) імкненне ўступіць у ЕС;
б) шматвектарнасць;
в) стварэнне балта-чарнаморскай супольнасці;
г) двухбаковае супрацоўніцтва.

**10. Укажыце поўную назву арганізацый:**

а) РКЗК ААН;
б) ДНЯЗ;
в) МАГАТЭ;
г) ЮНКТАД.

**Адказы:** 1 — б, а, г, в; 2 — в; 3 — а; 4 — г; 5 — б; 6 — а, б, в; 7 — г; 8 — в; 9 — б; 10 — а) Рамачная канвенцыя ААН аб змяненні клімату; б) Дагавор аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі; в) Міжнароднае агенцтва па атамнай энергіі; г) Канферэнцыя ААН па гандлі і развіцці.

## ЛІТАРАТУРА

### *Асноўная*

1. *Гісторыя* Беларусі : курс лекцый : у 2 ч. / Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт ім. Я. Купалы, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Мінск : РІВШ, 2000–2002. Ч. 2. : XIX–XX стагоддзі / П. І. Брыгадзін [і інш.]. 2002. 655 с.

2. *Гісторыя* Беларусі (у кантэксце сусветных цывілізацый) : вучэб. дапам. / В. І. Галубовіч [і інш.] ; пад рэд. В. І. Галубовіча, Ю. М. Бохана. Мінск : Экаперспектыва, 2005. 589 с.

3. *Гісторыя* Беларусі : падруч. : у 2 ч. / Я. К. Новік [і інш.] ; пад рэд. Я. К. Новіка, Г. С. Марцуля. Мінск : Выш. шк., 2007. Ч. 2. Люты 1917 г. – 2006 г. / Я. К. Новік [і інш.]. 444 с.

4. *Беларуская* энцыклапедыя : у 18 т. / рэдкал. : Г. П. Пашкоў [і інш.]. Мінск : Беларуская Энцыклапедыя, 2004. Т. 18. Кн. 2 : Рэспубліка Беларусь. 760 с.

5. *Вішнеўскі, А. Ф.* Гісторыя дзяржавы і права Беларусі : вучэб. дапам. для студэнтаў ВНУ / А. Ф. Вішнеўскі, І. У. Вішнеўская. Мінск : ТетраСистемс, 2000. 188 с.

### *Дадатковая*

6. *Доўнар, Т. І.* Гісторыя дзяржавы і права Беларусі / Т. І. Доўнар. Мінск : Амалфея, 2007. 399 с.

7. *Дэкларацыя* Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь // Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. 1991. № 31. С. 5–8.

8. *Снапкоўскі, У. Е.* Знешняя палітыка Рэспублікі Беларусь : курс лекцый / У. Е. Снапкоўскі. Мінск : БДУ, 2007. 181 с.

9. *Содружество* независимых государств : портрет на фоне перемен / отв. ред. : И. Коротченя. Минск : Панграф, 1996. 366 с.

10. *Суверенная* Беларусь : иллюстрированная история государства 1991–2008 / под ред. В. Гриневецкого, Л. Языкович. Минск : Беларуская Энцыклапедыя, 2008. 558 с.

11. *Эканамічная* гісторыя Беларусі / Галубовіч В. І. [і інш.] ; пад рэд. В. І. Галубовіча. Мінск : Экаперспектыва, 1999. 428 с.

12. *Юхо, І.* Гісторыі дзяржавы і права Беларусі : вучэб. дапам. / І. Юхо. Мінск : БІП-С, 2003. 138 с.

# ТЭРМІНАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК

***«Адліга»*** — вобразнае выказванне, якое выкарыстоўваецца для абазначэння перамен у савецкім грамадстве ў другой палове 1950-х – першай паловы 1960-х гг., звязаных з іменем М. Хрушчова, пры якім адбылося змягчэнне палітычнага рэжыму і пачалася рэабілітацыя ахвяр сталінскіх рэпрэсій.

***Асаднікі*** — у 1921–1939 гг. былыя польскія вайскоўцы, якіх урад міжваеннай Польшчы накіроўваў у якасці каланістаў у Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну.

***Безальтэрнатыўныя выбары*** — выбары, пры якіх на адно месца прытэндуе толькі адзін кандыдат.

***Беларусізацыя*** — асноўны кірунак нацыянальнай палітыкі ў БССР з 1924 г. да пачатку 1930-х гг., мэтай якой было замацаванне кіруючай ролі партыі ў грамадстве праз прыстасаванне дзяржаўнага апарату да мовы большасці насельніцтва. Беларусізацыя значна паспрыяла развіццю беларускай культуры, мовы, узмацненню нацыянальнай свядомасці беларусаў. Была фактычна згорнута ў сувязі з барацьбой з «нацынал-дэмакратызмам».

***Валочная памера*** — назва аграрнай рэформы XVI ст., якая спачатку, у 1557 г., была праведзена на дзяржаўных і каралеўскіх землях, а пасля, па іх прыкладзе, ва ўладаннях іншых феадалаў. Рэформа прадугледжвала: а) упарадкаванне сялянскага землекарыстання (перамер сялянскіх надзелаў і вызначэнне ў строгай адпаведнасці з памерамі надзелаў (валок) памеру сялянскіх павінасцяў); б) вылучэнне часткі зямлі ў якасці фальваркаў, уся прадукцыя з якіх ішла на продаж.

***Веча*** — народны сход ва ўсходніх славян, правам удзелу ў якім карысталіся ўсе паўнапраўныя вольныя мужчыны.

***«Віцебскія» вароты*** — у Вялікую Айчынную вайну 40-кіламетровы разрыў лініі савецка-германскага фронту, праз які на акупаваную тэрыторыю Беларусі накіроўваліся дыверсійныя і арганізатарскія группы, зброя, медыкаменты, што садзейнічала разгортванню партызанскага руху ў тыле ворага.

***«Ворагі народа»*** — асобы, якія на думку бальшавіцкіх улад былі іх палітычнымі праціўнікамі, здраднікамі Радзімы, перашкаджалі пабудове сацыялізму, на якіх можна было спісаць эканамічныя праблемы; яны падвяргаліся рэпрэсіям, часта неабгрунтаваным, былі выкарыстаны падчас індустрыялізацыі як фактычна бясплатная працоўная сіла ў сістэме сталінскіх лагераў.

***Выкупныя плацяжы*** — штогадовыя выплаты, якія на працягу 1861–1906 гг. сяляне ўносілі ў дзяржаўную казну ў лік пагашэння грашовай сумы, унесеннай царскім урадам пры выкупе сялянамі надзелаў у памешчыкаў.

***Галоснасць*** — дэмакратычны прынцып, згодна з якім кожны грамадзянін мае права на атрыманне поўнай інфармацыі па ўсіх пытаннях грамадскага жыцця, якія не з'яўляюцца дзяржаўнай тайнай.

***Гарадзішча*** — умацаванае паселішча старажытных людзей.

***Гаспадарчы разлік*** — спосаб гаспадарання на савецкім прадпрыемстве, заснаваны на самаакупаемасці, без дапамогі сродкаў дзяржаўнага бюджэту. Пры гэтым прадпрыемства мае пэўную гаспадарчую і фінансавую самастойнасць.

***Гета*** — спецыяльныя месцы (звычайна кварталы ў гарадах), якія нацысты на акупаванай тэрыторыі адводзілі для жыхарства і знішчэння яўрэйскага насельніцтва.

***Дваранства*** — прывілеяванае саслоўе ў Расійскай імперыі, правы якога, пры пэўных умовах, распаўсюджваліся таксама на шляхту былой Рэчы Паспалітай.

***Двоеўладдзе*** — сітуацыя суіснавання пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. органаў улады, падпарадкаваных Часоваму ўраду, і новай улады ў выглядзе Саветаў рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў.

***Дойлідства*** — старажытная назва архітэктуры; падзяляецца на драўлянае і мураванае (каменнае).

***Дэкларацыя*** — афіцыйнае абвяшчэнне дзяржавай асноўных прынцыпаў яе дзейнасці, праграмных пазіцый, паведамленне пра прынцыповую змену ў іх статусе.

***Дэнансацыя*** — адмова дзяржавы ад раней заключанага міжнароднага дагавора.

***Дэпартацыя*** — прымусовае высяленне з месца сталага пражывання, нават выгнанне, за межы дзяржавы асобы ці часткі насельніцтва, якіх пануючы рэжым лічыць сацыяльна небяспечнымі.

***Дысідэнты*** — іншадумцы, асобы, якія выступаюць супраць існуючага палітычнага ладу, супрацьстаяць афіцыйнай ідэалогіі і палітыцы.

***Езуіты*** — члены каталіцкага манаскага ордэна Таварыства Ісуса, створанага ў 1534 г. для барацьбы супраць Рэфармацыі.

***Епархія*** — царкоўная акруга на чале з епіскапам; на тэрыторыі Беларусі ўпершыню была створана ў Полацку (992 г.).

***Заходнерусізм*** — кірунак грамадска-палітычнай думкі ў канцы XIX – пачатку XX ст., заснаваны на ідэі, што Беларусь не з'яўляецца краінай з асобнай нацыянальнай культурай, а з'яўляецца культурна і дзяржаўна часткай Расіі і таму павінна разглядацца як адзін з яе састаўных элементаў.

***Земствы*** — органы мясцовага самакіравання, створаныя ў Расійскай імперыі з 1864 г. для вырашэння непалітычных пытанняў. Выбіраліся памешчыкамі і заможнымі сялянамі. На захадзе Беларусі па прычыне колькаснай перавагі каталіцкіх землеўласнікаў земствы царскім урадам не ствараліся, а ў Мінскай, Магілёўскай, Віцебскай губернях яны ўзніклі

толькі з 1911 г., пасля таго як выбаршчыкі былі падзелены на праваслаўную і каталіцкую курыі.

***Зямля*** — у старажытных летапісах назва вялікага па тэрыторыі княства, якое магло існаваць на старажытнарускіх землях, а таксама ў складзе Вялікага Княства Літоўскага.

***Інвентар*** — дакумент з падрабязным апісаннем феадальнага ўладання ў Беларусі, Літве, Украіне, Польшчы ў XVI – першай палове XIX ст. Складаўся землеўласнікам або яго прадстаўнікамі. Пад час рэформы П. Кісялёва ў 1844–1857 гг. зацвярджаўся прадстаўніком царскай адміністрацыі, каб зафіксаваць на адным узроўні памеры надзелаў і павіннасцяў сялян, якія рабіліся абавязковымі не толькі для саміх прыгонных, але і для памешчыкаў.

***Індустрыялізацыя*** — кірунак развіцця эканомікі СССР, у тым ліку і БССР, з 1926 г., утварэнне буйной машыннай вытворчасці ва ўсіх галінах эканомікі, у першую чаргу ў прамысловасці. Асаблівая ўвага пачала надавацца планаванню развіцця эканомікі, якое набыло статус абавязковых для выканання дакументаў.

***Калектывізацыя*** — аб'яднанне аднаасобных сялянскіх гаспадарак у калектыўныя (калгасы, саўгасы). Да канца 1920-х гг. калектывізацыя праводзілася добраахвотна, калгасны рух шырока не распаўсюджваўся. Са студзеня 1930 г. у БССР пачаўся пераход да масавай, суцэльнай калектывізацыі, якая праводзілася ў асноўным прымусовымі метадамі, суправаджалася «раскулачванннем».

***Камасацыя*** — хутарызацыя: ліквідацыя цераспалосіцы сялянскіх зямель і звядзенне сялянскіх участкаў у адзін (адно з аграрных мерапрыемстваў у міжваеннай Польшчы).

***Канстытуцыя*** — асноўны закон дзяржавы, які замацоўвае грамадскі і дзяржаўны лад, прынцыпы арганізацыі і дзейнасці дзяржаўных органаў, выбарчую сістэму, асноўныя правы і абавязкі грамадзян.

***Канцэнтрацыйны лагер*** — спецыяльна абсталяваны цэнтр масавага зняволення і ўтрымання ваеннапалонных (пад час вайны) ці палітычных зняволеных пры некаторых дыктатарскіх рэжымах.

***Князь*** — ваенны правадыр, кіраўнік княства ў часы існавання першых дзяржаў на беларускіх землях; пазней — прадстаўнік уплывовага роду, такога як Рурыкавічы, Гедымінавічы, Радзівілы і інш.

***Контррэфармацыя*** — рэлігійна-палітычны рух супраць Рэфармацыі ў Еўропе ў другой палове XVI – XVII ст., які ўзначаліла папская курыя.

***Краёвая ідэя*** — кірунак грамадска-палітычнай думкі ў пачатку XX ст. Прыхільнікі краёвай ідэі абапіраліся на памяць пра ВКЛ і сцвярджалі, што жыхары гістарычнай Літвы належаць да адзінай нацыі і ў будучыні кожны народ у межах адроджанага ВКЛ павінен атрымаць нацыянальна-культурную аўтаномію.

***Курыі*** — групы выбаршчыкаў з гарантаванай колькасцю месцаў. Пры выбары земстваў ва ўсходняй Беларусі і чацвёртай Дзяржаўнай Думы выбаршчыкі Беларусі па рашэнню царскіх улад утваралі асобныя «рускую» (праваслаўную) і «польскую» (каталіцкую) курыі. Значная частка месцаў загадзя аддавалася «рускай» курыі.

***Літва*** — 1) харонім (уласнае імя тэрыторыі): першапачаткова — назва аднаго з раёнаў Аўкштайціі (землі сярэдняга і верхняга Панямоння), якая пазней пашырылася на ўсю Аўкштайцыю, а ў часы існавання Вялікага Княства Літоўскага — таксама на суседнюю Жамойць (ніжняе Панямонне) і ўсе землі Заходняй Беларусі; 2) этнонім (этнічная назва народа): назва аднаго з балцкіх народаў; 3) палітонім (назва грамадзян дзяржавы): назва ўсіх насельнікаў Вялікага Княства Літоўскага, незалежна ад іх этнічнай прыналежнасці; 4) у шырокім сэнсе — найбольш кароткая назва Вялікага Княства Літоўскага.

***Магдэбургскае права*** — права горада на самакіраванне, якім вызначалася арганізацыя і самастойнае функцыянаванне гарадской улады. Гарады, якія валодалі такім правам, называліся «вольнымі», бо на іх тэрыторыях не дзейнічалі звычайныя дзяржаўныя суды і законы, а жыхары, якія падпадалі пад асобую ўладу горада, уяўлялі сабой новую групу ўнутры грамадства (т. зв. «трэцяе саслоўе»).

***Магнаты*** (ад лац. magnus — вялікі) — буйныя землеўладальнікі (феадалы) з тытуламі князёў ці паноў, складалі вышэйшы слой шляхецкага саслоўя.

***«Маланкавая вайна» («бліцкрыг»)*** — канцэпцыя вядзення хуткаплыннай вайны, згодна з якой перамога дасягаецца ў тэрміны, якія вылічваюцца днямі, тыднямі ці месяцамі да таго, як сапернік здолее разгарнуць свае асноўныя сілы.

***Мемарандум*** — дыпламатычны дакумент, у якім падрабязна выкладаецца фактычны бок якога-небудзь пытання.

***Мяжа яўрэйскай аселасці*** — частка тэрыторыі Расійскай імперыі, з якой пераезд яўрэяў (іудзеяў па веравызнанні) у іншыя рэгіёны не дазваляўся. У перыяд з 1792 па 1917 гг. яўрэям Расійскай імперыі дазвалася жыць, у асноўным, у рэгіёнах былой Рэчы Паспалітай (Беларусь, большая частка Украіны, Літва, частка Латвіі), а таксама на поўдні Украіны і ў Малдове.

***Намеснік*** — прадстаўнік вялікага князя літоўскага, прызначаны замест удзельнага князя кіраваць пэўнай тэрыторыяй, з XV ст. называўся таксама ваяводам.

***Народнікі*** — прадстаўнікі аднаго з сацыялістычных кірункаў другой паловы XIX ст., якія лічылі, што Расія, захоўваючы ранейшы абшчынны лад жыцця сялян, можа пазбегнуць капіталістычнай стадыі развіцця і адразу перайсці да сацыялістычнага ладу.

***Нацызм*** — ідэалогія, заснаваная на крайнім нацыяналізме і расізме. Найбольш вядомым прыкладам з’яўляецца нацызм у гітлераўскай Германіі.

***Неалітычная рэвалюцыя*** — пераход ад прысвойваючага (збіральніцтва, паляванне) да вытворнага (земляробства, жывёлагадоўля) характару гаспадарання.

***Новая эканамічная палітыка (нэп)*** — сістэма мер, разлічаных на пераходны перыяд ад капіталізму да сацыялізму. Галоўнымі мэтамі нэпа лічыліся максімальна хуткае пераадоленне гаспадарчага заняпаду і стварэнне ўмоў для пабудовы аднароднага сацыялістычнага грамадства. Пры гэтым выкарыстоўваліся капіталістычныя метады, таварна-грашовыя адносіны пад кіраўніцтвам бальшавіцкай партыі. Праводзілася з 1921 па 1928 г., была зменена індустрыялізацыяй і планавай эканомікай.

***Нота*** — афіцыйны дыпламатычны зварот урада адной дзяржавы да ўрада іншай дзяржавы.

***Остарбайтэры*** — грамадзяне СССР, вывезеныя ў 1941–1944 гг. з акупаванай тэрыторыі на прымусовыя работы ў Германію.

***Паланізацыя*** — 1) асіміляцыя палякамі прадстаўнікоў іншых народаў; 2) сістэма дзяржаўных мерапрыемстваў у міжваеннай Польшчы (1921–1939 гг.), накіраваных на асіміляцыю беларускага насельніцтва і прадстаўнікоў іншых этнічных меншасцяў.

***Паны-рада*** — вышэйшы орган дзяржаўнай улады ў Вялікім Княстве Літоўскім ў XV – першай палове XVI ст., у які ўваходзілі буйныя феадалы. Першапачаткова існаваў як дарадчы орган пры вялікім князі літоўскім, але ў XV ст. здолеў абмежаваць яго ўладу.

***Парламенцкая форма кіравання*** — арганізацыя вярхоўнай дзяржаўнай улады, калі выканаўчая ўлада (урад) падкантрольна парламенту.

***Парцэляцыя*** — разбіўка на дробныя ўчасткі дзяржаўных і панскіх зямель і іх продаж сялянам (адно з аграрных мерапрыемстваў у міжваеннай Польшчы).

***Пасаднік*** — прадстаўнік кіеўскага князя ў Тураве ў XI–XII ст.

***«Перабудова»*** — назва палітыкі, якая праводзілася кіраўніцтвам СССР на чале з М. Гарбачовым. Суправаджалася значнымі грамадска-палітычнымі змяненнямі, выкліканымі галоснасцю і дэмакратызацыяй жыцця.

***Прыватызацыя*** — працэс перадачы дзяржаўнай маёмасці ў прыватныя рукі.

***Прывілей*** — у Вялікім Княстве Літоўскім — дакумент аб наданні пэўнай асобе ці групе асоб новага права або маёмасці

***Прэзідэнцкая форма кіравання*** — арганізацыя вярхоўнай дзяржаўнай улады, калі главой дзяржавы з’яўляецца прэзідэнт, які кантралюе і выканаўчую ўладу.

***Путч*** — дзяржаўны пераварот, які здзейсніла ці намагалася здзейсніць невялікая група змоўшчыкаў.

***Разбор шляхты*** — дзеянні царскай улады па выключэнні з дваранскага саслоўя шляхціцаў, якія не маглі пацвердзіць дакументамі сваё саслоўнае паходжанне.

***Разрадка*** — у міжнародных адносінах — перыяд з канца 1960-х да канца 1970-х гг., звязаны са зніжэннем агрэсіўнасці супрацьстаяння сацыялістычнага і капіталістычнага лагераў.

***Раскулачванне*** — рэпрэсіі у СССР у адносінах да сялян, якія лічыліся праціўнікамі калектывізацыі, былі заможнымі гаспадарамі. З 1928–1929 гг. пачаўся пераход да ліквідацыі кулацтва як класа. Гвалт суправаджаўся канфіскацыяй маёмасці, ссылкай у аддаленыя раёны СССР, часта — турэмным зняволеннем, часам смяротнымі прысудамі.

***Русь (Руская зямля)*** — агульная назва, якая выкарыстоўвалася старажытнымі летапісцамі для абазначэння тэрыторыі, падпарадкаванай варажскаму князю Рурыку і яго нашчадкам.

***Рэабілітацыя*** — аднаўленне ў правах, адмена неабгрунтаванага абвінавачвання асобы ці групы асоб з-за адсутнасці складу злачынства.

***«Рэйкавая вайна»*** — скаардынаваныя аперацыі савецкіх партызан у тыле ворага, мэтай якіх было масавае разбурэнне чыгуначных камунікацый (рэек, мастоў, станцый) і падрыў варожых эшэлонаў.

***Рэквізіцыя*** — канфіскацыя дзяржавай маёмасці нейкага ўласніка.

***Рэкруцкая павіннасць*** — вайсковая павіннасць, уведзеная на беларускіх землях у 1794 г., пасля іх далучэння да Расійскай імперыі; паводле расійскіх законаў, з ліку сялян і мяшчан належала выбіраць асобных прадстаўнікоў, так званых рэкрутаў, якіх на працяглы тэрмін забіралі ў расійскае войска.

***Рэнесанс (Адраджэнне)*** — эпоха ў грамадска-культурным развіцці Еўропы (XIV – першая палова XVII ст.), характэрнымі рысамі якой былі ўздым свецкай навукі і мастацтвва, станаўленне гуманістычнага светапогляду.

***Рэфармацыя*** — грамадска-палітычны і ідэалагічны рух у Еўропе, накіраваны на рэфармаванне рымска-каталіцкай царквы і на абмежаванне яе ролі ў палітычнай сістэме грамадства.

***Рэферэндум*** — усенароднае галасаванне па важлівых пытаннях грамадскага жыцця; інстытут прамой дэмакратыі.

**«*Санацыя*»** — назва аўтарытарнага рэжыма, усталяванага Ю. Пілсудскім пасля ваеннага перавароту 1926 г. Палітыка польскага ўрада перыяду «санацыі» (1926–1939 гг.) была накіравана на развіццё капіталістычных адносінаў, а ў Заходняй Беларусі суправаджалася антыкамуністычнымі мерапрыемствамі і палітыкай паланізацыі.

***Сацыял-дэмакраты*** — прадстаўнікі аднаго з кірункаў сацыялістычнага руху, якія падзялялі вучэнне К. Маркса пра класавую барацьбу і знішчэнне капіталістычнага ладу ў выніку развіцця рабочага руху.

***Сервітут*** — старажытнае права сялян карыстацца панскай маёмасцю (напрыклад, сенажацю, возерам).

***Сойм*** — у Вялікім Княстве Літоўскім саслоўна-прадстаўнічы орган, на які першапачаткова запрашалася ўся шляхта для вырашэння разам з панамі-радай самых важных пытанняў; пазней фарміраваўся з паслоў, якіх шляхта выбірала на павятовых з'ездах (сойміках).

***Суверэнітэт*** — незалежнае ад якіх-небудзь сіл, абставінаў і асоб верхавенства; незалежнасць дзяржавы ў знешніх і ўнутранных справах.

***Таталітарны рэжым*** — спосаб арганізацыі грамадства, які характарызуецца ўсебаковым і ўсеахопным кантролем улады над грамадствам, падпарадкаваннем грамадскай сістэмы дзяржаве, калектыўнымі мэтамі, агульнаабавязковай ідэалогіяй.

***Узбуйненні БССР*** — вяртанне да БССР часткі тэрыторый з большасцю беларускага насельніцтва, якія РСФСР забрала ў 1919 г. Першае ўзбуйненне адбылося ў 1924 г., да БССР былі далучаны часткі Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губерній. Другое ўзбуйненне прайшло у 1926 г., калі БССР атрымала Гомельскі і Рэчыцкі паветы са складу Украінскай ССР.

***Уніяты*** — прыхільнікі ўніяцтва — грэка-каталіцкай царквы, створанай у 1596 г.

***Устаўныя граматы БНР*** — найважнейшыя афіцыйныя дакументы, якія былі выдадзены ў лютым-сакавіку 1918 г. Выканкамам Рады Усебеларускага з'езда і Радай БНР, у якіх былі абвешчаны ідэі самастойнасці і незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, формы арганізацыі ўлады, правы і свабоды жыхароў Беларусі.

***Філаматы*** (даслоўна — аматары навук) — назва патрыятычнага таварыства, створанага студэнтамі Віленскага універсітэта ў 1817 г., мела аддзяленні ў Свіслацкай гімназіі і ў іншых навучальных установах Літвы і Беларусі; у 1823 г. філаматы падвергліся рэпрэсіям з боку царскіх улад.

***Фракцыя*** — арганізаваная група дэпутатаў у парламенце, якія належаць да адной партыі ці прытрымліваюцца блізкіх палітычных поглядаў.

***Халодная вайна*** — сусветная канфрантацыя ў пасляваенны перыяд паміж СССР і яго саюзнікамі — з аднаго боку, і ЗША і іх саюзнікамі — з другога. Была выклікана ідэалагічным супрацьстаяннем двух грамадска-палітычных сістэм.

***Хутары*** — адасобленыя сельскія паселішчы па-за межамі вёсак. У Беларусі масавае пашырэнне атрымалі ў часы Сталыпінскай аграрнай рэформы (1906–1915), а таксама новай эканамічнай палітыкі ў БССР

(1921–1928), «камасацыі» на землях Заходняй Беларусі ў складзе Польшчы. Былі ліквідаваны ў перыяд правядзення калектывізацыі.

***Шляхта*** — з сярэдзіны XVI ст. агульная назва прадстаўнікоў вышэйшага саслоўя ў Вялікім Княстве Літоўскім, якія разам складалі каля 9 % мясцовага грамадства.

***Экстэнсіўнае развіццё*** — шлях эканамічнага развіцця, звязаны з ростам не якасці вытворчасці, а колькасных паказчыкаў.

***Этнас*** — устойлівая гістарычна ўзнікшая супольнасць людзей (племя, народнасць, нацыя), якая характарызуецца агульнасцю мовы, побыту, культуры, самасвядомасці, адлюстраванай у адзінай назве і ўяўленнях пра агульнасць паходжання.

# АСНОЎНЫЯ ПАДЗЕІ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

**100–40 тыс. гадоў таму** — пачатак пранікнення старажытных людзей на тэрыторыю Беларусі.

**26 тыс. гадоў таму** — найбольш старажытная стаянка чалавека на тэрыторыі Беларусі.

**5 тыс. гадоў таму** — з'яўленне індаеўрапейцаў на тэрыторыі Беларусі.

**VI ст.** — першыя славянскія пасяленні ў Беларусі.

**862 г.** — прызванне варагаў у Ноўгарад; першая летапісная згадка пра Полацк.

**980 г.** — захоп Полацка наўгародскім князем Уладзімірам.

**980 г.** — першая летапісная згадка пра Тураў.

**988 г.** — хрышчэнне Русі.

**1067 г.** — бітва на р. Нямізе; першая летапісная згадка пра Мінск.

**1129 г.** — высылка полацкіх князёў у Візантыю.

**1253 г.** — каранацыя князя Міндоўга ў Навагрудку.

**1323 г.** — прызначэнне Вільні сталіцай Вялікага Княства Літоўскага.

**1362 г.** — бітва на р. Сінія Воды.

**1385 г.** — Крэўская унія.

**1410 г.** — Грунвальдская бітва.

**1468 г.** — Судзебнік Казіміра.

**1514 г.** — бітва на р. Крапіўна пад Оршай.

**1517–1525 гг.** — выдавецкая дзейнасць Ф. Скарыны.

**1529, 1566, 1588 гг.** — прыняцце Статутаў Вялікага Княства Літоўскага.

**1569 г.** — Люблінская унія.

**1596 г.** — Брэсцкая царкоўная унія.

**1649 г.** — бітва пад Лоевам.

**1654–1667 гг.** — вайна Расіі з Рэччу Паспалітай.

**1708 г.** — бітва каля вёскі Лясная.

**1772, 1793, 1795 гг.** — падзелы Рэчы Паспалітай.

**1791 г., 3 мая** — прыняцце Канстытуцыі ў Рэчы Паспалітай.

**1794 г.** — паўстанне пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі.

**1812 г., 12 чэрвеня** — пачатак руска-французскай вайны на тэрыторыі Беларусі.

**1812 г., лістапад** — бітва на р. Беразіна.

**1830–1831 гг.** — паўстанне ў Польшчы, Літве, Беларусі.

**1839 г.** — ліквідацыя уніяцкай царквы ў Беларусі.

**1861 г., 19 лютага** — адмена прыгоннага права ў Расійскай імперыі.

**1863–1864 гг.** — паўстанне ў Польшчы, Літве, Беларусі.

**1884 г.** — выданне беларускімі студэнтамі-народнікамі часопіса «Гоман».

**1898 г.** — Першы з'езд РСДРП у Мінску.

**1903–1904 гг.** — утварэнне БСГ.

**1905 г., 18 кастрычніка** — Курлоўскі растрэл у Мінску.

**1906 г.** — пачатак выдання газеты «Наша Ніва».

**1914–1918 гг.** — Першая сусветная вайна.

**1917 г., люты** — зняржэнне расійскага самадзяржаўя.

**1917 г., 25 кастрычніка (7 лістапада)** — прыход да ўлады бальшавікоў у Расіі.

**1917 г., снежань** — Першы Усебеларускі з'езд.

**1918 г., 3 сакавіка** — Брэсцкі мірны дагавор.

**1918 г., 25 сакавіка** — абвяшчэнне незалежнасці БНР.

**1919 г., 1 студзеня** — абвяшчэнне ССРБ (БССР).

**1921 г., 18 сакавіка** — Рыжскі мірны дагавор.

**1921 г., сакавік** — пачатак новай эканамічнай палітыкі ў СССР.

**1924, 1926 гг.** — узбуйненні БССР.

**1929 г.** — рэарганізацыя Інбелкульта ў Акадэмію навук БССР.

**1925–1927 гг.** — дзейнасць БСРГ у Заходняй Беларусі.

**1930 г., студзень** — пачатак суцэльнай калектывізацыі ў БССР

**1930 г.** — фабрыкацыя органамі АДПУ справы «Саюза вызвалення Беларусі».

**1937–1938 гг.** — пік сталінскіх рэпрэсій у СССР.

**1939 г., 23 жніўня** — пакт Молатава–Рыбентропа.

**1939 г., 1 верасня** — пачатак Другой Сусветнай вайны.

**1939 г., 17 верасня** — уступленне войск Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь.

**1941 г., 22 чэрвеня** — пачатак Вялікай Айчыннай вайны.

**1944 г., 3 ліпеня** — вызваленне Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**1945 г., 9 мая** — Перамога ў Вялікай Айчыннай вайне.

**1945 г., 2 верасня** — заканчэнне Другой сусветнай вайны.

**1956 г.** — асуджэнне культа асобы Сталіна на XX з'ездзе КПСС.

**1965 г.** — пачатак эканамічных рэформ у СССР пад кіраўніцтвам А. Касыгіна.

**1965–1980 гг.** — дзейнасць П. Машэрава на пасадзе Першага сакратара ЦК КПБ(б).

**1986 г., 26 красавіка** — аварыя на Чарнобыльскай АЭС.

**1990 г.** — першыя альтэрнатыўныя выбары ў Вярхоўны Савет БССР.

**1990 г., 27 ліпеня** — прыняцце Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР.

**1991 г., 19 верасня** — зацвярджэнне Вярхоўным Саветам новай назвы дзяржавы — «Рэспубліка Беларусь».

**1991 г., 8 снежня** — Белавежскае пагадненне.

**1994 г., 15 сакавіка** — прыняцце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

**1994 г., 10 ліпеня** — абранне А. Лукашэнкі на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**1995, 1996, 2004 гг.** — правядзенне ў Рэспубліцы Беларусь агульнарэспубліканскіх рэферэндумаў.

**1996, 2001, 2006, 2010 гг.** — правядзенне Усебеларускіх народных сходаў.

**1997 г., 2 красавіка** — падпісанне Дагавору аб Саюзе Беларусі і Расіі.

**1999 г., 8 снежня** — падпісанне Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй Дамовы аб стварэнні Саюзнай дзяржавы.

**2001 г.** — абранне А. Лукашэнкі на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**2006 г.** — абранне А. Лукашэнкі на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**2010 г.** — абранне А. Лукашэнкі на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

**2015 г.** — абранне А. Лукашэнкі на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

# ЗМЕСТ